

# 6

ЧЭРВЕНЬ

МІНСК, 1972

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *



У НУМАРЫ

Вокладка **Г. Скрыпнічэнкі.**

Шмуцтытулы **Ю. Зайцава** (стар. 3) і **В. Дубінкі** (стар. 113).



# ПАЭЗІЯ



- Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ
- Юрась СВІРКА
- Анатоль КУДРАВЕЦ
- Янка СІПАКОЎ
- Павел ПРУДНІКАЎ
- Эдуард ЯРАШЭВІЧ
- Закі НУРЫ
- Вадзім БОЙКА

# ПРОЗА





*міхась*

*губернатараў*



ПАЭЗІЯ



■

Ад першага светлага юнага рання
Да самай апошняй нябліскай начы
Зямную трывогу—прысягу змагання—
Я ў сэрцы павінен, як сцяг, берагчы.

З апошнім парывам,
З апошнім прылівам
Душу не пакіне жывы неспакой.
І я застануся шчаслівы, шчаслівы
Апошняю песняй, апошняй сяўбой.

Паўторыцца ўсё, нібы сонца ў зеніце,—
Зялёныя травы і хмар караблі...
Кахайце, чакайце, жывіце, свяціце,
О добрыя людзі, на добрай зямлі!

■

Вярста за вярстою кладзецца,
А вочы заплюшчу на момант—
Як кнігаўка, сэрца заб'ецца—
Дадому, дадому, дадому.

З далёкіх ці з блізкіх пуцінак
Вярнуся да роднага дому—
На скроні ў матулі зазімак...
— Гады ўжо, сыночак...
Вядома...

Дадому, дадому, дадому!
Там радасці новай прадвесне,
Там кожная сцежка знаёма,
Званчэй мая родная песня.

■

На парозе расстання,
Дзе з табой мы адны,
Я жыву прадчуваннем
Самай блізкай вясны.

Ручаі цябе вернуць,
Салаўі пазавуць,
І надрэчныя вербы
Нашы рукі сплятуць.

Луг духмяны захмеліць,
Гром затрубіць у рог,
А пакуль — сто мяцеліц,
А пакуль — сто дарог.

А пакуль толькі ветры...
Шлях снягі замялі...
Але нельга не верыць
У жыццё на зямлі.





юрась свірка

*

ПАЭЗІЯ

*

## Гімн сонцу

Не пытае,
Чый ты, хто ты.
Цягне ўсіх на пляжны мол.
Так спяшаюць на работу,
На парад ці на футбол.

Не схіляе сонца плечы.
Усміхнецца: «Будзь здароў!»
Сонца грэе, сонца лечыць,
Лупіць скуру з гультаёў.

І да ўсіх яно хінецца,
Свеціць з ласкаю: «Жыві!»
У яго, як мне здаецца,
Ёсць лякарства ад любві.

Сонца п'юць аж да знямогі,
Ліпнуць, нібы да свайго.
Нават боязна, што могуць
З Крыма вывезці яго.

Нехта хваліць мора жонцы,
Словы ціха заглушы!
Забяры ад мора сонца—
І яно, як без душы.

Скверы, вуліцы, алеі
Апусцеюць без людзей.
Мора, мора акалее
Без яго і без гасцей.

Тут вятры запаласуюць
І нагоняць халады.
Ялта — пляжная красуня—
Ногі выхапіць з вады.

Палюбіў я Крым бясконца
І настойваю таму,
Каб паставіць помнік Сонцу,
Толькі Сонцу аднаму.

## Лазня

Духу — можна парыць вяззе.
Венік, венік варухні.
Тут сябе адчуеш вязнем
У сухой гарачыні.

На палок і — ніцма, ніцма.
Без разбору венік б'е
Тых,
Хто ганіць кіраўніцтва
І хто хваліць сам сябе;

Тых,
Хто жэніцца штогодна,
Для каго зусім не грэх
Рукі брудныя лагодна
Ля дабра людскога грэць;

Тых,
Хто любіць жыць маўкліва:
Не чапаю—не чапай.
Тых,
Хто любіць жыць крыкліва:
Сёння дай і заўтра дай.

Адхвашчыся, адхвашчыся.
Запрашай, вада, пад душ,
Пыху змыць не адрачыся
З гарлахватаў і чынуш...

Наліліся сілай вены,
Стомы як і не было.
Дзякуй, лазня,
Дзякуй, венік,
За пякучае цяпло!

## Земляку-кандыдату

Руку паціснуў земляку:
Шчасліва, друг, шчасліва...
Абараняйся і вякуй
У сытасці пухлівай.

Што можаш вырвацца ад нас,
Не думалі ніколі:
Па два гады за кожны клас
Трымаўся ты у школе.

Я за цябе бязмежна рад,—
Жыві, расці, нябога.
Зайздросны лёс:
Ты — кандыдат,
Што не адкрыў нічога.

Твая варыла галава.
І праўду гаварылі:
Ты там двукоссе адкрываў,
Дзе іншыя закрылі.

Праб'ешся,
Абвядзеш усіх.
І будзеш жыць баронам,
Калі навука хоць на міг
Аслабіць абарону.

■

У мяне такое хваляванне,
Быццам я ў адказе за ўвесь свет.
У мяне такое прадчуванне,
Што яшчэ народзіцца паэт,

Для якога будзе ўсё адкрыта:
Быць са светам, як сябры, на «ты»,
Замяніць знішчальныя арбіты
На арбіты мірнай дабраты.

Прамаўчыць ён пра свае заслугі,
Свет настроіць толькі для любві,
А тады штурхне плячом, як друга:
«Вернаю арбітаю плыві.»

■

Бываюць доўгія гадзіны,
Калі ударыць духавы,
Калі ідзеш за дамавінай
Часовы, хоць яшчэ жывы.

Бываюць страшныя мінуты,
Калі ударыць духавы,
І разрываюцца пакуты,
Нібыта склеп парахавы.

Бываюць жуткія імгненні,
Калі змаўкае духавы,
Калі пясок з дрыжачай жмені
Цячэ на домік баравы...









*анатоль кудравец*

# ДРУГІ ВАРЫЯНТ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **К. Ціхановіча.**

У Мінск цягнік прыйшоў у восем раніцы, і Васіль праз падземны пераход выйшаў на прывакзальную плошчу, шэрую ад густога цёплага туману, бруднага мокрага асфальту, масіўных змрочных сілуэтаў будынкаў. Стаў, прысланіўшыся плячыма да металічных парэнчаў, пазіраў на людзей, якія выбягалі з тунеля, штурхаліся, мітусіліся, кідаліся да стаянкі таксі, да трамвайнага і тралейбуснага прыпынкаў, і беглі так, быццам гэты трамвай ці тралейбус былі апошнія, і калі чалавек не ўшчэміцца ў яго, то свет перавернецца дагары нагамі...

У Васіля таксама жыў такі душэўны сверб — хутчэй уцiснуцца ў трамвай ці тралейбус,— але ён перасіліў яго і застаўся стаяць ля парэнчаў, знешне спакойны і абыякавы да ўсяго, што тварылася кругом. Ён адчуваў, што мацнейшы за гэтых мітуслівых людзей, пераконваў сябе, што мацнейшы за іх, і таму можа паблажліва і звысака глядзець на ўсю іхнюю мураўiную валтузню. Васіль быў рослы — вышэй за метр восемдзесят, чуў нерастрачаную сілу ў жылаватым целе, і гэта неўвароткае здароўе маладога цела таксама паддавала яму смеласці. Ён хацеў, каб усе бачылі, што ён не баіцца горада, што тут ён — дома, але і па маленькіх, чуйна насцярожаных, як у дзікага кабана, вострых вачах яго, і асабліва па руках — даўгіх і вялікіх, якім ён не знаходзіў месца, і яны то сціскаліся ў набраклыя кулакі, то дрыготка гладзілі адпацелы метал парэнчаў — было відно, што ён не такі ўжо і спакойны, што і яму нечага боязна.

Ён прыехаў паступаць у інстытут, і як усе, хто прыязджае паступаць з сяла, прывёз з сабой трывогу і разгубленасць. І цяпер ён стаяў і чакаў, хаця і сам не ведаў, што чакаў...

Цяжэй за ўсё ў чужым месцы прыняць першае, хай і зусім дробязнае, рашэнне. У незнаёмым горадзе, дапусцім, сесці ў аўтобус ці зайсці куды-небудзь перакусіць, ці яшчэ зрабіць што-небудзь. Для Васіля Мінск быў чужым месцам, хоць сам ён і не хацеў прызнавацца ў гэтым. Прызнавацца не хацеў, але адчуў гэта адразу, як толькі апынуўся на плошчы: нікому не было ніякай справы да яго — хто ты, што ты, чаго прыехаў сюды і чаго тырчыш, як ёлупень, на гэтым вірлівым месцы. Васіль надта добра разумеў усіх гэтых людзей, што вывальваліся з тунеля і адразу кідаліся да трамваяў і тралейбусаў. Яны ведалі, што рабілі. Яны баяліся горада, незразумелага тлуму яго і мітусні і стараліся ўцячы ад усяго гэтага, схавацца — хай у той жа трамвай ці тралейбус.

Васіль шкадаваў, што не напісаў Валодзю, каб той сустрэў. Брацenік па бацьку, Валодзя жыў у Мінску ўжо гадоў з дзесяць, працаваў прарабам. Клопатаў у яго і сваіх стае — і сям'я: сам, жонка, дзіця,— і работа, але нідзе не дзеўся б, сустрэў бы. У чамадане, які стаяў тут жа, ля ног, разам з падручнікамі па матэматыцы, фізіцы, «шпаргалкамі» па рускай літаратуры, была пляшка «сваёй» гарэлкі — так, на гасцінец.

Васіль у Мінску быў ужо адзін раз, гады з чатыры назад, і ведаў, дзе Валодзя жыве і як дабірацца да яго, ды што там дабірацца — жыў ён у самым цэнтры. Той раз яны былі тут з Раманам, малодшым Валодзевым братам; хадзілі па вуліцах, разявіўшы раты, дзівіліся на ўсё — на тралейбусы, на чорныя легкавушкі, на цырк, на планетарый. Якраз прыпала свята вызвалення — усюды сцягі, зелень, кветкі, музыка, людзі з ордэнамі, медалямі на грудзях. Бацьку б сюды, хай бы пачапляў свае, пазадаваўся. Увесь праспект ля плошчы Перамогі быў забіты людзьмі, і толькі пасярэдзіне яго — вузкі, як вулачка, калідор, і па ім ішлі колішнія камандзіры, партызаны, падпольшчыкі — і старыя, сівыя, і маладзейшыя. Яны ішлі ў гэтым вузкім людскім калідоры, стомлена і вінавата ўсміхаліся, а з бакоў на іх і пад ногі ім ляцелі кветкі. Васілю запомніўся маленькі сухі дзядок з арэхавай качарэжкай, у яго было тры ордэны на чорным пінжаку, ён ішоў і плакаў. Усе весяліліся, пад нагамі валяліся кветкі, а ён плакаў. Потым, калі людзі трохі паразыходзіліся, Васіль з Раманам прайшлі па тратуары да абеліска — глядзелі на партрэты, што на дашчаных, абцягнутых чырвоным шчытах стаялі абапал праспекта. Шчытоў было шмат, і партрэтаў было шмат, і як не пад кожным стаяла слова — «загінуў». Загінуў, загінуў, загінуў... Сталыя мужчыны, жанчыны, а болей — хлапчукі, такія маладыя, бязвусыя...

А вечарам яны глядзелі салют. І зноў адчувалі сябе весела і бесклапотна. Гэта было тады. Тады добра было.

У вірлівым натоўпе, што вывальваўся з тунеля, Васіль убачыў маладзенькую, белавалосую жанчыну з дзяўчынкай на адной руцэ і чамаданам у другой і рынуўся ёй насустрач. Усю дарогу ён ехаў у адным купэ з імі, і толькі тут, на вакзале, яны разлучыліся. Васіль хацеў памагчы ім сысці, але жанчына сказала, каб ён не чакаў іх, ім доўга збірацца, ды і чамадан іх не цяжкі, і ён падумаў, што, можа, яна хоча застацца адна. Цяпер ён узрадаваўся, угледзеўшы іх. Дзяўчынцы было гады два, і яна пазнала Васіля і разявіла роцік з ланцужком дробненькіх зубоў. Васіль узяў у жанчыны чамадан, і





яны пайшлі да трамвайнага прыпынку. Яшчэ ў цягніку Васіль даведаўся, што жанчына з дачушкай едзе праведаць свайго мужыка, ён во ўжо болей года служыць у Мінску ў арміі... Васіль усміхнуўся: успомніў, як яна ноччу ўкладвала спаць сваю неслухмяную дачушку, гладзіла рукамі па ўсяму цельцу — грудках, жывоціку, ножках, гладзіла і расказвала-прыпявала: «Ласачка-ласачка, дзе была? — У бабкі.— Што рабіла? — Кросны ткала.— Што зарабіла? — Кусок сала.— Дзе паклала? — На паліцы.— А дзе сала? — Кошка ўкрала...»

Дачушка доўга не хацела спаць, і маці зноў і зноў пачынала: «Ласачка, ласачка...» Цяпер Ласачка ўтульна сядзела на руках у маці, адно круціла галоўкай па баках, а Васіль з жанчынай перакідваліся нязначнымі, абаім прыемнымі словамі.

— Дык перадавайце прывітанне свайму служываму.

— А няўжо ж... Шчэ каб прыраўнаваў! Ён у мяне на гэта скоры...

— Раўнаваць будзе, то і любіць будзе...

— Ён і так любіць...

Васіль і без гэтых яе слоў чамусьці ведаў, што любоў у іх ёсць і, мусіць, крэпкая і спакойная. Ён пасадзіў іх на трамвай, памахаў рукой, а пасля і сам узяў у рукі чамадан.

Дома быў Валодзя. Ён толькі што ўстаў і цяпер упарта муштраваў шчокі харкаўскай брытвай, крывіўся, нацягваючы скуру рукамі. Ён шчыра ўзрадаваўся, убачыўшы Васіля:

— Прыехаў усё ж! А я думаў, што ты даў труса.

— Прыехаць — прыехаў, а як паеду? Можа пасля першага экзамена падцісну хвост ды цішком назад, у сваё Дубно. Бацька ўсё тачыў, каб не мудрыў і ехаў да Шуры, паступаў на юрфак. Шура быў зімой, дакляраваў памагчы. А на якога д'ябла мне Казахстан іх, іх юрыдычны... Я ведаю: Шура, калі захоча, паможа, ды пайшлі яны. Прысталі, быццам я сысунок які, з калыскі ўчора вылез... Падаў на інжынерны, пагляджу, чым усё гэта пахне.

— І добра зрабіў. Да кожнага чалавека калі-небудзь прыходзіць пара, калі трэба стукнуць кулаком па стале, каб даказаць, што ты мужчына. І чым раней ты гэта зробіш, тым лепей.— Валодзя касіў вокам на Васіля і разам лавіў рукой, дзе яшчэ чаплялася шчаціна. Сказаў, што Люсі няма дома, з хлапцом паехала да сваіх у сяло, так што Васіль можа абкладацца кніжкамі і зубрыць свае формулы ці рашаць задачкі, пакуль не пасінее,— ніхто ні часу яго, ні заняткаў не ўрве, калі сам будзе пільнавацца, бо сам Валодзя дома бывае мала, а суседзі паехалі ў адпачынак.

Снедалі, і Валодзя вучыў Васіля, як трэба здаваць экзамены. Галоўнае на экзаменах — цвёрдасць. Галоўнае, каб экзаменатар бачыў, што ты не смаркач які, а мужчына, што ты яго не баішся, бо ты ведаеш, чаго прыйшоў і што табе трэба. Адчувай сябе так, быццам ты раўня экзаменатару: седзіцё, гаворыце, ты гаворыш, ён слухае, так во, як мы з табой. Васіль засмяяўся, запярэчыў: добра так гаварыць тут, а возьмеш білецік у рукі — і не прыкмеціш, як затрымцяць каленкі, ды ў яго ніколі і не было гэткай порсткасці, у яго так: ведаю — дык ведаю, не ведаю, дык не ведаю. На глотку тут не возьмеш. Але Валодзя і тут не пагадзіўся: на экзаменах часта рэжуцца, асабліва жаўтароцікі, з-за страху. Ён, можа, і ведае білет, а язык, што ў заікі,— пыкае, мыкае, а экзаменатару што — заікаешся, значыць, не ведаеш, ідзі павучы, за дзвярыма цэлая рота чакае.

Валодзя гаварыў так упэўнена і цвяроза, што і Васіль пачаў верыць у яго аптымізм, у тое, што паступіць. А што? Вучыўся ён добра, усе прадметы ішлі роўна, хіба толькі яго самога больш цягнула да матэматыкі, з ёй ён быў на «ты», і не любіў хімію, заеўся з хімічкай, не жылі, а нервы пераядалі адно другому. Таму і тройку вывела — адну на ўвесь атэстат.

Васіль слухаў Валодзю, поўніўся ўпэўненасцю, што ўсё будзе добра. Вунь летась Валера Каждан паступіў і ніякім не быў медалістам, ніякім выдатнікам. Дык няўжо ж ён горшы за Валеру? Урэшце, пабачым, сказаў сляпы, як бязногі паскача. Трэба паступаць і паступіць. Гэта ж, браце ты мой, Мінск, Мінск, а не Дубно тваё.

Успомніўся Мінск — той, калі яны прыязджалі з Раманам. Яны ўтрох — Валодзя, Раман і Васіль хадзілі на канцэрт у завадскі тэатр. Сядзелі высока, на галёрцы. Васіль ніколі не бачыў такой вялізнай і прыгожай залы, столькі люстраў, столькі святла, столькі пражэктараў, і поўна людзей. І столькі дзяўчат, і зноў жа — прыгожыя, каб хто сказаў дома, што недзе іх столькі, ніколі не паверыў бы, сказаў бы, што набрахалі. Хоць Дубно і немаленькае сяло, двароў пад дзвесце, а колькі там тых дзяўчат, ды яшчэ каб такіх прыгожых. Праўда, пазней Васіль убачыў, што ў зале не ўсе такія ўжо і прыгожыя, проста на іх болей фарбы і пудры, чым на дубенскіх, і адчуваюць яны сябе вальней. Паглядзеўшы на кожную з іх, можна было падумаць, што толькі адна яна і ёсць у гэтай зале. Хоць за тыя два дні Васіль пабачыў усяго ўсякага, што здзіўляла і сваім размахам і навізной, але ў той вечар ён чакаў яшчэ нечага такога, што б канчаткова, як цвіком, прышпіліла яго сэрца да горада. І яно было — здзівіла і ашаламіла яго.

На сцэну — далёка, недзе там, унізе, як на дне ямы,— выходзілі артысты: чыталі вершы, спявалі, паказвалі балетныя, спартыўныя нумары. Усё гэта было прыгожа, з музыкай, але Васілю ўсё гэта было трохі знаёма — і па тэлевізары, і па раённым доме культуры — ён колькі разоў быў там... Пражэктары — чырвоныя, зялёныя, сінія, белыя — распаласавалі цёмную прастору залы, збегліся ў круг на сцэне, і ў гэты круг выйшаў дзяцюк. Здаровы, плячысты, з вялізнай грывай, у цесным чорным пінжаку і васільковых караткаватых штанах — з вузкіх калашын вылазілі моцныя, шырокай касці ногі ў вастраносых модных чаравіках. Во касталом быў бы, каб гуляў у футбол! Дзяцюк усміхнуўся зале, і ім, галёрцы, і аркестру, і ўсе ўбачылі яго буйныя, нявроўныя белыя зубы, такія зубы перамелюць і камень, толькі давай! Ён заспяваў, і залу аглушыў магутны нерастрачаны бас. І Васілю падумалася, што якраз такім голасам трубіць восенню лось-самец, калі кліча лошу. Зала аж дрыжэла ад гэтага голасу-клічу. Дзяцюк скончыў спяваць, пакланіўся, і тады зараўла зала. Людзі паўставалі са сваіх месцаў, крычалі, пляскалі ў далоні. Асабліва стараліся маладзенькія дзяўчаткі, імі была забіта ўся галёрка, тупалі, крычалі «біс», «брава». Васіля здзівіла не песня — дзяцюк не спяваў, а крычаў, як у лесе,— а тое, што дзяцюк не пасаромеўся ў такіх кароткіх штанах выйсці на сцэну і нават руку не выняў з кішэні і што ўсе як павар'яцелі, прасілі яго спяваць яшчэ і яшчэ. Дзяцюк не адмаўляўся, відаць, і ён і арганізатары вечара чакалі гэтага. І тады Васіль зайздросліва падумаў: «Вось яно, са-

праўднае жыццё! Трэба жыць так, як гэты дзяцюк, каб кругом цябе шалелі і раўлі. Што я, Васіль, што тое Дубно?!»

Васіль многа разоў успамінаў той вечар і дзецюка з няроўнымі зубамі і трубным ласіным голасам — здаровага, упэўненага ў сабе, з шырока расстаўленымі тоўстымі нагамі — вузкія калашыны штаноў аж закручваліся на іх. Ён стаяў так, быццам трымаў зямлю на плячах. Успамінаў і зайздросціў яму, хоць ні тады, ні пазней не разумеў, чым той юнак так упадабаўся людзям. Голасам? Дык такіх равуноў і ў іхнім Дубне нямала. Прыгожы? Зноў, на ім нічога такога не было. Сілай? Дык у іхнім калгасе ёсць хлопцы куды здаравейшыя...

Пасля снедання Васіль з'ездзіў у інстытут — паглядзець, як яно там і што, пацерціся сярод такіх жа, як сам, небаракаў-абітурыентаў. Таўклося іх шмат — і на двары інстытута, а яшчэ болей — у прахладным вестыбюлі, абстаўленым і абвешаным дошкамі з аб'явамі, і ў вачах ва ўсіх было нешта агульна-сумнае, нават у самых гаваркіх і вясёлых. Пазнаёміўся з двума хлопцамі з іхняй групы — Анатолем і Алегам. Абодва яны прыехалі з Віцебска, абодва валасацікі зарослыя, Анатоль — спакойны, але ўедлівы, з упарта сціснутымі губамі, Алег — няўцерпны балбатун і цынік. «Прывет, капітан!» — першае і любімае, што паўтараў ён,— трэба было ці не трэба. Нават тут, у вестыбюлі інстытута, ля дошак са спісамі, ён чапляў ледзь не кожную больш-менш прыгожую дзяўчыну. Яго назойлівая актыўнасць мела тое добрае, што адна з дзяўчат, каб адчапіцца, дала перапісаць задачку, якая была летась на ўступных экзаменах. Хлопцы аблазілі тры паверхі, пакуль знайшлі незанятую аўдыторыю, завалілі дзверы сталамі і ўзяліся за задачу. Васіль рашыў скора — звычайная геаметрычная задачка з прымяненнем трыганаметрычных функцый. Анатоль з Алегам ладны час біліся над ёй, пакуль Алег не здаўся: «Валачы сваё рашэнне». Пахваліў: «Трэба будзе сесці ля цябе. Бачу, ты задачы грызеш, як заяц капусту. Быў бы я рэктарам, я б за адно гэта прыняў цябе. А пакуль я яшчэ не рэктар, ды і сам усявышні ніколі не дапусціць гэтага, а ты не маеш часу чакаць — будзем рэалістамі, капітан, будзем паступаць».

Яны сядзелі на лаўцы ў інстытуцкім двары, задраўшы галовы, патыліцамі да выгнутай спінкі лаўкі, як апошняе ў печ укінуўшы. Не хацелася ні ўставаць, ні ісці — сядзець бы ды глядзець, як бягуць, тупацяць, ступаюць па сцежцы ножачкі, ножкі, ногі.

— Кажуць, што ў радыётэхнічным усіх, у каго патлы ніжэй загрыўка, не дапускаюць да экзаменаў,— сказаў Васіль.

— Брашы,— лянiва азваўся Алег.

— А могуць,— падтакнуў Васілю Анатоль.— Скажуць: альбо інстытут, альбо джунглі, малпападобнае існаванне.

— Перажывём, капітан,— Алег паказаў вачыма перад сабой на асфальтавую сцежку, па якой важна нёс умерана ўкормленае цела сярэдніх гадоў мужчына. Збоку яго цэрусіла тонкімі нагамі худзенькая дзяўчынка.— Даю на адсячэнне... шавялюру сваю, што вось гэты радзіцель на сто працэнтаў упэўнены, што яго беднае, слабое дзіця паступіць... Ён зрабіў усё, што мог, усё, што ад яго залежала. Загадчык райспажыўканторы, ці як яна там, ён яшчэ тры гады назад пачаў думаць, куды паступаць яго дачцы, і два гады рыхтаваў яе і сам рыхтаваўся... Я няпраўду кажу, Анатолька?

— Відаць, праўду.

— Відаць, праўду,— пацвердзіў і Васіль. Па саліднасці паставы, па важнасці і значнасці, напісаных на твары чалавека, было відаць, што якраз так яно і было.

— Слухай, Алег, а што, хіба твой стары не мог варухнуць пальцам, га? — Анатоль паглядзеў на Алега.

— Мог, ды не хоча. Кажа, паступай, а там пагляджу, на што ты варты... Паступай... Ха-ха!.. Пайшлі, Анатолька, вунь дзве чувіхі стаяць, закадрым? А якія ножкі, Анатолька? Закадрым. Рыхтавацца? Перастань. Што ты за адзін дзень зробіш? Не пад'еў, дык... Бач, і яны чакаюць, даю слова, нас чакаюць. Не хочаш... Ну што ж, ідзём рыхтавацца. Прабачце, дзяўчаткі, злы вецер нясе нас у розныя бакі. Але не трацьце надзеі, мы яшчэ сустрэнемся, абавязкова сустрэнемся. А зараз гуд-бай, мае мілыя, мае харошыя, мае кісанькі, мае... Ну, куды ты мяне цягнеш, пракляты?.. Дык да заўтра, капітан, да заўтра! — гэта ўжо было сказана яму, Васілю.

Ён таксама ўстаў.

Гэта была вялізная, чалавек на сто, аўдыторыя з чорнай дошкай ля дзвярэй. Прасторная, як пуня, з высокімі вокнамі і спіралямі белых плафонаў на высокай столі. У вокнах відаць былі срабрыста-зялёныя верхавіны таполяў. Вузенькія сталы-парты стаялі ў чатыры рады, ярусамі ўзнімаючыся да задняй сцяны. За сталамі, як качаны на градах, тырчэлі галовы. Мусіць, некаторыя і начавалі тут, каб заняць лепшае месца — далей ад строгіх вачэй экзаменатараў.

«І кожны спадзяецца, што лёс будзе паблажлівы да яго і што бог — яго-то няма, але тут можна памаліцца і самому чорту,— і што бог будзе літасцівы да яго. Кожны спадзяецца, што заваліць нехта іншы, хай заваляць усе, толькі б не ён ці яна»,— падумалася Васілю адразу, як толькі ён зайшоў у аўдыторыю. І неяк адразу стала няўтульна ў гэтай велізарнай харомiне. Ззаду і пасярод усе месцы былі занятыя — болей хлопцы і болей цывільныя, хоць шмат і салдатаў — зялёныя гімнасцёркі з пагонамі, як купіны, стракацелі па ўсёй аўдыторыі. Толькі спераду былі вольныя месцы, і Васіль сеў там, дзе стаяў,— побач з ярка-рыжай дзяўчынай. І твар у яе быў рыжы, і вочы! Вось ужо ўдружыў нехта золата дачушцы, дык удружыў!

Дзяўчына ўзрадавалася, што Васіль сеў побач. Перад імі стаяў усяго адзін стол, за ім яшчэ нікога не было.

— Усе ціснуцца назад. Я прыйшла даўно і села, як дурніца, бліжэй да дошкі,— даверліва загаварыла яна, ловячы Васілёў позірк.

Васіль бачыў, што дзяўчына таксама прыехала з вёскі. Па басаножках бачыў — старамодных, разношаных, гарадская ніколі не абула б такія. Рукі і шыя загарэлыя — да зацямнелай чырвані: так загарэць можна толькі на полі, дзе ўсё разам — і сонца, і вецер, і пот. Дзяўчыне, відаць, і боязна і нязвыкла было сярод столькіх людзей, і яна шукала, да каго б прыгарнуцца. Лёс паслаў Васіля, і яна ўстрапянулася, адчуўшы ў ім блізкую душу: яму, мусіць, таксама страшна, хоць па ім і не скажаш гэтага.

— Якая розніца, дзе гарэць — спераду ці ззаду,— абыякава адказаў ёй Васіль, азіраючыся кругом. Ён ужо злаваў на сябе, што закешкаўся дома і прыйшоў позна. Пашукаў вачыма Анатоля з Алегам, нідзе не знайшоў. «Запазніліся, капітан».

— Тут хоць бы і хацеў, не падглядзіш нічога,— зноў сказала дзяўчына, пазіраючы на Васіля.

«Чаго яна ўсё глядзіць на мяне, дурная нейкая, ці што?» — Ва-

сіль адвярнууся. Дзяўчына дастала з насавой хусцінкі вузенькі лісцік паперы, складзены ў гармонік:

— Я выпісала асноўныя формулы, хай будуць пад рукамі.

Васіль скрывіўся:

— Ну, калі спадзявацца на гэту шпаргалку, лепей ужо было зусім не прыязджаць.

Дзяўчына адразу зардзелася, пунсовая стала, скоранька згамтала лісцік, выпрасталася ўся, каленкі сціснуты, рукі сціснуты.

Час блізіўся да дзевяці. Прыбеглі Анатоль з Алегам, убачылі Васіля, памахалі рукамі, але селі не ля яго, а далей, ля вакна. Столік перад Васілём з дзяўчынай занялі два салдаты: перад Васілём — круглая, як мячык, галава з акуратнымі, быццам намаляванымі, чорнымі вусікамі. Галава абярнулася, бліснула белымі зубамі:

— Кораш, угавор: памагаць адзін аднаму. Я першы рашу — павярнуся так, ты ўсё ўбачыш, ты першы — падкінь мне. Жывём?

— Жывём...

А як жа іначай. Хіба тут не так, як у школе? Там ён ніколі першы не выходзіў з класа, рашыў ці не рашыў. Каб не рашыў — такога не было ніколі, але заўсёды глядзеў, як там хлопцы. Толькі калі ўжо дырэктар навісне над каркам — нідзе не дзенешся. І то ўхітраўся прамакатку з рашэннем падсунуць каму-небудзь. Урэшце, будзе відаць. Можа, яшчэ сам запарыцца... І хоць Васіль падумаў пра тое, што можа і сам запарыцца, у душы ён не верыў у гэта, быў упэўнены, што ўсё будзе добра. Матэматыкі ён ніколі не баяўся, ну і... калі гэтыя салдаты думаюць напісаць, і гэтае дзяўчо са шпаргалкай, дык... Дарэчы, як яе завуць, трэба неяк папірыцца, а то шчэ падумае, быццам ён чорт ведае што...

— Дык як цябе велічаць, прыгажуня? Нам жа разам ваяваць,— спытаўся ў яе.— Мяне Васілём запісалі...

Дзяўчына сумна ўсміхнулася:

— А я Валя.

Пачуўся званок, і разам з ім расчыніліся дзверы і зайшлі экзаменатары. Было іх двое — мужчына і жанчына.

Усе ўсталі. Экзаменатары прывіталіся і адразу пайшлі між радоў, пачалі раздаваць паперу.

— Старайцеся пісаць чыста і акуратна... Усе падлікі весці толькі на той паперы, якую вам выдалі. Калі ў каго не хопіць ці хто сапсуе, што зусім не патрэбна, папрасіце, дабавім...— і гэтак далей, як дзецям у яслях: якой рукой браць лыжку, якой відэлец, абліваццa не трэба і міску на галаву суседу адзяваць таксама не трэба... Тлумачыў усё мужчына — у чорным касцюме, з сухім, як костка, белым тварам, на якім гэтак жа суха блішчэлі карыя вочы. «Калючы, відаць, і злы»,— падумаў пра яго Васіль, але без страху ці злосці, а той ужо ішоў перад першымі сталамі, мецячы рукой — першы варыянт, другі варыянт, першы, другі, аж пакуль не дайшоў да вакна. Твар спакойны, ніякай рэакцыі на рэплікі і жарты, якія сыпаліся то з таго, то з другога кутка. Здавалася, ён нічога не чуў, увесь — адна дзелавітасць, рабіў сваю, некім даручаную справу, рабіў роўна, паслядоўна, як робат, як запраграмаваны, і нічога, апрача гэтай праграмы, не ведаў і ведаць не хацеў, нічога не чуў і чуць не хацеў. Нават жарты і каламбуры, якія час ад часу зрываліся і з яго языка, не асвячалі ўсмешкай яго бяскроўныя губы. Відаць, і жарты гэтыя былі запраграмаваныя, як неабходны элемент экзаменацыйнага рытуалу. Быццам у гэтай зале не сядзела сотня чалавек, для якіх гэта кантрольная рашала вельмі многае. Цікава, ці жанаты ён, ці ёсць у яго



сям'я? Павінна быць. І як жывецца з ім яго сям'і? Відаць, нясоладка. Сухар, чысты сухар, не тое, што яго напарніца... І сама стройная, і сукенка ў вялізныя кветкі вельмі да твару. І супакоіла: «Галоўнае — не хвалюйцеся. Лічыце, што рашаеце кожны ў сваёй школе. Думайце, што інстытут прападзе, калі вы не паступіце, не вы без яго, а ён без вас прападзе, і — максімум увагі да дробязяў. Вельмі часта памыляюцца якраз на дробязях. І яшчэ: спадзявацца толькі на сябе і верыць у сябе». Яна ўсміхнулася і зірнула на свайго строгага напарніка, ён быў у другім канцы аўдыторыі, і ён кіўнуў галавой, і зноў — каменная маска. Усё высушыла, забрала матэматыка. Яна дабралася і да твару — цвёрдымі гурбякамі тырчэлі скулы. Яна дабралася і да цела: пад чорным касцюмам угадвалася сухая постаць гімнаста.

Васілю дастаўся другі варыянт, яго суседцы — першы. Жанчына пачала запісваць на дошцы першы варыянт, мужчына адышоў да акна, адтуль добра праглядалася ўся аўдыторыя. «Чаму яны не разам запісваюць? Пакуль да майго варыянта дойдзе чарга, то ты свой рошыш»,— прашаптаў Васіль суседцы.

Яна паціснула плячыма. А яму ўжо не сядзелася, у яго ўжо ўсяліўся нейкі нервовы сверб. Як перад бойкай, калі бачыш, што без бойкі не абыдзешся, а праціўнік марудзіць, не рашаецца пачынаць першы. Васіль не любіў такіх хвілін, не любіў чакаць. Біцца дык біцца. І каб наблізіць сваю хвіліну, Васіль пачаў аўтаматычна рабіць чарцёж Валінага варыянта. Узяўшыся за работу, ён заўсёды спакайнеў, быццам цвярозасць прасвятляла галаву. Зрабіў чарцёж і адразу адчуў цёплы штуршок у грудзях: ужо ведаў, як рашаць задачу, і ведаў, што ход рашэння правільны. Хуценька пачаў пісаць на лістку. «Калі так, то не бяды...»,— зусім ужо смела падумаў ён, падсоўваючы Валі гатовае рашэнне. Яна хуценька — здавалася, нават і не пазірала ў яго бок — пацягнула яго лісцік па стале пад свае і гэтак жа хуценька і непрыкметна саўганула чысты лісцік назад — аддала даўжок — і ўдзячна ўсміхнулася яму. У гэты момант яна падабалася Васілю — нечым вельмі свойскім, таварыскім. Добра быць моцным і шчодрым!

«Не такі і страшны чорт, як яго малююць»,— ужо спакойна і з нейкай гордасцю паглядзеў Васіль на экзаменатара ў чорным касцюме: ён стаяў на тым жа месцы. «Віжуй, віжуй, мо што і ўпалюеш».

Жанчына пачала запісваць і тлумачыць Васілёў варыянт.

Васіль прыслухоўваўся да ціхіх слоў жанчыны, сачыў за яе рукой, імкнучыся яшчэ да таго, як яна закончыць запісваць на дошцы ўсю задачу, злавіць ход рашэння, тое зярнятка, у якім хаваецца ўся задача. У кожнай задачы ёсць гэта зярнятка, расклюеш яго — усё астатняе — справа тэхнікі. «Зярнятка» — так гаварыў дырэктар школы, Кірыла Кірылавіч... «Дадзена прызма, у аснове якой... раўнабочная трапецыя. У прызму ўпісана піраміда... Ёсць двухгранны вугал граняў піраміды і асновы... Знайсці бакавую паверхню піраміды».

«Ну, што ж, пачнём. Памажы, божа... Х-ха, паможа, калі сам не можа... Геаметрыя з прымяненнем трыганаметрыі, правільней, стэрэаметрыя з прымяненнем трыганаметрыі. Здаецца, у школе яны рашалі нешта вельмі блізкае. Дзе тая печ, ад якой заўсёды пачынаюць танец? І гэта любіў гаварыць дырэктар. Ён увогуле любіў пагаварыць. Матэматыку ведаў добра, а пагаварыць любіў. Прынясі ў клас якую-небудзь галаваломку, і можаш быць спакойны: пакуль яе не

расколюць, урока не будзе, і сам Кірыла Кірылавіч першы будзе ламаць мазгі. Дык дзе тая печ? Апафема? Без яе плошчу не знойдзеш... Гэта ўжо добра, ужо нешта ёсць. Нешта ёсць... Цікава, а што там за прыклады? Трыганаметрычнае ўраўненне, ага, зноў жа тоеснасць, не бяды, ага, і сістэма. Тут давядзецца папацець. І здорава папацець»...

Цяпер усё стала на свае месца, усё было канкрэтнае, хоць і не да канца яснае. Васіль зрабіў чарцёж — і забыўся пра ўсё на свеце. Цяпер перад ім была толькі задача, з ім была толькі задача, яна сядзела ў ім, ён чуў яе сваім балючым нутром. Час адышоў ад яго і страціў сваю ўладную сілу, быццам яго і зусім не было. Васіль не бачыў, як між радоў хадзілі экзаменатары, не чуў, як яны выгаворвалі хлопцам за тое, што тыя перашэптваліся, як адказвалі на пытанні, і толькі па незразумелым раптоўным шуме за вокнамі і па цемнаце, што насунулася на аўдыторыю, здагадаўся, што на дварэ ідзе дождж. Але і гэты дождж не выклікаў у ім ніякіх эмоцый: дождж, як і ўсё астатняе, апроч задачы, быў недзе там, па-за яго цяперашнім жыццём.

Нарэшце, задача была рошана. Ура! Ура, ура! Васіль зірнуў на гадзіннік. Прайшло болей, чым паўтары гадзіны. Можна было перадыхнуць. Яшчэ раз праверыў рашэнне. Усё правільна. Праўда, нешта не давала спакойна радавацца поўнасцю, нешта прымушала сумнявацца ў стопрацэнтнай правільнасці рашэння. Васіль ведаў сябе, верыў сабе, і амаль ніколі гэта вера не падводзіла яго. Верыў свайму





ўнутранаму барометру. І цяпер гэты барометр не маўчаў — трывожна мітусілася яго стрэлка па шкале...

Падышоў і стаў за плячыма экзаменатар. Васіль не адразу заўважыў, што той стаіць ззаду. А заўважыў, павярнуў вочы: хацелася ўведаць — як? Ці правільна? Праз каменную маску не прабівалася нічога. «Рашайце прыклады»,— прагаварыў экзаменатар. Васіль яшчэ раз зірнуў яму ў вочы — жаласлівым, як у пабітага сабакі, позіркам (як ён ненавідзеў сябе за гэты позірк!): ну, адно слова, ну, скажы, так ці не? Але экзаменатар паўтарыў — якіх намаганняў яму каштавала разарваць сцятыя шчэлепы! — «рашайце прыклады, у вас засталося мала часу». Цмокнуў ротам, быццам хацеў прачысціць у зубах, і пайшоў па праходзе далей. Цяпер ужо Васіль цвёрда ведаў, што ў задачы нешта не так. Але што? Што?! А можа нічога? Можа, гэта яму толькі здаецца? Ды і няма калі шукаць ужо гэтае «што». Трэба брацца за прыклады. Гарачы туман затлуміў галаву, дрыжалі рукі. «Толькі не панікаваць. Спакойна! — загадаў ён сабе, сціснуўшы зубы.— Спакойна!..»



Ураўненне і тоеснасць рашыў адразу, і ведаў, што рашыў правільна, уздыхнуў вальней. На сістэме заседзеўся даўжэй, але расквалоў і яе. Перапісаў на чыставік, пераправерыў усё. Яшчэ заставалася мінут пятнаццаць, зноў узяўся за задачу, праверыў чарцёж, рашэнне, і чым болей пераглядаў, перапраўляў, тым болей пераконваўся, што ў падліках памылкі няма. Зноў і зноў вяртаўся назад, каб пачынаць спачатку, і зноў усё ішло па знаёмым крузе. Так кружыць па адным і тым жа месцы чалавек, зблудзіўшы ў чужым лесе. Паверыўшы адзін раз, што дарога, па якой ён прайшоў першы раз, якраз і ёсць тая, па якой трэба ісці, і што яна адна можа вывесці з лесу, з кожным новым кругам ён усё болей упэўнівае сябе, што так яно і ёсць, і кружыць, кружыць, кружыць, пакуль не знясілее ці пакуль не напарацца на што-небудзь нечаканае, што ўразіць яго і паверне на якую-небудзь другую, можа, самую непрыкметную сцежку, а яна якраз і выведзе на бераг...

Званок, які абвясціў пра тое, што трэба здаваць кантрольныя, заспеў Васіля ўсё на тым жа крузе, сысці з якога ў яго ўжо не было ні сілы, ні часу. Спытаў адказ задачы ў аднаго, другога, трэцяга чалавека. Не тое. Не тое! Разбалелася галава. Трэба было выйсці на свежае паветра.

На двары было душна, быццам дождж і не прашумеў толькі што над горадам. Духата і чад ішлі з праспекта, там залівалі асфальтам тратуар — дымілася густая чорная маса, машына рассоўвала яе, каток трамбаваў. Васіля адразу абступіла цэлая плойма людзей самага рознага ўзросту: ад школьнікаў, ці абітурыентаў, такіх, як і ён сам, да дзядоў і бабак — усе яны запісвалі варыянты задач і прыкладаў. Васіль рассунуў іх, быццам гэта было што нежывое, і спыніўся ў нерашучасці: куды падацца? Ці адразу дамоў, ці пашлындацца па горадзе, каб выветрыўся ўвесь гэты чад? Прайшлі на вуліцу Анатоль з Алегам. Абодва размахвалі рукамі, перабівалі адзін другога, відаць было, што яны ўсё яшчэ там, са сваімі варыянтамі, і, відаць, іх яны ўсё ж рашылі.

Падышла Валя:

— Ну, як? Усё добра? І ў мяне таксама!

Радасць яе была такая адкрытая і шчырая, і рабацінне, якое ёй і ў галаву не прыйшло прыхаваць трохі, хоць падмазаць, падфарбаваць, навесці цень які-небудзь, яшчэ больш падкрэслівала гэту радасць, і Васілю стала прыкра з самога сябе. Раскіс, як баба.

Выйшлі на праспект і далей, па праспекце, дайшлі да Купалавага скверыка, прыселі на лаўку. Гаварыла Валя, а Васіль больш маўчаў, зрэдку ўтыкаючы слова-другое, усё такі ж яршысты, занозісты. Але цяпер Валя не баялася яго, яна сама была смелая, яна бачыла, што ўся грубасць яго — так, абы-што: цяля ў воўчай скуры.

З непрыемным прадчуваннем ішоў назаўтра Васіль у інстытут. У невялічкім пакойчыку на трэцім паверсе за канцылярскім столікам тварам да дзвярэй сядзела маладая, прыемная жанчына. На століку ладным стосікам ляжалі экзаменацыйныя лісткі, яшчэ нейкія паперы, і да століка, загінаючы хвост на калідор, цягнулася чарга. Кожнаму не цярпелася хутчэй схапіць свой лісцік, зазірнуць у яго... Васіль у цуды не верыў, але ўсё ж хацелася, каб сёння яно было. Хаця б чацвёрка, чацвёрка з мінусам... Там можна было б яшчэ паваяваць, можна было б рвануць на вусным...

Гаварылі мала. Кожны быў заняты сваімі думкамі, ва ўсіх былі напружаныя, застылыя позіркі. Васіль павольна набліжаўся да стала. Усё проста. Называеш прозвішча, жанчына перабірае стосік, знаходзіць твой лісцік, спачатку сама глядзіць у яго і сама аб'яўляе: «выдатна», «добра»...— і ўсміхаецца, быццам сама атрымала гэтыя пяць ці чатыры балы... «Тры» яна нікому не гаварыла, але таксама ўсміхалася, падбадзёрвала: нічога страшнага, усё яшчэ наперадзе... Перад Васілём стаяў салдат, «кораш». Ён усміхнуўся Васілю, кіўнуў галавой: «Жывём?» — «Жывём». Падышоў да століка. Жанчына знайшла яго лісцік, разгарнула, усміхнулася, працягнула. «Відаць, пяць адхапіў. Малайца»,— падумаў Васіль. І губы салдата раз'ехаліся ва ўсмешцы. Салдат бярэ лісцік, але жанчына раптам ускрыквае: «Ой, тут, мусіць, нешта не так!» — хапае лісцік назад, прыціскае да стала. Твар у салдата набракае чырванню, але голас спакойны і роўны: «Ну, што вы... Двойка? Гэта яшчэ не канец свету. Я так і ведаў. А тут, бачу, вы ўзрадаваліся... Шут яго ведае, думаю... Не перажывайце... Не гэта галоўнае. Галоўнае, што я заўтра буду дома. Во там будзе перапалох. Нікому нічога не пісаў, усе ведаюць, што яшчэ месяцы тры барабаніць, а тут я — здравія жалаю! Ну, не трэба»...— салдат дакрануўся да рукі жанчыны, павярнуўся і пайшоў. Жанчына спахапілася, пачала таропка перабіраць лісткі, знайшла Васілёў... Ну канешне, тры! А ты нечага чакаў. З нічога, брат, нічога не бывае...



Васіль стаяў на лесвічнай пляцоўцы ля акна. У адзін бок прыступкі спускаліся, у другі — падымаліся. Як мурашкі па ствале дрэва, па лесвіцы няспыннымі раўчукамі беглі, спяшаліся людзі — адны ўгору, другія ўніз. Хлапчукі, дзяўчаткі. Але шмат і людзей сталых і старых — у капелюшах і без капелюшоў, з лысінамі і без лысін. Яны лавілі вачыма па баках, прыглядаліся да ўсяго і да ўсіх. Ужо ж, гэтыя не паступалі. Нечыя таты і мамы. Васіль і ўчора бачыў іх, і заўчора, яны дзяжурылі і на калідорах, і на дворы. Тады Васілю было ўсё роўна, тырчаць і хай тырчаць, а цяпер раптам зачарвівела злосць. Чаго вы тут тырчыцё? Панавісалі на падваконніках, як вараннё, сноўдаюць па калідорах — тут і без вас хапае кашы... Разам са злосцю засаднела і шкадаванне, зайздрасць, што з ім ніхто не прыйшоў. Хай бы хоць пастаяў тут, і то было б лягчэй. Бацьку дык і ў галаву не стукнула б ехаць з ім разам: хіба сам маленькі?

Спусціліся Анатоль з Алегам:

— Ну як, капітан?

— Траяк, капітан.

— То пайшлі, гульнём, капітан. Не ўзялі ў касманаўты, возьмуць у ракетчыкі. А?

— Ды не, капітан. Калі-небудзь пасля...— Васіль махнуў рукой. Збегла ўніз Валя, завярнула да Васіля.

— Ну, што? — а па самой відаць, што ўсе пяць адхапіла.

— Добра,— адказаў Васіль.

— Ну і слава богу... І ў мяне пяцёрка, аж не верыцца... Каб не ты, я не ведаю, як бы выблыталася.— Яна аж трымцела ад шчасця.

Дзверы. Спіной да іх і да ўсіх, хто заходзіць, сядзіць экзаменатар. Малады, круташчокі, з густой шчацінай «бокса». Ён нават не павярнуўся, калі зайшоў Васіль, і Васіль паўз яго прайшоў наперад, каб той убачыў яго. Нейкую хвіліну пазіралі адзін на аднаго: Васіль, чакаючы, што скажа экзаменатар, той — проста так, думаючы нешта сваё, далёкае ад экзамена і ад Васіля. Кіўнуў галавой на другі столік, правей. Там былі раскіданы білеты. За гэтым — яшчэ адзін рад вузенькіх столікаў. За трыма сядзелі дзве дзяўчыны і салдат, адзін хлопец сядзеў перад экзаменатарам. Гэта яго гаворку перабіў Васіль сваім прыходам. Васіль узяў білет, знайшоў сабе столік. Экзаменатар павярнуўся да хлапца: давай далей...

Білет у Васіля быў лёгкі, ён нават не чакаў, што тут могуць быць такія лёгкія білеты. Лінейная функцыя, яе графік і ўласцівасці, тэарэма Піфагора — «дзякуй, стары, што некалі жыў і мудрыў, бач, зноў сустрэліся, а я думаў, што развітаўся з табой назаўсёды»,— вызначыць інтэрвалы ўзрастання і ўбывання функцыі, рашыць ураўненне... Білет-то лёгкі, але Васіль запісаў на паперы ўвесь адказ: так будзе надзейней.

Пакуль Васіль рыхтаваўся, адказалі некалькі чалавек — хлопец, салдат, дзяўчына. Яе адказ Васілю не спадабаўся: мямліць, мусоліць, у функцыях — ні ў зуб нагой, відаць, не выцерабіцца, Кірыла Кірылавіч даўно ўжо ўляпіў бы дваяка: «ты мне жвачку не жуй, га-

вары канкрэтна»... А як гэты?.. Відаць, паставіў траяка, бо выскачыла весела. Каб дваяка — завыла б. Хм, здаецца, неблагі хлопец гэты экзаменатар. І малады, можа гадоў якіх дваццаць пяць ці дваццаць шэсць. А ўжо...

У аўдыторыю зайшла дзяўчына — высокая і, як бы сказалі ў Дубне, пародзістая. Толькі валасы белыя-белыя, мочаныя-вымачаныя, аж непрыгожа, і зусім кароценькая спадніца. «Дурнеюць яны, ці што? І ногі крываватыя»,— падумалася Васілю. Дзяўчына аддала заліковы ліст, узяла білет і села перад экзаменатарам на другі столік. Не паспела надумацца што-небудзь, як дзверы зноў адчыніліся, і ў аўдыторыю зайшоў высокі сутулаваты чалавек, таксама малады, відаць, нядаўні баскетбаліст, з цёмнымі прыжмуранымі вачыма. Узяў крэсельца, сеў побач з экзаменатарам, пaздароўкаўся за руку. «Адзін прымаеш?» — «Пакуль адзін. У Іванавіча жонку ноччу на «хуткай» забралі, апендзікс. Павінны аперыраваць, дык недзе ў бальніцу пабег, можа яшчэ надыдзе».— «А-а-а... Жыццё ёсць жыццё. Ніколі не ведаеш, што цябе чакае за вуглом — даўбешка ці букет кветак...» — Ён абабег позіркам аўдыторыю, сустрэўся вачыма з дзяўчынай, што толькі што зайшла. Яны нічога не сказалі адно аднаму — дзяўчына высокаму, а высокі дзяўчыне, нават нічога нельга было заўважыць у гэтай мімалётнай, можна лічыць, выпадковай сустрэчы позіркаў, але Васіль мог паклясціся, што яны ведаюць адно другога, што між імі нешта ёсць.

Высокі ўзяў у рукі ведамасць, ускінуў бровы: «Слухай, ды ў цябе адны выдатнікі! Віншую!» — «А што?» — неяк стомлена адказаў экзаменатар. Нешта не спадабалася яму ў пытанні высокага...— «Нічога,— высокі ўжо трымаў у руцэ экзаменацыйны ліст, і зноў Васіль мог пабажыцца, што гэта быў ліст дзяўчыны, якая толькі што зайшла, нахіліўся да круглатварага, пачаў нешта шаптаць на вуха. Дзяўчына, што адказвала, змоўкла на паўслове. «Вы давайце, працягвайце, я чую,— падагнаў яе экзаменатар і тут убачыў, што на іх пазірае Васіль, падаўся наперад: «А вы чаму нічога не робіце?» — «Я падрыхтаваўся»,— адказаў Васіль.— «Ну што ж, зараз пабачым»,— папярэдзіў, быццам на нешта непрыемнае намякнуў, экзаменатар і павярнуўся да высокага. Высокі паклаў экзаменацыйны ліст перад ім. Той кіўнуў галавой. Можа проста так кіўнуў, але Васілю падалося, што гэта было не проста так. «А ты сёння гуляеш?» — «Дзе там, у трыццаць сёмай прымаю. Ну, шчэ ўбачымся». Высокі кіўнуў галавой, устаў і, не глянуўшы ні на кога, выйшаў... Усё гэта — як ён прыйшоў, перагаварыў з экзаменатарам і пайшоў — усяго якую хвіліну заняло, але Васіль адчуў, што за гэты час у аўдыторыі здарылася нешта вельмі важнае, быццам прамільгнуў нейкі чорны цень і сваім чорным крылом зачапіў і яго, Васіля.

Неўзабаве за даўгім з аўдыторыі выйшла дзяўчына, што адказвала. Васіль устаў.

— Вы пачакайце,— экзаменатар вяла кіўнуў на яго пальцам, пазіраючы на дзяўчыну.

— Цяпер жа мая чарга,— Васіль кашлянуў: у горла быццам пылу набілася...

Дзяўчына скоранька згрэбла са стала свае лісцікі, пайшла да экзаменатара.

— Вось і добра. Адкажа таварыш,— экзаменатар паказаў на дзяўчыну,— а потым вы. Пачынайце,— даў дазвол дзяўчыне.



Васіль не слухаў, што там гаварыла дзяўчына,— скоранька, быццам пазнілася на цягнік ці яшчэ куды, усяго якія дзве хвіліны. Яму ўжо было на ўсё напляваць, і на тое, што добрага бала і тут яму не бачыць, як сваіх вушэй. Урэшце, ён даўно зміръўся з гэтай думкай і прывалокся сюды з-за ўпартасці: не хацелася думаць, быццам ён такі ёлупень, што нават экзамен па вуснай матэматыцы не можа здаць. Ён ведаў, што экзамены — тое ж паляванне. Паляўнічы з узведзенымі куркамі і набітым пантранташам — і чарада дурных цецерукоў. Яны пачулі чужыя крокі, чужы шоргат і ўзарваліся — пад самым носам у паляўнічага. Якое маленькае крылле і які цяжкі зад, проста цягне да зямлі! І колькі трэба лапатаць гэтым крыллем — чакаць, пакуль лясне стрэл. Паляўнічы ведае, што нельга страляць адразу, як толькі цецерукі ўзарваліся, трэба счакаць, даць ім трохі адляцецца — веер рассейвання шроту прама прапарцыянальны адлегласці. Зноў тая ж матэматыка. Ці фізіка? Нястройны ланцуг цецерукоў забірае ў які-небудзь бок, за ім паварочваецца і паляўнічы, не губляючы цвёрдасці пад нагамі — для стрэлу — і не губляючы з мушкі выбраную ахвяру. Васіль ведаў, як гэта робіцца, сам не раз хадзіў на цецерукоў і заўсёды ведаў, удалы ці няўдалы быў стрэл; пасля стрэлу мог нават і не правяраць, пацэліў ці не пацэліў. Так з цецерукамі. А ён не цецярук. Не-а, ён не цецярук.

Васіль быў спакойны, такі спакойны, якім мог быць, трымаючы ў кішэні па меншай меры дзве пяцёркі. Адказваў роўна, дзелавіта і бачыў, што яго адказ падабаецца экзаменатару. Урэшце, можа яму здалося, што падабаецца. Былі два дадатковыя пытанні—Васіль і на іх адказаў. Экзаменатар падсунуў да сябе ведамасць, узяў Васілёў экзаменацыйны ліст, зірнуў у яго, насупіўся: «А чаму тут у Вас?» Ён не сказаў, што «тут», але Васіль яго зразумеў. Адказаў: «Не так рашыў задачу» і адчуў сябе цецеруком, пад чорным дулам. Ведаў, што для паляўнічага наступіў самы ёмкі момант, каб націснуць на курок: раней было блізка, пазней — можа быць далёка.

— Значыць, не так рашылі... Ага, добра... Тады сфармулюйце мне яшчэ... м-м-м... тэарэму Безу.

Цяпер яны пазіралі адзін аднаму ў вочы. Вочы ў экзаменатара былі нейкія рознакаліберныя: адно чыста блакітнае, другое — з карычневай кропкай ля зрэнкі. Кропка быццам плавала ля зрэнкі, засцяняла яе. «Абы-што лезе ў галаву»,— мільганула думка, а ўголас Васіль сказаў:

— Тэарэму Безу мы не праходзілі.— Ён ведаў, што некалі і недзе жыў такі матэматык і што яго тэарэма ёсць у канцы падручніка, але яны не праходзілі яе...

— Дарэмна вы не праходзілі. Доказ тэарэмы ведаць не абавязкова, па праграме не абавязкова, а фармуліровачку трэба было б... Ды і доказ таксама...— Экзаменатар узяў ручку, нешта напісаў на Васілёвым лістку, працягнуў яго Васілю.

Васіль узяў ліст, падышоў да дзвярэй, потым павярнуўся:

— Скажыце, калі будзе Ваша ласка...

Экзаменатар жвава павярнуўся да яго.

— А... што Вы паставілі ёй? — Васіль матануў галавой за дзверы.

— Каму — ёй? — не хацеў разумець экзаменатар.

— Ну, гэтай, што адказвала перада мной.— Васіль уважліва глядзеў на экзаменатара, яму цікава было глядзець на яго.

Экзаменатару стала мулка на крэсле.

— Што зарабіла, тое і паставіў. Ага, што зарабіла,— успомніў ён. Цяпер ужо націск быў на слова «зарабіла», і недвухсэнсоўны намёк быў на гэтым слове. Васілю стала смешна:

— А зарабіла кусок сала...

— Якое сала? Не разумею...— Экзаменатар і праўда не разумеў, пры чым тут сала.

Васіль растлумачыў:

— Ёсць такая песенька, забаўлянка, ёю дзяцей забаўляюць. Каб не плакалі. «Ласачка, ласачка, дзе была, у бабкі, што рабіла, кросны ткала, што зарабіла, кусок сала, а дзе сала, кошка ўкрала».

— А-а-а, дык гэта забаўлянка! — засмяяўся і экзаменатар.— Усё можа быць, усё можа быць,— і павярнуўся назад, да стала.

Васіль выйшаў на калідор, адтуль — на двор, адтуль — на вуліцу. Стаў, няўцямна пазіраючы на людзей, што цяклі па вуліцы, абміналі яго, і не заўважаў іх.

— Часці праціўніка, панёсшы цяжкія страты, адкаціліся на зыходныя рубяжы...— словы гэтыя данесліся аднекуль здалёк, нехта гаварыў грубым вясёлым голасам, на ўсю вуліцу, але што Васілю да іх... У яго ёсць пра што думаць. На душы было так пагана, як яшчэ ніколі не было.

Васіль стаяў пасярод тратуара. За спіной была металічная агарожа, за ёй — зеляніна двара, праз якую прасвечваўся будынак. Будынак інстытута.

— Часці праціўніка, панёсшы цяжкія страты...— голас пачуўся над самым вухам, і Васіль павярнуў галаву. Гэта быў Валера Каждан, во чорт, гэта ж трэба...— Прывітанне вяскоўцам, якія наіўнымі лбамі стараюцца прабіць дзверы ў камяніцы навукі! — Валера смяяўся, ціскаючы Васіля ў абдымках. І Васіль узрадаваўся яму так, як, мусіць, не радаваўся нікому. Валера быў свой хлопец, яму нічога не трэба было тлумачыць.

— Зрэзаўся? — ужо сур'ёзна і са спачуваннем спытаў ён.

— Угадаў,—адказаў Васіль, з непрыемнасцю адчуўшы, як дрыжыць голас. Адвярнуўся.

— Тады шуруем да мяне,— яны ўжо ішлі па праспекце, віляючы ў людскім мурашніку.— Гэта проста шчасце, што мы з табой сустрэліся. Па-першае, я на канікулах і ў Мінску не павінен быць. Я ў будаўнічым атрадзе, а гэта кіламетраў за дзвесце адсюль. Будуем кароўнік саўгасу. Спецбрыгада... А па-другое, нават калі б я быў у Мінску, дык і тады шанцы на нашу сустрэчу можна лічыць нулявымі... І ўсё ж мы сустрэліся. Мяне хлопцы прыслалі, каб я атрымаў грошы, гэтая штука патрэбна ўсюды, і трэба ж было, каб ты выйшаў на вуліцу якраз тады, калі я сабраўся ісці адсюль. Прызнайся: ты стаў тут спецыяльна, каб я цябе ўбачыў?

— Слухай, Валера, ты, часам, не захварэў? — перабіў яго Васіль.

— Не, а што?

— Мне падалося, што ў цябе недзяржанне...

— Ах, гэта. Ха-ха-ха! Студэнты гэта не лічаць за хваробу. Наадварот, мудрыя кажуць: «Я гавару — значыць, жыву...»

Яны былі недзе за вакзалам, за пуцямі, у ціхім, чыста мястэчковым раёне горада — вузкія, зусім вясковыя вулачкі з аднапавярховымі дамамі, з гародамі, кветнікамі і садамі. Сядзелі ў невялікім, зацененым кустамі бэзу і язміну пакойчыку, мусіць, адны на ўвесь



дом — даўгі і нізкі, як стадола. На прыпёртым у куток століку стаяла пляшка чырвонага віна, дзве такія ж, але выпітыя ўжо, стаялі пад сталом. І Васіль, і Валера былі ажыўленыя, балбаталі, што каму налезе на язык, церабілі рукамі адзін аднаго. Адышоў, зніякавеў той боль і прыкрасць, што яшчэ нядаўна чуў Васіль, хоць нейкая гаркавасць, як адразу пасля выпітага віна, сядзела ў ім. Ён расказаў Валеру і пра сённяшні экзамен і пра кантрольную. Яму гэта карцела, яму, мусіць, трэба было нанава перажыць усё, што было з ім за гэтыя дні, каб больш не ўспамінаць пра гэта. А можа яму проста хацелася, каб нехта пашкадаваў яго.

Валера спачатку быццам і не слухаў яго, а калі Васіль расказаў, як рашыў задачу і перадаў Валі, а на сваім варыянце папух, Валера, як шалёны, ускапіўся на ногі, забегаў па пакойчыку, потым гупнуўся на ложак і зарагатаў дзікім рогатам, дрыгаючы нагамі. Васіль добра ведаў Валеру, таму спакойна глядзеў, як той шалеў, заходзіўся ад рогату. Пасля і сам пачаў смяяцца. Нарэшце, Валера сеў на ложак, выцер слёзы і, заціснуўшы калені рукамі, утаропіўся ў Васіля. Пакуль ён смяяўся, уся п'янка з яго выветрылася, як і не піў зусім, так цвяроза ён глядзеў на Васіля, потым прыставіў палец да віска, патачыў ім.

— Дурань ты — аброслы, нямыты, закаржанелы, першабытны пячорны дурань. Рашыць задачу і...— Валера аж застагнаў.

Васіль таксама працверазеў трохі, хоць ён і не быў п'яны, проста туман нейкі, ачмурэнне было ў галаве, і яму надта не спадабалася гэта цвярозая Валерава гаворка, быццам Васіль і праўда быў дураньдурнем.

— Дык гэта ж быў не мой варыянт, разумееш, не мой! — закрычаў ён. Васіль ужо шкадаваў, што расказаў усё Валеру.

— Не мой, не мой... А чаму не твой? Толькі таму, што ты сеў на другое месца? А калі б ты сеў на месца гэтай Валі, то ён быў бы твой? Законна твой? — Валера памаўчаў трохі, даючы і сабе і Васілю супакоіцца, усміхнуўся паблажлівай усмешкай: — А ты ведаеш, браце, што людзі плацяць за тое, каб паступіць у інстытут? Ведаеш? Не? То-та. Плацяць!.. І добрыя грошы. А ты — «не мой варыянт». Так гаварыць могуць толькі дубенцы, дубовыя дубенцы...

— Канешне, цябе паслухаць, дык усё купляецца, усё прадаецца. Касцюм, мёд, інстытут. А па мне: прыехаў паступаць — паступай. Паступіў — тваё шчасце, а не хапіла шурупаў — свішчы дамоў.

— А што ты думаў? І прадаецца, і купляецца. Не ўсё, канешне. Але і не без гэтага. Я трохі ведаю. Адны, такія, як ты, едуць, здаюць экзамены, спадзяюцца на сябе, на бога: а можа, а раптам... А другія робяць гэта крышку іначай. Перш чым падаваць дакументы, шукаюць паралельных каналаў. Канешне, не для таго, каб нехта там за некага рашаў задачы, ці пісаў сачыненні, ці здаваў вусныя, не-е-е... Так, на ўсякі выпадак, каб нехта прыгледзеў, параіў, ну, можа, слова дзе закінуў... Прыязджае тата, ці мама, ці дзядзька там. Звоняць па тэлефоне, ідуць у рэстаран ці яшчэ куды... Нехта ведае чалавека, які будзе прымаць экзамены, ці чалавека, які знаёмы з чалавекам, які будзе прымаць экзамен. Словам, нехта яшчэ і дакументы не пасылаў, а экзамены ўжо здае.

— Ну, гэта па-твойму. А я думаю, што гэта трохі не так. Паступаюць жа людзі і вучацца і без блатаў. Была б толькі галава. Ну, вось ты, вазьмі сябе, паступіў жа. І вучышся. Ды ці толькі ты...

— Ну, я... Мне пашанцавала, набраў васемнаццаць балаў, нікуды не дзенешся... Слухай, ну а дзеўка яна хоць вартая, га?

— Якая дзеўка? — не зразумеў Васіль, а зразумеўшы, паціснуў плячыма: — Якая дзеўка, дзеўчанё нейкае рабое, але даволі прыемнае.

— Ну, хоць гэтым можна суцешыцца... А ведаеш што, пайшлі-тка мы і праўда да дзяўчат, тут недалёка жывуць, на суседнім пасёлку. Па-мойму, яны нікуды не паехалі.

Васілю было ўсё роўна, куды ісці і што рабіць. Віно зрабіла тое, што трэба было: затлуміла галаву, разгарачыла ўсяго. Паганага настрою быццам і не было, і бяда ўжо не была бядой: падумаеш, правваліў экзамен, ці мала правальваюць, на наступны год паступлю.

Пайшлі шукаць Валеравых дзяўчат. Дома іх не было, але гаспадыня сказала, што павінны скора прыйсці, і хлопцы пацягнуліся ў горад, шукаць яшчэ нейкіх Валеравых знаёмых, ды і тых не засталі, зайшлі ў магазін, узялі яшчэ пляшку віна і выпілі яго проста ў парку. Да доміка, дзе жылі дзяўчаты, вярнуліся позна ўвечары, калі гарэлі ліхтары і сырой прахалодай цягнула з садоў і гародаў. І Васіль, і Валера былі п'яныя, шмат малолі языкамі, чапляліся да ўсіх, хто сустракаўся па дарозе. Дзяўчат і цяпер дома не было, і хлопцы рашылі пачакаць іх пад плотам, што выходзіў на нейкую пустку са старой адзінокай яблыняй. Сядзелі, клявалі насамі. Потым Валера пайшоў у разведку і прапаў. Васіль чакаў-чакаў яго і сам не заўважыў, як задрамаў. Прахапіўся ад холаду і ад адчування адзіноты і доўга не мог зразумець, дзе ён і чаго. Час быў позні, зрэдку даносіўся гул машын, але Васіль не ведаў, куды яны едуць і ў які бок трэба ісці яму. Пайшоў паўз плот, каб выйсці на вуліцу: можа там убачыць Валеру. Плот змяніўся шчыльнай дашчанай агарожай, за якой пачыналася другая, з калючага дроту, і ўжо за ёй — вуліца. Але гэта была не тая вуліца, на якой яны з Валерам шукалі дзяўчат. Васіль звярнуў у другую — зноў не тая. Цяпер, пры цьмяным святле рэдкіх ліхтароў, усе вулачкі былі падобныя адна на адну, і ўсе дамы — на адзін манер, цёмныя і затоеныя, і платы нейкія аднолькавыя, і калі спачатку Васіль думаў, што трэба толькі выйсці на вуліцу, зірнуць на двор — і ён адразу пазнае той дом з парканам з тоўстых, пафарбаваных у карычневы колер дошак, то чым болей ён хадзіў і прыглядаўся, тым болей пераконваўся, што таго дома яму не знайсці.

Пераходзіў з вуліцы на вуліцу, і ніводнай душы, ніводнага чалавека не сустрэлася яму, каб можна было спытаць, дзе ён і куды яму ісці. Ён злаваўся на Валеру, бэсціў яго ўсімі брыдкімі словамі, якія толькі прыходзілі на памяць, але гэта мала памагала. Страх і адчуванне адзіноты падганялі яго. Здавалася, ён ужо ніколі не выйдзе з гэтага бясконцага лабірынта падобных адна на адну вулачак, якія непрыкметна перапляталіся, перасякаліся, пераходзілі адна ў другую. Нарэшце, Васіль рашыў пастукаць у які-небудзь двор, нічога з ім не зробяць, хай накрычаць, але пакажуць дарогу. Тыцнуўся ў варотцы, яны былі запёртыя — дзынкнула жалезам завала, і амаль адначасова са звонам разлёгся густы сабачы брэх. Сабака аж захлёбваўся. Васіль счакаў трохі — думаў, можа, выйдзе хто на голас сабакі. Не дачакаўся, пайшоў далей. Вулачка вывела да высокіх цагляных дамоў. На самым выхадзе да іх стаяла воданапорная калонка, і Васіль прыпаў да яе, націснуў на балдавешку. Напор вады быў моцны, вада рвала губы, але Васіль хапаў і хапаў яе, задыхаючыся і не маючы сілы адарвацца. Піў, а смага не праходзіла. Аддыхаўся, нагнуўся да калонкі яшчэ, праўда, цяпер ужо спакойна, піў, смакуючы, ловячы губамі не ўвесь струмень, а часцінку яго. Пакуль піў, абліўся ўвесь — і чаравікі, і штаны, і грудзі. Стала трохі лягчэй дыхаць. Пайшоў да цагляных дамоў. Іх была цэлая вуліца, і Васіль рашыў, што яна павінна вывесці на другую, больш шырокую, а там будуць машыны. Мінуў адзін, другі дом і раптам спыніўся, ашаломлены. Проста перад ім у праёме вуліцы, недзе далёка-далёка, як на краі свету, вісеў месяц. Зеленавата-медны, вялізны, круглы. Ён нядаўна ўзышоў, але свяціў моцна і свяціць яму пасаблялі вулічныя ліхтары. Васіль адчуў, як моцна і радасна забілася яго сэрца. Болей тыдня жыў у горадзе і ні разу не ўспомніў пра месяц. Хадзіў пад ім і не бачыў яго, быццам яго і не было зусім. А цяпер убачыў яго і ўзрадаваўся, як старому сябру. Нейк дзікавата было бачыць гэты круглы добры месяц над квадратнымі камяніцамі, і радасна было, што ён ёсць, што ён свеціць, жыве. Як і ў іх дома. Цяпер Васіль ведаў, што з ім ён не прападзе. Пайшоў уздоўж вуліцы, і праўда неўзабаве пачуў лёгкі шум і ўбачыў святло фар машыны. З узнятымі рукамі кінуўся напярэймы, і машына адразу спынілася, быццам і ішла спецыяльна па яго. Гэта была «Волга», акрамя шафёра, у ёй сядзеў адзін пасажыр. Васіль папрасіў падкінуць яго да цэнтра. Пасажыр з шафёрам пераглянуліся, адчынілі дзверцы. Машына зрабіла ўсяго адзін паварот і выскачыла на шырокую вуліцу, і Васіль пазнаў яе і ўсё гэта месца: яны ехалі па вуліцы, на якой жыў Валодзя. Васіля везлі дамоў. Аказваецца, ён круціўся ў нейкім паўкіламетры ад вакзала. Васіль папрасіў спыніць машыну, працягнуў рубля шафёру — не ведаў, як аддзячыць яго. Шафёр пакруціў галавой, засмяяўся, зноў пераглянуўся з пасажырам.

— А цяпер ведаеш, дзе стаіш? — спытаў, націскаючы на педаль счаплення.

— Што тут ведаць? Во ён, дом мой,— матануў галавой Васіль на свой пад'езд. Машына рванула наперад, бліснуўшы рубінавымі агеньчыкамі стопсігналаў.

Дзверы ў калідор і ў пакой былі незамкнёныя: Валодзя чакаў яго. З ім прасцей, ён усё зразумее. Цяжэй будзе дома, з бацькам.

Бацька ўбачыў Васіля, калі той падыходзіў да варот. Пара была падвечар, сонца ўжо зачапілася за вільчык хлява, адкінуўшы яшчэ светлы і душны цень на двор з адгароджанымі градкамі гуркоў, куды ўбілася курыца. Бацька выганяў яе, цаляючы цераз плот глыжамі. Курыца, як сляпая, насілася з аднаго кутка ў другі, плішчылася ў кожную шчыліну, але колікі ў плоце сядзелі густа і моцна, а сухія глыжы лупілі па лісці гуркоўніка ўсё бліжэй і бліжэй, наганяючы страх, і бедная курыца страціла ўсякую надзею выбрацца з гэтых праклятых град і толькі адчайна ўскрыквала, калі ля яе ўзрываліся, сеючы пылам, камякі зямлі. Нарэшце, яна і зусім ушчамілася ў шчыліну, рванулася выбавіцца — яшчэ болей засела, і тады ўжо аціхла, разявіўшы дзюбу. Якраз у гэты раз бацька ўладзіў ёй вялізным глыжом у хвост і разам з глыжом вынес за плот. Адкуль і спрыт у яе знайшоўся матануць па баразне ў бульбу... Тады бацька атрапаў рукі аб штаны і павярнуўся да сына, пільна ўглядаючыся ў яго. Той, не спяшаючыся, адчыніў варотцы, ступіў на двор, узяў варотцы на зашчапку, паставіў чамадан на лавачку ля гародчыка.

— Нешта ж рана,— сказаў, падышоўшы, бацька.

— Прыйшла пара, дык і прыехаў.

Бацька тузануў яго за рукаў:

— Заваліў?

— Заваліў, ну і што?

— Нічога, сынок. Маладзец.— Бацька хацеў гаварыць спакойна

і не змог, сарваўся на крык.— Дзесяць годзікаў у с... трубілі — кніжкі, сміжкі, адзявалі, кармілі, а ён цяпер — «заваліў, ну і што?».. Яму «ну і што»!

— Не крычыце, не баюся,— Васіль рвануў руку і пайшоў у хату. Бацька зайшоў за ім.

— Надта смелы стаў. Ці не зарана? Яшчэ ўсё носіш бацькава — і на плячах, і на нагах, і ў галаве...

— Не, у галаве то не бацькава, можаш не радавацца...

— Яно і бачна... Казаў жа, прасіў: едзь да Шуры... Там то паступіў бы, ён — не ты, памог бы... Дык не, свайго захацелася... Цяпер радуйся — наеўся!..

— Наеўся не наеўся, плакаць не буду... Дзе мама? — Васіль зайшоў на кухню, зірнуў за комін.

— Дзе ж ёй быць — на полі. Сынку трэба грошыкі, дык хто ж шлунне ірваць мусіць? Бацька з маткай... А ён хай раскáтае...

— Не ный, надаела! Тут і без твайго ныцця хапае! Дужа я нараскатваў тваіх грошай,— закрычаў раптам Васіль з-за кухоннай перагародкі.

Бацька змоўчаў, сеў на лаўку. Васіль дастаў са шкафчыка гладыш з кіслым малаком і прыпаў да яго, не зважаючы, што малако цякло па барадзе і капала на падлогу. Напіўся, выцер губы далонню, выйшаў з-за перагародкі, стомлена апусціўся на лаўку, утаропіўшы вочы ў акно. Яно выходзіла ў гародчык з кветкамі, цёмны ад перадвячэрняга ценю, і вачам добра было глядзець туды.

Маўчалі. Васілю цяжка было нават рот разявіць, а бацьку хоць і карцела, але цярпеў, пакуль было цярпенне. Потым загаварыў — ціхім, з жаласлівою нотаю, голасам:

— Ну што ж, праваліўся, дык праваліўся. Мусіць, не нашаму цяляці ваўка з'есці. Сёння ўжо не трэба, насячы хацяы дроў, а заўтра ранічкай пабяжыш з касой у Стаськоў Рог, кусты паабкошваеш, канаву. Трава там добрая, густая, капы са дзве, а то і тры адаб'еш. За раніцу не паспееш — надвячоркам дакосіш... Толькі абкасі кругом, каб хто не ўпёрся.

— Не пайду я туляцца па кустах,— панура адказаў Васіль, не паварочваючы галавы.

— Чаму гэта не пойдзеш? І што гэта за зык на цябе сёння ўссеў, штo-та з табой робіцца? — зноў пачаў злавацца бацька.

Васіль адарваў вочы ад акна, зірнуў на яго, зморшчыўся:

— Ніхто не зыкуе, тата. Я кажу, што ў кусты не палезу — ні ранічкай, ні надвячоркам. Падзеляць, тады палезу, а так, як воўк, крадком — не. Хочаш — сам ідзі, а я не хачу. Пайду стагаваць ці шчэ што рабіць, работы хопіць...

— Ну, сынок, ты мяне парадаваў сёння. Пацешыў... Я табе гэта прыпомню,— бацька ўстаў з лаўкі, выйшаў за дзверы, але не зачыніў іх, прасунуў галаву назад, доўга ўзіраўся Васілю ў вочы, быццам бачыў першы раз.— У-у-у, гадзіна! Выгадаваў на сваю галаву...— прастагнаў адтуль і ляснуў дзвярыма так, аж зазвінелі шыбы. І звінелі яны доўга, надакучліва доўга, Васілю падалося, што гэта звініць не шкло, а муха ўпёрлася недзе ў павуціну...

Як і ў той раз, поезд у Мінск прыйшоў у восем гадзін. Па тым жа падземным пераходзе — тут нічога не змянілася за год, хіба толькі адваліліся колькі абліцовачных плітак, ды ў двух месцах на столі рудзелі пацёкі — прабілася вада,— Васіль выйшаў на прывакзальную плошчу. Павярнуў налева, да прыземістага будынка з касамі






паяздоў дальняга следавання. Людзей ля кас было мала, і ён управіўся скора. Ехаць дык ехаць, да Шуры дык да Шуры... У яго яшчэ заставалася дзве вольныя гадзіны, але да Валодзі ён рашыў не паказвацца: так будзе лепей. Укінуў чамадан у аўтаматычную багажную, а сам пайшоў у горад.

Дзень меўся быць ясны, сонечны. Зусім нядаўна па вуліцах прайшлі палівальныя машыны, і асфальт курыўся, яркай зеленню блішчэлі лісты прысад. Горад быццам пабыў у лазні і цяпер сушыўся, падставіўшы сонцу мокры твар. Людзей на вуліцах было шмат, людзі спяшаліся, толькі ў гэтай паспешцы не было вакзальнай суматохі. Васілю неяк шкада стала, што самому яму не трэба нікуды спяшацца. У яго нават ёсць лішнія пара гадзін, і ён не ведае, што з імі рабіць.

Зусім натуральна, калі чалавеку чаго-небудзь не хапае. Грошай не хапае, часу. Вечна чалавеку нечага бракуе, чалавек — не бог. Але горай, калі ў чалавека завяліся непатрэбныя яму рэчы. Тут ужо нешта не так, нешта не тое. Ну, рэчы можна каму-небудзь сплавіць. Заўсёды знойдуцца людзі, што збіраюць чужыя рэчы,— на свеце поўна дзівакоў. А што рабіць, калі ў чалавека лішні час? Яго не прадасі, не збудзеш. Ён твой, як цень, ён заўсёды з табой. Бывае, што яго не адчуваеш, і гэта добра, гэта шчасце; бывае, яго не хапае, і гэта таксама добра, а вось калі яго лішка і калі чалавек гэта пачынае адчуваць... Гэта непрыемнае адчуванне, як напамінак пра хваробу. Летась, калі Васіль прыязджаў сюды паступаць, кожная хвіліна ў яго была на ўліку, і тады было добра... Прыязджаў паступаць... Васіль усміхнуўся: даўно, вунь як даўно было ўсё гэта!.. І так недарэчна

скончылася... Не рашыў задачку, не задачу, а задачку, сярэднюю лінію зблытаў з перпендыкулярам. Дома ён рашыў яе назаўтра ж па прыездзе і рашыў за нейкія пяць хвілін, а тут... Цяпер пра ўсё гэта Васіль успамінаў без жалю і болю, як пра даўнюю хваробу. Перабалела — і як і не было. Перахварэў, і ўсё. Праўда, разам з папраўкай прыйшлі цвярозасць і сум — абавязковыя рубцы ўсё той жа хваробы. Кожная хвароба — гэта боль, а ўспамін пра боль заўсёды сумны.

Цікава, ці паступіла Валя? Канечне, паступіла... Добра было б сустрэць яе. Ён часта ўспамінаў пра яе дома, думка гэта нават стала надакучлівай. Нават збіраўся, калі будзе мець час, заехаць у інстытут. Яе-то не ўбачыць: лета, усе раз'ехаліся, але даведацца, ці вучыцца яна, зможа... Яму гэта трэба было ведаць, для самога сябе ведаць...

Васіль ішоў, думаў, разважаў сам з сабой, а на душы было трывожна. Не шкода было гэтага горада, які яшчэ летась ён лічыў сваім, родным, абжытым. Шкода было нечага другога. Можа, самога сябе?..

Падышоў да стадыёна, да рэкламных аб'яў — і спыніўся, утрапёны. З афішы, вясёлы і задаволены, на яго пазіраў знаёмы твар. Гэта быў той самы артыст, якога яны з Валодзем і Раманам некалі слухалі ў завадскім тэатры. Тая ж шыракаротая ўсмешка, тыя ж няроўныя зубы. І тая ж нахабнаватая ўпэўненасць на твары. Ён быццам смяяўся з Васіля, быццам гаварыў: — Едзеш? Уцякаеш? Давай, едзь... А я застануся...

Васіля аж скаланула. Усё роўна як яго злавілі на нечым зладзейскім. Стаяў перад афішай, на двары была душная раніца, а між плячэй стала холадна. «Не-а, нікуды я не паеду. На злосць табе не паеду...» Рашыў так і ўзрадаваўся свайму нечаканаму рашэнню. «А ты давай, спявай. Пацяшай людзей. Пацяшай...» — сказаў афішы ўжо зусім весела і цвёрда. Але перш чым зноў заявіцца да Валодзі, захацелася зірнуць на інстытут, быццам ён мог куды дзецца, быццам мог знікнуць.

Інстытут нікуды не дзеўся, стаяў на тым жа месцы, такі ж шырокі, масіўны. Толькі тратуар недалёка ад варот перарэзала канава з горамі свежай, вывернутай са дна жоўта-чырвонай зямлі — не прайсці. Давялося даваць кругаля: ісці назад, на другі бок вуліцы, зноў наперад і зноў пераходзіць вуліцу...

«Ну і дзівакі. Толькі летась залівалі асфальт, а цяпер усё ўспаролі, трубы нейкія пракладваюць. Быццам няможна было зрабіць гэта тым разам»,— падумаў Васіль, і думка гэта засела ў галаве, як зачапілася за нешта, і ніяк яе нельга было адчапіць, хоць Васіль і стараўся забыцца пра яе. Цяпер у яго былі ўжо другія клопаты.





*янка сіпакоў*





ПАЭЗІЯ

## *Славянскія балады*

### БУДОЎЛЯ
**Беларуская балада. XVII стагоддзе.**

Што ж, цесляры, невясёлыя—
Сякера аж падае з рук?
Што апусцілі вы галавы,
Сумна глядзіце на зруб?

Бёрны усцягвайце новыя
І заразайце вуглы...
Хораша пахне будоваю,
Стружкамі ў кроплях смалы!

Дзе ж ваша радасць з уцехаю?
Вунь як святлее вакол!
Над магілёўскімі стрэхамі
У неба ірвецца касцёл.

Сцены вышэюць касцёльныя,
Кладзецца вянец на вянец
Бёрнамі жоўтымі, смольнымі
З вашых жа хат і сянец.

Касцёл узнімаецца нанава—
Хаты ніжэй і ніжэй:
Кузьмова, Пятрова, Раманава
Раскрыты да самых дзвярэй.

Бёрны, што млелі пад крокваmі,—
Аж у падмурак ляглі,
А што рыпелі пад крокамі—
На завянчэнне пайшлі.

Што ж, цесляры, невясёлыя?
Паўстання не здзейсніўся план...

Што апусцілі вы галавы,
Пётра, Кузьма і Раман?

Кроквы вяжыце і лаціны,
Ладзьце вянок пад страхой.
Ды спаласніце улазіны
Конаўкай брагі якой...

Нельга. За кожнай саломінай
Сочыць ахоўнікаў шмат;
Рубяць паўстанцы хароміну
З родных, разбураных хат.

І ўсё ж, напачатку нясмела так,
Ціхенька—божа баронь!—
Ў стружках, як мятлушка белая,
Закапашыўся агонь.

Вось яна, радасць з уцехаю,—
Гляньце, як светла вакол:
Над магілёўскімі стрэхамі
Ў неба шугае касцёл,
Новы палае касцёл...

## ЗБРОЯ
### Балгарская балада. XIX стагоддзе.

Зялёным зацьменнем—
Турэцкі сцяг:
Ідуць па каменню,
Нібы па касцях.

Блішчаць ятаганы,
Дымяцца крукі.
Па ранах, па ранах
Ідуць чужакі.

Іх стрэлі без страху—
Ды нельга спыніць...
Паўмесяц на сцягу,
Як рана, баліць.

І сонца не свеціць,
Сады — не відны.
Жанчыны і дзеці
Сумуюць адны.

Не спыняць паганых
Ніколі сябры...
Бо — рана ля раны —
Маўчаць ваяры.

А башыбузукі
Ідуць і ідуць...
Жаночыя рукі
Перац труць.

Бо ў іхніх праклёнаў
Памочнік адзін:
Перац чырвоны—
Зброя жанчын.



Трыце, жанчыны,
Перац хутчэй
Для гэткай лавіны,
Для стольких вачэй!

У ручках маленькіх
Перац дрыжыць:
У жменях і жменьках
Зброя ляжыць...

Зялёным зацьменнем—
Турэцкі сцяг:
Ідуць па цярпенню,
Нібы па касцях,—
Бліжэй...
        Бліжэй...
                Бліжэй...

## РОЗГІ
### Польская балада. XVI стагоддзе.

Я нічога ўжо не бачу—
Б'ю па войкату,
                па плачу...
Розгі скачуць у вачах —
Б'ю за печкай
                паніча...
А настаўнік грозна ходзіць.
Ну, калі ён скажа:
— Годзе!
Хутка сам я закрычу—
Мне ж баліць,
                як панічу...
Ах, паніч—
                ты вінен, вінен!..
Розгі свішчуць і ў пуку—
Я ж сцябаць цябе павінен
З усіх сіл,
                на ўсю руку.
За цябе у школу тата
Плоціць.
                Ён жа—бач, багаты!
Я—бядняк,
                і сам плачу
За навуку,
                панічу:
Кнігі вам нашу,
                паперы,
Адчыняю ў класе дзверы,
Світкі вашы падаю.
І пры розгах—
                дайце веры!—
Вашым катам я стаю.
Розгі ўсыпаць вінаватым—
Вось мая за школу плата.

А калі вас не караю,—
Парушальнікаў нямаш!—
Сам прысесць магу я з краю
І урок паслухаць ваш.

Так вучуся.
А праз словы
Вухам чуйненька лаўлю,
Ці гараць у печы дровы,—
Зноў жа, ў печы я палю.

А бывае—
недарэчы
Тлеюць дымна дровы ў печы;
Вы тады
мяне за печ
Ведзяце.
І світку—з плеч...
Вы б'яце са злосцю, бачу,
І па крыку,
і па плачу.
Весялеюць на вачах
Розгі ў ручках паніча...
І настаўнік рады ходзіць,
Не гаворыць, філін:
— Годзе!
А саб'е паніч аскому—
Ледзь вядуць мяне дадому...

Ды калі й не вінаваты
Перад печчу я ні ў чым,
Жорстка сплоцяць мне паняты
Доўг...
Са школы ідучы...







павел прудцікаў



ПАЭЗІЯ



## Чорнае мора

Ты мне снілася ў марах
ад самых дзіцячых гадоў,
Хвалявала,
натхняла,
будзіла.
Да цябе я праз цёмныя ночы
ісці быў гатоў,
Як на споведзь
да маці-Радзімы.
Ты мне снілася песняй
далёкіх мінулых часоў,
Песняй скіфаў забытых
і тавраў.
Так і блытаў наіўна тады я
і яву,
і сон,
Блытаў нават
сучаснае з даўнім.
І вось зараз стаю
у пяшчотных абдымках тваіх,
Нібы даўні
твой сябар знаёмы.
Веру я —
ад мяне ты не станеш
нічога таіць
І схаваеш на дно
маю стому.

## ПРОЗА



**эдуард ярашэвіч**

# ДЗЕНЬ ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

## АПОВЕСЦЬ

Мал. **П. Лысенкі.**

### 1

Галя пазірала на раку. Лёгкі вецер час ад часу налятаў пругкімі подыхамі, і тады вачам рабілася балюча ад сонечных водбліскаў на вадзе. Побач, на траве, ляжалі цёмныя акуляры, Алег раіў надзець іх, ды што праз іх убачыш? Той свет — і ўжо не той, пацямнелы, не яркі, а ёй хацелася запомніць усё навокал такім, як ёсць. І асабліва раку, яе плынь, што гайдала цяпер і белыя пялёсткі рамонкаў, і парудзелую, можа з далёкіх берагоў, шчэпку, і невялічкія хмаркі, што ў вышыні здаваліся зусім нерухомымі. Галя надзела гумавую шапачку. Бераг узвышаўся над вадой амаль на метр, і можна было ныраць — абавязкова з разбегу, каб праляцець над мелкаводдзем. Гэта ўмеў Алег, яна ж проста скочыла ў ваду, прайшла колькі крокаў і паплыла. Азірнулася на бераг: дзе там Алег? Убачыла толькі купку адзежы. Пакруцілася: мо дзе над вадой галава яго? Раптам чыесьці рукі пацягнулі яе ўглыб. Пад вадой Галя адкрыла вочы — Алегаў твар! Ён прытуліў яе да сябе і хутка адпусціў. Яна вынырнула, збоку паказалася і Алегава галава. Ён смяяўся.

Як было сердавацъ? Блішчэлі яго вочы, блішчэлі бялюткія зубы, вада па-свойму расчасала яго густыя русыя валасы. Ён падабаўся ёй.

— Ты хітры,— сказала яна.— Толькі не ўздумай зноў.

Дыхаць ёй стала цяжэй. Перавярнулася, лягла на спіну. Адпачыўшы, паплыла да моста. Алег не адставаў.

— Ты дэльфін,— сказала яна.

— Згодзен. А хто ты? Залатая рыбка? Зрабі тады, каб выклік на заняткі ўжо быў дома.

— А чаго яшчэ жадаеш?

— Перакладзі «ай лав ю».

Галя ўсміхнулася. Толькі аднойчы сказала яму тыя словы, яшчэ зімой, у навагоднюю ноч, больш ніколі не гаварыла, а яму хочацца пачуць іх зноў.

— Алег, я буду географам, а не перакладчыкам!

Наплаваўшыся, яны выбраліся на бераг, кінуліся на траву. І хутка зноў адчулі цеплыню сонечных праменняў. Сонца не прыпякала ў плечы так, як у ліпені, але было ў апошнія жнівеньскія дні шчодрым і ласкавым.

Яны былі не адны на рацэ: вышэй, каля моста, таксама хтосьці купаўся. А гэту мясціну яны лічылі сваёй: трава тут не патаптаная, зусім блізка купы алешніку і лазняку, зацішак. І тут не сумна вачам. Адсюль бачыш, калі глянуць на поўнач, шашу з няспынным рухам машын. На той, левы бок ракі — заходняя ўскраіна іх зусім невялікага горада, відаць агароды, сады, купчастыя шаты старадрэвін.

Галя скоса зірнула на Алега. Ён, прыплюшчыўшы вочы, пазіраў за раку, на горад. Яна правяла тонкай сцяблінкай па яго шчацэ.

— Алег, пашукай музыку.

Алег дацягнуўся рукой да свайго «Альпініста». Музыка — штосьці эстраднае — загучала адразу, як уключыў прыёмнік.

— Людзі пакуюць ужо чамаданы,— раптам ціха, як сабе, сказаў Алег.— Скора будуць толькі ўспамінаць пра гэты горад, рэчку... І ты таксама. А мне... лічыць дні, калі прыедзеш.

— Алежка, хіба ты ўжо зусім страціў надзею? Пачакаем яшчэ крыху.

Што іншае Галя магла сказаць яму? Разам усё лета рыхтаваліся да ўступных экзаменаў, потым паехалі ў Мінск і хваляваліся адзін за аднаго, здаючы экзамены. Дамоў вярталіся шчаслівыя ад таго, што самі сябе не падвялі. І вось ужо чатыры дні, як Галя атрымала радасную вестку: яна залічана на першы курс геаграфічнага факультэта ўніверсітэта. Алег жа не ведаў, ці прайшоў па конкурсе ў політэхнічным інстытуце. А да першага верасня заставалася ўсяго два дні...

— Пачакаем? А маці ў мяне ўжо пыталася, дзе я хачу працаваць. Пагаворыць з начальствам... Дзівачка. Я і сам магу пайсці на аўтабазу. Слясарыць у школе крыху навучыўся... І буду слясарыць.— Алег задумаўся, потым у паглядзе яго з'явілася штосьці нястрымна-рашучае. Павярнуўся тварам да Галі:— Паслухай... А хіба я не змагу працаваць там, у Мінску? На якім заводзе? Ты будзеш так блізка!... І жыць буду адзін, сам па сабе... Ты разумееш? Я школу ўжо закончыў, а штодзень чую: дзе будзеш, з кім, калі прыедзеш...— Алег хмыкнуў:—Паспрабуй тут стаць дарослым чалавекам. Мае не дадуць!

Ніна Паўлаўна і Іван Міхайлавіч... Галя ўявіла Алегавых бацькоў. Іх, работніцу аптэкі і завуча школы, ведалі і паважалі ўсе ў горадзе. І Алег іх любіў. Але і рваўся з-пад іх нагляду...

Яна і сама адчувала сябе птушкай, што з радасцю ляціць з роднага гнязда ў вялікі і так мала яшчэ спазнаны свет...

— Я ўсё разумею, Алег. Няхай будзе, як ты хочаш.

— Няхай!

Ён ускочыў, раскінуў убакі рукі, разбегся і нырнуў у раку, але тут жа вярнуўся на бераг, зірнуў на гадзіннік.

— Маці загадала ў пяць дома быць. Сок з яблыкаў ціснуць трэба. Сок!

Яны апрануліся, Галя склала ў сумку кнігі, шапачку, акуляры. Сумку ўзяў Алег, і яны пайшлі берагам да моста.

І зноў Галя ўзіралася на асвечаную сонцам плынь ракі, на зялёны аер ля берага, на бярозы ля шашы...

— Алег, а калі твае не дазволяць табе паехаць?..

— Я сам пра гэта думаю... Угавару іх як-небудзь. Ты ж змагла за сябе пастаяць.

«Змагла...» — паўтарыла ў думках Галя. Алег нагадаў ёй пра дні ці не самыя цяжкія ў яе жыцці. Ні з кім іншым, а з роднай матуляй давялося, як гаварыў Алег, трымаць бой. Бой за тое, каб не ехаць да дзядзькі Дзяніса, выкладчыка інстытута ў далёкім горадзе. Лысаваты, тоўсты, добры дзядзька Дзяніс браўся памагчы Галі паступіць у інстытут — інжынерам стала б! І жыла б Галя ў яго кватэры. Як гэта ўсё падабалася маці... Ды паслала Галя дакументы туды, куды марыла паступіць — ва ўніверсітэт.

Сёння яна шчаслівая. А тыя дні... няхай помняцца ёй. Як першы школьны дзень, як лета за летам, зіма за зімою, як выпускны вечар...

Яны ўзышлі на мост. Да прыпынку гарадскога аўтобуса было недалёка. Убачылі аўтобус. Пабеглі, узяўшыся за рукі, і паспелі сесці.

Галя выйшла з аўтобуса першай. Азірнулася на Алега — у яго вачах непакой, трывога... Памахала яму рукой.

Вось і яе вуліца. Ціхая, нешырокая, з шарымі драўлянымі тратуарамі, ліпамі і клёнамі ля кожнага дома. А пад вокнамі — гародчыкі з кветкамі, ад вяргінь, гладыёлусаў не адарваць вачэй... Вось і яе дом, і белыя гладыёлусы. І высокая густалістая таполя, якую пасадзіў бацька даўным-даўно...

А чаму не сціхае, усё звініць тэлефон? Значыць, і бацька і маці яшчэ на рабоце? Галя прабегла па двары, скаранька адамкнула дзверы, схапіла трубку.

— Слухаю!

— Галя! Гэта я, Алег... Ёсць выклік!.. З політэхнічнага!... Зараз пачну пакаваць чамадан... Ты чуеш, Галя?..

## 2

Яшчэ зводдаль у мешаніне людзей на аўтавакзале Галя заўважыла Дашкоўскіх. Алег штосьці сказаў маці, і Ніна Паўлаўна павярнулася да іх, Юрэвічаў, і ўсміхнулася ім, і паківала галавой, і крыху развяла рукі: праводзім сёння сваіх дзяцей, дарагая Марыя Максімаўна, сумаваць нам цяпер...

Павіталіся, Алег сказаў:

— Білет Галі я ўзяў.

— Дзякуй вам... Гэта ж адна во праводжу дачку,— загаварыла Марыя Максімаўна.— Бацька на аўтабазе за машынамі свету не бачыць.

— Што вы, што вы! Галоўнаму інжынеру клопату хапае. Сотні машын...— паспачувала Ніна Паўлаўна.— А мой Іван Міхайлавіч? Яшчэ не пачаліся заняткі, а ён ад школы ўжо ні на крок! Непакоіцца за кожную дробязь...

Галя і Алег моўчкі паглядалі навокал: на плошчу, на людзей, што праходзілі па ёй, на рэдкія пакуль машыны. Раніца была цёплая, з блакітным небам, сонца пералівалася серабром у шкле вокан.





Гэтую раніцу і плошчу, ведала Галя, запомніць яна назаўсёды. І Ніну Паўлаўну, невысокую, без сівінкі ў гладкіх валасах, з яе звонкім, пералівістым голасам і жвавымі чорнымі вачамі, і маці, больш спакойную, больш стрыманую. І Алега яна запомніць, у гэтым карычневым касцюме, з гальштукам, які з'ехаў набок, а найперш будзе помніць яго твар, задуменны, то з прыхаванай, то з адкрытай усмешкай, ад якой так святлеюць, дабрэюць яго шэрыя, з прыкметным зеленаватым адценнем вочы... Лёгкую журбу і шчасце чула ў сабе гэтай раніцай Галя.

Азіраючы ўсё і ўсіх наўкол, яна згадвала Зою Верас з вёскі Чарніцы, Зою, з якой пражыла ў адным пакоі ўсяго дзесяць дзён, пакуль здавалі ўступныя экзамены і з якой пасябравалі за гэты час моцна, можа надоўга, на ўсё жыццё. Яны зноў будуць жыць разам, на кватэры ў Зоінай бабкі. Некалькі дзён назад Зоя напісала Галі, што цётка і яе муж, урачы, паехалі ўжо ў Афрыку, і бабка чакае іх, бо адной ёй і сумна, і крыху боязна. «Так што будзем мы, Галка, у бабкі целаахоўнікамі»,— напісала Зоя.

Ніна Паўлаўна і Марыя Максімаўна загаварылі пра тое, што ў дзяцей цяпер ёсць усё, што пажадаюць, таму ім толькі старацца, толькі і вучыцца. І пачалі сыпаць ім, Алегу і Галі, адну за адной парады: як трэба трымаць сябе ў вялікім горадзе, якіх шукаць сяброў, як харчавацца... Дзеці слухалі сваіх матак з прытоенай паблажлівасцю: не маленькія яны ўжо...

Падышоў бела-чырвоны аўтобус, і жанчыны кінуліся абдымаць і цалаваць кожная сваё дзіця, а потым, стоячы пры акне аўтобуса, выцiралі насоўкамі павільгатнелыя вочы.

Аўтобус рушыў. Галя і Алег не адрывалі позіркаў ад акна. І замільгалі знаёмыя і незнаёмыя людзі на тратуарах, адплылі назад фігуры салдата і партызана на высокім пастаменце, і вось наперадзе — шаша...

Праз тры гадзіны яны падняліся на другі паверх вялікага, многакватэрнага дома.

— Звані, Алег.

Ён павёў далонню па сваёй чупрыне, зашпіліў пінжак і націснуў на кнопку званка. За дзвярыма пачуліся хуткія крокі.

— Галка! Алег! — Зоя стаяла ў праёме дзвярэй, здзіўлена і радасна плюскала сваімі густымі, як у лялькі, вейкамі.— Прыехалі! Заходзьце, не стойце тут.—І гучна крыкнула:—Бабка, Галка прыехала!

Яны зайшлі ў пакой. З кухні выйшла бабка Марыля, звычайная вясковая бабка ў фартуху ў гарошак і белай хустцы на сівых валасах. Руку сваю, вільготную, толькі што выцертую, яна спярша працягнула Галі, а потым неяк нясмела падала і Алегу, і нешта змянілася ў яе твары, ветла, але ўжо і строга, дапытліва зірнула яна на незнаёмага хлопца.

— Гэта Алег, я вам гаварыла пра яго,— засакатала Зоя.— Яны з Галяй сябры, ён таксама будзе вучыцца, толькі не з намі, у політэхнічным. Разумееце?

— Разумею, чаго ж... Мо з дарогі піць хочаце? Прынясу, прынясу,— бабка затупала на кухню.

Пачатак быў добры. І Галя пачула сябе лёгка ў гэтай чыстай, дбайна дагледжанай кватэры.

Алег не затрымліваўся. Спытаў у бабкі дазволу пакінуць свой чамадан і пайшоў. Яму трэба было спяшацца ў інтэрнат, шукаць там сваё месца. А яна, Галя, расказвала Зоі і бабцы, як жыла апошнія дні



дома. Потым абедалі, і ўжо Зоя ўспамінала, як хвалявалася на экзаменах, як чакала выкліку на занятк і.

— Ой, Галка, не магу сказаць, як дажыла,— гаварыла яна.— Паверыш, нічога не магла чытаць, толькі работы шукала. На ток хадзіла і дома хапалася за ўсё. Маці дзівілася, што гэта на мяне напала, а мне абы дзень хутчэй перабыць. Ды нарэшце Верка, наша паштарка, спыняе мяне, падае пісьмо. Чытаю — я студэнтка!

— А што вам з Афрыкі пішуць? — спытала Галя ў бабкі.

— Пішуць,— з задавальненнем загаварыла бабка.— Косцік мой ужо аперацыі робіць. І Ларыса дзяцей лечыць. Толькі горача там, надта ж горача. Заехалі немаведама куды...

Надвячоркам прыйшоў забраць свой чамадан Алег. Галя выйшла правесці яго.

— Можа пагуляем па горадзе?— Алег зірнуў на яе.

— Мусіць, не, Алежка. Стамілася я...

— Тады заўтра,— лёгка згадзіўся ён. І спытаў:— А дзе сустрэнемся?

Падумалі і дамовіліся: ля магазіна «Тысяча дробязяў».

Не спалася Галі на новым месцы. Хоць ложак быў мяккі, як дома, і таксама, як дома, лілася ў пакой праз фортку начная прахалода. Зноў і зноў паўставала перад вачыма нешта з пражытага дня. Усхваляваныя твары маці і бацькі... Хмарыстае неба, дрэвы ўздоўж шашы, абшары палёў... І машыны, машыны, ім няма канца... На згаданае набягала як бы заслона, калі Галя прыслухоўвалася да ночы. Чула, як па вуліцы пралятала легкавушка. Час ад часу гудзеў, ляскаў прычэпам цяжкі грузавік. І здалёку даносіўся асаблівы, магутны пагалас — то імчаў поезд.

А побач ледзь чутна дыхала Зоя.

Галя нарэшце заснула. І хоць спала мала, прахапілася лёгка. Начныя адчуванні кранулі на момант думкі і адступілі месца радаснаму ўзбуджэнню: першае верасня сёння, і спяшацца ёй не ў школу — ва ўніверсітэт!

Ехалі тралейбусам. Дзівіліся, колькі на праспекце маладых—нібы аднымі студэнтамі быў повен горад. І дзівіліся, седзячы ў аўдыторыі, у якой сабраліся ўсе першакурснікі геафака: не бачылі многіх, з кім разам здавалі ўступныя экзамены. Конкурс...

Выступаў дэкан факультэта. Ён павіншаваў першакурснікаў з паступленнем ва ўніверсітэт. Выступалі і выкладчыкі. Было аб'яўлена, што ўсе пяць груп першакурснікаў праз два дні паедуць у калгас капаць бульбу. Тут жа пад вясёлае ажыўленне прадстаўляліся старасты груп, прызначаныя дэканатам. Іх староста быў бялявы, высокі хлопец, звалі яго Сцяпан Шэлег.

Галя думала пра Алега. Магчыма, ён ужо чакаў яе. І хоць хацелася ёй прайсці з Зояй па праспекце, мусіла сесці ў тралейбус.

Яны ўбачылі адзін аднаго адначасна. І Алег хутка падбег да яе. Скрушліва сказаў:

— Ну вось, думаў, што будзем разам. А тут еду ў нейкі саўгас. Амаль на месяц.

— І ўсё гора?

— Не гора... Але будзе між намі амаль касмічная адлегласць.

— І мы едзем! Ёсць на свеце такая вёска — Загор'е. Дык будзем пісаць адно аднаму!

— Што яшчэ застаецца...

— Хопіць мінору! Ты зірні, дзе мы з табой... І які дзень сёння!

Ёй, Галі, падабалася ўсё навокал: дамы з мноствам вокнаў, у якіх

адбівалася неба, зялёныя газоны сярод плошчы, бясконцы рух людзей, машын...

Яны накіраваліся ў магазін, і ў шкле вітрыны Галя ўбачыла свой і Алегаў адбітак. Міжволі прыглядзелася да сябе: даволі стройная дзяўчына, якой пасуе і гэты светлы касцюм, і кароткая па модзе прычоска. Толькі вось каштанавыя валасы ў шкле выдавалі цёмнымі.

У магазіне тое-сёе купілі: Галя — агульныя сшыткі, паштовую паперу, Алег — шарыкавую аўтаручку. Выйшлі з магазіна, і Алег працягнуў аўтаручку Галі:

— Будзеш мне пісаць.

— Дзякуй.

— Каб можна было,— уздыхнуў Алег,— я цябе нікуды не пусціў бы. З сабой у той саўгас і забраў бы.

— А ведаеш, Алег... Гэта добра, што мы на нейкі час расстанемся.

— Чаму?

— Таму, што неяк усё праясніцца... Мы з табой бачыліся кожны дзень... кажнюсенькі дзень ад той восені. Я нават не магу ўявіць сябе адну...

— А навошта?

— Трэба, зразумей... Я не ведаю, ці прывыкла да цябе, ці гэта... нешта іншае... Адзін туман...

— Нішто сабе... навіна,— Алег адвярнуўся.

— Алег, не трэба сердавацъ. Ну, у мяне так... Мы ж з табой не нешта адно, індывідуумы, як-ніяк...

Яна шкадавала Алега, а сябе — ніколькі. Ну што там, калі нейкі час не будуць бачыцца? Ёй гэта проста неабходна.

## 3

Ліст першы.

«Добры дзень, Галя!

Сяджу і думаю, ці не пішу я невядома куды? Раптам тваю групу накіравалі ў іншае месца? Прыехала нас у саўгас больш як сто чалавек. Апетыт ва ўсіх спартсменскі, саўгас гэта хутка адчуе. Але, з другога боку, без нас было б яшчэ горш. У полі бульба, буракі, морква, капуста...

Чым займаюся асабіста я? Уяві карціну: конь, аглоблі, колы, скрыня, поўная бульбы. А наверсе чалавек з пугай і лейцамі ў руках. Такую высокую пасаду не проста было атрымаць... Раблю рэйсы з поля да буртоў. Конік паслухмяны, мы з ім адразу пасябравалі. А завуць яго «Сівы». Насмешка нейкая. Падумаў і назваў яго Канкістадарам. Гучыць?

Каб пусцілі, то пакаціў бы на ім да цябе...

Ёсць у мяне сябар — Юрка. Па прозвішчы Мароз. Ён мінчанін. На год старэйшы за мяне. Мы з ім адразу пасябравалі.

Іграю вечарамі на акардэоне. Танцаваць не хочацца...

І хопіць пра сваё жыццё-быццё. Дзе і з кім ты на кватэры? Што робіш? Як наконт туману, разыходзіцца? Пішы пра ўсё.

Да пабачэння. Твой Алег».

Ліст другі.

«Добры дзень, Алег!

І пішу табе пісьмо. І, мусіць, будзе яно, як ты і хацеў, вялікае. Ехалі мы, ехалі і апынуліся ў такім царстве: вуліца шырокая, вокны



блішчаць, лужыны блішчаць, а дзеці мурзатыя, як чэрці. Нам пашанцавала, мы засталіся ў гэтым царстве, цэнтры калгаса, а другая група спынілася за пяць кіламетраў ад нас у невялікай вёсачцы. На кватэры мы з Зояй у цёткі Анэты Сцяпанаўны. Наша гаспадыня жыве адна, ёй за шэсцьдзесят, але на работу ходзіць. Мы Анэце Сцяпанаўне спадабаліся, яна нам таксама.

А ведаеш, з чаго пачалася наша работа? Збіралі яблыкі ў калгасным садзе. Шкада — толькі два дні. Потым слалі лён. Уяўляеш? Бярэш у рукі снапок за снапком і раскладваеш іх па сцяблінцы ў адзін доўгі рад. А цяпер ужо выбіраем бульбу. У нас з Зойкай кошык адзін, але вялікі.

Сумаваць, Алежка, пакуль што няма калі. Прытым амаль кожны дзень адбываецца што-небудзь цікавае. Пачытаў бы ты нашу насценную газету! Насмяяліся, пакуль выпускалі яе. Прасядзелі над ёй два вечары ў клубнай бібліятэцы. Ну як табе падабаецца назва: «Каларадскі жук»? Прынялі яе ўсе, а прыдумала — пахвалюся — я. Мае наша газета тры рубрыкі: падзеі, факты, праблемы. Што за падзеі ў нас? А вось што нядаўна было. Збеглі мы ўсе з поля. За Казанцом, які заклаўся з Бурым, што праплавае ў рацэ не менш дзесяці хвілін. Дзень быў халодны, ніхто не думаў, што Казанец гэта ўсур'ёз. А ён пабег на рэчку, а ўсе глядзець. Казанец зрабіў размінку, распрануўся і сапраўды ў ваду палез. І плаваў роўна дзесяць мінут. Тут усе «ўра» і пагналі Бурага за цукеркамі. Так больш як дзве гадзіны прагулялі. Папала нам і ад брыгадзіра, і ад кіраўніка нашага. Мы ў нашай газеце напісалі так: «Стала ціха-ціха на ўсёй зямлі, з поля ўсе студэнты цырк глядзець пайшлі». І адпаведны малюнак. Уяўляеш? Рубрыку «факты» запсўнілі матэрыялам пра кухонныя здарэнні, а «праблемы»... Глупства, мусіць, але так і напісалі: «Як шкада: гэтак многа дзяўчатак, а хлапцоў усяго толькі пяць». І смеху было, калі Зоя прыпісала: «І тыя дзеці». Хоць і дзяўчаты нашыя недалёка ад дзяцей адышлі. Самая старэйшая з нас — Клава Раманчук. Ёй дваццаць першы. Прыгожая. І такая: голас гучны, смяецца часта, кожны ёй — нібы даўні знаёмы. Я так не ўмею... А вось Лена Санеева нам з Зояй адразу спадабалася. Ставіцца да ўсіх проста, адкрыта, без аніякай паблажлівасці. А сама... Твар мілы, усмешка — як ва ўсіх добрых, разумных.

А Раю Зубіч не магу зразумець. Я да яе прыглядзелася яшчэ ў дарозе. Спачатку проста так. Бачу, дзяўчына танклявая, валасы доўгія, светлыя. А потым заўважаю: усе спяваюць, а Рая маўчыць. На твары зацятасць, а на губах — іранічная ўхмылка. І прытым не расстаецца з транзістарам, слухае толькі музыку.

Хацела б я ўбачыць твайго Канкістадара. Калі вы сябры, то прывітанне яму. І твайму Юрку. І ад Зоі табе прывітанне.

Здаецца, напісала табе пра ўсё. А пра што не — потым...

Да пабачэння! Галя».

## 4

Прыгарадны цягнік ішоў, спыняючыся на кожным паўстанку, пакуль нарэшце не нырнуў пад высокі аўтадарожны мост, за якім злева і справа паплылі дамы, і не стаў зусім. Развіталіся на прывакзальнай плошчы хутка і разышліся, разбегліся ўсе — хто куды.

Галя і Зоя селі ў аўтобус, які прамчаў амаль праз увесь праспект. Вось і знаёмыя вітрыны гастранома, і вялікі, з клумбамі, на якіх усё

пажоўкла, двор, і лесвічныя прыступкі, ад якіх ногі зусім адвыклі. Два доўгія званкі — і дзверы адчыніліся. Бабка Марыля доўга прыглядалася, покуль пазнала дзяўчат, а потым заўсміхалася, завохкала. Схапілася карміць іх, здарожаных, пэўна ж, натомленых тою бульбаю.

— Галя, а твой Алік прыходзіў. І ўчора, і сёння,— сказала бабка, калі дзяўчаты селі за стол.

— Бабка, яго Алегам завуць,— папраўліла Зоя.

— А не адно? Ці хоць добра вас кармілі там?

Наперабой, бо цікаўнасць бабкі была самая шчырая, яны пачалі расказваць пра сваё жыццё ў Загор'і, але ў думках Галі ўжо быў Алег: так хацелася хутчэй убачыць яго.

Двор жыў сваім жыццём. Па асфальтаванай дарожцы, што бегла ўздоўж пад'ездаў, снавалі людзі. Часам на дарожку выплывала з вуліцы легкавушка ці вынырваў матацыкл. Сярэдзіну двара займалі дзеці — яны крычалі, смяяліся так голасна, як толькі маглі.

Зоя пыталася ў яе вачыма: «Няма?» Нібы яна змагла б утаіць, што ўбачыла Алега. А калі і сапраўды ўбачыла яго, то не зварухнулася, не выдала сябе.

Алег ішоў нетаропка, трымаючы рукі ў кішэнях чорнага плашча, ішоў як бы нясмела, паглядаў на дзяцей — ці не думаў ён, што яна яшчэ не прыехала? Ды вось ён зірнуў на вокны і як не паверыў сабе, а потым рукі яго вырваліся з кішэняў, і правай ён махнуў ёй.

Яна павярнулася да Зоі і бабкі:

— Мяне чакаюць.

Надзела шарсцяную кофтачку і плашч. І пастаяла: сорамна было паказваць, што спяшаецца.

Галя ўзіралася ў Алега: які ты? Тое ж пытанне было ў яго ледзь прыплюшчаных ад усмешкі вачах. Ён паціснуў яе руку і не выпусціў.

— Дык дзе твае мазалі?

Яна выпрастала далонь, засмяялася:

— А свае пакажы!

Ён паказаў свае шырокія далоні, і ўжо разам смяяліся: не надта прыкметнымі былі яе мазалі ў параўнанні з Алегавымі, ды былі яны на яе адмытых, адшараваных, па-дзявочы невялікіх руках.

Выйшлі на вуліцу. Галя ўбачыла свой адбітак у шкле вітрын гастранома, успомніла, як некалькі тыдняў назад стаяла з Алегам ля вітрын «Тысячы дробязяў».

Яны падышлі да скрыжавання і павярнулі ўправа. Па гэтай вуліцы хадзіў тралейбус, а машын, людзей на ёй было мала. Абапал тратуараў цягнуліся рады маладых таполяў, лісце з іх паападала, тамсям хіба трымцеў зрудзелы, засохлы лісток.

— А ведаеш, хто цябе хоча ўбачыць? Юрка мой.

— Навошта?

— Я пра цябе расказваў. Ну і... само сабой. Дамовіліся з ім сустрэцца на плошчы.

— Добра, калі так. І мне цікава, які ён, твой Юрка.

— Што трэба хлопец. Ды пабачыш сама. Лепш раскажы, як табе было ў Загор'і... Ніхто не крыўдзіў?

— О не! Хто нас мог крыўдзіць? Да нас так прывыклі ўсе! Некаторыя жанчыны сёння са слязьмі праводзілі. І наша цётка Анэта... А вас як праводзілі?

— Як заслужылі... Вечар быў у клубе, дырэктар дзякаваў за работу. А цётка адна ўсё ўспамінала, што летась студэнты не зарабілі нат і на харчы сабе.— Алег засмяяўся.— Тых, мусіць, інакш праводзілі.



— Уяўляю! А ведаеш, мы першыя дні з нормай не ўпраўляліся. Мінчанам цяжка бульба давалася. Мы іх падганяем, а яны: «Вам, сялянам, добра, не першы раз на бульбе». Яны ўсіх нас, наезджых, сялянамі называлі.

Яны выйшлі на праспект, і Алег паказаў вачыма на парк:

— Перабяжым?

На другі бок праспекта, за агароджай, узвышаліся сосны, і туды, у парк, таксама кіравалася нямала людзей.

— Каб гэта лес, дзе цішыня, дзе нікога няма... Лепш па праспекце пройдзем,— сказала Галя.

Яна нейкі час маўчала, згадаўшы сябе там, у Загорскім лесе, куды часта хадзілі з дзяўчатамі, з Зояй і куды ўрэшце стала хадзіць зусім адна. Востра ўзнавілася ў ёй пачуццё журбы па Алегу сярод тых елак, бяроз, сасснак: ад іх, маладых, што не засцілі неба, дрэў, ад густога верасу пад нагамі на яе надыходзіла лёгкая журба. Ёй успамінаўся Алег. Цяпер тая журба, той сум — далёка, а побач — ён, Алег.

— Ах ты, Алежка, Алежка,— вымавіла яна ціха, пазіраючы проста перад сабой.

А потым павярнулася і доўга ўзіралася ў яго вочы. Хацелася прыкласці далонь да яе шчакі, крануць валасы — яны, цёмна-русыя, пасвятлелі за лета.

— Што ты?—разгублена ўсміхаўся ён.— Ну што? Скажы.

— Потым. Цяпер лепш памаўчым.

Доўга ішлі моўчкі — рука ў руцэ.

Сонца тым часам апускалася за горад. Высока сінела чыстае неба.

— Алег, ты ні пра што не здагадваешся? — засмяялася Галя.— Я ўжо ледзь іду. Гора нам гэтыя шпількі.

— Тады паедзем.

Так і зрабілі — да плошчы даехалі на тралейбусе. Прайшлі ў самы цэнтр плошчы, спыніліся сярод газонаў.

— Тут наша рандэву,— сказаў Алег.

Галя не паспела агледзецца, як убачыла перад сабой юнака, трохі ніжэйшага за Алега, таксама русавалосага, плячыстага, у лёгкай куртцы. У яго быў прывабны хударлявы твар. Ён прывітаўся і вымавіў — запытальна і сцвярджальна адначасова:

— Галя? — і дадаў:— Юрэвіч?

— Ага.— Галя падала яму руку.

— А я Юрка. Алег пра аднаго Юрку гаварыў?

— Пра аднаго,— адказала Галя.

— І пра Галю адну. Але лепш удакладніць. Свет цяпер такі...— Юрка засмяяўся.

Знайшлі пустую лаўку. Селі, усе прымоўклі.

— На танцы не хочаце? — спытаў Юрка.

Галя сумелася.

— Мусіць, іншым разам.

— Калі-небудзь,— сказаў Алег.— А дзе, Юрка, танцы?

— На камвольным. Заеду да Мішы і — туды. Там наконт музыкі добра. Тры гітары ў аркестры... Даюць хлопцы.

— Як-небудзь можа пабываем там,— сказала Галя.— Я люблю гітару. Калі яна ў спрытных руках.

— Вядома,— кіўнуў Юрка.— Дык як, Галя, нішто жыццё было на бульбе? — Ён дастаў з кішэні пачак цыгарэт.

— Вядома,— сказала Галя.— Нішто.

— А тут будзе лепш,— Юрка працягнуў цыгарэты.— Хто жадае?

Алег адмахнуўся. Юрка трымаў пачак перад Галяй.

— Мне? — здзівілася яна.
— Балгарскія. «Сонца». Ледзь знайшоў,— як з папрокам сказаў Юрка.
— Ды я проста не ўмею! — Галя засмяялася.
— Ну, сціпласць упрыгожвае чалавека. Праўда, кажуць яшчэ: але атручвае жыццё астатнім.
— Каму атручвае, каму і не,— сказаў Алег.
— Увогуле, сціпласць — рэч добрая. Калі яна не зброя свайго роду,— дадаў Юрка, закурыўшы.
— Заўважана правільна,— кінула Галя.
— Дзякуй, Галачка,— сказаў Юрка. І ўстаў: — Дык будзьце...
Юрка паціснуў Алегу руку, Галі кіўнуў і пайшоў — роўным, лёгкім крокам.
— Вось такі твой Юрка,— вымавіла Галя.
— Які? — Алег з цікаўнасцю глянуў на яе.
Галя паціснула плячыма.
— Цікавы.— І дадала: — Першае знаёмства з чалавекам — гэта толькі вокладка кнігі. Чые гэта словы? Памятаеш?
— Твайго бацькі.
Яны ішлі, і зноў — адчула Галя — вярнулася да яе тая вольнасць думак пра Алега, што была да сустрэчы з Юркам. Зноў яна бачыла толькі Алега і магла гаварыць з ім пра нешта зусім не істотнае і чуць безупынку, поўна, усёй душой радасць ад таго, што ён побач.
Яны вярнуліся туды, дзе сустрэліся — у прасторны, як вялікая плошча, двор. Цяпер тут было ціха, цяпер тут панаваў змрок.
Прайшлі між клумбаў да знаёмай ужо, нізкай, вузенькай пры валейбольнай пляцоўцы лаўкі.
— Крышку пасядзім, і я — дахаты,— сказала Галя.
Алег не даў ёй сесці. Абняў яе, і далёка-далёка адплылі ўсе агні, зніклі ўсе гукі, і, здалося, зусім цёплым стаў гэты начны вецер.
— Што ты хацела сказаць там, на праспекце?
— Вось тое,— Галя сціснула яго пальцы,— што ўсё гэта не проста. Я па-новаму стала думаць пра нас. Я ўжо не змагу адносіцца да нашых сустрэч, як раней. Ну, так лёгка, па-дзіцячаму... І я не хачу страціць тое, што адчуваю да цябе цяпер... Я крыху пасталела за гэты месяц... А ты... хіба не?
— Не ведаю... Ведаю адно, што неперажываўся, чакаючы сустрэчы з табой. Іншы раз начамі не спаў.
— Не сярдуй, Алег. Мы зноў разам... Разам!..

## 6

Галя з Зояй прыехалі ва ўніверсітэт раненька. Аддалі гардэробшчыцы свае плашчыкі, прачыталі расклад заняткаў, зайшлі ў аўдыторыю і ўбачылі Сяргея Казанца. Казанец быў зусім не такі, якога прывыклі бачыць у Загор'і. Блакітныя яго вочы пазіралі гэтак сама ўсмешліва, але замест растрапанай шавялюры на галаве была модная прычоска, замест спартыўнага касцюма на яго танклявай фігуры ладна сядзеў чорны касцюм.
— Сяргейка, прабач, табе яшчэ б нечага крыху, і ты... ну, малады чалавек з інтэлігентных! — паплюскала доўгімі вейкамі Зоя, падаючы яму руку.
— Вось не магу ўлавіць, чаго табе не хапае,— шчыра пашкадаваў Казанец.— Падумаю, то падкажу.
— Зноў пачалі! — пляснула далонямі Галя.



Колькі было іх, узаемных кпінаў, паміж Зояй і Казанцом на полі, за абедам, на танцах!
— Паслухайце,— сказала Галя.— Я вось аб чым падумала... Ці будзем мы ўсе такія, як там, у Загор'і... Адзін да аднаго...
— А якія мы яшчэ будзем? — усміхнуўся Казанец.— Не сумняваюся, што ў Раі Зубіч па-ранейшаму першым сябрам будзе транзістар. А ўсім астатнім — чалавек. Каму хто...
Казанец не дагаварыў — у дзвярах яны ўбачылі Лену Санеєву. Лена на імгненне спынілася, блізарука азіраючы аўдыторыю. Галя не вытрымала, гукнула:
— Лена!
І памчала ёй насустрач, яны абняліся і разам падышлі да Зоі і Казанца. Зоя таксама прыцягнула Лену да сябе, потым нібы жартам памкнуўся яе абняць Казанец і пад агульны смех толькі паціснуў Лене руку.
У аўдыторыю то групкамі, то па адным заходзілі студэнты. Не засталося нарэшце ніводнага незанятага стала. Галя акінула позіркам аўдыторыю, убачыла за першым, супроць кафедры, сталом Раю Зубіч, перад ёю ляжала невялікая кніжка. Няўжо яна чытала, калі навокал усе жартавалі, смяяліся? Няўжо яе зусім ніхто не цікавіў? «Чаму ты, Рая, такая?» — з сумам падумала Галя.
Зазвінеў званок, і неўзабаве ў аўдыторыі з'явілася высокая, паўнаватая, з выразам заклапочанасці на бялявым твары жанчына. Усе пяць груп курса гучна адказалі на яе прывітанне, і з гэтага моманту наступіла цішыня.
У Людмілы Маркаўны — так назвала сябе выкладчыца — быў прыемны моцны голас.
«Фізічная геаграфія вывучае натуральныя законы прыроды. Падзяляецца на агульную і рэгіянальную. Зыходныя навукі: гідралогія, геамарфалогія, глебазнаўства, геалогія...» Галя канспектавала першую ў сваім жыцці лекцыю і спачатку ні аб чым іншым не думала, спяшалася толькі запісаць галоўнае з таго, што гаварыла выкладчыца. Але хутка ёй уявілася, як недзе там, далёка, канспектуе лекцыю Алег — запісвае нейкія матэматычныя формулы. І ён, і яна тым вось заняты, аб чым марылі, і гэта сапраўды нішто іншае, як шчасце, і ім абаім не можа быць дрэнна, калі ў кожнага ёсць такое шчасце... Гэтае рэчышча Галіных думак то спадала, то шырылася, не замінаючы ёй чуць голас выкладчыцы і пісаць, пісаць...
А потым былі шумныя, як у школе, перапынкі і знаёмства з новымі выкладчыкамі — хімікам і гісторыкам. Хімік Сяргей Іванавіч быў малады, год трыццаці, чарнявы, паўнаваты. Ён раз-пораз пытаў, ці паспяваюць за ім запісваць, час ад часу гаварыў нешта жартоўнае, дзеля смеху. Гісторык, Леанард Васільевіч, наадварот — быў пажылы, шчуплы і гаварыў скоранька.
— Ну, дзяўчынкі, будзе некалі рэзаць нас гісторык. Ніводнага разу нават не ўсміхнуўся, вы гэта заўважылі? — звярнулася Зоя да Галі і Лены пасля лекцыі.
— Не да ўсмешак, хаця б паспяваць запісваць,— сказала Галя.— А пальцы мае...— яна патрэсла рукою.— Здаецца, лягчэй было кошыкі насіць.
— І мае, як не свае,— Лена звяла пальцы ў кулачок.— Адвыклі мы пісаць!
Ды апошні ў гэты дзень званок адзвінеў. І Лена павяла іх, Галю і Зою, да сябе дамоў. Яшчэ ў Загор'і яна запрашала іх да сябе ў госці.
Лена жыла ў нейкіх дзесяці хвілінах хады ад універсітэта. Вуліца,

на якую яны скіравалі з праспекта, была ціхай і даволі вузкай. Чатырохпавярховы шэры дом, невялікі двор з высокімі ліпамі, асфальтаваная дарожка ля двух пад'ездаў — усё, што бачыла Галя, было ёй як бы знаёмае: яна памятала тое, што расказвала Лена пра сябе там, у Загор'і. Яна нават уяўляла Леніных маці і бацьку, яе брата Сашу. Нікога з іх дома пакуль не было.

— Сонца! — здзіўлена-радасна выгукнула Зоя ў невялікім Леніным пакойчыку, куды яны адразу зайшлі.— Ты шчаслівая, Лена. А ў нашу кватэру толькі раніцой заглядвае. Не магу ніяк прывыкнуць, што вечарам сонца ў вокны не свеціць!

— А я раніцой, прачнуўшыся, ніколі яго не бачу. У поўдзень першы праменьчык на сцяну падае. Вунь туды...— Лена паказала вачамі на фотакартку, прымацаваную да сцяны.

Проста ў вочы з фотакарткі пазіраў юнак у марской форме. Чарнявы, прыгожы...

— Гэта Віктар? — спытала Галя.

Лена кіўнула галавою.

Як і Зоя, Галя зноў угледзелася ў здымак. Гэтага юнака, што вырашыў стаць мараком, Лена кахала. І ён кахаў яе. І любіў мора...

— Вось тут, дзяўчынкі, я і жыву,— сказала Лена.— Як бачыце, нічога мадэрнага, але я да ўсіх гэтых рэчаў прывыкла, іншых і не хачу.

У пакоі не было нічога лішняга: ложак, паліраваны столік пры акне з букетам вяргінь, трумо, шафа, кілімок на падлозе. Усе яны падобныя, дзявочыя пакоі.

— А дзе тваё піяніна? — спытала Зоя.

Лена правяла іх у гасцінную. Піяніна стаяла пры сцяне супроць дзвярэй.

— Сыграй нам што-небудзь,— папрасіла Галя.

— Іграць? Што вы, спачатку я вас накармлю.

Лена пакінула дзяўчат у гасцінай, а пакуль на кухні штосьці шыпела, штохвіліны прыбягала хоць на два-тры словы. І ў той момант, калі яны селі за стол, пачулі стук у дзверы.

— Не палохайцеся, дзяўчынкі, гэта Саша з работы,— сказала Лена. І гучней: — Просім!

Ён спыніўся ў кроку ад дзвярэй — высокі, дужы, загарэлы. З цікаўнасцю і крыху збянтэжана пазіраў на дзяўчат.

— Знаёмцеся,— сказала Лена.

Галя ўстала, а за ёю і Зоя падала Сашу руку.

— Я вас ведаў. Заставалася толькі ўбачыць. Вы прабачце... я распрануся.

Праз якую хвіліну і Саша сядзеў за сталом. Бачачы, што госці крыху бянтэжацца, ён пажартаваў:

— У вас і ў Загор'і такі апетыт быў? Уяўляю, як вы там працавалі.

— Так і працавалі. Ледзь-ледзь,— сказала Зоя.

Усе засмяяліся. Галя заўважыла, як рэзка мяняўся выраз твару ў Сашы, калі ён усміхаўся. Ён быў падобны на Лену: той жа каштанавы колер валасоў, той жа шырокі разрэз карых вачэй. Але калі ў Лены рысы твару былі па-дзявочы мяккія, то Сашаў твар выдаваў суровым. Уражанне суровасці знікала, ледзь толькі ўсмешка кранала яго вусны.

«Колькі яму гадоў? Ага, Лена гаварыла — з дзевятнаццаці служыў у арміі і ўжо трэці год працуе і вучыцца ў політэхнічным. Дваццаць пяты... На шэсць год старэйшы за нас. А нібы і больш яму. Ад клопатаў?» — думала Галя.



— Што новага геаграфіні даведаліся пра нашу планету? — спытаў Саша.

— Можам напомніць,— сказала Лена,— што Зямля мае форму геаіда, якая толькі Зямлі і ўласціва. Дарэчы, Саша... Па Лапласу і Канту — Зямля ўтварылася з газавых туманнасцяў. Па Шміту — з касмічнага пылу. Фесенкаў жа лічыць, што планеты — «дзеці сонца». А як... ты лічыш?

— Адпомсціла! — Саша засмяяўся.— І ў такім выпадку мне нічога не астаецца, як пажадаць вам вызначыць дакладна, з чаго ўтварылася Зямля. Хацеў бы сам, але я не Астап Бэндэр: перакваліфікоўвацца не буду.

— А вы... на якім аддзяленні? — спытала Галя.

— На аўтатрактарным,— адказаў Саша.

«Як мой бацька... Толькі ён заканчваў вучобу завочна, а Саша на вячэрнім... Мусіць, так яшчэ цяжэй: дзень працаваць, а вечарам — на лекцыі»,— падумала Галя.

Па абедзе Лена села за піяніна. І ў гэты ж час вярнуліся з работы Леніны бацькі. Галя і Зоя заспяшаліся дамоў.

Ад знаёмства з Ленінымі бацькамі ў Галі засталося штосьці добрае ў душы: такімі простымі, ветлівымі яна і ўяўляла Паўла Канстанцінавіча і Кацярыну Трафімаўну, пра іх шмат расказвала Лена. Яны абое працавалі на трактарным заводзе.

— Галя, ты верыш у каханне з першага позірку? — спытала Зоя, калі крочылі да аўтобуснага прыпынку.

— І веру... і не веру...— І потым Галя як спахапілася: — Зоя...

— Не-не. Проста Саша... спадабаўся мне,— задуменна адказала Зоя.

## 6

У пакоі былі ўсе. Барыс чытаў за сталом. Стук і Слаўка гулялі ў шахматы, размясціўшыся на Слаўкавым ложку. Алег быў рады гэтай цішыні: якіх дзесяць мінут назад развітаўся з Галяй. З ім быў яе голас, смех, дотык гарачых вуснаў... Моўчкі ён распрануўся, шуснуў у ложак. Закрыў вочы...

— Алег, зірні! — паклікаў яго Слаўка.— Зірні!

Слаўка душыўся ад смеху, а Стук засяроджана ўтаропіўся ў шахматную дошку: у яго была адна пешка супроць чатырох Слаўкавых.

— У цябе, здаецца, ёсць выйсце,— сказаў Алег.

Стук пазяхнуў:

— Я ўжо спаць хачу.

— Скажы лепш: падвучыцца трэба! — выгукнуў Слаўка.— Гэта табе не на дыване́.

— Ну, там бы я цябе... Прасіўся б ты...

Алег міжволі слухаў, як хлопцы пакепліваюць адзін з аднаго. Паморшчыўся: не варта было б Стуку хваліцца сваёй сілай. Ну, займаешся барацьбой, мускулы, як жалеза, шчуплага Слаўку, безумоўна, зваліў бы, дык трэба яшчэ напомніць яму пра гэта. Не тонка.

Алег злавіў сябе на думцы, што па-рознаму адносіцца да гэтых хлопцаў.

Барыса Рулько ведаў ужо больш як месяц, з ім разам былі ў Пагосце. Барыс «стары», у інстытут паступіў пасля службы ў арміі. У яго першае слова — «парадак»: калі ён з нечым управіўся, штосьці зрабіў, то гэтым словам падводзіў рысу і справе, і настрою свайму. Не любіць многа і лішняе гаварыць. Добры хлопец, але з ім сумнавата.

Стук і Слаўка — другакурснікі, таксама з аддзялення «тэхналогія машынабудавання». Стука завуць Ранальдам, але ўсе чамусьці памятаюць толькі яго прозвішча. Стук каранасты, тулава доўгае, ногі кароткія, моцныя, стрыжэцца пад «нуль». Фанабэрысты, рады з кожнага пасмяяцца.

А Слаўка — хлопец што трэба. Любіць чытаць, паламаць галаву над красвордамі, рэбусамі, рознымі лагічнымі задачамі. Умее падчапіць, але крыўдзіцца не будзеш.

Хлопцы кладліся спаць. Слаўкаў ложак — побач. Алег спытаў у Слаўкі:

— А чым ты ў школе займаўся? Па спорце?

Слаўка нацягнуў коўдру да падбародка, танклявыя, загарэлыя рукі паклаў пад галаву.

— Чым займаўся? Усім, што было на ўроках фізкультуры. Тут запісаўся ў секцыю лёгкай атлетыкі. Скачкі ў даўжыню. А ты па чым ціснеш?

— У школе больш любіў веласіпед. Але... па вела другі разрад, а па лыжах — першы. Адзін толькі раз прайшоў па першым, на раённых.

— О, сіла! Дык у лыжную секцыю запісаўся?

— Пакуль не. Была толькі лекцыя, загадчыка спартыўнай кафедры слухалі. Расказваў, як тут наконт спорту.

— Давай, Дашкоўскі, запішыся ў лыжнікі,— азваўся са свайго ложка Стук.— Калі ў цябе першы разрад, то трэнер з цябе сем патоў выцісне... Пабегаеш тады на спатканні. Забудзешся, як яе завуць!

— Не слухай! Лічыць, што толькі ён можа майстрам стаць. А ты вазьмі ды яшчэ хутчэй,— Слаўка зірнуў на Алега і ўскінуў у рашучым жэсце руку.— Чмель гудзе, а чалавек ідзе!

— Мне што... Толькі прыйдзецца тваёй Машцы другога кавалера шукаць,— зарагатаў Стук.

Алег пачырванеў.

— Ты... Калі яшчэ такое скажаш...

— Не вельмі... Сам умею...

— Хлопцы, цішыня! — абарваў Стука Барыс. І паўтарыў:

— Цішыня!

Ён таксама лёг, выключыўшы святло.

«Тып... не адвучылі цябе совац нос не ў сваё, дык адвучу». Алег памалу супакойваўся, не хацеў ён думаць пра Стука. Не выходзіла ўжо з галавы іншае: сапраўды, з яго першым разрадам па лыжах на трэніроўкі давядзецца хадзіць часта. І не на гадзіну, а на дзве і тры: лыжы ёсць лыжы. Тады, у школе, трэніраваўся, калі сам хацеў, а тут трэнер будзе патрабаваць... Інстытут не школа, тут і вучоба будзе давацца куды цяжэй. І што-што, а вучыцца трэба так, каб не гадаў перад сесіяй, здасі экзамены ці не здасі. Заняцца ж яшчэ лыжамі — і колькі застанецца ў яго вольнага часу? А Галя... А горад з кінатэатрамі, футболам, танцамі...

У невясёлым роздуме засынаў Алег. Трэба ж, яшчэ хваліўся — і неаднойчы — перад Галяй, што стане майстрам спорту. Не, не жартаваў.

І назаўтра на лекцыях Алег з тугой думаў пра адно і тое ж: трэніроўкі, барацьба за вынік будуць забіраць многа часу.

На перапынках прыслухоўваўся да гутаркі пра спорт. Але сярод тых, хто ўжо вызначыў сабе, у якой секцыі будзе займацца, першаразраднікаў не было, а тыя, што яшчэ разважалі, у якую секцыю запісацца, да спорту ставіліся ці паблажліва, ці абыякава.



Нічога пэўнага ён не вырашыў і пазней, калі вярнуўся ў інтэрнат.

Да Юркі паехаў на трамваі, які не так і марудна шыўся праз доўгі, запоўнены машынамі вулічны калідор. Перад Юркавым домам Алег замарудзіў крок. Неяк лёгка стала на душы. Вось ён вялікі горад, у якім яшчэ зусім нядаўна Алег нікога не ведаў, былі чужыя ўсе вокны, усе людзі, а ўжо ёсць дом і кватэра ў ім, куды можна зайсці са сваімі турботамі, дзе прымуць цябе, зразумеюць... Юрка зразумее. І што скажа ён?

Адчыніла Юркава маці, Валянціна Пятроўна. Яна сказала, што Юркі няма дома, прапанавала пачакаць:

— Юра пайшоў купіць сабе цыгарэт. Скора прыйдзе.

Валянціна Пятроўна села супроць яго на канапу, прыгладзіла свае валасы, паклала рукі на калені.

Алег згадаў сваю маці — ростам, чарнявасцю і гэтай прыхільнасцю да чужых Валянціна Пятроўна была так падобная да яе. Але каб яго маці магла так спакойна некаму сказаць, што вось Алег пайшоў па цыгарэты... Такое нельга было ўявіць. Было б ужо яму дома за цыгарэты!

Валянціна Пятроўна пачала распытваць у яго пра бацькоў, пра сям'ю. Відаць, яна нічога ў Юркі не пыталася пра яго, і ў гэтым яна зноў была непадобная на Алегаву маці.

— А Юра ў нас адзін і рос,— уздыхнула Валянціна Пятроўна.— Да сямі гадоў у дзіцячы сад хадзіў, тады мы яшчэ спакойныя былі. А потым? Як пайшоў у першы клас? Са школы вернецца — і адзін дома, рабі, што хочаш. Бацька як сеў раніцай на таксі, так да вечара і круціць баранку. А ў мяне работа цераз дзень. Як дома я, то Юра пры мне, а ў наступны дзень там, у касе аўтавакзала, толькі і думаю, дзе Юра, ці паеў, ці ўрокі парабіў, ці не сышоў куды далёка. А глядзіш, ужо Юра ў трэцім класе, у пятым, у восьмым... І вучыцца іншым на зайздрасць! Праўда, як падрос, то ўжо характар у яго стаў такі — да двух не гавары. Незалежнага характару, але і няхай сабе, калі з розумам. А цяпер ужо — абы інстытут закончыў.

Пачуўся званок. Валянціна Пятроўна пайшла адчыніць, вярнулася з Юркам. Спытала ў яго:

— Так доўга цыгарэты шукаў?

— Сустрэў Марата на двары, пагаварылі,— адказаў Юрка і спытаў у Алега: — Даўно тут?

— Так сабе. Ужо і ісці пара.— Алег зірнуў на Валянціну Пятроўну: — Вы не будзеце супраць, калі Юра праводзе мяне?

— Калі ласка, Алег. Я толькі хачу спытаць... Ці трэба вам рыхтавацца да заняткаў?

— Трэба будзе. Але пакуль што першыя дні, мы толькі лекцыі запісваем,— адказаў Алег.

Валянціна Пятроўна супакоена паківала галавой. Яна, заўважыў Алег, правяла іх позіркам, калі ішлі па двары.

Змяркалася. На вуліцы вячэрнюю шэрань расквецілі ліхтары.

— А я да цябе пагаварыць,— сказаў Алег.— Заўтра запіс па секцыях. Не ведаю, што рабіць. Праблема — наконт лыжнай.

— Разумею,— кінуў Юрка. І маўчаў.

— А ты ў якую секцыю? — не вытрымаў яго маўчання Алег.

— Я? Па валейболу. Дзеля размінкі.

— Калі дзеля размінкі, то... пенсіянерскія нагрузкі.

Юрка павёў брывом.

— Тое, што і трэба. Ёсць... іншыя нагрузкі.

— Ты пра вучобу?

— Пра вучобу і пра ўсё астатняе. Ты гаворыш: тэатры, канцэрты... На гэта час знойдзецца, чым не займайся. Штодзень па тэатрах не бегаюць, і не кожны канцэрт будзеш глядзець... А калі наогул хочаш жыць цікавей, то... Не ведаю, як тут збалансаваць. Падысці да майстарскага выніку — трэба папрацаваць. На кожны дзень жалезны рэжым і ўсё такое... Увогуле, падумай. Можа, і варта. Нішто было б: майстар спорту!

Алег маўчаў. Уявілася, які стомлены вяртаўся б з трэніровак і дбаў бы толькі пра адно: як паспець падрыхтавацца да заняткаў ды кінуцца ў ложак. Тут ужо нікуды не сходзіш.

І ўявілася іншае... Юрка расказваў пра сваё жыццё. А чаму ён, Алег, не можа мець добрых сяброў, сустракацца з імі, слухаць музыку, хадзіць на танцы... Няхай гэты вялікі горад дасць яму ўсё прыемнае, усё радаснае, што можа даць. Не аднаму яму — і Галі таксама. Тут ніхто не зможа перашкодзіць ім жыць так, як пажадаюць.

— Дык што? — спытаў Юрка.

— Лепш пакуль што... свабода дзеянняў. Лыжамі можна заняцца і пазней... Праз год-два.

— Ну вось і выйсце! Факт, паспееш яшчэ... Пажыві па-чалавечы, а потым сваё возьмеш і на спартыўным фронце,— сказаў Юрка.

«Вазьму яшчэ. Вазьму! Мне ж толькі васемнаццаты год»,— ужо спакойна падумаў Алег.

## 7

Пакуль абраныя ў прэзідыум сходу Лена Санеева, Клава Раманчук і Сцяпан Шэлег ішлі да стала, куратар групы Валянцін Васільевіч пацёр пальцамі лоб. Гэтак цёр ён высокі свой лоб штодзень там, у Загор'і, азіраючы раніцой загоны бульбы. Гэтак жа вадзіў пальцамі па глыбокіх маршчынах між броваў, калі яго аднойчы папрасілі расказаць пра сваё жыццё — тады ж вырашылі, што тыя маршчыны-баразёнкі з'явіліся ў яго нездарма: пара дзяцінства выпала на час вайны, і многа турбот, клопату спазнаў потым, калі вучыўся ў школе, універсітэце, заканчваў аспірантуру.

Гэтая найбольш прыкметная звычка Валянціна Васільевіча азначала адно: ён задумваўся. Пра што ж цяпер? Напэўна, пра тое, пра што думала група: хто лепш падыходзіць на пасаду камсорга і прафорга?

Ён, Валянцін Васільевіч, не быў для групы загадкай, і ўсеагульная ўвага была прыкавана да Лагавіка, члена камітэта камсамола факультэта. Галя таксама больш пільна прыглядалася да яго. Лагавік сядзеў злева ад Валянціна Васільевіча, ён бачыў, што яго разглядаюць, і гэтак жа адкрыта пазіраў на кожнага сам. Яму недзе за дваццаць, светлавалосы, круглатвары.

Сход ішоў сваім парадкам. Санеевай даручылі пісаць пратакол, Клаве Раманчук — старшынстваваць. Адкінуўшы за плечы доўгія, пафарбаваныя пад колер бронзы валасы, Клава зірнула на Лагавіка, той ёй кіўнуў. Клава абвясціла:

— Слова таварышу Лагавіку!

Лагавік устаў і загаварыў — голас у яго як не дыктарскі, чысты, выразны:

— Выбары камсорга, таварышы, справа для вас не новая. Усе вы камсамольцы са стажам і ведаеце, якія ў камсорга абавязкі. Каго выбраць — не мне раіць. За час працы ў калгасе вы ўсе пераззнаёміліся, пасябравалі, увогуле, ведаеце адзін аднаго. Да працы ў калгасе вы



адносіліся сур'ёзна, не меншая сур'ёзнасць патрабуецца ад вас цяпер, пры вырашэнні ўсіх пытанняў, што датычацца групы. Падумайце, каго выбраць камсоргам.

Цішыня панавала нядоўга.

— Юрэвіч!

— Санееву!..

— Казанца!..

— Раманчук!

Стараста падышоў да дошкі, напісаў на ёй названыя прозвішчы — першым у спісе Галя ўбачыла сваё. Калі Шэлег вярнуўся да стала, Валянцін Васільевіч спытаў у яго:

— Што скажаце вы, як стараста, наконт прапанаваных кандыдатур?

Група насцярожылася. Было надзвычай цікава, што скажа стараста. Ніколі, нічым — гэта ж трэба сталёвая вытрымка — стараста не выказаў сваёй асаблівай прыхільнасці ці непрыхільнасці да некага ў групе. І вось з'явілася магчымасць дазнацца, як ён ставіцца хаця б да гэтых студэнтаў.

Шэлег не ўсміхаўся, як Лагавік. Устаў, абцягнуў на сабе пінжак, ад чаго здалося, што яго па-юначы доўгая шыя яшчэ больш падаўжэла.

— Я лічу, што найбольш падыходзіць на пасаду камсорга Юрэвіч. Зрэшты, глядзіце самі...

Клава зірнула на дошку, чамусьці затрымала позірк на спісе прозвішчаў і тады вымавіла:

— Хто галасуе за кандыдатуру Юрэвіч?

Галя бачыла, як падымалі рукі тыя, што сядзелі перад ёй. А побач з ёй, цераз праход, сядзела Рая Зубіч. Чамусьці яе пацягнула зірнуць на Раю—тая спакойна разглядала пакрытыя ружовым лакам пазногці. Падлічылі галасы — толькі яна, Зубіч, устрымалася ад галасавання.

«Чаму мяне? Чым лепшая? Дзіўна...» Галя зірнула на аднаго, другога, трэцяга — і стрэла позіркі, што выразна гаварылі: «Не дзівіся. Мы цябе і хацелі выбраць!»

Лагавік паказаў рукою на Галю.

Галя ўстала. Збянтэжаная ад прыцішанасці, увагі, яна падзякавала за давер. Сказала, што была ў школе членам камітэта камсамола. Што будзе працаваць так, каб сорамна ёй не было.

Прафоргам выбралі Клаву Раманчук — зноў толькі Рая Зубіч устрымалася ад галасавання.

Перахапіўшы здзіўлены Галін позірк, Рая ціха сказала:

— Ты не падумай, што я нешта да вас маю. Проста... ты бачыла, што ўсё выдатна вырашаецца і без мяне.

— Але чаму, Рая?

Зубіч моўчкі варухнула вуснамі.

Сход неўзабаве скончыўся. Лагавік папрасіў застацца ў аўдыторыі старасту, камсорга і прафорга.

— Мы пачакаем цябе. Віншую! — Лена паціснула Галі руку.

— Набірайся вопыту! — засмяялася Зоя.

## 8

З магазіна выходзілі замежныя турысты. Іх было многа, жанчын і мужчын, пажылых і маладых. Алег і Юрка мусілі спыніцца, перачакаць.

Гаварылі турысты на зусім не знаёмай мове. То не была ні англійская, ні французская, ні нямецкая мова, не належала гэтая мова і да славянскіх.

— Фіны,— сказаў Юрка.— Не першыя тут.

Апошняй выпырхнула з магазіна худзенькая, у чырвонай куртцы і карычневых штоніках, дзяўчына. Кіруючыся да аўтобуса, ля якога збіраліся турысты, яна стральнула блакітнымі вачыма на Юрку і Алега.

— А нішто,— сказаў Юрка. Зайшлі ў магазін, чуючы густы пах парфумы, і падаліся ў аддзел фотатавараў. Юрка праціснуўся праз купку хлопцаў, што збіліся каля прылаўка, і паклікаў бялявую прысадзістую прадаўшчыцу.

— А скажы, Алег,— ён кіўнуў галавою на дзяўчыну,— яна прыгажэйшая!

Алег не стаў пярэчыць. Таму што ў Маі былі густыя агніста-медзяныя валасы, бялявы твар, вялікія карыя вочы і таму што яна была дзяўчынай, пра якую Юрка гаварыў коратка і выразна: «мая́». Аднолькава цёпла прывіталася Мая як з Юркам, так і з Алегам. Зусім нядаўна Алег пазнаёміўся з ёю, і вось між імі азначылася нейкая таварыскасць.

— Смешныя гэтыя фіны, хлопчыкі,— загаварыла Мая.— Адзін просіць паказаць самы дарагі фотаапарат, другі — самы танны, на дарагі і не глянуў!

— Дыктат кішэні,— сказаў Юрка.

— Між іншым, хлопчыкі, я сёння з палучкай,— абвясціла Мая.— Куды пойдзем?

— Гм,— хмыкнуў Юрка.— Мусіць, заб'ем адразу двух зайцоў. Я ж хацеў сёння пазнаёміць Алега з Маратам. Тры разы хадзілі да яго — знік!

— Убачыце ў рэстаране! З Маратам, Алег, варта пазнаёміцца. Значыць, дамовіліся? Толькі вы пачакайце мяне на вуліцы. Загадчыца ідзе,— хуценька прагаварыла Мая. Некалькі пакупнікоў гублялі, пэўна, апошняе цярпенне, чакаючы ўвагі прадаўшчыцы.

— Мы на якары,— кінуў Юрка Маі.

Яны спыніліся ў некалькіх кроках ад увахода ў магазін. Хмары ў небе, нядаўна шэра-белыя, сталі бэзава-ружовымі, дзённы вецер аціх, паветра нібы пацяплела. Сярод прахожых было нямала пар, якія, несумненна, выйшлі на вячэрнюю прагулку.

— Слухай, наведаемся заўтра да Марата,— сказаў Алег.

— Што адкладваць? Марат будзе ў рэстаране. Заб'ем і трэцяга зайца — паслухаем, як ён іграе.

— Ну, вы ідзіце... без мяне.

— Чаму гэта? — здзівіўся Юрка. Заўсёды пры здзіўленні вочы ў яго не круглелі, як у іншых, а моцна прыплюшчваліся.

Што тут не разумець? Вядома, Алега вельмі цікавіў Марат, прыяцель Юркі, кларнетыст, саксафаніст і кіраўнік аркестра ў рэстаране. Але Юрку і Маі ісці ў рэстаран разам не ўпершыню — навошта ім трэці лішні? І да таго ж — запрашае Мая...

Юрка спакойна выслухаў яго. Сказаў паблажліва:

— Ох і ты, правінцыя... Маўчы лепш. У нас так.

Пакупнікі выйшлі з магазіна, новых не пусцілі — рабочы дзень закончыўся. Мая не забавілася. Яна, было відаць, радавалася не толькі таму, што яе чакалі, але і таму, што нарэшце магла ісці па вуліцы, не мець ніякага клопату. На ёй было элегантнае паліто, у руках чорная сумачка. Яна заўважыла, што Алег не ў гуморы.



— Ды вось няёмка сябе адчувае,— растлумачыў ёй Юрка.

— І ўся бяда? Другім разам вы мяне запросіце! Ідзём, Алег, інакш я пакрыўджуся.

Гэта ўжо было выйсцем: прыйсці некалі да Маі з уласнай ініцыятывай. Алег павесялеў.

У рэстаране было накурана і шумна. Алег з цікаўнасцю паглядаў па баках, думаў: здзівілася б Галя, раптам убачыўшы яго тут.

Афіцыянтка прынесла сухое віно, каньяк, закуску.

— Пачынай, Юрачка,— сказала Мая.

— З задавальненнем,— згадзіўся Юрка.

Паназіраўшы, як льецца віно, Мая з некаторай урачыстасцю прагаварыла:

— Хлопчыкі, вып'ем за тое, каб вы праз пяць гадоў сталі добрымі інжынерамі. Як вам мой тост?

— Прымаем.— Юрка ўсміхнуўся: — Прарвацца б праз першую сесію, а там мы будзем ужо з вопытам.

— Пройдзем нармальным крокам,— сказаў Алег.— І потым, калі ўзяліся за каньяк, прапанаваў: — За Маю. Толькі не ведаю, Мая, тваіх жаданняў.

— Мае жаданні? Іх многа, але яны не збудуцца.

— Чаму не збудуцца?

— Марыла я пра тэатральную сцэну. Ездзіла ў Маскву, хацела паступіць у вучылішча імя Шчэпкіна. Параілі больш не турбаваць. Гібець у прадаўшчыцах — вось мой лёс,— какетліва, ды ўжо з горыччу прагаварыла Мая.

— А магчыма, свайго сапраўднага прызвання ты, Мая, яшчэ не ведаеш?

— Прызванне,— раздумліва працягнула яна.— Ты, Алег, будзеш інжынерам. Гэта тваё прызванне... ці што іншае?

— Мне цікава з металам мець справу. Больш, як з чым іншым, з хіміяй там ці з геалогіяй. Метал — гэта метал!

— А ў цябе, Юрачка, таксама прызванне — завод, метал? — дапытвалася Мая.

Юрка курыў. Марудна пускаў дым.

— А раптам маё прызванне — жыць без прызвання?

— От ужо аматар канспірацыі! — Мая нібы пакрыўдзілася.

Алег недаўменна пазіраў на іх. «Сябруеце ўжо з год. Няўжо між вамі ніколі не было пра гэта гутаркі?»

— Пагаварыў у інстытуце. І выбраў аддзяленне. А прызванне чуў у сабе... перш чым працаваць, гадоў пяць пабыць студэнтам. Хіба з апошніх? — вымавіў Юрка.— П'ем. За тваё, Мая, жаночае шчасце!

Алег чакаў, што пасля каньяку закружыцца галава, ды стала толькі горача. І вальней адчуў сябе — нібы не першы раз быў у рэстаране. Столікі былі ўжо заняты ўсе. Алег не так і мала ўбачыў хлопцаў і дзяўчат. І яму спадабалася, што ён з Юркам і Маяй не адны былі тут такія маладыя сярод самавітых мужчын і жанчын.

Між тым па зале прайшла хваля ажыўлення. Пачуліся апладысменты. Алег зірнуў на эстраду і ўбачыў на ёй чатырох хлопцаў, апранутых у чорныя касцюмы, і дзяўчыну ў цёмнай кароткай сукенцы. Дзяўчына села за піяніна, рыжаваты танклявы хлопец заняў месца ля ўдарных, побач пасталі кантрабасіст і гітарыст, а бліжэй да мікрафона — Марат. Гэта, вядома, быў ён, бо ў руках трымаў саксафон.

— Бачыш? — спытаў Юрка.

— Бачу,— адказаў Алег, пільна ўглядаючыся ў Марата.

Больш як хто з аркестрантаў Марат прыцягваў да сябе ўвагу ўжо

сваёй знешнасцю. Ён быў вышэй сваіх калег, шырокія плечы, моцныя грудзі выдавалі яго за волата, і гэты волат не працаваць выйшаў вось на эстраду, а крыху пазабаўляць людзей і забавіцца самому. Ён адразу даў адчуць, што менавіта яму падпарадкоўваецца аркестр, менавіта ад яго трэба чакаць чагосьці незвычайнага.

Аркестр зайграў па знаку Марата. Гэта была не танцавальная музыка, гэта быў як бы ўступ да праграмы, па якім прысутныя ў зале павінны зразумець, на што здольны аркестр. Зладжаная ігра ў імклівым рытме выклікала ў зале ўвагу да аркестра — Алег прыкмеціў, што ў зале трохі пацішэла.

Неўзабаве між столікаў з'явіліся пары. Алег пазіраў, як танцуюць, а вухам лавіў кожны гук саксафона. Яму падабалася, як іграе Марат.

— Імправізуе здорава,— сказаў Алег. Юрка і Мая зразумелі, што ён гаворыць пра Марата.— А якое «глісанда» выдаў, чулі?

— Умее,— кінуў Юрка.

— Хлопчыкі, я стамілася сядзець,— сказала Мая.

Юрка глянуў на Алега:

— Паспрабуй ты, як тут танцуецца.

Мая ўжо гатова была ўстаць. Алег закруціў галавой:

— Не. Ыбачай. Я не хачу... Іншым разам.

— Гм... Комік ты, Алег,— Юрка ўстаў: — Прашу, Мая.

— Ай-ай,— сказала Мая, а вочы яе, са смяшынкай, абяцалі Алегу: мы цябе перавыхаваем.

І чаго прыхапілася? Ён зусім не збіраўся танцаваць у рэстаране.

А тыя прайшлі ў танцы да самай эстрады. Алег сачыў за імі. Вось аркестр на высокай ноце закончыў, і Юрка штосьці сказаў Марату. Той кіўнуў галавой. І паважна, нібы яны былі ў цэнтры ўвагі, Юрка і Мая вярнуліся да століка.

— Скора Марат падыдзе,— сказаў Юрка.

Пасля нядоўгай паўзы аркестр зайграў танга. Высокі, год трыццаці мужчына, што сядзеў за суседнім столікам, падышоў з запрашэннем да Маі. Яна паднялася з ахвотай і потым, з-за пляча мужчыны, зірнула на іх, Юрку і Алега: ага, вы як хочаце, а я буду танцаваць! Мужчына штосьці нашэптваў ёй на вуха, усміхаўся.

— Табе гэта падабаецца? — спытаў Алег.

— Няхай шэпча,— кінуў Юрка.

— Табе ўсё роўна?

— Старыя заўсёды яе запрашаюць. А яна мая. І гэты зразумее. Будзе аблізвацца. Люблю глядзець, як старыя каты аблізваюцца.

Алег засмяяўся і сказаў:

— Дарэчы, у мяне ёсць грошы. Я разлічуся.

— Мая не дазволіць.

— Як гэта?

— А так. Мы студэнты, а ёй грошы не праблема. Я ж табе казаў некалі: адна яна ў таты і мамы.

— Пра што, хлопчыкі, гаварылі без мяне? — спытала Мая пасля танца.

— Крыху пра раўнасць,— сказаў Алег.

— Мяне раўнавалі? — у вільготных Маіных вачах бліснула цікаўнасць.

— Не. У табе ўпэўнены,— сказаў Алег, бо Юрка маўчаў.

— У мяне ёсць сяброўка Ніна. А ў яе — сшытак з мудрымі думкамі. Там напісана: «Хто не раўнуе, той не кахае». Веру.— Мая з дакорам пазірала на Юрку.



— Фальклор. Дзявочы, між іншым,— вымавіў Юрка.— І любяць жа яны вось такое!

У гэты момант да іх падышоў Марат.

— Добры вечар кампаніі,— прывітаўся ён.

Позірк у яго хуткі, востры, голас басавіты.

— Знаёмцеся,— сказаў Юрка.

Марат спачатку патрымаў пальчыкі Маі. Потым паціснуў Алегаву руку, назваў сябе і сеў.

— Я на хвілінку. Як, Маечка? Што ў цябе там? І наогул? Парадак? А ты, сусед? Даўно тут?

Гэта было зусім натуральна, што Марат звяртаўся толькі да Маі і Юркі. Яны разумелі адзін аднаго з паўслова, а такіх вось выпадковых знаёмстваў, як цяпер з ім, Алегам, у Марата, безумоўна, безліч, і што тут дзіўнага, што новы знаёмы для яго як бы і не існаваў? Але ўсё ў Алегу супраціўлялася такой абыякавасці Марата да яго — ён жа Маратам цікавіўся!

Юрка, напэўна, сцяміў, што хавалася за Алегавай маўклівасцю.

— Як ты там сказаў... здаецца, «глісанда»?

Алег кіўнуў галавой. Марат пазіраў ужо на яго.

— Калега? — спытаў.

— Школа. Па акардэоне,— адказаў Алег.

— Мусіць, першы раз мяне слухаў? Ну і як?

Гэта крыху здзівіла: Марату цікава было нешта пачуць пра яго ігру. Іншы фанабэрліва адмахнуўся б: сам, маўляў, ведаю. Алег адказаў шчыра:

— Пакуль нідзе не чуў такой ігры. Хіба па радыё.

Марат задаволена ўсміхнуўся:

— Стараемся. Ну, будзьце. Заказаў многа.— Ён устаў.

— Марацік, а з намі хоць колькі? — сказала Мая.

— Дзякуй, Маечка. Ты ж маё правіла ведаеш: пасля. Ноты блытаць нельга! — І Марат прыязна зірнуў на Алега.— Убачымся, думаю. Крануў за плячо Юрку: — Давайце да мяне як-небудзь.

І пайшоў. Праз хвіліну аркестр іграў зноў.

— Як табе Марат? — спытаў Юрка.

— Дзелавіты,— адказаў Алег.

— Тое, што трэба.

— Хлопчыкі, будзем дзелавітыя і мы,— сказала Мая.— Дап'ем кроплі, і ты, Алег, пойдзеш са мной танцаваць.

Усё ж галава ў яго закружылася. І, напэўна, толькі таму, што яму ўсё стала ні па чым, ён пайшоў з Маяй танцаваць.

Вясёлыя выходзілі яны з рэстарана. Тут і развіталіся — праводзіць Маю Юрка, вядома, браўся адзін. Пажартавалі з таго, што жыве Мая далекавата, у раёне аэрапорта: найлепш дабірацца б туды на верталёце.

## 9

Роўна ў дзесяць раніцы Галя пачула званкі. Тры кароткіх — так звычайна званіў Алег. Яна была ўпэўнена, што сёння ён прыйдзе, ды не чакала так рана. Узрадаваная, пабегла адчыняць дзверы.

Вінаватасць была ў Алегавых вачах. Ён распрануўся, прайшоў у пакой.

— Ты адна?

— Адна. Зоя і бабка на рынак паехалі.

— Вечарам нідзе не была?
— Цябе чакала...
— Не крыўдзіся.— Алег паклаў рукі ёй на плечы.— Я прыйшоў бы, але баяўся, што пасварымся. Сёння я ўжо не такі...
— Што ж у цябе было?
— Я табе гаварыў, што ў Юркі ёсць таварыш... Марат, яго сусед. Вось учора я з ім пазнаёміўся. Выдатна іграе на саксафоне.
— А чалавек ён... цікавы?
Селі на тахту, і Алег пачаў расказваць, як бы падагуліў:
— Яны — нармальныя людзі. Гэта я... «правінцыя». Што Юрку, Маі проста, мне — не зусім...
— Хіба табе было сорамна за сябе?
— Не сорамна... Але... Усё таму, што мы жылі крыху інакш. Яны ў сталіцы, а мы там...
— У нас было сваё жыццё! І каму зайздросціць, чаго шкадаваць?
— Я не зайздрошчу. Пажывём і мы тут... Няхай, не варта пра гэта. Ты раскажы пра сябе.
Галі было пра што расказаць — таму яна і чакала ўчора Алега. Ды той настрой, тыя думкі з ёю былі і цяпер.
— Што ў нас адбылося... Не падзея сусветнага значэння, але штосьці важнае. Наша група зрабіла экскурсію па горадзе.
— Па тваёй прапанове? Камсорг пачаў дзейнічаць?
— Так! Я крыху баялася, што адмовяцца ад экскурсіі. На той падставе, што за пяць гадоў паспеем усё ўбачыць. Але не! Мы з Клавай дамовіліся ў экскурсійным бюро, і пасля заняткаў нас ужо чакаў аўтобус з гідам. Гід — дзяўчына, маладзенькая, разумная, толькі голас заціхі. Пабачылі музеі, тэатры, агледзелі Палац спорту. Мінчанам, што ў нашай групе, усё не ў навіну, яны і самі гідамі былі, а прыезджыя дзівіліся, як і я. А сёння, ведаеш, хто нас чакае? Лена. Мяне, цябе і Зою.
— І мяне? — перапытаў Алег.
— Лена даўно пра цябе ведае. І я паабяцала, што прыедзем да яе з табой. Вось толькі Зою дачакаемся — і ў дарогу. А потым разам з Ленай пойдзем у Мастацкі музей. Я хачу ў ім пабываць раней, чым выправімся ўсёй групай.
Зою чакаць давялося нядоўга. Яна спярша накіравалася з бабкай Марыляй на кухню. Выйшла адтуль, махаючы рукамі.
— Галка, Алег, пабывалі мы з бабкай у раі. Чаго толькі няма на рынку! І ўсё хочацца купіць. Мне сумка рукі адарвала.
Бабка Марыля з'явілася следам за Зояй з талеркай, напоўненай грушамі, яблыкамі, вінаградам.
— Частуйцеся. Галя, ну-тка... Бяры, Алег.
— Дык едзем да Лены?—спытала Зоя.
— Можам. Мы ўсе ў зборы,— адказала Галя.
Зоя імкліва крутанулася, адчыніла шыфаньер і з блакітнай сукенкай панеслася ў бабчын пакой. Неўзабаве паказалася:
— Якая я?
Ах, Зоя... Яна яшчэ ўчора перапрасавала ўсе свае сукенкі і каля паўгадзіны прыкідвала, у якой лепш ехаць да Лены — там жа будзе Саша...
— Ужо ж... пытаўся салоўка, ці спяваў лоўка,— засмяялася бабка.
Зоя збянтэжылася:
— Бабка, мы ж едзем, лічы, на канцэрт. Лена нам іграць будзе!
Пад Зойчына сакатанне выправіліся на вуліцу. Ехалі ў аўтобусе па горадзе, азначаным прыкметамі нядзельнага дня. Куды радзей, як у будзень, страчаліся грузавыя машыны, у людскім руху на тратуарах заўважалася запаволенасць. У гэтай запаволенасці была даніна сонцу, якое ўжо не магло падняцца вышэй, разгуляцца ў летнім шчыраванні, але якое свяціла, давала сваю акрасу гораду, дрэвам і вачам кожнага чалавека.



Лену ў кватэры засталі адну. І адбылося зусім не чыннае знаёмства Лены і Алега. Галя ўбачыла галоўнае, чаго жадала, у тых адкрытых ці крыху затоеных позірках, якія яны кідалі адзін на аднаго.
— А дзе ўсе астатнія? — спытала Галя ў Лены.
Лена з ахвотай паведаміла: бацька і маці пайшлі ў госці, а Саша рамантуе сваю «Яву».
— Вось самы раз табе сёння пайграць нам,— сказала Галя.
— Дзяўчынкі, запомніце: нават калі б дома былі ўсе, вы нікому не заміналі б. Паверце! — як не ўзмалілася Лена.
Сеўшы за піяніна, Лена адразу перамянілася, стала засяроджанай. Нібы не ў сябе дома была яна, а недзе ў канцэртнай зале перад мноствам людзей. Спытала:
— Што іграць?
— Усё, што сама любіш,— сказала Галя.
— Значыць... «Другая саната» Бетховена.
Галя сачыла за тонкімі, гнуткімі пальцамі Лены, між тым трапяткія, светлыя гукі ўладна забіралі ўвагу. Гэта было дзівам — гукі пачалі перайначвацца ў малюнкі. Галі прыгадалася свая рака, Гарэя, яе берагі, пясчаныя, абрывістыя, дзе-нідзе дрыгвяністыя, з асакой, чаротам, блакітнымі кропкамі незабудак. І ўспомніўся сонечны дзень, бязветраны, спякотлівы, і раптоўная навальніца, якую яны з Алегам перачакалі пад мостам: пасля навальніцы беглі па іскрыстай траве, потым купаліся, а калі выскачылі з вады на бераг, трава ўжо скрозь падсохла, і зноў было ціха, бязветрана, зноў неба было скрозь сіняе, чыстае ад хмар...
Чым была Алегу гэта музыка? Ён увесь аддаўся слыху, можа ён нават забыўся, хто з ім побач—ён не варухнуўся, калі прагучалі і апошнія акорды. Вось у такія моманты, калі музыка брала яго ў палон, Алег выглядаў сталей за свае гады—гэта Галя заўважала неаднойчы, і штораз гэта па-асабліваму кранала яе, і аддаляла ад яго, ахопленага сваімі думкамі, і набліжала да яго. Такога Алега, задуменна-засяроджанага, яна так часта ўспамінала ў Загор'і.
Лена паклала рукі на калені. Усе маўчалі. Першай азвалася Зоя:
— Я вельмі люблю музыку, але меладычную, якую лёгка запомніць. Да такой не часта прыслухоўваюся, калі перадаюць па радыё. А іграеш ты, Лена, і хочацца слухаць. Чаму?
— Мусіць, таму што выканаўца перад табою,— адказала Лена.— У гэтым ёсць свой сакрэт. Палюбіш, Зоечка, і такую музыку. Я буду распаўсюджваць на курсе абанементы на канцэрты ў філармоніі— табе першай уручу абанемент!
— Не адмоўлюся. А калі не стамілася, Лена, сыграй «Вячэрнюю серэнаду» Шуберта,— папрасіла Зоя.
Галя заўважыла, што Алега здзівіла Зоіна просьба. Ён, напэўна, не чакаў, што менавіта «Вячэрняя серэнада» любімая ў Зоі.
Ім, Галі і Лене, гэта не было таямніцай, як і тое, што за нястрымнай Зоінай весялосцю хаваюцца і частыя хвіліны летуценнасці, журбы.
І зноў, слухаючы поўныя шчымлівага суму і светлай радасці гукі, думала Галя пра Алега. Як не хапала б ёй яго, як сумавала б па ім, апынуўшыся дзесьці далёка...

Лена сыграла «Ната-вальс» Чайкоўскага, за апошнімі гукамі якога пачуўся голас:

— Можна да вас?

У пакой зайшоў Саша, узрушана пазіраючы на гасцей.

— Дзякуючы ты, Саша, ведаеш, а з Алегам пазнаёмся,— сказала Лена.

— Рады! — Саша падняў рукі, паказаў чорныя ад машыннага масла далоні.— Бачыце, чым займаюся? Матацыкл прывёў да ладу, цяпер за сябе трэба брацца. А вы тым часам не ўцечыцё?

— Мусіць, не,— адказала Зоя. Ружовасць на яе шчоках пагусцела.

Саша выйшаў, а калі зайшоў зноў, на ім замест камбінезона быў ужо шэры касцюм. Вільготныя валасы ён прычасаў, і на руках не было плям ад масла, але ўсё роўна ўгадвалася, што гэта рукі рабочага чалавека.

— Вось і поўны парадак,— сказаў ён, падыходзячы да акна. Папрасіў дазволу закурыць і звярнуўся да Галі:

— Ці многа спраў у камсорга?

— Крыху ёсць,— адказала Галя.— Будзе і больш. А хутчэй нам у вас пытаць пра справы.

— Таварыш,— усклікнула Лена,— не трэба звяртацца на «вы»!

— І я за тое,— Саша расчыніў акно, і шызы дым ад папяросы пацягнула на двор.— Не акурыць бы вас...— Ён затрымаў позірк на Зоі: — Памалу прывыкаем да шуму гарадскога?

— Прывыкаем. Спім ужо, як дома,— усміхнулася Зоя.— Толькі шуму і там хапае. Мой дзядзечка як праедзе паўз вокны на трактары, то і сцены дрыжаць. Той самы дзядзечка, што ўсё жыццё гаворыць: «Машына любіць ласку, чысціню і змазку». Ад ласкі і грукат, мусіць?

Саша засмяяўся.

— А ты, Саша, як станеш інжынерам, падумай над тым, каб зрабіць усе машыны бясшумнымі,— хітра зірнула на яго Зоя.

— А што ж... і паспрабуем.— Твар у Сашы раптам пасур'ёзнеў.— Хутчэй бы інстытут закончыць.

Галя ўважліва пазірала на гэтага дужага, камлюкаватага хлопца.

— Саша, а не цяжка так: працаваць і вучыцца? — ёй даўно карцела спытацца.

— Як сказаць... Упраўляемся, адным словам.

— А не адным словам? — кінула Зоя.

— Не адным? — Саша памарудзіў і махнуў рукой: — Так ці інакш, усё роўна ўправімся.

— А калі больш канкрэтна, Саша? — вымавіла Галя.

Яе раптам падтрымаў Алег:

— Што сабой уяўляе ваша... твая, Саша, работа?

Саша мусіў здацца — загаварыў:

— Спецыяльнасць — электрык па капітальным рамонце прамысловага абсталявання. Станкі рамантуем. Ну, да іх у нас усе рукі прыкладаюць. Слесары разбіраюць станок, замяняюць, што патрэбна, шабраць. Гідраўлікі сваё робяць... правяраюць насос, цыліндры, поршні, фільтр, клапаны. Таксама замяняюць, што патрэбна. І нам, электрыкам, ёсць крыху работы.

— Што азначае «крыху»? Мне гэта цікава,— сказаў Алег.

— Як будучаму інжынеру, калі не памыляюся? — Саша пільна зірнуў на Алега.— Магу ўдакладніць. Увогуле цяжкавата толькі зняць рухавік, які ўнутры станка. Астатняе... Адлучаеш... правады, потым зацягваеш іх да мікрапераключальніка, канечніка, рухавіка магніта. Трэба празваніць правады, прамаркіраваць. Заменіш падшыпнікі, ні-





шу падфарбуеш. Яшчэ тое-сёе знойдзецца. Звычайная работа, як ва ўсіх,— заключыў Саша.

— А потым да ночы на занятках у інстытуце? І так год за годам? Не, я не змагла б. Не вытрымала б, не! — пакруціла галавою Зоя.

— А падумаўшы? — кінуў Саша. Гутарка, было відаць, займала яго.

Зоя сумелася.

— Н-не ведаю...

— Значыць, уласныя магчымасці — загадка? — Саша абвёў вачыма астатніх.— А вы як лічыце?

— Хто яго ведае,— паціснула плячыма Лена.

— Мусіць, як каму,— вымавіла Галя, раптам падумаўшы, што Сашава пытанне балючае для Алега. Яна, як і ўсе, павярнулася да яго.

— Увогуле, не загадка,— сказаў Алег.

— Голас мужчыны! — задаволена, як бы ў піку дзяўчатам, вымавіў Саша.

— Скажаш, што ў цябе не было сумненняў? — страпянулася Лена.

— Ну, я, калі ў арміі служыў, моцна думаў, ці змагу на два франты... Пабойваўся, што нічога не выйдзе.— Саша змоўк, потым дадаў: — Вось змог, было б толькі крыху больш гадзін у сутках.

— Але больш, як ёсць, гадзін у сутках не будзе. І значыць... усё залежыць ад здольнасці. Хіба не так? — сказала Зоя.

— Гэта бясспрэчна. Але здольнасці — адзін бок медаля, ёсць і другі...— Саша ўсміхнуўся ёй.

— Каменьчык у мой агарод? А калі не хочацца і варухнуцца? — У Зоіным голасе чулася нотка капрызу.

— Тады... застаецца пашкадаваць чалавецтва!

Усе засмяяліся, і толькі Алег спахмурнеў. Ніхто, акрамя Галі, не заўважаў гэтага.

Зоя між тым замоўкла, сцішылася. На гладкім, крыху пукатым ілбе яе сабраліся ледзь прыкметныя паскі-зморшчынкі, рукі яна сціснула ў кулачкі, паднесла іх да свайго падбародка. Чакалі, што яна скажа. Яна і ўзняла позірк, гатовая штосьці сказаць, адкрыцца ў чымсьці. Ды адно пакруціла галавою:

— Не... Калі-небудзь... Не цяпер. Лепш пойдзем, куды сабраліся.— Зоіны шчокі палалі, яна ўстала: — А ты, Саша, не хочаш з намі?

— А бадай... Шчыра кажучы, я даўно ўжо ў музеі не быў. І тым больш з вамі — ідзём! — рашуча сказаў Саша.

## 10

Дні прабягалі адзін за адным, і кожны быў чымсьці адметны, кожны прыносіў новае ўражанне, новае хваляванне, радасць, клопат. У гэтым віры Галіных пачуццяў і думак асабліва месца што далей, то ўсё больш займала Рая Зубіч. Неяк яшчэ ў Загор'і Рая сказала Галі, што яна жадае, каб на яе ніхто не звяртаў увагі. Здзівіўшыся, Галя падумала, што з часам Рая пераменіцца: здараецца, што камусьці цяжка даецца новае сяброўства. Але і ва ўніверсітэце, калі пачаліся заняткі, Рая старанілася ўсіх. Яна дамаглася свайго: яе амаль перасталі заўважаць. Часам спрабаваў загаварыць з Раяй Казанец. У групе заўважылі, што Казанец неабыякавы да яе, нехта спачуваў яму, нехта асуджаў: хіба няма цікавейшых дзяўчат? Галя спачувала Казанцу. Ды яшчэ больш самой Раі: што там за жыццё ў яе, калі не хоча ведаць людзей, няхай звычайных, са сваімі дзівацтвамі, ды добрых, чулых, адкрытых?

Яна шукала выпадку пагаварыць з Раяй. І ў той дзень, калі Рая дэманстратыўна адмовілася ісці з групай на спектакль па трагедыі Шэкспіра «Кароль Лір», Галя падышла да яе:

— Ты можаш, Рая, пачакаць мяне?

— Магу. А што?

Падкрэсленая гатоўнасць выслухаць... Галя зноў загаварыла тады, калі вакол нікога не было — яны выйшлі з корпуса апошнія.

— Зрэшты, не ў тым справа, Рая, што ты не хочаш ісці ў тэатр. Можа ты ўжо была на гэтым спектаклі...

— Пакуль не. Але пастараюся паглядзець.

— Толькі не з намі? Чаму?

Рая пазірала на вострыя наскі сваіх туфляў. Адказала:

— Я ўмею сама дбаць пра сябе. Дзіўлюся я з цябе... Навошта гэта ўсё?

— Я інакш, Рая, не магу.

— Лічыш, не кожны сам пра сябе здольны паклапаціцца? Кожны, не сумнявайся.

— Напэўна, так. Але ёсць пэўны сэнс у слове «разам»... Я не разумею, Рая, чаму ён табе далёкі.

Рая маўчала. Яны ішлі па алейцы, і Галя запаволіла крок, каб ніхто не перашкодзіў іхняй гутарцы. Скоса паглядвала на Раю. Знешне нічым не адрознівалася Рая Зубіч ад усіх іншых дзяўчат-студэнтак. Светла-карычневае паліто, чырвоны вязаны берэт, прыгожая сумка для канспектаў і кніг у руцэ... Твар — прывабны, крыху хударлявы, з лёгкім загарам. І толькі шэрыя вочы, калі ўважліва зірнуць у іх, таілі сум.

— Гэта слова... «разам»...— загаварыла Рая,— азначае сяброўства. Хоць нейкае. Тое, чаго я не шукаю. Не хачу шукаць.

— У цябе, значыць, хапае сяброў і па-за групай?

— Зусім не. І мне ніхто не патрэбны.

Галя сумелася.

— Цяжка паверыць.... Ды, напэўна, бывае і так. Але жыць сярод людзей без людзей...

— Я жыву, як хачу. І ты... не турбуйся пра мяне.

Раін голас прагучаў нечакана мякка. Але было відаць, што яна больш не хоча гаварыць пра сябе. Яны выйшлі на плошчу і развіталіся.

«Што ў яе здарылася?» — не азіраючыся на Раю, думала Галя. І згадала, што ніхто не ведае, дзе жыве яна, у якой сям'і.

Здавалася, нічога не змяніла гэтая гутарка. Але Галя неўзабаве заўважыла, што Рая па-свойму хінецца да яе. Часам сядзе побач, папросіць нейкі падручнік, нешта спытае.

Аднойчы Галя з Алегам сустрэлі Раю ў кніжным магазіне. Доўга хадзілі ад паліц да паліц і выйшлі з магазіна разам.

Рая ніколькі не здзівілася, убачыўшы, што Галя купіла тую ж кнігу, што і яна — «Кароткую гісторыю мастацтваў», а зірнуўшы на Алегаў набытак, сказала:

— Фантастыка... У мяне гэта пройдзены этап.

— Чаму? — здзівілася Галя.

— А вы яшчэ доўга будзеце такое чытаць? — замест адказу звярнулася Рая да Алега.

— Усё жыццё,— сказаў Алег.— А чым гэта вам фантастыка не падабаецца?

— Людзі ў ёй нецікавыя.

— Як каму... Ну, дапусцім. Але фантастыка не толькі людзьмі цікавая.

— А мне — толькі людзьмі. Калі я бачу навокал такіх, якімі запоўнена фантастыка, то навошта яе чытаць? — з саркастычнай усмешкай вымавіла Рая.— Фантазёры... Нагародзяць джунглі тэрмінаў, распішуць узровень навукі, тэхнікі, а чалавек застаецца шэры...

— Нішто сабе адносіны да сучаснікаў,— усміхнуўся і Алег.—Чым яны дрэнныя?

Алег пазіраў на людзей адкрыта, добразычліва, нібы кожны быў яму сябрам. У Раіных вачах таілася іншае, штосьці ад нявыказанай крыўды... Ды Галя маўчала, ні пра што не стала пытаць, ёй цікава было слухаць і Алега, і Раю.

— Вам усе падабаюцца? — зіркнула Рая на Алега.

— Многа такіх,— адразу адказаў ён.

— Нават так? Вы, мусіць, па натуры аптыміст?

— А вы, заўважаю, скептык,— адпарыраваў Алег.

— Магчыма. Але калі вы здольны расчароўвацца, то ў вас яшчэ ўсё наперадзе.

— А вы паспелі расчаравацца ва ўсіх і ва ўсім? Навошта тады жыць?

Рая раптам спахмурнела і, сказаўшы, што ёй яшчэ трэба ў бібліятэку, развіталася.

— Пакрыўдзіў ты яе,— дакарала Галя Алега.— Такія словы лепш не гаварыць, калі бачыш, што і без таго нявесела...

— Ну, а чаму? Быццам нармальны чалавек... Каб ужо старэйшая за нас была... А ўвогуле, мне яе крыху шкада...

Назаўтра перад пачаткам заняткаў Галя падышла да Раі:

— Ты не зважай на тыя Алегавы словы... Ён да цябе лепш адносіцца.

— Яшчэ адзін усёдаравальнік... твой Алег,— усміхнулася Рая.— Пабачым, што ён пазней скажа...

«Нешта яна тоіць, а што?»

## 11

З Зояй адбывалася штосьці незвычайнае. У яе канспектах, спісаных разборлівым прыгожым почыркам, на палях, між радкоў над формулай ці над схемай выразна выведзена адно і тое ж імя: Саша. Зоя вычэрчвала гэтыя чатыры літары на лекцыі, на практычных ці седзячы над канспектам за сваім дамашнім сталом. І калі ў аўдыторыі яна не спрабавала заводзіць з Галяй гутарку пра Сашу, то дома не стрымлівала сябе.

— Галка, паслухай... А чаму Саша прывітанні перадае? Лена ж не прыдумляе іх!

— Чаму? Не ведаю... Але прывітанні перадаюць тым, хто падабаецца.

— Хто падабаецца... А як ты лічыш, ён проста так прыязджаў да нас?...

— Ён жа абяцаў... І, мусіць, яму пабыць з табой цікава.

— А можа нічога такога і няма,— са скрухай, як бы адной сабе гаварыла Зоя.

— А можа нешта такое і ёсць,— весела пярэчыла Галя. І задумвалася сама.

Усё так і было. Даволі часта Лена перадавала ад Сашы прывітанні. А ў мінулую суботу Саша прыкаціў на сваёй «Яве» ў парк, куды першакурснікі геафака з'язджаліся пасля заняткаў на крос. Саша прывёз Лену і разам з ёй падышоў да іх, Зоі і Галі. Ён жартаваў, гаварыў, што з задавальненнем сам бы прабег з імі па кальцавой алеі парку, але ён, безумоўна, адстаў бы. Зоя бянтэжылася спачатку: трэба ж, Саша бачыў яе ў спартыўнай форме. Але яна ўмела на дзіва хутка ўпраўляцца са сваёй збянтэжанасцю, ужо праз якую хвіліну яна заявіла, што калі будзе бегчы, то прыбяжыць першая. Яна не прыбегла першай, але іх, Галю і Лену, апярэдзіла і потым нібы супакойвала тым, што ў яе былі ж трэніроўкі... Пасля кросу Саша памчаў з ёю за горад, адкуль вярнуліся яны гадзіны праз дзве. Вярнуліся абое радасна-узбуджаныя, расчырванелыя ад ветру. І цяпер штодзень успамінае Зоя тую гадзіну, калі была з Сашам адна, пераказвае ці не кожнае яго слова.

Саша, аказваецца, любіць і парыбаліць, і на паляванне пайсці, і заначаваць у мароз пад адкрытым небам. Ён многа чаго расказваў Зоі пра сваё дзяцінства, пра службу ў арміі на Поўначы. І яму вельмі спадабалася назва Зоінай вёскі — Чарніцы, паўтарыў сабе колькі разоў...

Перамянілася Зоя, неяк пацішэла, заўважыла гэта і бабка Марыля. Зоя таіла ад яе свае думкі, але аднойчы спытала:

— Бабка, а калі табе сніцца адзін і той жа чалавек — гэта нешта значыць?

— Няхай сніцца, калі харошы чалавек.— Бабка ўсміхнулася: — Сніліся некалі і мне. Сніліся, Зоечка.

— А памятаеце вы той час... калі вам было столькі гадоў, як нам цяпер? — спытала Галя.

— Як жа, усё памятаю.

Бабка ажывілася:

— Было мне, дзяўчаткі, столькі, як вам, даўно. На хлопцаў нашай сям'і не пашчасціла, а я старэйшая з дзяўчат, то за мужчыну пры бацьку была. І арала, і касіла, і жала, бацька сані робіць, і я пры ім, нешта асільваю ці патрымаю. А пагуляць хацелася, во як вам цяпер. Ды калі? Бывала, збярэмся зімой на вячоркі, а рукі не кінеш на калені, прадзеш. Вядома і весела было. Самі ўсе маладзенькія, кавалеры прыходзілі.

— А якія яны былі? — спытала Зоя.

— Хлопцы заўсёды хлопцы. Умелі жарты строіць. То чый шнур схаваюць, то кудзелю, то дзяўчыну непрыкметна да лаўкі прывяжуць, яна падымаецца — а ні з месца, тут і рогат. А мы з іх умелі пасмяяцца, як давядзём каторага, дык з хаты выскачыць.

— І ўсё? — з надзеяй на нешта цікавейшае спытала Зоя.

— Чаму ж... З вячорак кожную нехта праводзіў. І мяне... Аляксеем яго звалі. З незаможнай сям'і, як сама я. Заўсёды калаўрот возьме ў рукі, а то і прасніцу, ідзем, размаўляем, ды і ля брамы пастаім, пакуль мароз не развядзе.

— А вы хіба... не цалаваліся?

Зоіна пытанне развесяліла і Галю, і бабку.

— Чаму не,— адказала бабка. І дадала: — Але ўмелі мы сябе берагчы. І хлопцы нас паважалі.

— А дзе той Аляксей цяпер? — спытала Галя.

— А паехаў ён быў у горад. На рабфаку вучыўся. І пазней многа вучыўся. Прыязджаў калі дамоў, але не суджана было нам пажаніцца. Ён сабе пакахаў, я сабе... Сваё шчасце кожнаму. Ён вайскоўцам стаў,

даўно ўжо генерал, ад вайны самай, і цяпер, пэўна, шчасце яму лучыць. Няхай жа, а мне горшае выпала...

Бабка замоўкла, мо таму, што ўспомніла мужа, які партызаніў у часе вайны і загінуў.

— Усяго, дзяўчаткі, чалавеку ў жыцці выпадае. А ўжо як шчасце, то ў пару трэба ўгледзець і сам-насам яго не пакідаць... А ён як да цябе, Зойка... твой? Хто ён?

— Ой, які ён мой! — Зоя сумелася. Але расказала пра Сашу: з кім жыве, дзе працуе, вучыцца.

— Калі хінецца да цябе, то ўжо як тут казаць?— задуменна прамовіла бабка.— Твой...

— Не ведаю нічога, бабка. Каб жа ведаць, што гэта... і ў яго, і ў мяне.— Зоя ўздыхнула.

— Што я вам скажу... Вы яшчэ вельмі маладыя. Жыццё пакажа, як яно ёсць. От памятаю, як некалі я сама разгубілася. Павел угаворвае замуж за яго ісці, а на душы ў мяне ўсяго, не ведаю, што і рабіць. Дзядзька мой Аксень, добры такі чалавек, і пытае ў мяне: «А скажы, Марылька, у радасць было б табе вось зараз кашульку Паўлу намыць?» А вечар, а сама я стамілася, хоць упадзі, дзе стаіш... Уявіла, як мыю, ды тут і смяюся, нешта такое добрае на душы. «У радасць»,— кажу Аксеню. «Калі ў радасць, то гэта вялікае дзела. Ідзі за яго замуж, Марылька». А ён то, Павел, харошы быў хлопец, так скора і пайшла за яго... І Фросьцы Аксень нагадаў, была ў нас такая... У Фроські як быў спытаў гэтак, дык яна: «Вось яшчэ, буду я мыць! Возьме мяне, тады і памыю!» А пайшла, не кахаючы, то і не жыццё ў іх было.

— Ну вось, Зоечка, бачыш, як проста! — гарэзліва абняла Галя Зою.— Адказвай нам: памыла б Сашу кашульку?

— Памыла б,— нібы жартам, але і задумліва-летуценна сказала Зоя.— Ой, каб ведаў Саша, пра што мы гаворым! Ужо хоць замуж ідзі! О-ой!

— Ужо не ўжо, будзе відаць некалі. А ў наш час, скажу вам, такіх дзяўчат сама і бралі, каторым шаснаццаць-семнаццаць,— сказала бабка.

— Дзіўна ж я яшчэ горкае, хоць мне скора і васемнаццаць! — усклікнула Зоя.

— Па цяперашнім часе, ведама ж, не спяшаюцца. Тады ў сваты ішлі хто за жонкай, а хто за работніцай...

Бабка правяла сухімі сваімі далонямі па твары, устала:

— Пайду спаць. І вы хіба кладзіцеся.

Узяўшы вязанне, яна пайшла ў свой пакой.

— Галка, паслухай... А Саша такі, што за яго хоць сёння замуж ідзі. Праўда? Не, ты не падумай, што я пра сябе — ці мала каму?.. Вось нейкі ён вельмі самастойны, за ім ніхто не прападзе. Так, Галка?— Зоя зазірнула ёй у твар.

— Так, Зоя. Саша такі... Што, будзем спаць?

Яны распрануліся, ляглі ў ложак. Галя адчула, што нешта перамянілася ў яе думках. Яны пайшлі ў новым, нечаканым для яе кірунку.

Дождж не сціхаў — самотны, аднастайны. Здавалася, яму не будзе канца, і не бачыла Галя канца свайму роздуму. Ляжала, пазіраючы ў цемру, прарэджаную хісткім святлом далёкага ад вокан ліхтара.

Алег і Саша... Яна параўноўвала іх. Такое здаралася ўжо, што нехта з хлопцаў нагадваў ёй Алега, і думала тады адно: ён лепшы за іншых. Было прыемна, было радасна гэтак думаць. А цяпер яна адчула нейкую трывогу за Алега. Калі Сашу цяжка ў чымсьці пярэчыць, то Алегу часта хочацца падказаць: лепш вось так, а не гэтак... Чаму?



Можа ад пачуцця ўладнасці, якое, кажуць, прыходзіць разам з каханнем?

Не таму, не... Яна проста заўважала, што ў Алега няма ўпэўненасці, цвёрдасці. Ён стаяў нібы на камені, які вагаецца і невядома ў які бок вось-вось павернецца.

Гэта праўда: яна хацела, каб Алег быў крыху сталейшы, больш сур'ёзны. Як Саша... Але ж Саша на пяць гадоў старэйшы, ён служыў у арміі, ён працаваў да службы ў арміі і працуе цяпер. Ці можна таго патрабаваць ад Алега, што і ад Сашы? Мусіць, не...

Можа за хлівіну, можа за імгненне да таго, як яе агарнуў сон, Галя падумала: «Не крыўдзіся, Алежка... Я люблю цябе, толькі цябе, які б ты ні быў...»

## 12

У дэканат пайшла Зоя. Галя і Лена засталіся на калідоры. Зноў гадалі, чаму ўжо трэці дзень на занятках не было Раі Зубіч. «Вольнаму воля»,— успомніла Галя словы Клавы Раманчук. Клаву не турбавала, была Рая на занятках ці не была. Яна не жадала заўважаць Раю. Але не ўсім жа так ставіцца да Зубіч...

Выявілася, што ніхто ў групе не ведаў, дзе жыве Рая. Зоя і пайшла спытаць яе адрас. А паехаць да Раі Галя наважылася адна.

— Цагляная, сорак тры, дзевятнаццаць,— паўтарыла Галя за Зояй, калі тая выйшла з дэканата.— Запомню.

— А паедзем і мы з табой,— сказала Зоя.

— Не трэба, дзяўчаткі. Мы ўжо дамовіліся, ці не так?

— Прывітанне перадавай! — крыкнулі Зоя і Лена разам, калі Галя з аўтобуса махнула рукой: ідзіце, чаго мерзнеце?

Дзень быў халодны, ветраны. Шэрыя, цяжкія хмары хутка плылі над горадам, зрэдку між іх праглядвала сонца. Яно, сонца, ужо не грэла. Звонкая зямля чакала першага снегу.

Галя пазірала за акно. Вуліцы былі незнаёмыя. Вузкая, даўняй забудовы, змянілася шырокай, і мела гэта вуліца самы сучасны выгляд: высокімі паралелепіпедамі стаялі дамы, свежай фарбай ззялі на іх шчыты балконаў. Чыстая была вуліца, і сумам павявала ад гэтай чысціні. Вецер гнаў па асфальце ссохлае лісце, што насыпалася з маладых дрэў.

Галя выйшла з аўтобуса ў канцы вуліцы. Дзесьці блізка быў дом, у якім жыла Зубіч. Знайшла яго ў глыбіні прасторнага двара.

Перад дзвярыма захвалявалася. Ніхто з групы не быў у Раі. Як тут прымаюць няпрошаных гасцей? І ці хоць дома Рая?

Галя пазваніла. Узрадавалася, убачыўшы перад сабой яе. Рая была ў квяцістым халаціку, белы пуховы шалік закрываў шыю. Рая сапраўды хворая: твар бледны, шэрыя вочы яе пабольшалі.

— Да цябе можна?

— Вядома.— Рая пазірала даволі прыязна.— Што-небудзь здарылася?

— Я распрануся? Тры дні цябе не было на занятках — вось што, Раечка, здарылася.

— І гэта ўсіх заінтрыгавала? У мяне ангіна. І толькі.

— Табе ўжо лепш?

— Заўтра пайду на заняткі.

Міжволі Галя азірнула пакой, у якім жыла Рая. Побач з шыфаньерам стаяла кніжная шафа, далей, пры сцяне — ложак. Стол — бліжэй да акна. У кутках ад акна — трумо і тэлевізар.

Ложак быў разасланы. Мусіць, Рая ляжала ў ім, цяпер яна села на крэсла, прапанаваўшы ёй, Галі, канапу. І зноў — іронія ў голасе:

— Што, ніхто больш не пажадаў да мяне з візітам?

— Хацелі ехаць Зоя і Лена. А я... не ўзяла іх з сабой... Табе ад іх прывітанне.

— За прывітанне дзякуй. Я рада, што прыехала ты. І што адна...

— Мне даўно хацелася да цябе зайсці. А чаму адной?.. Ну таму, што адной!

— Я разумею,— задуменна вымавіла Рая.— Разумею... Табе цікава, што я такое... І, мусіць, ты шкадуеш мяне. Я гэта заўважала. Між іншым, ты таксама мяне зацікавіла.

— Вось і добра! Як проста стаць бліжэй адзін аднаму.

— Проста? Я аднойчы прачытала... Чым больш пазнаеш чалавека, тым выразней паўстае сцяна, што падзяляе цябе і яго. Гэта праўда.

— Якая між намі сцяна?

Рая маўчала. Потым неяк сумна сказала:

— Каму ведаць, як не мне.

Рая ўстала, падышла да акна. Пазірала кудысьці доўга, потым падалася на кухню і хутка вярнулася, трымаючы ў руках сподкі са шклянкай кавы і пірожным. Паставіла сподкі на стол.

— Галя, калі ласка... Не адмаўляйся.

— А ты?

— Я ж дома. Не звяртай увагі.

Рая зноў стала да акна. У тым, як яна запрасіла яе, Галю, да стала, чагосьці неставала, можа, належнай у такім выпадку цеплыні, абыходлівасці. Але Галя адчула, што так і трэба зрабіць: сесці і піць каву. Раю займала штосьці іншае, гэта было відаць па яе твары, на якім адбілася задуменнасць. Пра што думала яна?

— Я памятаю... Ты аднойчы расказвала ў Загор'і пра свой горад, школу, дом,— загаварыла Рая, пазіраючы ў акно.— У мяне ўсё не так... Усё не так, калі хочаш ведаць.

— Як жа?

Рая, пэўна, чакала і гэтага кароткага запытання. Яна загаварыла — спачатку як бы падбіраючы кожнае слова, а потым амаль не запыняючыся:

— Я памятаю бацьку. Бачыла яго апошні раз... дванаццаць гадоў назад. Ён ад нас пайшоў. Жыве недзе ў Сібіры... Не хацеў, каб мы ведалі, што ён ёсць на свеце, але... міліцыя знаходзіла. Гэта маці старалася, пакуль мне не было васемнаццаці. Цяпер з ім... кончана. Мы яму не патрэбныя. І мне ён — таксама. Шукаць яго не буду ніколі. Мы цяпер у гэтым пакоі двое, маці і я. А два гады назад тут быў яшчэ адзін чалавек. Новы матчын муж... Звер. Ён біў маці. Начавалі з ёю ў суседзяў не раз. Маці доўга цярпела. Якое глупства—цярпець такое... Нават тры дні. А то ж — тры гады. Нарэшце прагнала яго. Ты спытала, ці сябрую я з кім. Было штосьці падобнае ў дзесятым класе. Ён быў старэйшы на два гады. Быццам мілы, быццам прыстойны... Аднойчы сказаў, што будзе сябраваць са мною толькі пры адной умове... Можаш здагадацца. Вось як у мяне... А радасць ёсць таксама. Толькі яна не такая, як твая. У цябе ж яна ад людзей...

У Галі забалелі пальцы — так сціскала шклянку з кавай. Паставіўшы шклянку на сподак, яна ціха вымавіла:

— Табе не шанцавала на добрых людзей.

Рая глянула на яе, як на дзіця:

— А чаму мой лёс павінен складвацца ў залежнасці ад таго, пашанцуе мне на людзей ці не? Я не хачу такой залежнасці.— І цішэй дадала: — Мне шкада, што я нарадзілася цяпер. Я хацела б жыць у іншы час.

— Хіба быў на свеце час лепшы, чым цяпер? — вымавіла Галя.

— Я не пра мінулае... Будуць новыя стагоддзі. І людзі будуць не такія, як цяпер. Я іх вельмі добра ўяўляю. Сярод іх я не напаткала б ні бяздушша, ні хамства, ні дзікунства. Я проста не ведала б, што такое было.

— Але ж ты і цяпер не толькі такое бачыш.

— Вядома, ёсць людзі высакародныя, здольныя любіць іншых, гатовыя жыццё аддаць за іх шчасце. Усё гэта я ведаю. Але ведаю і тое, што не кожны скажа: «Людзі, я любіў вас». Мабыць, памятаеш, чые гэта словы.

— Фучыка. Няхай не кожны, але ж большасць так адносіцца да людзей! І, мусіць, гэта галоўнае ў жыцці, Рая! — ужо не мякка, а з запалам вымавіла Галя.

— Правільна. Галоўнае ў жыцці наогул. А я табе гавару пра сваё. Яно залежала... ведаеш, ад якіх людзей? Шукаць лепшых? Пазіраць у твар і думаць: пашанцавала мне на гэты раз ці не? Не хачу. Хачу толькі спакою. Каб мяне не чапалі... А радасць можна знайсці не толькі ў людзях. Дарэчы... не трэба мяне ўпрошваць ісці з групай ні ў кіно, ні ў тэатр. Я за культпаходы, але не для сябе. Магу адчуць нешта толькі тады, калі адна іду. У крайнім выпадку, з маці ці суседкай... Ёсць тут вельмі маўклівая. Яны мне не замінаюць.

— Рая, як жа быць? Хіба табе ўсё роўна, як да цябе адносіцца група? Ніхто нічога не ведае...

— І не павінен ведаць.

— Але чаму ты... шчырая са мной? Не разумею.

— Не прыйдзі ты, не была б я шчырая... А што пра мяне думаюць іншыя... Што ім хочацца, тое няхай і думаюць. Мне ўсё роўна.

— Ці так гэта, Рая?

— Можа, было б і не так... Але што ім да мяне? Кожны жыве сабой. Я гэта разумею, і таму нічыё жыццё мяне не цікавіць. Як і маё — нікога.

— Ну хоць бы тое, што я да цябе прыехала?..

— Ты не па абавязку прыехала. Я гэта адчуваю. Пра цябе я буду думаць. Але... твой візіт хіба не выключэнне з правіла?

Галя маўчала. Успомніла бацьку. І чамусьці за ім — адразу Сашу. І Зою, і Лену...

— Рая, мусіць, вельмі важна адрозніваць правілы ад выключэнняў. Ты ўпэўнена, што ўмееш?

Рая нічога не адказала. Толькі прыхінулася спіною да акна і пазірала на яе, Галю, уважліва, дапытліва.

Потым сказала:

— Прабач, я прылягу. Ноч амаль не спала.

— Кладзіся, вядома! А маці твая ці скора з работы? Яна дзе працуе?

— На хлебазаводзе. Скора будзе дома.

Рая правяла Галю да дзвярэй. Развіталіся. У апошні момант Рая сказала:

— Захочаш, прыязджай зноў калі-небудзь.

— Дзякуй, Рая.

«Як пераплялося ўсё,— думала Галя пад звыклы гул аўтобуса, што імкліва набіраў разгон.— Не хоча знаць людзей і шукае радаснага ў

створаным імі... Разумее, што ёсць людзі чэсныя, высакародныя — і не верыць нікому...

Што ж гэта? Лёс чалавека, усё яго стаўленне да жыцця залежыць ад адной ці дзвюх канкрэтных асоб? Хіба справядліва гэта? Хіба так павінна быць?..»

## 13

Ціха пасыпаўся на горад першы снег. Забялелі газоны, натапыранае галлё дрэў, толькі вуліца, дзе шумелі коламі машыны, распырскваючы макрэчу, і тратуар, па якім, як мурашкі на сваёй сцежцы, кіпелі людзі,— былі чорныя.

Алег убачыў белы рой за вокнамі аўдыторыі і не мог ўжо ўседзець, цягнула хутчэй апынуцца на вуліцы. Выйшаў з Юркам на праспект і радасна пазіраў на снег, што спакойна, няўхільна падаў долу. Бухматыя, але лёгкія былі сняжынкі. Успомніў ён, што мінулая зіма, апошняя школьная зіма, пачыналася з густога і мокрага снегу. Тады хадзіў ён з Галяй па вуліцы, па скверах свайго горада, ляпіў снежкі, кідаў іх то ўгору, то ў дрэва, то — не моцна збітай — па Галі... Галя цяпер недзе таксама радуецца, што ідзе першы снег. Паехаў бы да яе, але трэба ісці да Марата. Марат раніцой сказаў Юрку, каб пасля заняткаў завіталі да яго.

— Любіш? — вымавіў Алег, вачыма, тварам, паказваючы, што гаворыць ён пра першы снег.

Юрка, жмурачы вочы, пазіраў, як віліся, мільгалі ўгары сняжынкі.

— У маленстве зіму любіў,— адказаў ён.— Цяпер не тое... Зіма — не лета.

— Ноч не дзень! — падхапіў Алег.— Снег не трава!

І на тым змоўк, хоць гатовы быў жартаваць, каламбурыць, смяяцца. Невясёлае прыгадаў — выклік у дэканат.

...Намеснік дэкана памятаў яго. Тады, пасля ўступных экзаменаў, на субясědаванні, ён, Алег, не перахвальваў сябе, проста адказваў на пытанні. Так, займаўся музыкай, займаўся спортам, лыжнік-першаразраднік. Вядома, калі паступіць у інстытут, не забудзецца ні пра музыку, ні пра спорт... Усё гэта намеснік дэкана адзначыў у блакноце. І вось цяпер праз сілу, але пазіраў ён, Алег, у вочы дэкану. Разглядаў спакваля і трэнера з лыжнай секцыі.

«Як можна, маючы першы разрад, спыніцца, пакінуць трэніроўку? У вашым узросце? — Трэнер размахваў рукой, у голасе прабівалася абурэнне.— Першы разрад — гэта ўжо талент! Гэта велізарныя магчымасці. Так, працаваць трэба многа, безумоўна. А хіба гэта не мэта — пераступаць, здавалася б, праз немагчымае, пераадольваць сябе, знаходзіць сябе? Гонар вам — і наш гонар, гонар інстытута. Падумайце пра гэта!..»

Алег сказаў, што вырашыў усур'ёз заняцца лыжамі на другім курсе. Сказаў рашуча, нічога не тлумачачы. Больш яго не ўгаворвалі...

...Падаў снег. Ціхі першы снег...

— А чаму не сказаў Марат, навошта мы яму?— загаварыў Алег, каб неяк перабіць невясёлыя думкі.

— Не было калі гаварыць... Спазняўся я сёння. І так... ледзь паспеў на лекцыю,— усміхнуўся Юрка.— Заўсёды... адно знойдзеш, другое страціш...

Ну, пра спатканне з Маяй Юрка ўжо гаварыў — позна вярнуўся дамоў, таму і недаспаў.

— Слухай... А чаму Марат жыве адзін?



— Яго маці выйшла замуж за інжынера, што жыў у гэтай кватэры. Інжынер перабраўся туды, да маці, а Марат — сюды. Яму, аднаму, яшчэ і лепш...

— Чым?

— Ці мала чым?.. Яму можна пазайздросціць,— уздыхнуў Юрка.

Алег зразумеў Юрку. Але яго займала іншае... Калі і пазайздросціць Марату — то хіба яго музычным здольнасцям. Закончыў музычнае вучылішча па кларнеце, а выдатна іграе і на саксафоне, і на гітары, і нават на акардэоне... Тыдні два назад Юрка павёў Алега да Марата. Марат паслухаў яго ігру на акардэоне, пахваліў і потым ужо трымаўся з ім, нібы з даўнім знаёмым... Не, думаць пра Марата было прыемней, чымсьці пра размову ў дэканаце.

— Зайсці дамоў, ці што? — Юрка прыпыніўся ля свайго пад'езда. Зірнуў на вокны і махнуў рукой: — Потым...

Крыху далей на гэтым жа паверсе была кватэра Марата. З адкрытай у акне форткі ліліся чыстыя, лёгкія гукі кларнета.

— Маэстра музіцыруе,— сказаў Юрка.

Алег заслухаўся. Мелодыя была незнаёмая. Юрка нецярпліва штурхнуў яго ў плячо:

— Зойдзем?..

Марат узрадаваўся ім. З густой чорнай шавялюрай, у белай кашулі, у адпрасаваных штанах, высокі і плячысты, ён сапраўды нагадваў нейкага кінагероя. Ён трымаў кларнет у руцэ, з твару яшчэ не сышла лёгкая чырвань — відаць, іграў доўга.

— Сядайце, хлопцы... Не-не, Алег, вы мне не перашкодзілі. Я вас чакаў. І магу адразу сказаць, што маю табе, Алег, нешта сказаць. Ды з гэтым паспеем... Паверыце, сёння яшчэ макавай расінкі ў роце не было.

— Маэстра, не шкодзіла б трохі схуднець,— сказаў Юрка.

— Ну-ну, сам хачу,— згадзіўся Марат і, паклаўшы кларнет у футарал, падаўся на кухню.

Адчуванне, якое ахапіла Алега ў кватэры Марата, было—поўная заспакоенасць, як не ціхамірнасць. Усё яму тут імпанавала. І цішыня, і пакой, і сам Марат з яго шчырай дружалюбнасцю. І снег за шырокім акном...

Марат упраўіўся хутка: паставіў на стол бутэльку віна, халодную закуску.

— Для апетыту, таварышы... Бяда — не магу есці дома. Адвык за тры гады. Каб я ды ўзяўся нешта гарачае гатаваць? На такі подзвіг я не здольны,— смяяўся Марат.

— Жаніся,— сказаў Юрка.

— Паступлю ў кансерваторыю — адразу,— ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказаў Марат.

Гэта была цікавая навіна. Алег спытаў:

— А чаму ты не паступіў у кансерваторыю раней?

— Чаму? Не ставіў такой мэты. Ад несур'ёзнасці, вядома. А цяпер... трэба! Чую, як кажуць, сілу сваю. Кірую аркестрамі, але якімі? Упэўнены, здолею і такім кіраваць, якія рэкламавалі б не наведвальнікі рэстарана, а нешта больш важкае... Тэлебачанне, радыё. І тут без вышэйшай адукацыі—забудзь думаць! Вось і рыхтуюся да бою. Кларнет мяне не падвядзе, палохае экзамен па гармоніі. Ды як-небудзь... Гэта наперадзе. А на парадку дня клопат такі. Хачу прасіць цябе, Алег, каб выручыў нас. Патрэбны аркестру акардэаніст.

Алег разгублена заміргаў. Іграць у рэстаране? Ён не мог уявіць сябе на рэстараннай эстрадзе.

— Не ў рэстаране. «Камета» засталася без акардэаніста,— удакладніў Марат.— Правялі ў армію Манкевіча, а замены яму няма. Добра іграў, але і ты зможаш не горш. Як, Алег?

Алег задумаўся. Ён ведаў, што Марат, акрамя аркестра ў рэстаране, кіраваў эстрадным пры доме культуры цагельнага завода. Марат расказваў пра хлопцаў — сыграліся здорава. Новаму далучыцца да іх — трэба папрацаваць. І часу патраціць... Але ж просіць Марат. І ўвогуле, гэта штосьці цікавае — хлопцы ўсе гарадскія, Юркавы прыяцелі.

— Магу. У мяне, праўда, рэпетыцыі ў інстытуце...

— Часта? — спытаў Марат.

— Два разы на тыдзень, а то і раз. Акампаніруючаю салісту... Ну, час знойдзецца.

— Выдатна! Наш рэпертуар табе ўвесь, бадай, знаёмы. Танцы ўсё... Танальнасці лёгкія, сыграешся з хлопцамі ўмомант.

Марат сабраў талеркі, занёс на кухню, вярнуўся, дастаў з палічкі пры сцяне ноты, паклаў на стол перад Алегам.

— Вось для акардэона. Вазьмі, прайграеш, у сераду паедзем да хлопцаў. «Камету» ўсе знаюць, ад запрашэнняў не адбіцца. Разумею, што скора ў цябе сесія, але колькі зможаш — столькі пайграеш. Дарэчы, у цябе як з грашыма? Стыпендыя і, мусіць, з дому падкідаюць?

— Як табе сказаць...

— Ну, некалькі дзесятак не будуць лішнімі,— зазначыў Марат.

— Лішнія грошы — зусім не лішнія,— усміхнуўся Юрка.

— Не важна... Я не за грошы.

— Разумею. Ты, Алег...— Марат дагаварыў позіркам: «Малайчына». І дадаў: — Але ж гэта работа, а за работу плоцяць.

— Шкада, мне слон на вуха наступіў, а то іграў бы і я... І не вывадзіліся б гэтыя... тугрыкі,— уздыхнуў Юрка.

«Галоўнае—сама музыка. Тое, што ты здольны чуць яе і перадаваць іншым. Толькі дзеля грошай я не стаў бы ёю займацца»,— падумаў Алег.

Ён зноў пярэчыў Юрку. Пярэчыў моўчкі... Прыкра, ды яшчэ больш прыкра было б пачуць, каб Юрка вінаваціў яго ў наіўнасці. Але... тут не адзін Юрка, тут і Марат. Гэта цікава — што сказаў бы Марат?

І ён вымавіў услых тое, што падумаў.

— Вядома, спачатку музыка! — Марат узяў цыгарэту, якую прапанаваў яму Юрка, але сам не закурыў, круціў цыгарэту ў пальцах.— У тры-чатыры гады што я мог ведаць пра матэрыяльную зацікаўленасць? Я быў у палоне гукаў! — Марат усміхнуўся.— А недзе ў дванаццаць-трынаццаць год я ўжо ўсур'ёз думаў, што буду музыкантам і толькі ім... І яно так — пажыццёва! Ну, працую, то і зарабляю. У прафесіянала, Алег, інакш быць не можа.

— Гэта іншая справа — у прафесіянала,— згадзіўся Алег.

Юрка маўчаў.

— Жыць трэба...— Марат дастаў з кішэні запальнічку, закурыў.— Потым, у маім узросце выдаткі самыя разнастайныя. На адных жанчын колькі... У цябе, Алег, такіх яшчэ няма?

Круты паварот у размове збянтэжыў Алега. Ён адразу б знайшоў што сказаць, каб такое пытанне кінуў яму нехта іншы, хаця б Раналь Стук... А Марат спытаў паўжартам і, безумоўна, паважаючы яго, Алега... Азваўся Юрка:

— Якія выдаткі ў адналюба? Прытым, Галечка яго такая...

— Якая? — Алег рэзка павярнуўся да Юркі.

— Не заводзься, я нічога дрэннага не падумаў... Каб ясней табе было... Хаця б не такая яна, твая Галя, як мае знаёмыя...



— Якая ёсць,— сказаў Алег.

— Ну, у кожнага на ўсё свой час,— прагаварыў Марат і зірнуў на гадзіннік.

— Прабач, Алег, я нікуды не спяшаюся,— Марат паказаў рукою на крэсла.— Пасядзіце.

Ды ён ужо не сеў. Юрку таксама пацягнула дамоў. На дварэ ён адразу спытаў у Юркі пра тое, што яго непакоіла і пра што не змог чамусьці гаварыць з Маратам:

— Ты чуў? Марат сказаў: «У кожнага на ўсё свой час». Ён, значыць, лічыць, што і ў мяне ўсё зменіцца?... Разумееш? Я пра сябе і Галю...

— Значыць, лічыць... Вопыт жыцця. Што-што, а гэта ён ведае — жыццё. Ды я і сам так лічу...

— Давай, давай,— паблажліва кінуў Алег.

Яны развіталіся. Падаў снег, Алег бачыў яго і не бачыў... «Што там лічыць Юрка, яшчэ не так важна, думаў ён, а Марат — чалавек, які ўжо далёкі ад усялякіх сумненняў... Няўжо і яму, Алегу, суджана трапіць пад той агульны паказчык, які адкрыўся Марату? Няўжо?..»

## 14

Імкліва набягалі стрэчныя машыны, мільгалі ліхтары, адплывалі назад адзін за адным гмахі-дамы, раўнамерна шчоўкаў лічыльнік, нягучна лілася з прыёмніка музыка — «Волга» хутка імчала па праспекце. Алег сядзеў побач з шафёрам, пазіраў наперад, час ад часу зіркаў на Марата, які ўсміхаўся яму. Настрой у Алега быў прыўзняты. Ехаць на таксі па праспекце — што ў гэтым асаблівага? Нічога незвычайнага, калі б не ўспомніў лета. Тады ён не ведаў, тады толькі ўяўляў, як будзе жыць. У тых уяўленнях-марах было і такое: вялікі горад, прыгожыя вуліцы, безліч машын, і ў адной з іх ён, Алег, з Галяй ці з новымі сябрамі, і спяшаюцца яны туды, дзе будзе весела, хораша, слаўна... Гэты дзень — з тых яго мар. Вось плошча з велічным помнікам, справа па-над дамамі — ажурныя пераплёты тэлевізійнай вышкі. І зноў роўная шырыня праспекта, мост над ракой і воддаль незвычайны, непадобны на ўсе іншыя будынак Опернага тэатра — гэта ява, як і тое, што ёсць у яго новы добры сябар Марат Шараў. Едуць яны да цікавых хлопцаў, цікавых ужо тым, што тыя хлопцы таксама музыканты. А значыць, сяброў у яго, Алега, прыбавіцца. Ён наогул хацеў бы мець многа знаёмых у гэтым горадзе — няхай урэшце знікне адчуванне, што ён тут навічок, госць.

За праспектам панесліся насустрач новыя вуліцы, і на адной з іх, каля двухпавярховага, пафарбаванага ў ружовае, дома Марат папрасіў шафёра спыніцца.

— Там чакаюць хлопцы. Даў каманду ўчора, каб сабраліся,— сказаў Марат, адчыняючы перад Алегам высокія дзверы. І потым тлумачыў:— Вось тут,— абвёў рукой вузкае і доўгае фае з піяніна ў кутку,— у нас танцуюць, там,— паказаў на сцяну з плакатамі і шырокімі дзвярыма,— глядзельная зала, а наверсе ўсё астатняе. Бібліятэка, кабінеты і наша прыстанішча...

Яны падняліся на другі паверх. У даволі вялікім пакоі, на два акны, Алег і ўбачыў хлопцаў. Іх было трое. Першы падхапіўся з крэсла і пацісну Алегу руку: Міша Ананіч, знаёмы яму па стрэчах у Юркі.

— Я што казаў? — выгукнуў Міша.— Не згубіць марку наша «Камета»!

Гэты круглагаловы, ружовашчокі, рухавы хлапчына быў заўсёды вясёлы.

— Альберт,— падступіўшы за Мішам, прадставіўся светлавалосы, высокі, з прыемнай усмешкай хлопец.

— Стась,— хрыплаватым голасам назваў сябе трэці, шчуплы, цёмнавалосы, як Міша, з адкрытай, праставатай цікаўнасцю ў позірку.

Ніхто з гэтых хлопцаў не зірнуў на Алега, як на «чужака», які яшчэ не вядома на што здольны, і ён крыху захваляваўся. Марат абнадзеіў іх, не расчараваць бы... Пасля гутаркі з хлопцамі Марат папрасіў пачынаць. Міша схапіў са стала акардэон, паднёс Алегу:

— Прашу! Туга, пяшчота і агонь пад кожным клавішам.

Алег прабег пальцамі па клавішах, паслухаў басы. Тым часам Міша і Альберт пабралі гітары, Стась з палачкамі ў руках стаў за ўдарныя.

Усё, што яны меліся іграць, Міша, Альберт і Стась прайгралі ўжо безліч разоў, ім не патрэбна было зазіраць у ноты, ён жа, Алег, абысціся без нот пакуль не мог. Марат паставіў перад ім пюпітр, а сам адышоў да другога акна, сеў там, гатовы слухаць.

Музыка запоўніла пакой. Час ад часу Марат падымаў руку: стоп, заўвага! «Тут, Алег, трэба піана... Зваж на паўзу — восьмая... фортэ, фортэ, Алег, сола тваё».

Нарэшце прайгралі ўвесь рэпертуар.

— Добра, Алег, добра,— пахваліў Марат.— Памылак мала і нязначныя, а тэхніка ў цябе зайздросная.— Ён крутнуўся, шукаючы сваё паліто.— Мне, хлопцы, пара... А вы тут паўтарыце што-небудзь без мяне...

Марат развітаўся з хлопцамі, паклікаў Алега на хвілінку за сабой і ў калідоры сунуў у кішэню яго пінжака пяць рублёў.

— Гэта на таксі. Тут яны ходзяць, лаві і гані, куды трэба.

Збянтэжаны, Алег памкнуўся вярнуць Марату грошы, але той перахапіў яго руку, паціснуў і памчаўся ўніз.

Хлопцы не спяшаліся зноў брацца за інструменты. Курылі, жартавалі — пакеплівалі адзін з аднаго. Потым зноў, з кароткімі перапынкамі, прайгралі некалькі вальсаў, факстротаў, шэйкаў. Алег адчуваў, што іграў ужо лепш, як першы раз, пад кантролем Марата. Марат рабіў заўвагі дарэчы, але яго ўвага і скоўвала.

Выйшлі на вуліцу ўсім гуртам. Аказалася, толькі Мішу было ў адну дарогу з Алегам. Альберт і Стась жылі тут, паблізу ад дома культуры.

Дайшлі да скрыжавання, развіталіся, і Стась павярнуў у адзін бок, Альберт — у другі, а яны, Алег і Міша, рушылі далей па вуліцы.

Сцямнела, машыны свяцілі воддаль запаленымі фарамі. Пранеслася запоўненая пасажырамі «Волга» — таксі, і Алег успомніў пра грошы. Падумаў, што абавязкова іх верне Марату — незалежна ад таго, на таксі ці не на таксі давядзецца ехаць. Было прыемна ісці гэтай незнаёмай раней вуліцай, дыхаць прахалодай, слухаць Мішу. Не моцным тэнарком Міша напяваў:

Дочь родилась у шарманщика старого Карла...

Перастаўшы спяваць, Міша загаварыў:

— Выручыў ты нас, Алег. Ды і табе пашанцавала.

— Чым?

— Набіваліся розныя ў нашу «Камету». Марат не дапусціў іх. Цябе выбраў. Ну, куды ім — па слыху іграюць. Не той клас! А мы марку трымаем. Скора адчуеш, якая нам цана!

— Мне Марат гаварыў... Але я, Міша, не таму... І часта іграць не змагу. Скора залікі, сесія. Першая сесія.

— Была яна і ў мяне,— уздыхнуў Міша.— Юрка змог, а я на матэматыцы — з капытоў... Ды ён больш рыхтаваўся.

— А табе што замінала?

— Іграў. Усё лета... Ледзь не кожны вечар.

— Сам, значыць, вінаваты.

— Сам,— згадзіўся Міша.— Але дзе ўседзець над тымі задачкамі! Сядзіш над імі — пакутнік, а з гітарай у касцюмчыку выйдзеш на эстраду — і ты кароль! Ну, так і ў фотаатэлье апынуўся, у лабарантах. Хімічу там...

— А дзе Альберт і Стась працуюць?

— Стась працуе. Матарыстам на цагельным заводзе. А Альберт цяпер паміж небам і зямлёй. У стане бязважкасці Альберт! Працаваў ён. Таксама на цагельным. Бацька яго за сабой пацягнуў. Два месяцы пахадзіў Альберт на завод, і — «адзьюо». Не хоча... Недзе знойдзе работу, а пакуль усім кажа, што на кінастудыі працуе. Так што, Алег, дзе сярод люду не прагаварыся! — параіў Міша. І гаварыў далей:— Але падумай, якія яны, таты і мамы... Продкі. Спачатку стараюцца даць сынку музычную адукацыю, а потым — на завод, да цэглы. Абсалютная нелагічнасць!

— Не зусім, Міша...

— Не зусім? У сэнсе, адно другому не можа перашкаджаць? Раздражнілі чалавека музыкай, няхай тое і ядуць.

— Альберт скончыў музычную школу?

— Скончыў. А далей вучыцца па музыцы не захацеў. Не хоча — і ўсё. Яго сапраўды цягне на кінастудыю.

— Характар у Альберта...

— Які тата і маці запраграмавалі! Ды між намі поўная «псіхалагічная сумяшчальнасць». У космас адпраўляй хоць на год—не паб'емся!

— І са Стасем поўная «сумяшчальнасць»? — спытаў Алег.— Мне было шкада, калі вы кпілі з яго.

— Не шкадуй. Стась у нас не добры. Самы спакойны... Цялё крыху, а за ўдарныя стане — мала такіх. У яго рытмы дзень і ноч у галаве. Талент! Яго ад нас хацелі перацягнуць у іншыя аркестры — не пайшоў! А за намі — хоць на край свету. Ну, мы кпім, але шкадуем яго. У яго маці хворая, памагае.

— Трэба! — ціха, нібы сам сабе, сказаў Алег. Ён убачыў на другім баку вуліцы купку людзей, здагадаўся, што там аўтобусны прыпынак.— Марат гаварыў, тут таксі часта ходзяць, а нешта не відаць. Паедзем хіба, Міша?

Селі ў аўтобусе на задняе, нікім не занятае сядзенне і пад гул матора гаварылі зноў:

— А можа, Алег, не спяшайся ў інтэрнат? Зойдзем да мяне, падмацуемся і шурнём да дзяўчат,— прапанаваў Міша.

— Да якіх гэта?

— Мільён знаёмых! Вясёлыя дзевачкі, не пашкадуеш.

— А ў цябе ёсць... адна?

— Не, такога палону я не хачу!

— Хіба гэта палон?

— Ведаю! Прыстане які да адной—і ўсё, свет клінам сышоўся. Па-

сварацца — ходзіць як цень. Скажаш яму што, а да яго, як да жырафы, на трэція суткі даходзіць. Столькі перажыванняў раптам на мяне, слабенькага? — жартаваў Міша.— Лепш інакш... Сёння адну паабдымаў, заўтра другую... І не схуднееш!

— Не тое... Закахацца б табе трэба,— зірнуў Алег у чорныя Мішавы вочы.

— Было б яно, каханне! А калі і ёсць, то не хачу я такога якара. Хіба пад старасць... А пакуль чаго губляцца?

— Цынік ты, Міша.

— Я цынік-лірык! — з ахвотай удакладніў Міша.— Заўважаю толькі прыгожых. Дык хочаш, пагуляем? Вечар дарма не прападзе.

— Не, Міша. І ведаеш...— Алег нечакана для сябе замоўк, не сказаў услых: «У мяне ёсць Галя». Ён думаў пра яе, але гаварыць з Мішам не хацеў.— Не магу, адным словам.

Выходзячы на праспекце з аўтобуса, Міша кіўнуў галавой — клікаў ісці з ім...

Стаіўшыся на заднім сядзенні, Алег думаў пра сённяшні вечар, пра Мішу, Альберта, Стася.

Вось і адбылася сустрэча з «Каметай». Поўнай «псіхалагічнай сумяшчальнасці», як гаварыў Міша, відаць, з імі ў яго не будзе. Крыху іншымі ўяўляліся яны... Спадзяваўся знайсці ў іх тое, што заўважаў у многіх студэнтаў політэхнічнага. Зрэшты, можа і яны хлопцы не благія — ставяцца да цябе адкрыта, дружалюбна, і гэта нямала...

## 15

Зоіны спадзяванні прыкметна спраўджваліся. Саша, у якога было шмат сяброў, шмат знаёмых дзяўчат, пры кожнай магчымасці спяшаўся не куды-небудзь, а да яе, Зоі. Калі раней яна ледзь не кожную суботу ехала ў свае Чарніцы, то цяпер пісала дамоў лісты. Час вымяраўся сустрэчамі з Сашам. Пяць дзён тыдня ад панядзелка да пятніцы былі ёй невыносна доўгімі днямі. У сераду, калі ў Сашы не было заняткаў у інстытуце, яна знарок не заходзіла да Лены, як бы тая ні запрашала — ведала, што Сашу пры ёй будзе не да падручнікаў. Затое ў суботу і нядзелю... Ад самае раніцы Зоя смяялася, жартавала, была непаседлівая, як дзіця.

Галя радавалася за Зою. А самой было нявесела. Спачатку толькі ад крыўды — невялікай, ды зусім не жаданай. Яна сама чакала суботы, як свята. Загадзя планавала, куды пойдзе з Алегам — на канцэрт, у тэатр, на танцы... Вось калі можна не лічыць хвілін, не трэба думаць, што заўтра заняткі і рана прыйдзецца ўставаць — ён вельмі асаблівы, суботні вечар. Але ўжо каторы раз Алег папярэджваў, што не зможа быць з ёю: абяцаў хлопцам іграць. І, адчуваючы яе настрой, гаварыў, што ні з кім яму не лепш, як з ёй, ды так вось выйшла... Яна слухала, разумела, што слова сваё ён павінен стрымаць і... міжволі раўнавала яго да тых хлопцаў.

Неяк Алег прыйшоў з акардэонам. Быў ён крыху ўзрушаны. Сказаў:

— Магу даць сольны канцэрт. Слухаць будзеце?

Галя зразумела, што перш за ўсё ён хоча парадаваць яе. Ды звяртаўся Алег таксама і да бабкі Марылі, і да Зоі, і бабка адразу адклала нейкі занятак на кухні, а Зоя з ахвотай адарвалася ад чарцяжа.

— Сцэна будзе тут,— паставіла Зоя крэсла сярод пакоя,— а партэр — там! — І села каля бабкі і Галі на тахту.

На Алега як штосьці надышло: іграў ён так, што Галя міжволі



стойвала дыханне, нібы баючыся парушыць чыстую, бясконцую суладнасць гукаў. У гэтыя хвіліны Алег здаваўся чараўніком, што ведае таямніцу кожнага гука і знарок выбірае тыя, што працінаюць цябе салодкай тугой, прагай незвычайнага, нечакана-вострым адчуваннем закаханасці... Яна ўглядалася ў яго адкрыты, высокі лоб, негустыя, шырокія, крыху цямнейшыя за валасы бровы, шэрыя, з ледзь прыкметным зеленаватым адценнем вочы, усмешлівыя вусны — і чула ў сабе гонар за Алега перад Зояй, бабкай, перад усім белым светам.

— А не спяваеш, Алег? — спытала потым бабка.

Алег збянтэжыўся:

— Які з мяне спявак...

Галі раптам прыгадаўся далёкі летні вечар, калі яны блукалі з Алегам за горадам і нечакана для саміх сябе пачалі спяваць ад нейкай нестрыманай радасці. І яна ціха спытала ў яго:

— Алег, помніш «Ночку лугавую»?

Ён, вядома, не забыўся пра той вечар і згодна кіўнуў галавой. І Галя стала побач з ім — падзівіцеся, паслухайце, Зоя і бабка,— глянула ў вочы Алегу, і песня палілася:

Месяц спрятался за рощу,
Спят речные берега,
Хороши июньской ночью
Сенокосные луга...

Іх галасы то разлучаліся, то зліваліся ў адно: чысты, негусты — Галін, і мяккі, крыху прыглушаны — Алегаў. І песня была, песня кранула ўсіх — і слухачоў, і саміх выканаўцаў. Бабка расчулілася да слёз.

Пазней Алег міргнуў Галі, што хоча з ёю пагаварыць. Яна і рада была яшчэ пабыць з ім — выйшла правесці.

Загаварыў ён адразу, як толькі апынуліся за дзвярыма:

— Галя, час яшчэ ёсць. Ты хуценька збярыся і паедзем разам...

— Куды, Алег?

— Абяцай, што не адмовішся. Ну?— Ён абняў яе, пацалаваў.— Абяцаеш? Не бойся, там драпежнікаў не будзе.

— А хто?

— Усе свае. Юрка, Мая, а яшчэ Міша, Альберт. Помніш, я быў з Юркам і Маяй у рэстаране? Я тады сказаў, што сам іх калі-небудзь запрашу. Вось сёння і пойдзем. Хачу, каб і ты была.

Не такой размовы чакала яна — штосьці абліло яе холадам...

— У рэстаран я не пайду.

— Ну чаму? Вось і пазнаёмілася б з усімі...

— У рэстаране?.. Для мяне гэта нязвыкла.

— Галя, нельга так.

— Ты так разбагацеў? Дзіўна... Быццам маці і бацька толькі і стараюцца...

— Не так усё... Я ж іграў. Не дзеля грошай, вядома, але на рэстаран хопіць... А што з імі рабіць? Якраз усё добра выходзіць. І слова сваё стрымаю, і з хлопцамі пазнаёмішся.

— Не пайду, Алег. А калі цябе чакаюць — ідзі...

Ён так і не ўгаварыў — пайшоў да хлопцаў адзін. Сумны пайшоў... А ў яе раптам знікла бліскае да рэўнасці пачуццё, быў ужо адно непакой за Алега. Згадала, што гаварыў Алег пра хлопцаў. Не, яны не такія, як ён пра іх расказвае, а крыху іншыя. Яна адчувала, што ён памыляецца ў сваіх атэстацыях, і цяпер пераканана ў гэтым. «А што з імі рабіць?» — раней Алег так не сказаў бы. Паўтарае за кімсьці...

Чаму Алег такі падатлівы? Чаму прымае тое, што не павінен быў бы прымаць?

Пры сустрэчы сказала яму: ці варты чагосьці той час, які ён праводзіць з хлопцамі? Алег адказаў на дзіва коратка: лепш ёй проста пазнаёміцца з імі. І яна пагадзілася, што пазнаёміцца трэба, але пазней, бо пачынаюцца залікі, і марнаваць час не варта.

Залікі... Зоя сказала, што гэта яшчэ ж кветачкі, ягадкі будуць потым, калі надыдуць экзамены. Лена сказала па-свойму: залікі — гэта генеральная рэпетыцыя перад прэм'ерай спектакля. Штосьці жартоўнае гаварыла пра залікі і яна, Галя, але і за яе жартамі таіўся непакой. Як група будзе здаваць іх? Як Алег, сама яна?

Перад першым залікам, па геалогіі, Клава Раманчук упікнула яе: «Здаецца, за наведванне тэатраў і колькасць прагледжаных фільмаў залік не ставяць. А што вы з Санеевай скажаце, калі будзе многа завалаў?» Штосьці няшчырае хавалася за Клавінай усмешкай.

Выкладчык геалогіі не меў асаблівых прэтэнзій і да «слабакоў». А залік па вышэйшай матэматыцы першы правяліў Міронаў. Галя падышла да яго з такімі вачыма, што Міронаў стаў сам супакойваць яе.

— Нічога, Юрачка,— як заўсёды, абласціўшы яе прозвішча, сказаў ён,— не такая ўжо аналітычная геаметрыя непрыступная крэпасць. Пераздам!

— Хочаш, я дапамагу табе падрыхтавацца?

Міронаў збянтэжыўся і разам з тым узрадаваўся:

— Давай.

А Ніна Гайчук выйшла з аўдыторыі, заліваючыся слязьмі.

— Усё... Не змагу я нічога... Хоць дамоў едзь... Ведала ўсё, а прыйшла здаваць — забылася, хоць бы што ўспомніла. І мову адняло...

Гэта ціхманая дзяўчына і на практычных хвалявалася так, што голас яе дрыжаў, а дыханне рабілася сутаргавым, нібы ёй не хапала паветра...

— Ты ж не здавайся так адразу, Ніна,— гаварыла ёй Галя, спрабуючы супакоіць.— Здасі залік, вось толькі вазьмі сябе ў рукі. І не хвалюйся так, ты ж не дзіця...

Крыху супакоіўшы Ніну, Галя накіравалася да Раі Зубіч, якая праходжвалася воддаль ад аўдыторыі, дзе здавалі залікі. У руках яе не было ні канспектаў, ні падручніка, толькі сумачка. Рая была нейкая спакойная.

— Сумуеш? — усміхнулася Галя.— А я хачу цябе папрасіць... Трэба памагчы Гайчук. Я сама ўзялася б, але паабяцала ўжо Міронаву, што памагу падрыхтавацца да пераздачы.

Імгненне, за якім Рая павінна была штосьці сказаць, здалося Галі доўгім. І толькі цяпер яна зразумела, што гэтай просьбай неяк умешвалася ў Раіна жыццё.

— Добра, я памагу Ніне,— адказала Рая.

Галя адчула: штосьці тут адбылося. Ці то маленькая перамога яе над Раяй, ці то Раі над сабой... Урэшце, усё роўна, была яшчэ адна, чаканая і нечаканая радасць.

Пачаў здаваць залікі і Алег. Яму было ўжо не да ігры ў аркестры. Але ён пасмейваўся, гаварыў, што сам сябе ён проста не здольны падвесці. І штораз пасля здачы заліку спяшаўся да Галі з заліковай кніжкай, паказаць якую было яму адно задавальненне: зірні, мауляў, на роспісы выкладчыкаў, якія ўсе непадобныя... Ён быў упэўнены ў сабе. І здарылася так, што не ў яго, а ў яе самой не ўсё гладка абышлося з залікамі. Ёй, як шмат каму з групы, давялося паўторна працаваць над



чарцяжамі па тапаграфіі — некаторыя з ранейшых работ выкладчык не прыняў.

У адзін з такіх гарачых, без вольнае хвіліны дзён да Галі прыехала маці. І што там поўная сумка розных прысмакаў, што там новая кофтачка, хоць і любімага бледна-блакітнага колеру! Ёй трэба было адно ўбачыць маці, яе вочы, прыхінуцца да яе, слухаць голас, у якім задаўнены непакой і клопат.

— Як яны тут? — пыталася маці ў бабкі Марылі.

— Цярэбяцца,— радая, што будзе з кім нагаварыцца, адказала бабка.— Галовы навукай набіваюць, а што і здароўе трэба берагчы, не падкажы, то і не ў памяці. От раніцай так і беглі б на вучобу, не паснедаўшы...

— Мама, а як татка? Ці здаровы ён? — спытала Галя.

— А трымае часам руку на сэрцы... І малады ж, пяці дзесяткаў яшчэ не набраў,— маці глянула на бабку,— куды яму хварэць? Мо каб работа цішэйшая, ды не шукае...

— Ведама, ведама,— паківала галавою бабка.

— А што ўрачы кажуць? — Галя ўстрывожылася. Так хацелася ёй быць цяпер ля бацькі...

— Ледзь выправіла, каб схадзіў, абследаваўся. Кажуць, нічога небяспечнага няма, але адпачыць трэба. Ды вось угавары яго...

— Вось на канікулы прыеду, вазьмуся я за яго! — з рашучасцю вымавіла Галя.

Галя хацела, каб маці пабыла з ёю як даўжэй, але Марыя Максімаўна сказала, што па яе хутка павінны заехаць: ішла ў горад машына, яна напрасілася ў спадарожніцы.

Неўзабаве машына прыйшла, і Марыя Максімаўна паехала.

Потым, уначы, перабіраючы ў памяці па кожнай драбнютцы сустрэчу з маці, Галя згадала яе словы: «Яна, добрая вучоба, за ўсё гаворыць».

«Хіба за ўсё?»

Яна зноў думала пра Алега. Але чымсьці і супакоілі яе гэтыя матчыны словы.

## 16

Тры кароткія званкі... Гэта Алег. Ці можа так звоніць усім Дзед Мароз? Перш чым падацца да дзвярэй, Галя зірнула на сябе ў люстэрка: якая ж яна сёння, у ноч перад Новым годам? І спадабалася сама сабе ў гэтай з ярка-белага шоўку, з кароткімі рукавамі сукенцы. І прычоска, высокая, з цёмна-каштанавым адлівам, здаецца, упершыню ў яе такая прыгожая. Ці можа ўсё ёй так да спадобы проста ад настрою? Хутчэй жа...

Алег быў з Юркам. Яны павіншавалі яе з наступаючым Новым годам. А потым павіншавалі і бабку Марылю. І папрасілі ў бабкі прабачэння, за тое, што забіраюць ад яе Галю. Бабка сказала, што сумаваць не будзе, пойдзе да суседкі, і Галя цмокнула яе ў шчаку, пажадала ўсяго-ўсяго найлепшага...

Алег з Юркам узялі яе пад рукі. Парыпваў свежы снег пад нагамі, у вышыні дзе-нідзе блішчэлі зоркі, і яшчэ весялей свяцілі ліхтары, нібы і яны штосьці адчувалі.

— Іду, а куды — не ведаю,— усміхнулася Галя.— Можа скажаце?

— Лічы, што мы цябе выкралі. Чакай свайго лёсу! — амаль прадэкламаваў Алег. І дадаў: — Але мы сапраўдныя джыгіты, і таму будзь спакойна.

— А што? Чым мы не горцы? — вымавіў Юрка.— Вось толькі дзе нашы коні?

Падышоў аўтобус, а за ім амаль упрытык таксі. «Джыгіты» імкліва кінуліся да машыны. Юрка назваў шафёру вуліцу.

Дык куды ж яны едуць? Была ў Галі не простая задача вырашыць, дзе, з кім сустракаць Новы год. Лена і Саша запрашалі яе і Зою да сябе. Алег настойваў на тым, каб яна была з ім. З паўгадзіны назад Саша прыязджаў за імі абедзвюма і за Алегам, а паехаў з адною Зояй.

— Юра, мы не да цябе едзем?

— Не. Да Мішы, Галя. У яго свабодней. Між іншым, Алег гаварыў, што ты даўно не танцавала. А музыка ў нас — закачаешся. Дык курс мяняць не хочаш?

— Не! — адказала яна.

Машына неўзабаве звярнула з праспекта, праехала цемнаватаю няроўнаю вуліцаю і спынілася каля блочнага дома. Яны падняліся на пяты паверх. Юрка націснуў на белую кнопку званка. Адчыніліся дзверы, паказаўся той весялун, якога Галя сустрэла аднойчы з Алегам на праспекце.

І Міша пазнаў яе. Ён быў вельмі рухавы, гэты Міша, хапаў паліто, шапкі, вешаў, потым, адапхнуўшы хлопцаў, узяў Галю за руку і павёў у гасцёную.

Там гучала джазавая музыка, лілася яна з магнітафона, каля якога стаяў, прытупваючы, высокі хлопец. Быў ён бледнатвары, з вялікімі і прыгожымі вачыма, але як бы бязбровы, бо бровы ў яго былі светлыя, рыцвілыя.

— Альберт,— назваўся ён.

«Гітарыст, Алег гаварыў пра яго»,— успомніла Галя.

А Міша сказаў, тэатральным жэстам выкінуўшы ў бок Альберта руку:

— Прашу мець на ўвазе — лірычны тэнар. У душы акцёр. Але жадае сыграць у кіно адну-адзіную ролю: сябе. Бог чуе!

Паблажлівая ўсмешка мільганула на тонкіх Альбертавых вуснах. Ён працягваў прытопваць.

А на тахце сядзелі тры дзяўчыны. Кожная з іх устала і працягнула Галі руку. Маю, як і Мішу, Галя таксама пазнала адразу, хоць і яе бачыла ўсяго аднойчы. Пышныя, доўгія валасы яе былі цяпер колеру жоўтых вяргінь. Мая ўсміхнулася ёй як даўняй знаёмай. Незнаёмыя назваліся Жанай і Нінай. Жана—высокая, з кароткай прычоскай, доўгім тварам, усміхнулася неяк сарамліва і адразу папрыгажэла. Ніна — чарнявая, стройная, прыгожая, але з нейкім вострым, прыдзірлівым позіркам.

— Таварышы, Новы год яшчэ ў дарозе, прапаную правесці належным чынам стары год! — гучна сказаў Міша.— Усе ў зборы, прашу за стол! — І калі ўсе расселіся, дадаў: — Выношу падзяку Маі і Ніне. Дзяўчаткі, слова вам!

Мая і Ніна пастараліся. У цэнтры стала ўзвышалася піраміда з апельсінаў, яны ззялі маленькімі сонцамі, і ў тым, як было прыгатавана і расстаўлена ўсё астатняе, адчуваўся, несумненна, дзявочы густ.

— Што я скажу? — працягваў Міша і зірнуў на Галю: — Нам сёння вельмі пашанцавала! Мае старыя, а разам з імі і зяцёк падаліся на сяло.— Ён засмяяўся.— Мой тата любіць вясковыя напіткі! Няхай там робіць дэгустацыю, а нам затое не трэба і рэстаран. Вось вам музыка, вось танцзал, вось асобны столік! Дык за стары год! — Міша высока ўзняў келіх з віном, лоўка паднёс яго да вуснаў і асушыў у некалькі глыткоў.



Галя толькі прыгубіла келіх, і ўсе здзівіліся і пачалі прыставаць: як гэта, каб яна не выпіла за стары год і за знаёмства!?

Перасіліўшы сябе, Галя адпіла крыху кіславатага, непрыемнага на смак віна, пачула сябе лепш. Здалося, пацяплелі блакітныя сцены гэтага пакоя і нейкай мяккай стала музыка, што лілася з магнітафона. І былі ўсе мілыя, і пра што ні гаварылі — адно гучаў смех.

Заставалася каля гадзіны да Новага года, калі ўсіх пацягнула танцаваць. Стол пераставілі да сцяны. Альберт зноў уключыў магнітафон, і пакой запоўнілі гукі павольнага танга. Міша прыглушыў святло: свяціў толькі таршэр.

Галя глянула на Алега — ну, вядома, ён хацеў танцаваць з ёю. І не засталося ў ёй нічога ад тае крыўды, калі чакала яго, а ён не прыходзіў — усё праз той аркестр. Яна ж верыць, што яму ніхто не патрэбны так, як яна. Вось дзівосная навагодняя ноч, і яны разам, яны думаюць адзін аб адным, і гавораць пра гэта іх рукі, іх вочы, і тое, як мякка прыхінуўся Алег шчакой да яе валасоў.

Танец ішоў за танцам, хлопцы на змену пачалі танцаваць з дзяўчатамі. Міша запрасіў Галю.

— Ты чаму ў нашай кампаніі першы раз? — спытаў ён, калі яны танцавалі вальс.

— Часу не было.

— Чаго? Часу? Ты бедная на тое, на што я багаты.

— Як?

— Кіруючыся прынцыпам: не рабі сёння тое, што можаш адкласці на заўтра.

— О, цяпер мне зразумела, чаму ты не паступіў у інстытут... здаецца, у політэхнічны?

— Так, Юрка шчаслівейшы. Разам ілбамі біліся, мой не вытрымаў. Было дзве спробы, будзе і трэцяя.

— І чацвёртая?

— А што? «Вечны абітурыент» гучыць як «вечны студэнт!»

І ён сам смяяўся з сябе, гэты няўрымслівы Міша.

Усё часцей паглядалі на гадзіннік. Уключылі прыёмнік. Зноў паставілі стол сярод пакоя. Адкрылі бутэльку шампанскага крыху раней, чым прагучаў апошні перазвон курантаў на Спаскай вежы. І збіліся рукі над сталом, зазвінела шкло, і ў галасах звінела сама радасць жыцця — ніхто не маўчаў у гэтую хвіліну. Яшчэ раз амаль што шэптам Галя сказала на вуха Алегу: «Многа, многа шчасця табе!» «І табе»,— адказаў ён вачыма.

— Урачысты момант абавязвае,— загаварыў Міша, калі ішлі ўжо першыя хвіліны Новага года.— У кожнага свае планы на гэты год, але я пакуль што не збіраюся дапытвацца, хто чаго хоча. Было ў нашых планах нешта агульнае? Было. Вось і бяру ўсіх за жабры, хопіць бэкаць-мэкаць. Юрка, ты на поўдзень паедзеш?

— Йес,— адказаў Юрка.— Як закон!

— Ты? — звярнуўся Міша да Альберта.

— Нібы не ведаеш пра маю мару! Навошта мне Рыо-дэ-Жанейра — хачу ў Крым! — адказаў Альберт.

— А ты? — перавёў Міша позірк на Жану.

— Абавязкова! Маці мяне папярэдзіла, што паеду толькі з ёю. А я — паеду з вамі! — рашуча адказала Жана.

— Мне толькі б водпуск узяць у ліпені,— не чакаючы запытання, вымавіла Мая.

— Што скажа ваша светласць? — Міша пазіраў на Ніну.

— Як захачу. Я не ведаю, чаго мне захочацца праз паўгода,— неяк сумнавата сказала Ніна.

— Ат, з табой пагаворыш...— Міша паморшчыўся. І потым твар яго зноў пасвятлеў — перакінуў позірк на Галю і Алега.— А геаграфу, вядома, трэба ў Крым! Давай з намі, Галка. Як, Алег? Вырвецеся?

— Я — за. Толькі трэба старых...

— Апрацаваць? — здагадаўся Міша.— Пачынай неадкладна, і твая возьме. Я заўсёды па сваіх з дальнабойнай артылерыі... б'ю, б'ю і дабіваю. А там,— летуценна сказаў ён,— пажывём дзікунамі! Дык як, Галка?

— Увогуле, я хачу пабываць на поўдні. І мы будзем там на практыцы. Але пазней. А гэтым летам недзе пад Нарач паедзем. На месяц. Так што не змагу,— сказала Галя.

— Шкада. Але так ці інакш, вып'ем за будучае лета! — сказаў Міша, звяртаючыся ўжо да ўсіх.

«Далёка тое лета, але няхай яно будзе харошае»,— падумала Галя.

Доўга, шумна сядзелі за сталом. Потым зноў пачалі танцаваць. Стол пераставілі да сцяны і больш не чапалі. «Прамачыць горла» падыходзілі да яго калі і хто хацеў.

— Галка, я табе падабаюся? — спытаў Міша, у каторы раз запрасіўшы яе танцаваць.

— Ты вясёлы.

— О, мне ўсе так кажуць. Чым крыху адрозніваюся ад іншых. А мне гэтага мала.

— Чаго ты яшчэ хочаш?

— Раздаваць аўтографы. Каб натоўпы за мной хадзілі. А нешта ніхто не просіць аўтографа.

— Надакучыла б іх раздаваць,— смяялася Галя.

— А я ўцёк бы... у Піцунду. А там — уласны катэдж. Белае аўто... Тэлевізар «Крым». Стэрэафанічная радыёла «Адмірал-два»... Каньячок... Прыехала б да мяне? Ну, вядома з Алегам.

— Ты крыху п'яны, Міша.

— Я калі п'яны — самы разумны. Не верыш? Дык слухай. Ты трымайся за Алега. Ён хлопец хоць куды. Мы яго любім, а табе тым больш трэба любіць.

— Буду, Міша, буду...

Алег крыху касіў вокам у іх бок. Галя падышла да яго.

— Ну і Міша... І планы свае выдаў, і парад мне надаваў.

— Пра Піцунду гаварыў? — Алег засмяяўся.— Ён такі... А ты ўсё цвярозая. Не, Галачка...

Алег наліў нейкага віна ў келіхі. У яе то ўжо кружылася галава, але што ж, яна вып'е — толькі таму, што сёння такая ноч, адзіная на ўвесь год.

Стаміліся ўсе танцаваць, паселі на тахту, на крэслы. Юрка крыкнуў:

— Бутэлечку пакруцім?

— Пакруцім! — у адзін голас гукнулі ўсе.

Юрка выйшаў на сярэдзіну пакоя, паклаў на падлогу пустую бутэльку, крутануў яе. Бутэлька загрымела, круцілася доўга і ўрэшце паказала рыльцам на Жану. Смех, вясёлыя воклічы... Жана падышла да Юркі, пацалавала яго ў вусны і сама крутанула бутэльку. Да Жаны мусіў ісці і цалаваць яе Міша. Мішу не пашанцавала — бутэлька паказала рыльцам на Юрку. Юрка цмокнуў яго ў шчаку і пахіліўся над бутэлькай. Умеў ён упраўляцца з бутэлькай — круцілася доўга, а ён стаяў над ёю з тою ўсмешкай, якая гаварыла, што ягонае ад яго





не ўцячэ. «Табе, Галя»,— закрычалі ўсе адразу. Яна глянула на Алега, ён усміхнуўся, а галасы гналі яе да Юркі. Яна пайшла да яго і, пацалаваўшы ў шчаку, хуценька нахілілася над бутэлькай... Рыльца паказала на Алега. Нікога не саромеючыся, ён пацалаваў яе ў вусны, моцна... Круціцца, круціцца бутэлька. Вось Мішавы вусны, вось зноў Алегавы... Смех, смех, яму няма канца... і зноў вусны, вусны, і ўсё роўна чамусьці, Алегавы ці чые іншыя. Што ж гэта? Чаму Алегу весела, чаму не спыніць усё гэта? Хопіць, не трэба вуснаў, нічыіх...

Да дзвярэй было тры крокі... Галя ўстала.

— Ты куды? — спытаў у яе Алег.

— Пачакай... Горача мне.

— І я з табой,— ухапілася за яе руку Ніна.

Яны выйшлі на кухню. Галя падалася да акна, адчыніла фортку. Струмень халоднага паветра ўварваўся ў настоенае цяпло.

Ніна з асалодай піла з кубка ваду. А з пакоя данёсся прыглушаны голас Маі:

— Жана, перастаньце рагатаць! Дайце паслухаць.

Звонка загулі, забрынчалі струны гітары. І потым пачуўся голас Альберта — ён заспяваў:

Заўсёды п'яная, заўсёды бледная
Па дзікіх вулачках брыдзеш адна,
Дзе начавала ты, сама не ведаеш...

— Альберт сваю каронную выдае,— стала побач з Галяй Ніна.— А нішто кампанія, праўда? — Ніна зноў глытнула з кубка.— Мы часта збіраемся. У каго старыя паедуць нанач, туды і завальваемся. У тую суботу ў Альберта былі. Да раніцы... Хлопцы зарабляюць, на каньяк хапае... Ты любіш каньяк? Ты давай часцей з намі... Хлопцы скажуць Алегу, дзе збярэмся, Алег табе — і прыязджайце. Ты, Галка, усім падабаешся... Юрка як цябе цалаваў... А Міша?.. І Алег твой умее... Ну пайшлі, што тут рабіць?

Ніна пацягнула яе за руку.

«Скажу Алегу і — дадому...»

Увайшлі ў залу. Галя спынілася ля дзвярэй. Ніхто ўжо не спяваў. Алег стаяў ля прыёмніка, пакручваў ручку настройкі. Юрка быў каля стала, штосьці піў адзін. Жана сядзела на каленях у Альберта. Побач з імі на тахце — Міша і Мая.

— Ідзі сюды! — пачула Галя.

Клікаў да стала Юрка. Ніна і пайшла да яго. Алег выключыў прыёмнік.

— Шукаў што добрае... Няма,— сказаў ён.

Падышоў. Пазірае ў вочы. Усміхаецца.

— Не звяртай увагі,— махнуў на ўсіх рукой.— Падпілі.

Яна нічога не сказала. Павярнулася, выйшла на калідор, стала апранацца. Алег нейкую хвіліну разгублена пазіраў на яе, потым моўчкі зняў з вешалкі сваё паліто.

— Вы куды? — ледзьве не закрычаў Міша, выбегшы за імі.— Гляньце, уцякаюць!

Юрка, Мая, Ніна абступілі, загаманілі... І куды, і чаму, і рана яшчэ, і танцаваць будуць...

— Не... не... не...— толькі адказвала Галя.

Нарэшце выйшлі з кватэры.

Доўгаю здалася Галі дарога дамоў. Можа таму, што хацела хутчэй кінуцца ў ложак, забыцца пра ўсё, заснуць. Алег намагаўся развесяліць яе, у аўтобусе ўспамінаў Мішавы «хохмы», не зважаючы на людзей...



У пад'ездзе Алег затрымаў яе, пацягнуўся абняць. Галя адпіхнула яго, сказала:

— Можаш вярнуцца туды.

І са слязьмі на вачах пабегла ў кватэру.

## 17

Зоя прыехала раніцай. Нахілілася над Галяй, халоднай шчакой прыхінулася да твару, пацалавала.

— З Новым годам, Галачка! З новым шчасцем!

І тут жа села на край ложка.

— Якая ў цябе цёплая рука... А вы думалі, дзе я падзелася? Прыехала б, як і ты, ды не пусцілі мяне! Лена сказала, каб начавала ў іх, а за ёй Саша, а за ім і маці, і бацька... Угаварылі! А як хораша было... Усіх чалавек дзесяць, усе маладыя, акрамя Кацярыны Трафімаўны і Паўла Канстанцінавіча. Ды яны такія вясёлыя былі, танцавалі не менш, як мы. А Саша... Каб ты ведала, што сказаў мне. Мы выходзілі з кватэры, проста марозам падыхаць. Сказаў, што кахае мяне. Гэта праўда, я веру яму. Спытала, за што ж. «Вось і за гэта тваё пытанне». Сказаў, што любіць мяне такую, якая ёсць. Значыць, усё яму падабаецца: і характар мой, і думкі, і кожнае слова... Ці можа так быць?

— А табе... не ўсё ў ім падабаецца?

— Ага, не ўсё... Асабліва, што так доўга маўчаў,— Зоя шчасліва засмяялася.— Ну, а як ты? Як там у вас было?

Галя чакала Зою. Каб даць хоць нейкае выйсце тым думкам, што даймалі яе ўсю ноч. Але ці пра ўсё раскажаш, ці варта засмучаць чужую радасць...

— Галка, што ты?

— Нічога, Зоечка. Мне дрэнна спалася... А сустракалі Новы год у Мішы... Потым раскажу... Я рада за цябе... Саша... ён шчыры. Ты вер яму.

— Ён прыедзе з Ленай да нас. І куды-небудзь выправімся. Можа на танцы. Усе разам. І Алег жа прыедзе, праўда? Які дзень... Адгуляем сёння, а там не да гуляў будзе. Толькі ведаеш, Галка, не баюся я экзаменаў. Хіба можа цяпер здарыцца ў мяне што непрыемнае? Не-не-не!

Зоя ластаўкай пырхнула на сярэдзіну пакоя, развёўшы рукамі, пакруцілася на адным абцасіку, зноў падскочыла да Галі:

— Уставай, дзіцятка!

— Гэта толькі цяпер ты, Зойка, прыехала? — Бабка Марыля выйшла са спальні, прыгладжваючы рукамі сівыя свае валасы.

Зоя кінулася да яе. Абняла, павіншавала з Новым годам і зноў стала расказваць, як здарылася, што яна начавала не дома.

Галя ўстала. Звінеў і звінеў у кватэры Зоін голас, а яна думала пра сваё.

...Вярнуцца б ва ўчарашні дзень, вярнуцца так, каб не знаць дарогі да таго Мішы, не знаць ні тых тостаў, ні танцаў, ні пацалункаў... Як хацела б яна, каб да яе вярнуўся даўні настрой, каб светла думалася пра ўсё, каб радасна, як у Зоі, было на душы...

Няма звароту ва ўчарашні дзень.

Алег... Што здолее ён зрабіць, каб яна збавілася ад гэтай крыўды? Крыўды, якой да гэтага яна не ведала і ніколі не спадзявалася, што будзе ведаць...

Ён прыехаў раней за Сашу і Лену. І паводзіў сябе так, быццам нічога не здарылася. Занадта гучна гаварыў з бабкай Марыляй, занадта ахвотна адказваў на пытанні, на Зоіныя жарты. Гэтай няшчырай весялосці хапіла яму толькі датуль, пакуль не падышоў да Галі — бабка і Зоя былі ў гэты час на кухні.

Яна зірнула яму ў вочы — і згасла ў яго ўсмешка.

— Галя, ну што ты... У такі дзень...

— Ці табе крыўдаваць!

— А каму? Пабегла не развітаўшыся... Як ад якога... Быццам я не хацеў, каб табе добра было... Паслухай, не трэба... Забудзем. Чуеш? Галя!

— Хопіць? Не,— ціха сказала яна. Хіба ён разумеў яе?

Галя апранулася, сказала Зоі, што скора вернецца. Алег маўчаў, пакуль ішлі па двары, паўз магазін — нейкі мужчына з напакаванай сумкай прайшоў паміж імі, не зачапіўшы ні яе, ні яго.

Дзень быў сонечны, серабрыўся снег, і мала было наўкол па-будзённаму заклапочаных людзей. Ішлі насустрач хлопцы, дзяўчаты, трымалі адзін аднаго пад рукі, смяяліся.

А гэта вуліца, як заўсёды, стрэла цішынёй. Прайшоў тралейбус — доўга вызвоньваў дрот, пранеслася-правуркатала, як голуб, цёмна-сіняя «Волга».

Зыркі снег, празрыстая яснасць, святочнасць дня абвастрылі крыўду, якую Галя чула ў сабе.

— Алег, ты сапраўды... не разумееш, што здарылася?

— Ну што, што? Навошта з нейкае драбязы трагедыю рабіць?

— Гэта не трагедыя... Але няўжо табе не агідна ўспамінаць?.. Як ты мог дазволіць, каб яны, твае сябры, дакраналіся да мяне, так абыходзіліся са мной...

— Ну, гульня была. Каб не гульня, то...

— Гульня? Ты ж хацеў, каб я не была цвярозай. Я памятаю, тады я сапраўды не была цвярозай... А ты ведаў, як усё будзе, і не спыніў ні мяне, ні іх... Табе гэта падабаецца? Табе трэба, каб я нічым не адрознівалася ад тых... дзяўчат?

— Хлопцы іх паважаюць.

— Завошта? За тое, што любяць піць? За тое, што гатовы забыцца на прыстойнасць? Мне гэты вечар адкрыў вочы на ўсіх іх, тваіх сяброў. Ды і Ніна памагла... Запрашала мяне на такія гулянкі... З поўнай бутэлькай, потым з пустой... Дзякуй, абыдуся. А ты... Ты, як хочаш. Толькі я ўжо ведаю, што хаваецца за тваёй ігрой у іх аркестры.

— Калі ты хочаш, каб я з імі не сустракаўся, ты можаш проста сказаць: я — ці яны... І ўсё будзе, як ты хочаш,— адвёўшы позірк, глуха вымавіў Алег.

— Гэтага я табе не скажу... Але... Калі ты не знайшоў сабе іншых сяброў, то чаму ты сярод гэтых, як цень? Што не скажуць, што не зробяць, ты ім патураеш. Хіба не так? Я ведаю, ты не такі, як яны. Але чаму ты ўсё прымаеш, з усім згаджаешся, хоць думаеш інакш? Чаму яны цябе перакоўваюць па-свойму, а не ты іх?

Ёй горача стала, пакуль гаварыла. Але сказала ўсё, што хацела сказаць Алегу.

Алег зусім быў спахмурнеў, слухаючы яе, ды раптам твар яго ажывіўся.

— Вось і добра, што ты гэта ведаеш. Я не такі, як яны. Паўтараць некага, дубліраваць — не буду. Нецікава. Але... чаму нехта павінен думаць, як я, быць падобным на мяне?

— Алег, ёсць, па-мойму, розніца між лепшым і горшым...



— Ёсць. Але ўяві. І Юрка, і Міша, і Альберт жывуць так, як самі жадаюць, як звykліся жыць. Мяне яны не ведалі і маглі б абысціся без мяне... Дык што ў іхнім жыцці павінна цяпер змяніцца, калі сярод іх я? Гэтак сама яны могуць пазнаёміцца і з пятым, і з дзесятым. Калі кожны стане ўмешвацца ў іх жыццё... Яны проста скажуць — каціся ты...

— А хіба ты не можаш пагаварыць з імі як роўны?

— Я?

— Ты іх сябар.

Алег сумеўся, як разгубіўся ад гэтых слоў.

— Ну, вядома,— загаварыў ён, тручы рукою вочы.— Але калі разабрацца, то хіба яны самыя горшыя? Як усе. Хочуць жыць весела, так і жывуць. І што тут такога? Хто не хоча жыць весела?

— Весела...— Галя сумна ўсміхнулася.— Любой цаной, толькі б весела! Калі забудзешся, што ты чалавек, перастаеш паважаць усіх, хто вакол цябе, і хочаш, каб іншыя былі такімі,— гэта няважна, абы было весела! Пошласць, нізасць—не зважай, смех усё апраўдвае. Я такой весялосці не хачу.

— Нашто так прыдзірацца да іх? Калі браць пад увагу кожнае слова, кожны ўчынак, ніхто табе не будзе добры... І чаму ты такая?

— Якая ёсць... І разумею ўжо, што розныя мы з табою.

Галя прыпынілася, угнула галаву і пайшла назад.

— Паслухай, няхай мы розныя,— Алег дагнаў яе, загаварыў з пакутлівай мінай на твары.— Але чаму нешта павінна мяняцца ў нашых адносінах? Ты, бачу, ужо і гаварыць са мной не хочаш. Не спяшайся з вывадамі.

— Я не спяшаюся... Але штосьці перамянілася. Можа проста ў мяне дрэнны настрой... Скора прыедуць Лена і Саша. Зоя хоча, каб мы ўсе пайшлі на танцы. Але я не пайду. Мусіць, паеду да Раі.

— Я разумею... Тады... дзе мне быць сёння? Бяры з сабою, да Раі.

Галя ўзняла вочы, глянула Алегу ў твар. І стала ёй шкада яго... Але сказала:

— Не, лепш мне ехаць адной.

(Заканчэнне ў наступным нумары.)

*закі нуры*

*

ПАЭЗІЯ

*

## *Маё багацце*

Для багацця—
У мяне тры клеці.
Песні—ў першай.
Вершы—у другой.
Дружбу—наймацнейшую на свеце—
Не змясціць ніколі пад страхой.

Па-над Волгай
У вандроўках цяжкіх
Салаўі дарылі песні мне.
І таму лічу я абавязкам—
Іх пакінуць роднай старане.

Ну а вершы,
Што не дзеля славы
Па радку збіраліся ў палях,
Я упэўнены,
Што маю права
Дзеўчыне паднесці, як пасаг.

За багацце,
Што ў апошняй клеці,
Я да скону ўдзячны вам, сябры.
Нашу дружбу—
Супакой і мір на свеце—
Сыну я дару яе,
бяры!

Гэты скарб
Хай беражэ з любоўю,
Памнажае ворагам на страх,
Бо супольнасць наша
Змацавана кроўю
Ў беларускіх пушчах і барах.



■

Мне часта сніцца родны дом,
Той дом стары,
Дзе сонца ўбачыў.
Адкуль пайшоў я ў свет пяшком
Парой далёкаю юначай.

І сінім маем
Кожны год
Душа ў тузе зальецца кроўю.
Мяне, як выраю зварот,
Інстынкт заве ў сваё гняздоўе.

Цябе я ўбачу, родны край!
Як птушка, прылячу я рана.
А ты сустрэнь і выбачай,
Што пасівеў так нечакана.

Кілімы сцеле луг свае.
Павеяў водар спелай руты.
І грудзі поўняцца мае
Такой салодкаю атрутай.

Якое сонца узышло!
Здаецца, зноўку уваскрэслі:
Дажджу вясенняга святло,
Пяшчота жаўруковай песні,

І зыркасць першых бліскавіц,
Азёр світальных прахалода,
Вада гаючая крыніц—
Усё, што край нам дорыць шчодра.

...Мне часта сніцца родны дом,
Той дом стары,
Дзе сонца ўбачыў,
Адкуль пайшоў я ў свет пяшком
Парой далёкаю юначай.

## *Не трэба*

У лес не трэба везці дроў
І ў Тулу
Ездзіць з самаварам.
Не трэба траціць лішніх слоў,
Дзе вырашаюць справу ўдарам.

Не трэба грады паліваць—
Як дождж ідзе,
Яны не смягнуць.
Душу не варта адкрываць,
Прад тымі,
Што набытку прагнуць.

Не трэба цешыцца радком,
Што ад зямлі ірвецца ў неба,
І быць не трэба пастухом,
Калі трава і лес пад снегам.

## Вера

Убачу кроплю—
Веру, будзе мора,
Убачу слёзы—
Веру, будзе смех.
Я ў шчасце веру,
Калі бачу гора,
Я веру ў май,
Калі цярусіць снег.
За тое, што ў жыццё
Я веру,
Падчас
Гавораць мне:
— Дзівак!
Ды я люблю
Жыццё без меры.
Я так жыву.
І будзе так!

Пераклаў з татарскай
Іван КАЛЕСНІК.

## Падснежнік

Набрыняла бурай неба,
Вецер хмараў назганяў.
Паявіўся ён з-пад снегу,
Нібы з яйка кураня.

Стаў на тоненькую ножку,
Выглядаючы вясну,
Адпачыў ад стомы трошкі
І пялёсткі разгарнуў.

Горды, ласкавы і свежы,
Як вясны жаданай сцяг...
Навучы мяне, падснежнік,
Сіле прагнай да жыцця.

Навучы адвазе смелых,
Навучы, як моц знайсці,
Каб і ў душах агрубелых
Песняй ласкавай ўзысці.

## Чайка

Там, дзе волжскія віры
Пенаю бурлілі,
Вольна лётала ўгары
Чайка з белым крыллем.

Шыр бяскрайнюю вады
Бурай дзень разгушкаў...
Можа, з гора і з беды
Пасівела птушка?



Ці мо любіць гэту бель
Усёй душой і целам
І ўпрыгожвае сябе
Вапнаю і мелам?

Не!
Кіпучых нездарма
Хваляў гэткі колер.
Колеру чысцей няма
І жыцця — прыволля!

■

Я дома рэдка—
Праўда, дарагая:
Камандзіроўкі,
Служба да цямна...
Вясна таксама
Позняя бывае,
Дык і цяплей жа
Позняя вясна.
Яна прыходзіць,
Поўная даверу,
І па зямлі,
Імклівая, ідзе,
Ўзрывае почкі
На галінках дрэваў
І тоўсты лёд ламае
На вадзе.
Мне ўседзець дома
Сапраўды нялёгка,
Ды я к табе
Заўжды імкну душой.
Так птушка адзінокая
Здалёку
Спяшаецца
У родны край вясной.

## Прыкметы вясны

О прыкметы кахання!
Вы—прыкметы вясны!
Калі ноч напралёт не да сну,
Калі зззяе вяснушкавы жар рабізны—
Значыць, зноў сустракаеш вясну.
Калі свеціцца шчасце ў каханых вачах,
Што палаць гарачэй пачалі,—
Значыць, цёплы вятрыска гуляе ў лясах,
Значыць, ў полі пяюць ручаі.
Калі меней маршчынак ля ласкавых губ,
Калі броваў не хмурыш ты зноў—
Значыць, радасны крык,
Значыць, ядраны гул
Жураўлёў, што імчацца дамоў.
Калі ясная ўсмешка на твары відна,
Кроў бурліць і вірыць сок лясны—
Гэта значыць—вясна,
Гэта значыць—вясна!
О прыкметы кахання!
Вы—прыкметы вясны!

Пераклаў з татарскай
Мікола АЎРАМЧЫК.

● Вадзім БОЙКА

# СЛОВА ПАСЛЯ СМЕРЦІ

**Дакументальная аповесць**

Мал. **В. Шрамякова.**

### II. КРАКАЎ. ГЕСТАПАГЕФЕНГНІС.

Турма гестапа ў Кракаве была адной з самых жудасных. Даўгія змрочныя калідоры на ўсіх паверхах. Камеры-боксы, камеры-адзіночкі, агульныя камеры, разлічаныя на дваццаць вязняў, але куды заганялі па сто чалавек. І ва ўсіх — сырая цемра, халодны, бы лёд, цэмент падлогі. Адзіная «мэбля» — парашы...

У гэтай турме мяне чакалі самыя, відаць, цяжкія выпрабаванні...

Не паспеў я задрамаць у сваім боксе, як у замку заскрыгатаў ключ, сталёвыя дзверы адчыніліся і пачулася рэзкая каманда: «Раўс! — Выходзь!». За дзвярыма стаялі два канваіры. Яны павялі мяне па калідоры, які ўвесь прапах карболкай і вапнай, павялі некуды ў самы канец гэтага калідора і спыніліся каля абабітых карычневым дэрмацінам дзвярэй з лічбаю «5» на шыльдачцы. Адзін з канваіраў націснуў на кнопку, над дзвярыма запалілася сігнальная лямпачка, і мы ўвайшлі ў сонечны пакой. Гэта быў даволі прасторны, шыкоўна абстаўлены кабінет. Каб не краты на вокнах, можна было б падумаць, што я трапіў у нейкую мірную цывільную ўстанову...

З левага боку стаяла вялізная зашклёная шафа, усе паліцы якой былі акуратна застаўлены белымі папкамі. Над шафаю вісеў партрэт Гімлера. За некалькі крокаў ад шафы стаяў пісьмовы стол, на ім — пішучая машынка і тэлефон. За сталом сядзела худая, як трэска, рыжая кабеціна з доўгім драпежным носам, з густа нафарбаванымі губамі. Губы былі злосныя...

— Дзевяцьсот саракавы? — запыталася яна, не гледзячы на мяне.

— Яволь! — адказаў адзін з канваіраў.

— Добра. Пачакайце хвіліну, шэф зараз вызваліцца.

І яна раўнадушна пазяхнула, прыставіўшы да рота кашчавы кулак.

Зірнуўшы ў правы бок, я ўбачыў вялікі стол. За ім сядзеў элегантна апрануты чалавек сярэдняга ўзросту: шэры цывільны касцюм, бялюткая, як снег, кашуля, светла-блакітны гальштук. Русыя валасы акуратна зачасаныя на прабор. Маладжавы, без адзінай маршчынкі, бледны, трохі стомлены твар здаваўся інтэлігентным. Не звяртаючы на мяне ўвагі, «інтэлігент» размаўляў па тэлефоне мяккім, прыемным голасам, з лагоднай усмешкай на вуснах. Размаўляючы, ён нешта запісваў у блакнот, які ляжаў перад ім.

Я не верыў сваім вачам: у такой установе працуюць гэткія імпазантныя людзі!.. Але за спіною гэтага чалавека віселі на сцяне самыя розныя нагайкі — з гумы, з дроту, з валовых жылаў... Цэлы набор...

Нарэшце гаспадар кабінета паклаў трубку і зірнуў на канваіраў. Адзін з іх клацнуў абцасамі і адрапартаваў:

— Пан старшы следчы! Па вашаму загаду вязень нумар дзевяцьсот сорак дастаўлены на допыт!

---

Працяг. Пачатак гл. «Маладосць» № 5.



Следчы ветліва падзякаваў канваіру кіўком галавы і паглядзеў на мяне. Вочы ў яго былі шэрыя і халодныя. Праніклівыя. Відушчыя... Я чамусьці адразу зразумеў, што з гэтым «інтэлігентам» мне будзе цяжка гуляць у хованкі, строіць з сябе наіўнага, затурканага хлопца, які нават не разумее, у чым ён вінаваты.

Уважліва змераўшы мяне вачыма, следчы мякка спытаў:

— Нямецкую мову ведаеш?

Я пацініснуў плячыма.

— А рускую?

Ён здзівіў мяне чыстым вымаўленнем рускага слова, і я паспешліва сказаў:

— Вядома! Я ж украінец!..

— Вось і цудоўна. Пачнём нашу гутарку. Садзіся.

Канваір падаў крэсла, і я, скрывіўшыся ад болю, сеў.

— Што з табой? — спачувальна спытаў следчы.— Ты хворы?

— Мяне білі... Усё цела баліць...

— Ах, вось яно што!.. Зразумела... Толькі ты не хвалюйся, тут цябе ніхто і пальцам не зачэпіць,— усё гэтак жа мякка сказаў следчы, а сам наскрозь праціна́ў мяне сваімі халоднымі відушчымі вачыма.

— Як цябе завуць, хлопча?

— Ваня Пятроў.

— А як завуць тваіх бацькоў і дзе яны?

— Бацькоў у мяне няма, я сірата, з дзіцячага дома.

Кабеціна, што сядзела за другім сталом, пачала стукаць на машынцы, запісваючы нашу размову. Відаць, і яна добра ведала рускую мову.

— Так, значыцца, ты сірата. Можа, ты, Ваня, есці хочаш?

— Вельмі хачу есці! Некалькі дзён нічога не еў!

— Чаму ж ты адразу не сказаў?

Ён загадаў канваіру прынесці чаю і бутэрбродаў. Той знік і хутка вярнуўся, прынёс шклянку з чаем і бутэрброды з сырам і кілбасою. Я накінуўся на ежу. Следчы, лагодна ўсміхаючыся, сказаў:

— Еш, Ваня, еш на здароўе. І маліся богу, што ты трапіў да чалавека, якому можаш адкрыць душу і які цябе зразумее. Тыя, што цябе збівалі,— дурныя салдафоны. Яны адно ведаюць — кулакамі махаць. А слова чалавечага не разумеюць. Спадзяюся, што са мной ты будзеш шчыры, скажаш, што з табой здарылася, і заўтра ж будзеш на волі.

Убачыўшы, што я ўжо ўмяў бутэрброды і выпіў чай, ён загадаў прынесці яшчэ адну порцыю. І якраз у гэтую хвіліну ў кабінет увайшоў сярэдніх год афіцэр з жоўтым нездаровым тварам. Павітаўшыся з маім следчым, ён лісліва загаварыў:

— Віншую вас, пане Краўс, з чарговым ордэнам! Ведаеце, калі я даведаўся, што вас зноў узнагародзілі, я так узрадаваўся, быццам гэта мяне самога адзначылі!.. З вас каньяк, пане Краўс!

— Ну, гэта само сабою,— усміхнуўся мой следчы.

— Вельмі рады за вас, калега, вельмі рады!

З іхняй гутаркі я зразумеў, што прозвішча майго следчага Краўс і што ён тут не апошняя фігура. З ім, відаць, лічацца. Вунь як гэты перад ім сцеле!.. Відаць, у пана Краўса добрыя сувязі з вярхушкай гестапаўскай зграі!..

Пагаварыўшы яшчэ колькі хвілін пра нейкага агульнага знаёмага, яны развіталіся, і госць пайшоў. Я тым часам управіўся з другой порцыяй пачастунку.

— Ну, як? Падсілкаваўся трохі? — лагодна спытаў Краўс.

— Дзякую...

— А ці ведаеш ты, Ваня, дзе знаходзішся?

— Не,— адказаў я наіўна.— Відаць, у паліцыі...

— У гестапа, мой хлопчык! Сюды лёгка ўвайсці, але выйсці вельмі цяжка. Разумееш?

Я кіўнуў.

— Ну, вось і добра. А цяпер раскажы па парадку, хто ты, адкуль і як сюды трапіў.

Я слова ў слова паўтарыў завучаную версію. Краўс уважліва слухаў, час ад часу ківаў. Свой расказ я закончыў просьбай паслаць мяне на якую-небудзь работу.

— Дзе хочаце, буду працаваць, абы кармілі.

— Так! — Краўс дастаў з рота цыгарэту.— На работу! Ох, і мастак ты, Ваня, байкі выдумляць! Ну няўжо ты думаеш, што ў гестапа сядзяць дурні, якія адразу павераць у гэтыя твае байкі? Давай будзем гаварыць сур'ёзна, Ваня! Я прапаную табе добрыя грошы і вольнае жыццё, дзе ты пажадаеш: у Нямеччыне, у Польшчы, нават у Расіі. Будзеш сабе жыць як у бога за пазухай. Дзяўчаты ў цябе будуць прыгожыя. Ты ўжо меў справу з дзяўчатамі?

— Не! — на гэты раз шчыра адказаў я.— Ніколі!..

— Колькі табе гадоў? Відаць, семнаццаць?

Я маўчаў, уражаны тым, што ён дакладна назваў мой узрост.

— Пятнаццаць,— сказаў я нарэшце.— Толькі пятнаццаць...

— Ну, мабыць, усё ж трохі больш, але гэта не мае вялікага значэння. Я хачу, каб ты зразумеў мяне правільна, Ваня. Тое, што ты маніш, мне ясна. Скажы лепш шчыра, хто і з якою мэтаю паслаў цябе да аб'екта «Ікс». Я разумею, што ты па дурасці ўліп у гэтую справу. Захацелася пабыць героем. Але твой гераізм, Ваня, можа каштаваць табе жыцця. А ты ж яшчэ і не жыў на свеце!.. Адправяць на шыбеніцу, а перад гэтым яшчэ і катаваць будуць. Так што ідзі, Ваня, адпачні і падумай. Добра падумай. Згодзен?

— Згодзен,— адказаў я механічна.

— Вось і цудоўна! — весела сказаў Краўс і загадаў канваірам:

— Адвядзіце яго. І не чапаць!

Пра што мне было думаць? Мне было ясна, што Краўс дапытваў мяне не па шаблону. Дагэтуль мяне дапытвалі па нейкай інструкцыі, задавалі пытанні ў пэўным парадку, у парадку хоць і дэтальна распрацаваным, але ўсё ж трафарэтным. Я ведаў гэтыя пытанні назубок і адказваў на іх раз і назаўсёды завучанымі словамі. А Краўс, уласна, і не дапытваў мяне. Ён мяне вывучаў... Хто ён? Вопытны псіхолаг-крыміналіст альбо проста самаўпэўнены кат? Пазёр?..

Праз некалькі гадзін мяне зноў прывялі да яго.

— Ну, як настрой, Ваня? — прыязна спытаў ён, а вочы былі жудасныя...

— Які можа быць настрой,— сказаў я.— Усё цела баліць, а ў гэтым боксе і прылегчы няма на чым. І падлога халодная...

— Так, так,— мякка сказаў Краўс.— Спачуваю.

І зноў я жахнуўся, убачыўшы яговыя вочы. Страшныя вочы. Бязлітасныя. Ніколі яшчэ я не бачыў чалавека, у якога была б такая розніца паміж ласкавым, лагодным голасам і бязлітаснымі, няўмольнымі вачыма... Здавалася, што голас належыць аднаму чалавеку, а вочы зусім іншаму...

Краўс націснуў на стале кнопку. Адчыніліся дзверы, і два канваіры завалаклі ў кабінет вязня. Ён быў увесь скрываўлены, гімнасцёрка і галіфэ падраныя на лахманы.

— А-а, камісар! Прывітанне, дружа! — Краўс звярнуўся да вязня, як да добрага знаёмага.— Як настрой? Усё яшчэ маўчыш? Дарэмна, дарэмна! Відаць, мала цябе паказыталі, га? Ну, што ж, мы людзі не гордыя, можам і яшчэ паказытаць... Прыступайце!

Канваіры павалаклі вязня з кабінета ў другі пакой. А Краўс звярнуўся да мяне ўсё тым жа ласкавым голасам:

— Хадзем, Ваня, паглядзім, як гэты ўпарты дурань будзе аддаваць богу душу. Хадзем, хадзем!

Камера катаванняў, куды загадаў мне ўвайсці Краўс, была прасторная, але без вокнаў — толькі моцныя лямпы свяцілі пад столлю. Пасярэдзіне катоўні стаяў масіўны дубовы стол, на якім тварам уніз ужо ляжаў камісар. Ягоныя рукі і ногі былі прывязаны да стала спецыяльнымі рамянямі. Два гестапаўцы стаялі каля стала, трымаючы ў руках гумавыя дубінкі. Краўс падаў знак, і катаванне пачалося.

Збівалі камісара доўга, кроў цякла з рассечанай скроні, але ён толькі слаба стагнаў...

— На арэлі! — загадаў Краўс.— Ды як след пагайдайце яго, каб галоўка закружылася!..

Каты адвязалі сваю ахвяру ад стала, скінулі на падлогу, а потым, ухапіўшы за ногі, падвалаклі да сталёвага троса, які звісаў са столі. На канцы троса было спецыяльнае прыстасаванне. Каты зашчамілі гэтым прыстасаваннем ногі камісара і пачалі яго падымаць на тросе. Цела павісла ўніз галавою, а гестапаўцы пачалі разгойдваць яго ўдарамі ботаў па галаве, як па мячы. Камісар толькі хроп, з носа і з рота яго пайшла кроў...

Я стаяў, як нежывы.

— Ну, бачыш, як абыходзяцца з тымі, хто не хоча гаварыць? — звярнуўся да мяне Краўс.— Нядобра абыходзяцца. А цяпер пойдзем, Ваня, скончым нашу гутарку.

І вось я зноў сяджу ў кабінеце Краўса. Дзверы ў катоўню засталіся адчыненымі, і я чую, увесь час чую, як храпе камісар. Памірае...

— Дзе і калі табе састрыглі валасы? — ціха спытаў Краўс.

— У Растове-на-Доне, тыдні тры мо назад, перад тым, як адправіць у Германію...

— Праз якія гарады і станцыі цябе везлі?

— Мяне везлі ў зачыненым вагоне. Скуль я магу ведаць, праз якія гарады?

— Якое на табе было адзенне?

— Пінжак, штаны і чаравікі.— Я ўвесь напяўся: адзенне! адзенне!..

— Гэтае адзенне табе выдалі ў Растоўскім дзіцячым доме?

— Не. Пры немцах ужо я набыў гэтае адзенне на базары. Вымяняў за хлеб і цыгарэты, за свой заробак у нямецкіх салдатаў — я мыў ім машыны.

— Калі гэта было? Твой абмен?

— Месяцы са два таму...

Я ўжо разумеў, што нездарма пытаюць пра гэта. І рабілася страшна...

Краўс нахіліўся, выцягнуў з-пад стала кардонную скрынку, раскрыў яе і выняў з яе скрутак... з маім адзеннем!..



— Скажы мне, Ваня,— сказаў Краўс, робячы выгляд, што не заўважае мае збянтэжанасці,— з якой гэта пары ў Растове прышываюць да адзення ярлыкі польскіх фабрык, а на чаравікі ставяць штэмпелі зноў-такі польскіх фабрык? Растлумач, калі ласка!..

І ён, цяпер ужо з трыумфам, паклаў перад мною адпораны ад касцюма ярлык і акуратна выразаныя кавалачкі ўкладкі з чаравікаў, на якіх стаялі штэмпелі нейкай польскай абутковай фабрыкі, яшчэ, відаць, даваенныя...

Што ты нарабіў, дружа мой Стасік Бжазоўскі! Але ж хіба ты мог прадбачыць, калі даставаў для мяне гэтае адзенне на чорным рынку ў Бойтэне, колькі бяды прынясе яно?.. Дружа мой Стасік!..

— Касцюм і чаравікі мне далі нейкія палякі, калі я прасіў у іх хлеба. Маё адзенне было зусім падранае, *і людзі мне далі гэта з добрае ласкі*,— *сказаў я першае, што* прыйшло ў галаву.

— Ну, я разумею! З добрае ласкі! Можа, ты раскажаш, дзе і калі ты сустрэў гэтых польскіх дабрадзеяў?

Краўс з цікаўнасцю паглядзеў на мяне, дастаў з карабка запалку і пачаў вастрыць яе ножыкам. Раптам ён схапіў мой палец і спрытна ўвагнаў пад пазногаць завостраную запалку. Я і зразумець нічога не паспеў — зайшоўся ад болю.

— Хто і з якою мэтаю паслаў цябе на аб'ект «Ікс»? — крыкнуў Краўс і вылупіў на мяне свае жудасныя вочы.— Хто?!

— Я выпадкова... трапіў... туды... Заблудзіў...

Ад болю было пацямнела ў вачах, а Краўс загнаў мне пад пазногаць яшчэ адну запалку. Гэты боль я не вытрываў, усё паплыло перад вачыма, замільгалі чырвоныя плямы. Я страціў прытомнасць. Але, як гэта ні дзіўна, ачуняў ад новага страшэннага болю — ад трэцяй запалкі...

— Хто і для чаго паслаў цябе на аб'ект?

Потым мяне проста білі — гумай, дротам, бычынымі жыламі... Цягалі з пакоя ў пакой — з кабінета ў катоўню, з катоўні ў кабінет. *І толькі адно я чуў, толькі адно:* «Хто цябе паслаў? З якою мэтаю?»

Так прайшло тры дні. Тры дні катаванняў, тры дні непамернага болю, тры дні развітання з жыццём... Але я не паміраў... Яшчэ не перанёс сваю долю пакут. Яшчэ мусіў жыць — для таго, каб пакутаваць. Толькі для таго, каб пакутаваць... І чаму, чаму, чаму мяне ніяк не могуць забіць?..

...Ноччу ў мой бокс увайшлі два гестапаўцы. Адзін з іх, мардаты, з вусікамі, як у Гітлера, адной рукой узяў мяне за каршэнь, вывалак у калідор, а другі надзеў на мяне наручнікі.

Зачыняючы дзверы бокса, мардаты сказаў:

— Адвядзём гэтага жэўжыка, ён у нас сёння астатні. Потым «эвакуіруем» «нябожчыкаў», і спі сабе да ранку.

— Але ж тыя камеры, што вызваліліся, не прыбраны яшчэ,— заўважыў другі.— *Трэба было гэтых «нябожчыкаў» прымусіць папрацаваць добра перад смерцю.* А цяпер давядзецца прысылаць сюды каго з другога паверха, каб падмялі. У цябе, Ганс, няма крыху шнапсу? Не шкодзіла б перад сном.

— Вып'ем,— сказаў мардаты і раптам вызверыўся на мяне: — Чаго хістаешся, як нежывы? Не выспаўся? Марш! У цябе хутка будзе многа часу, каб выспацца! За ўсе вякі!

І ён зарагатаў.

Яны павялі мяне ў канец калідора, а там па ўсходах прымусілі спусціцца ўніз, у падвал. Тут у калідорах камер не было, толькі службовыя памяшканні. Адзін з пакояў, каля якога мы ішлі, быў адчынены, і я паспеў убачыць вялізныя стэлажы, на якіх роўна стаялі папкі са справамі. Над нізенькімі столікамі сядзелі, поркаючыся ў паперах, гестапаўскія чыноўнікі — бухгалтэрыя смерці працавала і ноччу...

Нарэшце мы падышлі да вялізных сталёвых дзвярэй, вусаты гестапавец націснуў кнопку, дзверы адчыніліся, і я заплюшчыў вочы ад рэзкага электрычнага святла. У нос ударыў прыкры пах паленага мяса і парахавога дыму. Недзе гулі магутныя вентылятары, але пах гэты не знікаў — тут ім аддавала нават ад сцен. І гэты пах — пах паленага мяса — быў пах крыві...

Прызвычаіўшыся да рэзкага святла, я разгледзеў памяшканне гэтага сутарэння. Высачэзная столь, бетонныя шэрыя сцены. Злева ад увахода паблісквала шклом нейкая кабіна, падобная на заводскую дыспетчарскую. У кабіне сядзеў за сталом лысы таўсцель з маленькімі вочкамі, а перад ім стаяў тэлефон і ляжала вялікая бухгалтарская кніга. Раз-пораз дзынькаў тэлефон, таўсцель здымаў трубку, моўчкі слухаў, потым рабіў у кнізе нейкія паметкі, выкрэсліваў нешта. Ці некага...

Пасярод скляпення стаяў даўгаваты стол, падобны на варштат краўца, і за гэтым сталом спіною да мяне сядзеў гестапавец. Перад ім, у драўляным станку для наводкі, ляжаў карабін. Я чамусьці ўспомніў, як аднойчы бачыў такі станок — у школе, калі ваенрук прывёў нас у стралковы гурток...

Карабін быў нацэлены ў квадратны шчыт, падобны на вялікую шафу. Увесь ён быў пабіты кулямі і пакрыты рудымі іржавымі плямамі. Я зразумеў, што шчыт гэты — ізаляцыйная «падушка», у якую кладуцца кулі, што наскрозь прэцінаюць целы тых, каго тут расстрэльваюць. Паветра раптам не хапіла ў грудзях, я ледзь не паваліўся. Але нехта моцна схапіў мяне за плячо... Адзін з маіх канваіраў...

На сцяне з правага боку віселі на круках, такіх, на якія падвешваюць у мясных крамах на базарах тушы парсюкоў, віселі тры чалавекі... Іх надзелі на крукі падбародкамі...

Я ледзь не страціў прытомнасць. Такое можа быць толькі ў сне. У хворым сне. Зараз, зараз я прачнуся!..

Але ў гэтым сне прагучэў голас майго следчага Краўса, мяккі, ласкавы голас:

— Праз пятнаццаць хвілін цябе расстраляюць. Але перш чым памерці, ты паглядзіш, як паміраюць іншыя. Можа, гэта дойдзе да твайго розуму. Яшчэ не ўсё для цябе страчана. Табе трэба адказаць толькі на адно пытанне: «Хто цябе паслаў на аб'ект «Ікс»? Скажы — і жыві сабе. Ты яшчэ малады. Падумай, Ваня Пятроў!..

Я бачыў перад сабою твар Краўса, але здавалася, што і гэта ў сне... Ён адвярнуўся ад мяне, зрабіў нейкі знак лысаму ў кабіне, той зняў тэлефонную трубку, нешта сказаў. Неўзабаве адчыніліся дзверы, і два гестапаўцы ўвапхнулі ў падвал згорбленага сівога чалавека. Сам ён стаяць не мог, і каты падтрымлівалі яго. Ён быў спакойны.

Гестапаўцы падвялі яго да шчыта, павярнулі спіною да «варштата». Лысы зрабіў нейкую паметку ў гросбуху і шчоўкнуў пальцамі. Гестапавец, які сядзеў за «варштатам», падаўся трохі наперад, прыціснуў прыклад карабіна да пляча і пачаў цэліцца вязню ў патыліцу. Рабіў ён гэта марудна, разважліва, быццам выконваў самую звычайную жыццёвую справу, нібы які лабарант, што ўглядаецца ў шкельца мікраскопа,— так старанна прыпаў ён вокам да прыцэла...

Вязень раптам павярнуўся да яго тварам, з апошніх сіл крыкнуў:

— Нех жые Польска!

Гестапавец яшчэ памарудзіў з паўхвілі, нібы наўмысна даваў вязню вымавіць гэтыя словы, і — грымнуў стрэл. Вязень моўчкі асеў...

Зноў адчыніліся дзверы, і ў сутарэнне, тупаючы ботамі, увайшлі чалавек з дзесяць гестапаўцаў. Яны хуценька пастроіліся ў дзве шарэнгі. І ў той жа час парог пераступілі тры вязні — маладыя яшчэ хлопцы.

— Матка боска! — гучна і нават весела сказаў адзін з іх.— Тут у вас, панове, сапраўдная людабойня! Нямецкі парадак!..— І ён крыкнуў цяпер ужо ярасным голасам: — Вашыя дзеці і ўнукі праклянуць вас, нацысцкія свінні!

Нечым гэты хлопец быў падобны да Стасіка...

Яго першага падвялі да лысага, той уважліва паўзіраўся на хлопца, быццам хацеў пераканацца, ці той... Потым зрабіў паметку ў гросбуху, кіўнуў. Гестапаўцы, што стаялі ў шарэнгах, кінуліся да хлопца, павалаклі яго да сцяны з крукамі, спрытна прыўзнялі ахвяру і надзелі падбародкам на крук...

Такі ж лёс напаткаў і сяброў маладога паляка. А я глядзеў гэты жудасны сон, страшэнны сон на яве, і не мог адвесці вачэй ад таго, што дзеецца... Не мог адвесці вачэй, і не было больш страху, толькі пякучая нянавісць, толькі адчай ад таго, што я бяссільны...

І зноў пачуў я голас Краўса:

— Ну, як? Будзеш маўчаць і далей? Да самай смерці? Справа твая. А смерць — не чакае!.. Узяць яго!

Гестапаўцы схапілі мяне пад рукі і павалаклі да шчыта, паставілі тварам да яго, але я, як толькі яны адышліся, павярнуўся да свайго ката, убачыў нацэлены на мяне карабін, чорнае вока рулі.

— Лічу да трох,— пачуўся голас Краўса.— У цябе ёсць апошні шанец.

Кат за «варштатам» прыціснуў прыклад да пляча, а Краўс пачаў лічыць:

— Айнс...

З таго ж крывавага туману, які ахутвае аблічча Краўса, выясняецца твар мае маці, і я ціхуткім шэптам кажу ёй:

— Мамо, я хворы... Я дужа хворы, мамо... Я паміраю...

— Драй!..

«Што тут робіцца?» — дзіўлюся я.— «Хто такі гэты чалавек? Што гэта значыць — «драй»? А... Гэта мяне расстрэльваюць... Мяне!.. Расстрэльваюць!.. За што? Мамо, мамо!..»

— Файер!..

Сноп агню ўдарыў мне ў твар, падлога вырвалася з-пад ног, неяк коса рванулiся ў бок сцены з тымі людзьмі на круках, і чорная цемра навалілася на мяне...

Але, аказваецца, і ў гэтай цемры смерці ёсць нешта. Я яшчэ чую, як мяне некуды цягнуць за ногі, чую голас Краўса. Галава мая стукаецца аб нейкія ўсходы, але болю я не адчуваю. Думаю неяк спакойна: «Яны не заўважылі, што я яшчэ жывы. Ды ўсё адно: заўважаць і даб'юць...»





Ад яркага электрычнага святла я заплюшчыў вочы, а калі расплюшчыў зноў — убачыў у сябе на грудзях свае знявечаныя рукі, чорныя набрынялыя пальцы, пад пазногцямі якіх тырчэлі зламаныя запалкі...

Спачатку я не мог зразумець, дзе я. Мяне ж расстралялі... Ды свядомасць пакрысе вярталася. Я — жывы. Чаму? Відаць, Краўс толькі інсцэніраваў мой расстрэл, спадзяваўся, што перад тварам смерці я «раскалюся» і скажу, хто паслаў мяне на аб'ект «Ікс». Значыць, мне яшчэ давядзецца сустрэцца з гэтым «інтэлігентам»...

За дзвярыма пачуліся цяжкія крокі, прыадчыніўся «ваўчок» камеры — наглядчык цікавіўся, ці жывы я. Я паварушыўся, каб ён не ўвайшоў у камеру і не штурхануў мяне сваім падкутым ботам. «Ваўчок» закрыўся.

Я пачаў разглядаць камеру і адразу ўбачыў надпісы на сценах. Падабраўся бліжэй да адной сцяны, прачытаў: «Прощай, рідна Украïно. Олександр Лемешко з Киева». І яшчэ шмат надпісаў, зробленых алоўкам, цвічком, шпількаю. Надпісы на многіх мовах, але часцей за ўсё на рускай, украінскай, беларускай, польскай і нямецкай.

«Батьківщино! Ти в моему серці. Помираю з думою про тебе. Смерть фашизму! Валерій Іванченко з Дніпропетровська»... «Москва — Сталінград. А буде ще й Берлін. Тремтіть, гади!»

Шмат тут было цытат з вершаў і раманаў сусветнай класікі: Шэкспір і Гётэ, Шаўчэнка і Пушкін, Гюго і Лермантаў, Талстой і Дзікенс, Гейнэ і Някрасаў, Марк Твен і Джэк Лондан, Горкі і Рамэн Ралан... Усе яны нібы кляймілі ганьбай фашызм, давалі людзям, якія былі ў гэтай камеры, мужнасць і сілу, славілі Чалавека. І нехта напісаў панямецку словы Гётэ:

Лишь тот достоин жизни и свободы,
Кто каждый день идет за них на бой.

Але больш за ўсё людзі звярталіся да Радзімы. Ёй прысвячалі свае апошнія словы, сваю апошнюю любоў, свой астатні ўздых. І я плакаў, чытаючы гэтыя надпісы, і думаў пра сваю Бацькаўшчыну, маю зорку, маю маці.

Даты пад надпісамі пачыналіся ад лета 1941 года і канчаліся чэрвенем 1943-га. Гестапаўцы, відаць, таму не звярталі ўвагі на гэтыя надпісы, не саскрабалі іх, што ведалі: ніхто з вязняў гэтай камеры не ўбачыць волі...

Прайшоў дзень. Пульс жыцця ў маім змучаным целе то амаль сціхаў, то пачынаў ліхаманкава біцца. Часам я правальваўся ў чырвоны туман, у якім мітусіліся разарваныя думкі, не звязаныя паміж сабою словы, але раптам думкі рабіліся яснымі, дакладнымі, і мяне ахоплівала прага жыцця, і я пачынаў востра баяцца смерці, баяцца таго, што вось я памру і людзі ніколі не даведаюцца пра тое, што я перажыў, не даведаюцца пра жахі гэтай гестапаўскай турмы. Жыць! Жыць! Жыць! Расказаць пра ўсё!.. Але свядомасць падказвала: не ты адзін прагнуў гэтага... Вунь колькі надпісаў на сценах... Усё, што засталося ад думак, надзей, лёсу чалавечага... І зноў навальвалася апатыя...

Наступным ранкам мне загадалі ўстаць, вынесці з камеры і памыць парашу. У камеру завялі двух вязняў, якія пачалі рабіць дэзінфекцыю. Я тым часам пачысціў хлоркай сваю парашу, і хоць нескладаная гэта работа, яна каштавала мне страшэнных пакут: хлорка раз'ела раны на руках.

Калі я вяртаўся ў суправаджэнні наглядчыка ў камеру, насустрач па калідоры вялі вязня, апранутага ў турэмны брудны халат. Ён таксама нёс парашу. Параўняўшыся з намі, вязень раптам прыпыніўся, спытаў разгублена: «Коля, ты?». У наступны момант ён зразумеў, што зрабіў глупства, і памкнуўся быў ісці далей, але мой стражнік кінуўся да яго з крыкам: «Ты яго ведаеш?» І пачаў лупцаваць дубінкай. Хлопец закрычаў, ратуючы галаву ад удараў: «Ведаю!..»

Нас абодвух павялі да Краўса.

Вось лёс! Я добра памятаў гэтага юнака. Звалі яго Вадзім Шынкарэнка, быў ён з Палтаўшчыны. Мы пазнаёміліся з ім у маі 1942 года, калі сядзелі ў адной камеры Маабіцкай турмы ў Берліне. Гэта было пасля маіх уцёкаў з лагера «С-31», вязні якога працавалі на заводзе сельскагаспадарчых машын «Рудольф Зак» у Лейпцыгу. Адтуль я і ўцёк, мяне злавілі і прывезлі ў Маабіт.

Шынкарэнка сядзеў у Маабіце таксама за ўцёкі. Разлучылі нас з ім у канцы мая сорак другога года, і вось — такая сустрэча. Мала мне было радасці ад такой сустрэчы: вязні, якія неспадзявана сустракаюцца ў новай турме, не павінны на вачах у турэмшчыкаў пазнаваць адзін аднаго... Што, калі Шынкарэнка не вытрымае катаванняў і скажа, што ведае мяне па Маабіту? Гэта ж кончык ніткі, ухапіўшыся за які, гестапа можа разматаць увесь мой клубочак...

Калі Краўсу паведамілі, што вязень Шынкарэнка пазнаў у калідоры Ваню Пятрова, але назваў яго Колем, Краўс адразу ж узяўся за нагайку: «Адкуль ты яго ведаеш?»

Допыт Шынкарэнкі цягнуўся нядоўга. Нагайку хлапец вытрымаў, але калі яму загналі пад пазногці некалькі завостраных запалак, расказаў пра ўсё...

Краўс аж зарагатаў ад радасці, загадаў адправіць мяне ў камеру і тры дні не выклікаў на допыт. А праз тры дні ён сустрэў мяне ў сваім кабінеце лагодны, вясёлы і, перабіраючы на стале нейкія паперы, сказаў:



— А-а, беспрытульны! Бедалага! Дзетдомавец! Адстаў, бедненькі, ад эшалона, піць захацелася!..

І раптам шалёна вызверыўся:

— Шчанё! Ты цэлы год бадзяешся па розных турмах і лагерах! Ты, сірата казанская! Брэшаш, міленькі, вырадак бальшавіцкі!.. Падыдзі бліжэй!

Ён паклаў перада мною некалькі маіх фотакартак, а таксама лісты спецыяльнай белай паперы, на якой засталіся адбіткі маіх пальцаў. Усе гэтыя фотакарткі і адбіткі пальцаў былі зроблены ў розных турмах і лагерах. Краўс пачаў мне пералічваць даты і акалічнасці ўсіх маіх уцёкаў.

9 мая 1942 года, горад Лейпцыг, лагер «С—31», нумар 120. 15 мая ўцёк, назаўтра быў злоўлены, дастаўлены ў паліцыю Лейпцыга, адтуль — у мясцовую турму. Камера нумар 27, турэмны нумар 15001.

20 мая пераведзены ў Берлін. Маабіцкая турма, камера 144, турэмны нумар 17258.

27 мая адпраўлены ў Франкфурт-на-Майне, у дзіцячы працоўны лагер пры авіязаводзе «Герман Герынг верке».

25 чэрвеня ўцёк, 28 быў злоўлены. Турма ў Франкфурце-на-Майне, камера нумар 1, турэмны нумар 2511. У гэтай турме назваўся Сашко Івановым.

13 ліпеня пераведзены ў Дрэздэн. Лагер «ОСТ-2», блок нумар тры строгага рэжыму, лагерны нумар 609. Працаваў на заводзе «Альгемейне электрытс гезельшафт».

26 ліпеня ўцёк. Злавілі ў раёне Брэслау 30 ліпеня. Назваўся Міхайлам Сідаравым. Турма ў Брэслау, камера нумар 25, турэмны нумар 2831.

15 жніўня — лагер «К-1», блок нумар 5, лагерны нумар 1307. Работа на заводзе «Герман Герынг».

2 верасня ўцёк, 5 злоўлены ў раёне Гіндэнбурга і дастаўлены ў мясцовае паліцэйскае ўпраўленне. Камера нумар 5, турэмны нумар 1988. Назваўся Іванам Каваленкам.

1 кастрычніка спрабаваў уцячы з турмы, быў пасаджаны ў карцар. Быў прызнаны разумова непаўнацэнным і адпраўлены ў лагер «ОСТ-2». З 15 лістапада 1942 года па 1-е красавіка 1943 працаваў на кокса-хімічным камбінаце ў горадзе Гіндэнбург.

1 красавіка знік з лагера.

На гэтым Краўс скончыў свой пералік, і я зразумеў, што ён не ведае пра тое, што ўжо 5-га красавіка мяне злавілі каля Кройцбурга, а адтуль перапravілі ў турму, у Бойтэн. Не ведае ён і пра тое, што з Бойтэнскай турмы я трапіў на «Гогенцолернгрубе» і што апошнія мае ўцёкі — адтуль...

— Як бачыш, нам усё вядома,— задаволена сказаў між тым Краўс.— Табе застаецца толькі расказаць, дзе ты бадзяўся з першага красавіка па той дзень, калі цябе злавілі ў лесе.

Версія з'явілася сама сабою, амаль такая ж самая, як і ўсе папярэднія, але што я мог прыдумаць? Я сказаў:

— Пасля таго, як я ўцёк з Гіндэнбурга, мяне на адным паўстанку злавілі чыгуначнікі і перадалі ахове эшалона, які вёз у Нямеччыну палякаў. З гэтага эшалона я назаўтра ж уцёк і вырашыў прабірацца на Усход, праз Польшчу. Дайшоў да Польшчы, а ў тым лесе, дзе мяне злавілі, заблудзіўся.

— Можаш выдумляць свае байкі, колькі табе хочацца,— сказаў Краўс.— Таго, што ў нас ёсць, досыць, каб адправіць цябе на шыбеніцу.

У яго сёння быў надзвычай добры настрой. І апрануўся Краўс, як на свята: новы шэры касцюм, шоўкавая белая кашуля, лакіраваныя бліскучыя чаравікі. Увесь ён, як новая манета, ажззяе, аж свеціцца.

Зазваніў тэлефон, Краўс узяў трубку, пачаў буркатаць з вясёлымі пераліvамі ў голасе:

— Дзякую, дужа прыемна! Я вельмі ўзрушаны вашай увагаю да мяне. Што? Так, ён зараз у мяне, на допыце. Калі ласка!

Ён паклаў трубку, зірнуў на канваіра, на сваю сакратарку, тую рыжую кашчавую фройлен, сказаў:

— Зараз сюды прыйдзе пан Хан! А з ім высокае начальства. Так, так Гертруда, сам Фрыц Хан!.. Курт, загадайце, каб прынеслі крэслы, а вы, Гертруда, схавайце сваё люстэрка і прыгатуйце тыя паперы, што складаліся на гэтых палякаў. Ну, тых, што на крук!..

Канваір прынёс крэслы, Гертруда хуценька навяла ў кабінеце парадак, дастала з шафы і паклала на Краўсаў стол паперы. Неўзабаве дзверы адчыніліся, Краўс крыкнуў «Ахтунг!» і выцягнуўся ва фрунт перад цэлай світай высокіх чыноў, якія ўвайшлі ў кабінет.

— Пан начальнік аддзялення! У следчым аддзеле ўсё ў парадку. Аддзел працуе па графіку. Начальнік аддзела старшы следчы Краўс!

Хан пацiснуў Краўсу руку і адрэкамендаваў яго сваёй світе.

Тут я мушу крыху забегчы наперад. У 1945 годзе, пасля заканчэння вайны, пачалася падрыхтоўка да Нюрнбергскага працэсу над галоўнымі ваеннымі злачынцамі. У ходзе гэтай падрыхтоўкі я даваў паказанні Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіі па расследаванні злачынстваў верхаводаў фашысцкага рэйху. У гэтых сваіх паказаннях я шмат увагі

7*

аддаў Краўсу і Хану, але я не ведаў тады, што з імі сталася. Але вось у 1968 годзе я даведаўся з газет, што Фрыц Хан спакойна працуе сабе на пасадзе старшага ўрадавага дарадчыка заходнегерманскага ведамства вайсковай тэхнікі...

Невядома, дзе цяпер Краўс, але думаю, што і ён, калі застаўся жывы, нядрэнна ўладкаваўся. Ды вернемся ў сорак трэці год, у кабінет старшага следчага Краўса, зірнём у твар ваеннаму злачынцу Фрыцу Хану...

Гэта быў чалавек сярэдняга ўзросту, даволі мажны, але рухавы і экспансіўны. На ім быў чорны мундзір з дарагога сукна, у гальштуку блішчэла шпілька з брыльянтам, на пальцах былі тры залатыя пярсцёнкі. Адзін пярсцёнак быў вялікі, масіўны, упрыгожаны плацінавым чэрапам са скрыжаванымі пад ім касцьмі... Шырокі рамень і партупея блішчалі чорным лакам, твар быў нібы высечаны з каменя — грубы, насаты, шчакасты...

З Ханам былі дзве высокапастаўленыя асобы ў цывільным і фацэтны ад'ютант.

— Панове,— звярнуўся да іх Хан,— вы знаходзіцеся ў кабінеце аднаго з найлепшых следчых нашага ведамства, сапраўднага арыйца, ідэйна загартаванага барацьбіта за справу фюрара. Пан Краўс высокаадукаваны афіцэр, валодае свабодна некалькімі мовамі, у тым ліку мовамі нашых ворагаў. Ён адзін замяняе цэлы штат перакладчыкаў, а як следчы роўны цэлай следчай брыгадзе. Розум, інтуіцыя і нястомнасць у працы дазваляюць пану Краўсу разблытваць самыя хітрыя захады ворагаў рэйха. Вось вам прыклад! — Ён паказаў на мяне.— Перад вамі хлопчык з выгляду, няшчасны сіротка, але на самай справе гэта спрактыкаваны і хітры агент, якому ўдалося прабрацца да надзвычай сакрэтнага аб'екта. На допытах ён стараўся прыкідвацца дурнем, дзіцяткам, але пан Краўс вывеў яго на чыстую ваду!

— Што з ім зробяць, з гэтым мярзотнікам? — спытаў адзін з цывільных паноў.— Лагер?

— Расстрэл альбо шыбеніца,— сказаў Хан.— Але паколькі пра яго ўжо ведаюць у Берліне, мы мусім прытрымлівацца фармальнасцяў, прапусціць яго праз трыбунал. Але хай не чакае літасці!

Краўс расказваў гасцям пра сваю работу, прасіў Хана, каб той падтрымаў у Берліне ягоную, Краўса, просьбу, павялічыць штаты Кракаўскага гестапа — людзі перагружаны, стамляюцца, бо ворагаў рэйха, што саранчы. Напрыклад, толькі яму, Краўсу, даводзіцца штодзённа падпісваць каля сотні смяротных прыгавораў. Хан абяцаў падтрымаць і на развітанне доўга паціскаў Краўсу руку, хваліў яго, намякаў на новыя ўзнагароды, на дадатковы адпачынак, на грашовую прэмію.

Калі госці пайшлі, Краўс зірнуў на мяне весела і нават з удзячнасцю, загадаў стражніку:

— У камеру!

...У камеры ўспыхнула лямпачка, загрымелі замкі, расчыніліся дзверы.

— Раўс!

Як звычайна, надзяваюць наручнікі, штурхаюць у плечы, вядуць лабірынтам калідораў. Вядуць доўга і нарэшце спыняюцца перад дзвярыма з шыльдай «Трыбунал».

Невялікі пакой, на вокнах краты. Чорныя сталы, чорныя крэслы, чорнае на сталах сукно — усё тут чорнае. Нават паветра здаецца чорным, нават святло.

За даўгаватым і вузкім сталом — тры гестапаўскія чыны ў чорных мундзірах. Ззаду іх на сцяне вісіць масіўны чорны арол з металу, трымае ў кіпцюрах срэбраную свастыку. А над арлом — партрэт Гітлера ў цяжкой раме.

Мяне завялі за высокі бар'ер. Паабапал сталі два стражнікі з дубінкамі. Насупраць мяне, над дзвярыма, вісеў вялікі гадзіннік, які паказваў адзінаццаць гадзін раніцы. Пад гадзіннікам быў вялізны адрыўны каляндар, і на ім стаяла дата — 28 чэрвеня 1943 года. Не зводзячы вачэй з календара, я чамусьці падлічыў дакладна, колькі ж я пражыў на белым свеце? Выходзіла, семнаццаць гадоў, чатыры месяцы і адзін дзень...

У залу трыбунала зайшоў яшчэ адзін гестапавец і заняў месца адваката, але гэта быў не адвакат, а перакладчык. Ды і якія тут маглі быць адвакаты?..

Пракурор пачаў з таго, што прыгадаў членам трыбунала інструкцыі так званага зондэрбехандлунга — асаблівага абыходжання з ворагамі рэйха. Гэтымі інструкцыямі кіравалася армія, паліцыя, СС і гестапа пасля нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз. Інструкцыі гэтыя адракліся ад усіх прававых нормаў...

Пракурор гугнявым голасам пералічыў усе мае злачынствы перад рэйхам: шкодніцтва, сабатаж, непадпарадкаванне. Ён назваў мяне антысацыяльным элементам, нягоднікам, фанатыкам бальшавізму.

Мне, вядома, слова не далі. І пасля таго, як пракурор скончыў, члены трыбунала, сказаўшы кожны па адной фразе, вынеслі прыгавор, які пачынаўся словамі: «Імем Германскай дзяржавы» і канчаўся кароткім: «расстраляць».

Усё. Канец. Семнаццаць гадоў, чатыры месяцы і адзін дзень. І кропка. Наступнага дня не будзе. У гестапа не марудзяць...

Але яны прамарудзілі яшчэ дваццаць тры гадзіны, і толькі раніцой 29 чэрвеня



1943 года мяне вывелі з камеры асуджаных на смерць і павялі на першы паверх. Я быў ужо, як нежывы, нічога не адчуваў, ні пра што не думаў. Адно дзівіла: чаму яны не надзелі мне на рукі кайданы? Я ведаў, што на расстрэл вядуць у наручніках...

Канваіры завялі мяне ў нейкі пакой, і хутка высветлілася, што гэта кабінет урача Кракаўскага гестапа. Урач, не зірнуўшы на мяне, вёў размову з тым афіцэрам, які ўчора на пасяджэнні трыбунала выконваў ролю перакладчыка. Гаварыў урач, а гестапаўскі перакладчык слухаў:

— Я не з тых служыцеляў навукі, якія рухаюць яе наперад, аднак, зыходзячы са сваіх вопытаў над савецкімі ваеннапалоннымі і вязнямі лагераў, з пераконанасцю магу сказаць, што ў нашай медыцыне шмат няяснага. Вазьміце хоць бы такі факт: чым растлумачыць жывучасць непаўнацэннай расы? Адкуль у шкілета, літаральна ў шкілета, якім з'яўляецца ваеннапалонны рускі, такі запас жыццёвай энергіі? Рускага можна марыць голадам, не даваць яму вады, па дзесяць сутак трымаць у карцары, а ён застаецца жывы. Любы нармальны чалавек памёр бы праз суткі ў такім карцары. А арганізм рускага абвяргае ўсе навуковыя доказы. Чаму? Ды таму, шаноўны, што ён вельмі блізкі да арганізму жывёлы! Прымітыўнасць фізічнай арганізацыі, не гаворачы ўжо аб прымітыўнасці псіхічнага складу.

«Урач» павярнуўся нарэшце ў мой бок.

— Звярніце ўвагу на гэтага, з дазволу сказаць, чалавека. Набіць жывот — вось і ўся мэта яго існавання. Цэлы год ён прабыў у Германіі і не ведае, не запомніў ніводнага нямецкага слова! Яго расстрэльвалі, як памятаеце, а ён нават страху смерці не адчуваў, не заплакаў нават. Жывёліна! Яму ўсё адно, куды яго вядуць: на расстрэл альбо ў прыбіральню. Але фізічныя сілы ў яго ёсць, і было б марнатраўствам проста застрэліць яго. Няхай папрацуе на Германію. Правільна зрабілі, што замянілі яму пакаранне смерцю вечнай катаргай. Ад мяне патрабуецца фармальнасць: даць заключэнне, на якіх работах можна выкарыстаць гэтую жывёліну. Дык вось, я заключаю: на самых цяжкіх! Вы згодны са мною?

Яны абодва зарагаталі, «лекар» запоўніў нейкую паперу, падпісаў яе і даў падпісаць перакладчыку. Потым ён узяў пінцэт, выцягнуў у мяне з-пад пазногцяў стрэмкі ад запалак, некалькі разоў мазануў ёдам па пальцах. І ўсё.

Мяне зноў адвялі ў памяшканне трыбунала, дзе зачыталі паперу, у якой афіцыйна было пацверджана, што пакаранне смерцю замяняецца вечнай катаргай у канцлагеры асобага рэжыму...

## III. МЫСЛАВІЦЫ. «БУБНОВЫ ТУЗ».

Мяне і яшчэ семнаццаць вязняў з Кракаўскай турмы гестапа прывезла ў Мыславіцкі канцэнтрацыйны лагер. На тэрыторыі лагера было бязлюдна. Я ўжо быў «цёрты калач» і ведаў, чаму нікога не відаць: у сувязі з прыбыццём у лагер новага этапу быў абвешчаны блокшпер, нешта накшталт мёртвай гадзіны, на працягу якой вязні павінны сядзець у сваіх блоках і захоўваць абсалютную цішыню. Блокшпер мог працягвацца і некалькі хвілін, і некалькі гадзін, на час блокшперу спынялася ўсялякая работа, вязні ў блоках альбо сядзелі, альбо ляжалі, у залежнасці ад таго, які блокшпер абвешчаны — седзячы ці лежачы. Каманда «Блокшпер!» павінна была выконвацца імгненна, нібы ў дзіцячай гульні «Замры!». У кожнага, хто парушаў гэтую каманду, стралялі без папярэджання.

Мы, новыя вязні, стаялі перад невялікім брукаваным пляцам, злева ад якога знаходзілася лагерная кухня, адкуль даносіліся пахі гарачай бручкі, а з правага боку выcілася шыбеніца, на якой віселі дванаццаць чалавек. Шыбеніца была моцная, дубовая. Над ёй лунаў транспарант: «Так будзе з кожным, хто паспрабуе ўцячы з лагера!»

Пры самым пляцы ўзвышалася нешта накшталт трыбуны.

Ззаду, за намі, направа ад варотаў, у адзін роўны рад стаяла некалькі драўляных баракаў. Як я даведаўся потым, у іх размяшчалася канцылярыя, склады, лазня, дэзінфекцыйная камера, а таксама «тотэнблок» — трупярня.

Лагер быў акружаны густым калючым дротам, над якім узвышаліся стражніцкія будкі на памостах. У будках — эсэсаўцы з кулямётамі, з пражэктарамі. За драцянай агароджай сярод зялёнай травы, як блакітная жылачка, што пульсавала на целе зняверанай зямлі, бруілася ручаінка... Нітачка жыцця, якое вось-вось абарвецца... Сэрца ў мяне сціснулася: я разумеў, што ў гэтым лагеры смерць будзе пільнаваць мяне на кожным кроку...

Нарэшце са службовага памяшкання выйшла група эсэсаўскіх афіцэраў на чале з обер-штурмбанфюрарам. Ён, як аказалася, займаў пасаду рапартфюрара, гэта значыць — намесніка начальніка лагера.

— Ахтунг!

Обер-штурмбанфюрар і ягоная світа падышлі да нас. Начальнік канвою аддаў рапарт, обер-штурмбанфюрар прывітаўся з ім, і пачалася працэдура перадачы вязняў. Пасля гэтай працэдуры обер-штурмбанфюрар утаропіў на нас свае вочы, нешта яму не

спадабалася, і ён загадаў нам стаць на калені, пакласці рукі на галовы. Мы ўкленчылі, ён пастаяў, паглядзеў, потым звярнуўся да нас з такой прамоваю:

— Вы ўсе — злачынцы, злосныя ворагі Германіі. Але мы зробім з вас паслухмяных авечак. Асабіста я лічу, што вас трэба неадкладна павесіць, але закон ёсць закон, і калі пакаранне смерцю вам з вялікай літасці нашага фюрара замянілі вечнай катаргай, вы яе адбудзеце. Даводжу да вашага ведама, што вы знаходзіцеся ў Мыслаўіцкім штрафным перасыльным лагеры. Перасыльным, зразумела? Пасля кароткага каранціну мы адправім вас у цудоўны лагер санаторнага тыпу — Аўсшвіц. Там вы будзеце, як у раі. Аднак і тут, як бачыце, няблага!

Пасля гэтай «прывітальнай» прамовы ён загадаў выклікаць лагерных капо. Адзін з эсэсаўцаў пабег выконваць загад. І праз якіх пяць хвілін да нас ужо імчалася цэлая зграя гэтых нелюдзяў. Яны накінуліся на нас, як шалёныя сабакі, і, збіваючы дубінкамі, пагналі ў лазню. З лазні — у дэзінфекцыйную камеру.

Працэдура дэзінфекцыі была жахлівая. Каля бочкі з нейкай смуроднай жыжкай стаяў дэзінфектар у гумавых ботах, рукавіцах і процівагазе. Ён мачаў у бочку квач і мазаў гэтым квачам ўсе тыя мясціны на нашым целе, дзе былі валасы. Праз некалькі хвілін валасы павыпадалі, зніклі нават бровы, скура страшэнна свярбела і балюча слязіліся вочы.

Голых, нас пагналі ў рэчавы склад, дзе выдалі кожнаму лагерную робу з чырвонымі трохкутнікамі на грудзях — адзнака палітычных зняволеных. Акрамя таго, на спіне ў кожнага быў нашыты чырвоны круг — жывая мішэнь, адзнака штрафніка.

Пасля ўсяго гэтага нас паставілі перад трыбунай і шыбеніцай. Капо пасталі на правым флангзе. Хвіліна — і насцеж расчыніліся вароты, у лагер уехаў легкавы аўтамабіль, спыніўся перад трыбунай.

— Ахтунг!

Рапартфюрар кінуўся да аўтамабіля адчыняць дзверцы. І вось з бліскучай чорнай машыны пачала вылазіць нейкая пачварная істота. Спачатку паказаўся неверагодна тоўсты азадак, абцягнуты дарагім сукном. Здавалася, што ён ушчаміўся ў дзверцах і ніяк не праціснецца праз іх. Прайшло якіх хвілін мо пяць, пакуль гаспадар гэтага ўнікальнага азадка выбраўся з машыны. Штандартэнфюрар СС.

Нічога такога я ніколі ў жыцці не бачыў! Перад намі, загорнутая ў сукно, стаяла і цяжка сапла стопяцідзесяцікілаграмовая туша, увешаная безліччу розных крыжоў і медалёў, як племянны вяпрук на свінячай выстаўцы. Кароценькія тоўстыя пальцы





ў пярсцёнках з дыяментамі, амаль на кожным пальцы па два-тры пярсцёнкі. Гэтымі пальцамі-сасіскамі пачвара дастала з кішэні вялізную насоўку, выцерла з тлустай шыі і азызлага твару пот, цяжка рушыла да трыбуны. Два эсэсаўцы падбеглі і дапамаглі пачвары ўзлезці на памост.

Мы глядзелі на гэтага вепрука ў эсэсаўскай форме з агідай і страхам, бо ягоныя свінячыя вочкі хітра свідравалі нас.

— Панове,— сказаў ён на дзіва тонкім пісклявым голасам,— дазвольце адрэкамен-



давацца. Я — штандартэнфюрар фон Бодэншатц, лагерфюрар гэтага лагера. Ваш родны тата!

Эсэсаўцы пры гэтых словах дружна зарагаталі, а пачвара зноў завішчала:

— Мне вельмі не падабаецца ваш выгляд, усе вы нейкія дохлыя, змарнелыя. Гэта нікуды не варта. Я павінен здаць вас у Аўсшвіц фізічна загартаванымі, дужымі, моцнымі. А як гэтага дамагчыся? Спортам, панове! Толькі спортам! Спорт — аснова здароўя! Таму прапаную вам зараз жа тры практыкаванні. Першае — трамбаваць брук кулакамі. Другое — скокі, так, як скачуць жабкі, га-га-га! Трэцяе — крос на карачках. Увесь комплекс разлічаны на дзве гадзіны. Капо, пачынайце!

Капо з вар'яцкімі крыкамі выгналі нас на брукаваны пляц, загадалі ўкленчыць і з усяе сілы лупіць кулакамі па бруку, каб ён зрабіўся «раўнюткі і гладкі, як паліраваны стол...» І мы білі кулакамі па камянях, білі, білі, білі, покуль косці не пачалі вылазіць з далоняў.

Пасля першага «практыкавання» нас зноў пастроілі перад трыбунай, але тры чалавекі засталіся ляжаць на пляцоўцы — страцілі прытомнасць. Штандартэнфюрар тут жа загадаў, каб капо прымусілі «сімулянтаў» ачуняць. Гэта быў гумар штандартэнфюрара, бо прымусіць вязняў ачуняць азначала забіць іх. Капо гэта і зрабілі.

— Сябры мае,— звярнуўся да нас Бодэншатц.— Гэта была размінка. А цяпер прапаную вам зрабіцца маладзенькімі жабкамі і пусціцца ў скокі. Пачынайце, дзеткі!

Не помню, колькі часу мы скакалі «жабкамі», а потым выконвалі «крос» на карачках... Помню толькі, што з трыццаці да «фінішу» прыйшло семнаццаць чалавек. Астатнія заплацілі жыццём за «сімуляцыю» — кожнага, хто не вытрымаў «практыкаванняў», капо дабівалі...

Гэта быў не проста садызм, не проста здзек дзеля здзеку, а свядомая палітыка, свядомы разлік: зламаць волю вязня, ператварыць яго ў жывёліну, у істоту, якая не думае, не разважае, а падпарадкоўваецца аднаму толькі інстынкту самазахавання, імкнецца выжыць любой цаной. Жыць, існаваць, а дзеля чаго — думаць не варта. І нямала было такіх, якія капітулявалі перад бодэншатцамі, дэградавалі і фізічна, і маральна, сапраўды ператвараліся ў жывёлін, засяроджваліся толькі на адным: каб чаго паесці. Соўгаліся па лагеры, порkаліся ў памыйных ямах, толькі знешне падобныя на людзей. Такіх чамусьці называлі «мусульманамі», і трэба сказаць, што ў стан «мусульманства» часцей за ўсё траплялі навічкі, тыя, хто ўпершыню быў загнаны ў лагер. Бывалыя вязні ведалі, што выжыць можна толькі ў тым выпадку, калі ты паставіш сябе вышэй абставін, калі не дасі патухнуць у сваёй душы агню нянавісці да катаў, калі ты кожны дзень будзеш паўтараць сабе: я чалавек, а не жывёла. Жывёла — гэта Бодэншатц і падобныя яму. Яны звяры, а ты чалавек, І няхай яны прымушаюць цябе стаяць на каленях, ты вышэйшы за іх. Толькі ўсведамленне гэтага дапаможа вытрымаць усе пакуты.

Можа, таму я вытрымаў і гэтыя страшэнныя «практыкаванні», прыдуманыя «аматарам спорту» штандартэнфюрарам Бодэншатцам. І вось я ў бараку, альбо, як гаварылі, у блоку, у адной з камер-секцый. У кожнай такой камеры было па некалькі дзесяткаў вязняў, а гаспадарылі ў камерах старасты, іх памочнікі. Староста прызначаўся блокфюрарам, звычайна з крымінальных злачынцаў, зладзеяў, бандытаў, а памочнікаў сабе падбіраў ужо сам староста.

Старасты, як і капо, мелі ў лагерах прывілеі, а за гэтыя прывілеі служылі лагернаму начальству, як верныя ваўкадавы. Хоць яны і самы былі зняволеныя, але да вязняў ставіліся іншы раз яшчэ больш жорстка, чым эсэсаўцы. Такім зверам быў і староста той камеры, у якую трапіў я,— камеры нумар дваццаць.

Смурод ад парашы, карболкі і нямытага чалавечага цела. Трох'ярусныя нары без матрацаў. На голых дошках — апранутыя ў лахманы, змарнелыя, худыя, як шкілеты, людзі. У правым кутку камеры — два ложкі. На адным — стары брудны матрац і падраная коўдра, на другім — белая посцілка, дзве коўдры і дзве вялізныя падушкі. На гэтым ложку ляжаў голы да пояса чалавек з азызлым тварам, каля чалавека гэтага круціўся ягоны паслугач,— я адразу зразумеў, што азызлы — староста, а гэты, вяртлявы — ягоны халуй.

У вяртлявага была мянушка Стодваццацьтрыкуплеты, бо ён увесь час мармытаў блатную песеньку «Гоп са смыкам»: «Песня «Гоп со смыком» интересна, сто двадцать три куплета — всем известно...»

Як я даведаўся пазней, чалавек гэты быў некалі савецкім грамадзянінам, бадзяўся да вайны па Калыме, па калоніях для зладзеяў. За што ён трапіў у Мыславіцкі лагер, невядома. Скажу толькі тое, што ведаю: агідны быў мярзотнік, нічога чалавечага ў ім не было.

Старасту звалі Фердынанд, па мянушцы Бубновы Туз. Немец. Прафесійны злодзей, спецыяліст па сейфах, па нападу на банкі. Адным словам, гангстэр. Перш чым расказаць пра тое, як мы «пазнаёміліся», трэба пазнаёміць чытача з некаторымі лагернымі законамі. Акрамя, так сказаць, афіцыйных законаў, існавалі яшчэ няпісаныя. Напрыклад, навічок, пераступіўшы парог камеры, павінен быў далажыць старасту, што прыбыў і гатовы прысягнуць старасту на вернасць і паслухмянасць. Такая прысяга сведчыла аб



тым, што навічок па сутнасці не навічок, а чалавек бывалы, ведае лагерныя законы і парадкі.

Адначасова лагерная «этыка» не дазваляла нікому распытваць у навічка, хто ён такі і за што трапіў у лагер. На такія пытанні можна было не адказваць нават самому старасту, а калі спытаецца, пасцаць яго да д'ябла.

Што ж, трэба было падысці да старасты і далажыць яму аб сваім прыбыцці. Але тут я заўважыў пасланую каля парога шаўковую хустку. Ага! Стары лагерны трук. Звычайна неспрактыкаваны навічок альбо пераступаў праз хустку, альбо падымаў яе і пытаўся, чыя яна. І ў тым, і ў другім выпадку староста пачынаў адводзіць душу...

Я ж ведаў, што трэба рабіць. Выцер аб хустку ногі, падфутболіў яе да парашы, пасля чаго падышоў да старасты і сказаў: «Хвала майму дому!»

Гэта азначала, што я ведаю афарызм крымінальных: «Турма — мой родны дом».

Староста з цікаўнасцю паглядзеў на мяне, потым працягнуў мне сваю нагу:

— Цалуй!..

Менавіта гэта і было прысягай...

Паслугач Бубновага Туза захіхікаў. Але я сказаў спакойна:

— Бачыш, пане староста, я быў прысуджаны да пакарання смерцю, і толькі ўчора мне змянілі гэты прысуд катаргай, таму па законах лагера і турмы,— а пра гэта мне сказаў сам Вілі Шміт! — ваша ўлада на мяне не пашыраецца. Ось так!

Бубновы Туз сеў на ложку.

— А ты не цямніш? Назаві прыкметы Вілі!..

— Над правым брывом шрам, на грудзях каляровая татуіроўка: голая кабета ў кіпцюрах арла...

— Так,— з некаторaю павагаю сказаў Туз.— Ведаеш... Дзе ты з ім быў і калі?

— У Маабіцкай турме, у маі 1942 года.

Я не маніў. Сапраўды, у Маабіце мне прыйшлося сядзець у адной камеры са славутым налётчыкам міжнароднага класа Вілі Шмітам, па мянушцы Няўлоўны Вілі. Імя яго грымела па ўсіх турмах Германіі, ён меў вялікі аўтарытэт сярод крымінальных, і там, у Маабіце, вядома, быў старастам камеры. Аднак трэба сказаць, што ён паводзіў сябе з людзьмі прыстойна, меў натуру нават рамантычную, хоць рамантыка гэтая была танная, турэмная. Аднак як бы там ні было, знаёмства з Вілі дапамагло мне цяпер. Дапамагло і тое, што я ўспомніў пра Маабіцкую турму — усе буйныя нямецкія крымінальныя злачынцы лічылі яе сваёю «альма-матар» і з павагаю ставіліся да тых, хто ў ёй пабыў.

— Што ў цябе з пальцамі? — спытаў Бубновы Туз.

— Гестапаўскі манікюр,— паціснуў я плячыма.

— Ты кішэнны злодзей?

— Ідзі ты да ўсіх д'яблаў!

— Добра. Але я павінен цябе абшукаць.

— Вось гэта ваша права. Калі ласка!

Гэтую маю гутарку са старастам Стодваццацьтрыкуплеты слухаў, разявіўшы ляпу і лыпаючы вачыма, бо нямецкай мовы не ведаў. Ён быў здзіўлены, што я адмовіўся цалаваць нагу старасты, і не разумеў, чаму той марудзіць з расправай.

— Абшукай яго,— загадаў Бубновы Туз па-польску, і паслугач узрадавана кінуўся да мяне, пачаў абмацваць і раптам балюча ўшчыкнуў.

— Ты што, паскудзь?! — абурыўся я.

— Не падабаецца, сучка? — ашчэрыў зубы паслугач.— Стой роўна, не круціся, як прастытутка, калі цябе мацаюць, бо я табе зараз пакажу, што ўсіх святых памянеш. Кастрырую, і не пікнеш, камсамолец здохлы!

І ён даў мне аплявуху. Але цяпер гэта было мне на руку!

— Пан староста,— абурана звярнуўся я па-нямецку да Бубновага Туза.— Вы загадалі гэтаму крэціну абшукаць мяне, а ён парушае закон, шчыкаецца, б'ецца, чым ганіць ваш гонар, бярэ на сябе вашыя правы!

— Хадзі сюды! — гаркнуў Туз на свайго халуя, і калі той падбег да яго, урэзаў яму так, што ён адляцеў у кут. Абцёрся і захіхікаў.

— Дзякуй, пане староста! Шчырае дзякуй! От жа рука ў вас, дай вам бог здароўя!..

— Гэта каб ты не забываўся пра тое, хто тут гаспадар! — сказаў Туз.— Паўзі сюды, цалуй нагу!

І халуй хуценька падбег да старасты, пачаў цалаваць яму брудную нагу. Вязні на нарах моўчкі назіралі, ніхто не асмеліўся нават павярушыцца. Ясна было, што людзі тэрарызаваныя, што ўлада Бубновага Туза тут непарушная.

Неўзабаве праміненты, як называлі вязняў, якія прыслужвалі эсэсаўцам і таксама мелі такія-сякія прывілеі, прынеслі Бубноваму Тузу абед з эсэсаўскай кухні. Той пачаў непаспешліва, са смакам есці, а Стодваццацьтрыкуплеты сядзеў на сваім ложку і паглядаў лісліва. Наеўшыся, Бубновы Туз аддаў недаедкі і косткі свайму халую, якія той прагна пачаў глытаць і грызці, як галодны сабака. А Бубновы Туз залез пад коўдру, збіраючыся паспаць пасля абеду, і зрабіў мне такую ласку, дазволіў легчы на нары.

Ёы быў у гэтую хвілю лагодны. Ды пасля абеду і сну Бубновага Туза я ўбачыў, што гэта за звер, што гэта за садыст і забойца...

У камеру прывялі двух французскіх ваеннапалонных афіцэраў. Мундзіры на іх былі яшчэ амаль новыя. Відаць, французы яшчэ не прайшлі папярэдняй «апрацоўкі», пасля якой не толькі адзенне не застаецца, але і валасоў на галаве. Афіцэры пакрывіліся, увайшоўшы ў камеру, моўчкі прыселі на нары. Ніякага дакладу, ніякае турэмнае цырымоніі. А гэта — нахабства з пункту гледжання Бубновага Туза. Ён адразу злосна засоп, загадаў французам падысці да яго. Тыя падышлі, і ён загадаў ім неадкладна здаць усё, што ў іх ёсць.

Адзін з афіцэраў сказаў па-нямецку:

— Мы — ваеннапалонныя. Афіцэры, маем дваранскае званне. На нас пашыраюцца палажэнні Міжнароднай Жэнеўскай канвенцыі. Ніхто не мае права...

Бубновы Туз не даў яму дагаварыць, схапіў дубінку і з усяе сілы даў французу па галаве. Другі афіцэр зрабіў крок наперад, каб заступіцца за таварыша, але Бубновы Туз даў яму нагой у жывот так, што француз войкнуў і сеў на падлогу. Тут да яго падскочыў Стодваццацьтрыкуплеты і пачаў лупцаваць па чым папала. Удвух з Бубновым Тузам яны збілі французаў да паўсмерці.

Адкуль гэтым бедалагам было ведаць, што за непадпарадкаванне старасту, а тым больш за супраціўленне яму вязня маглі і забіць на месцы!..

— Устаць! — загадаў нарэшце Бубновы Туз ледзь жывым французам, а калі тыя так-сяк падняліся, сказаў свайму халую, каб той абшукаў іх.

Стодваццацьтрыкуплеты адабраў грошы, аўтаручкі, цыгарэты, запальнічкі і перадаў усё гэта Бубноваму Тузу. Потым ён зняў з шыі ў аднаго з французаў залаты ланцужок з медальёнам, зазірнуў бедаку ў рот і радасна рыкнуў:

— Пан стараста, тут «рыжае»!

«Рыжае» на блатным жаргоне — золата, і стараста, пачуўшы гэтыя словы, імгненна выхапіў з-пад матраца пласкагубцы, кінуўся да француза, прымусіў яго раскрыць рот. Той нават і зразумець не паспеў, чаго хоча ад яго стараста, а Бубновы Туз спрактыкаваным рухам вырваў у яго пласкагубцамі залатыя зубы. Француз завыў ад болю, кроў пацякла з рота, а Туз з усяе сілы ўдарыў афіцэра пласкагубцамі па твары:

— Маўчаць, свіння!

На крык француза з'явіўся ў суправаджэнні эсэсаўца блокфюрар, пахмуры, худы, цыбаты. Грэбліва зірнуў на французаў, спытаўся ў старасты:

— Чаго тут лямантуюць гэтыя свінні? Яны што, у трупярню просяцца?

Потым ён падышоў да стараставай тумбачкі, якая стаяла каля ягонага ложка, паклаў на яе нейкі пакунак, а Бубновы Туз перадаў яму ўсё тое, што адабралі ў французаў. Блокфюрар паляпаў старасту па плячы.

— Малайчына. Толькі навядзіце парадак у камеры!..

І пайшоў. Бубновы Туз звярнуўся да няшчасных навічкоў:

— Чулі, што загадаў пан блокфюрар, праклятыя сіфілітыкі? Каб быў парадак! А вы тут нарабілі вэрхалу, ды яшчэ хацелі ўтаіць такі скарб, які належыць нямецкай дзяржаве. Абакрасці яе хацелі! За адно гэта вас трэба павесіць, ды вашае шчасце, што я добры чалавек! Як цябе завуць? — спытаў ён у таго француза, у якога вырваў зубы.

— Жан,— прашамкаў той.

— А цябе?

— Жак,— ціха адказаў другі афіцэр.

— Дык вось,— ужо спакойна сказаў Бубновы Туз.— Ты, Жак, залазь пад нары і сядзі там, пакуль я не дазволю табе вылезці. А ты, бяззубая халера, садзіся на парашу, будзеш замест вечка. Выконвайце!

Французы пакорліва выканалі загад: адзін сеў на парашу, другі палез пад нары. У камеры панавала маўчанне...

Маім суседам па нарах аказаўся мой суайчыннік, малады хлопец са Смаленшчыны. Звалі яго Максім Кірэеў. Мы адразу адчулі сімпатыю адзін да аднаго, і хутка я ўжо ведаў гісторыю свайго новага сябра.

Максім перад вайною служыў у войску, у часці, якая дыслацыравалася ў Беларусі. На пяты дзень вайны ад гэтай часці і ад усёй дывізіі, да якой яна належала, мала што засталося — дывізія гэтая спрабавала затрымаць наступленне ворага на Мінск. Біліся адважна, упарта і нават спынілі нямецкую лавіну. Але якой цаной! У дывізіі не было танкаў, амаль не было артылерыі, чырвонаармейцы былі ўзброены вінтоўкамі, ды нават і да іх не хапала патронаў. І ўсё ж спынілі франтальную атаку вермахта на свае пазіцыі, нямала паклалі фашыстаў. Тады дывізію абышлі з флангаў, і яна апынулася ў акружэнні. З акружэння прабіваліся штыкамі, і ў адной з сутычак Максім быў цяжка паранены. Сябры пакінулі яго на глухім хутары, дзе добрыя людзі выратавалі Максіма ад смерці. Як толькі паправіўся, пайшоў шукаць партызанаў, не знайшоў, вярнуўся на хутар. І тут якраз на хутар наляцела аблава, схапілі ўсіх мужчын і Максіма разам з імі.

Спачатку ён трапіў у лагер ваеннапалонных пад Баранавічамі, потым у Холмскі канцлагер, дзе хутка зразумеў, што тут, калі не ўцячэш, аддасі богу душу. З групай ваеннапалонных прадумаў план уцёкаў, але трапіў у эшалон, які адправілі ў Германію. Больш года гнуў спіну ў нейкім каменным кар'еры, некалькі разоў уцякаў, але кожны раз лавілі. Апошні раз ён уцёк з лагера пад Магдэбургам, папаўся і трапіў сюды, у Мыславіцы.

Сілы ў хлопца яшчэ былі, і, расказваючы сваю гісторыю, ён увесь час паўтараў, што цярпець гэткага няможна, трэба нешта рабіць.

— Нельга сядзець склаўшы рукі і пазіраць, як два мярзотнікі, паплечнікі фашыстоўскай пачвары, робяць з намі, што хочуць. Трэба нешта рабіць з гэтым Тузом і з гэтым блатным...

Калі я ў сваю чаргу расказаў Максіму пра сваю лагерную адысею, пра свае вандроўкі па турмах, пра ўсе ўцёкі, ён сказаў:

— Ведаеш, мы павінны стварыць падпольную групу... Я тут ужо меў размову з адным чалавекам. Але перш-наперш трэба знішчыць Туза!.. І ягонага халуя таксама... Бо пакуль яны тут уладараць, цяжка перацягнуць людзей на свой бок. Тэрор, сам бачыш, які...

— Згодзен,— адказаў я.— Пачынаць трэба з гэтага. Але... Хіба ты не разумееш, што за забойства старасты могуць расстраляць усю камеру?

— Разумею. Ды, браце, мы не лыкам шытыя, ёсць у мяне адзін план... Патрэбна толькі дапамога.

— Што я павінен зрабіць?

— Быць сведкам.

— Сведкам?

— Ага. Слухай!.. Бубновы Туз і гэты ягоны блэт штовечар гуляюць у карты на грошы, на золата. Гарэлку п'юць. Золата і грошы адкуль? Адбіраюць, як сам ты бачыў, у навічкоў, долю аддаюць блокфюрару, долю ўтойваюць. Ну, вось. Можа быць так, што яны напіліся, пачалі гуляць у карты, пасварыліся і пачалі біцца?

— Ну?

— Ну, і Стодваццацьтрыкуплеты пад п'яную руку забіў Бубновага Туза! Трэба толькі, каб некалькі сведкаў, хоць бы два, пацвердзілі, што Туза забіў гэты блэт. Разумееш? Тады яму самі эсэсаўцы запяюць «Гоп са смыкам»... З ваўкамі жыць — па-воўчы выць... Ну, а старасту я бяру на сябе...

Я пакляўся свайму новаму сябру, што выступлю сведкам супраць Стодваццацьтрыкуплеты. І буду стаяць, не зважаючы ні на што, на тым, што ён — забойца. Урэшце, ён і быў забойца...

Увечары Бубновы Туз муштраваў нас, як трэба выконваць каманды «Станавіся!» і «Адбой!». Па камандзе «Станавіся!» кожны вязень павінен быў кулём ускочыць з нараў і заняць сваё месца ў страі. А па камандзе «Адбой!» — таксама кулём даляцець да нараў і каменем падаць на іх. На выкананне гэтых каманд даваліся секунды. Цэлая гадзіна трэніроўкі не дала ніякіх вынікаў, ніхто не ўкладваўся ў вызначаныя секунды. Бубновы Туз і Стодваццацьтрыкуплеты лупцавалі нас дубінкамі, але так нічога і не дамагліся.

Пачалі раздаваць вячэру — па чарпаку эрзацкавы без цукру. У сувязі з гэтым муштраванне Бубновы Туз перанёс на заўтра. Стараста асабіста даў французам па чарпаку кавы і дазволіў ім легчы на нары, сказаўшы пры гэтым, што ён «суровы, але справядлівы» і што «нялёгкія абавязкі старасты» прымушаюць яго быць іншы раз бязлітасным.

Яшчэ калі ішла муштроўка, Стодваццацьтрыкуплеты ўвесь час стараўся ўрэзаць мне дубінкаю альбо па галаве, альбо па пальцах. Рукі мне ўдалося ўратаваць, але галаве дасталося. Яна цяпер гула і моцна балела. Затое, калі я браў сваю каву, Бубновы Туз даў мне паўчарпака дабаўкі...

Пасля адбою ў камеры запалілася сіняя начная лямпачка. Бубновы Туз уключыў на сваёй тумбачцы кішэнны ліхтарык і разгарнуў пакунак, які прынёс блокфюрар пасля расправы з французамі,— у пакунку былі дзве бутэлькі шнапсу, кілбаса і хлеб. Бубновы Туз паклікаў свайго халуя, яны выпілі і пачалі гуляць у карты. Цяжка сказаць, хто з іх гуляў лепш, толькі стараста час ад часу даваў свайму напарніку добрую аплявуху, крычаў, што той махлюе. Гулялі яны да поўначы. Пад канец выпілі яшчэ па чарцы, потым зноў стараста надаваў свайму халую па пысе, пасля абодва ляглі спаць.

Заснуў і я.

...У перадранішняй цішыні прарэзліва завыла сірэна. За баракам пачуліся рэзкія каманды эсэсаўцаў, затупалі боты, забразгалі дзверы камер. Пачынаўся ранішні «апель» — паверка. Наша камера ў самым канцы калідора, але мы стрымгалоў саскокваем з нар і хуценька строімся ў шарэнгу. Міма мяне бяжыць Максім, кідае на хаду:

— Глядзі, не падвядзі!..

— Не сумнявайся!..

Аднак я хвалююся, дрыжаць ногі і рукі. Чым усё скончыцца? Відаць па ўсім, Максім зрабіў тое, што надумаў. Твар у яго суровы, рашучы, толькі вочы глыбока запалі...

І вось пасля мітусні, крыкаў, стогнаў дзевяноста восем вязняў застылі ў страі. Толькі стараста і ягоны памочнік засталіся ляжаць на сваіх ложках. Я стаяў блізка ад іх і добра бачыў, што стараста нерухома ўваткнуўся тварам у падушку, а Стодваццацьтрыкуплеты хроп, раскінуўшы рукі.

Набліжалася хвіліна, якая павінна была вырашыць усё. Адчыніліся дзверы, і ў камеру ў суправаджэнні двух эсэсаўцаў увайшоў блокфюрар. Высокі, худы, як вобла, твар зямлісты, пад вачыма кругі. Ён моўчкі прайшоў уздоўж шарэнгі і, не дачакаўшыся рапарту, падскочыў да старастава ложка, паглядзеў на нерухомую спіну і як лясне па ёй плёткай. Ад такога ўдару жывы ўскочыў бы, як падсмалены, але Бубновы Туз не зварухнуўся. Затое Стодваццацьтрыкуплеты падхапіўся раптам, залыпаў на блокфюрара вачыма і закрычаў звар'яцелым голасам: «Ахтунг!» Блокфюрар злосна зірнуў на яго і яшчэ раз ляс396 старасту між плячэй. Потым схапіў яго за руку, ірвануў, і стараста зваліўся на падлогу. Нарэшце блокфюрар уцяміў, што стараста нежывы, здзіўлена паглядзеў на Стодваццацьтрыкуплеты і злавесна-ціха спытаў:

— Забойства?! Хто гэта зрабіў?

Асцярожна, нібы пад ім была багна, ён пайшоў уздоўж строю. Кашчавы, з даўгім і гарбатым носам, з жудаснымі вачыма, якія зыркалі з-пад брыля эсэсаўскай фуражкі, ён быў падобны на вялізную драпежную птушку.

Усе са страхам чакалі, што цяпер будзе, на кім спыніцца погляд блокфюрара. А ён усё хадзіў і хадзіў уздоўж строю, свідраваў нас сваімі жудаснымі вачыма — мёртвымі і ўчэпістымі. Гэтыя вочы на імгненне сустрэліся з маімі, і я ўвесь напяўся. Адзін рух, які не спадабаецца блокфюрару, адзін мірг вачыма, які здасца яму падазроным,— і ўсё прапала. Але мне ўдалося нічым сябе не выдаць...

— Хто забіў старасту, крок наперад! — раптам крыкнуў блокфюрар.— Марш!

Строй стаяў нерухома. Дзевяноста восем вязняў баяліся дыхнуць, не тое, што паварушыцца. Было ціха да звону ў вушах...

— Так!.. Значыць, ніхто яго не забіваў? — Блокфюрар усміхнуўся.— Падыдзем з другога боку... Той, хто бачыў, што тут і як здарылася,— крок наперад!

Пасля гэтай каманды са строю выйшаў каржакаваты аднавокі вязень. За ім — я.

— Хто яшчэ? — Блокфюрар стараўся гаварыць спакойна, стрымліваў сябе.— Ніхто? Спалі, свінні?

І ён звярнуўся да аднавокага:

— Што ты бачыў?

Аднавокі хутка загаварыў па-нямецку. Стодваццацьтрыкуплеты аж шыю выцягнуў і ляпу разявіў, але зразумець нічога не мог, бо ведаў толькі некалькі нямецкіх слоў. На твары ў яго быў страх і ідыёцкая разгубленасць.

Аднавокі ж расказваў блокфюрару, што ўчора вечарам стараста і ягоны памочнік пілі гарэлку і гулялі ў карты. Гулялі на золата. Потым пачалі сварыцца і пабіліся паміж сабою. Дзе былі каштоўнасці? Пад матрацамі, пане блокфюрар! Старасту, відаць, не шанцавала ў гульні, бо ён усё даставаў з-пад матраца грошы. Потым ён моцна пабіў свайго памочніка, адабраў у яго ўсё, што той выйграў, і схаваў у матрац ці пад матрац. Калі стараста заснуў, памочнік падкраўся да яго, накінуў яму на галаву коўдру і задушыў.

Блокфюрар недаверліва слухаў аднавокага, які гаварыў, нібы па-пісанаму. Назубок вывучыў чалавек сваю версію, а я стараўся не прапусціць ніводнага ягонага слова.

— А ты што бачыў? — звярнуўся блокфюрар да мяне.— Хутчэй!

Я сказаў, што дрэнна ведаю нямецкую мову, вельмі дрэнна, і таму прашу, каб далі перакладчыка. Блокфюрар выклікаў са строю польскага яўрэя Сямёна Варшаўскага, які валодаў рускай мовай, і я слова ў слова паўтарыў тое, што расказаў аднавокі. Я дадаў толькі, што Стодваццацьтрыкуплеты, калі задушыў старасту, потым шукаў нешта ў ягоным матрацы.

Вочы ў блокфюрара перасталі быць нерухомымі, у іх загарэліся драпежныя агеньчыкі.

— Калі гэта адбылося?

— Дзесь пасля апоўначы.

— А чаму ты не спаў?

— У мяне дужа балелі пальцы.

І я паказаў яму свае знявечаныя пальцы, якія пачарнелі, пасінелі і загнаіліся.

Тое, што два вязні на розных мовах далі аднолькавыя паказанні, якія не разыходзіліся нават у дэталях, уразіла блокфюрара. Я гэта бачыў і, каб канчаткова пазбавіць яго сумненняў, сказаў:

— Загадайце абшукаць матрац памочніка старасты, пане блокфюрар! Вы ўбачыце, што ўсё — праўда!

Тут Стодваццацьтрыкуплеты здагадаўся, нарэшце, што яму пагражае, кінуўся блокфюрару ў ногі.



— Яны брэшуць, брэшуць! Гэта не я! Дальбог, не я!.. Пане!..

Блокфюрар ботам раскрываціў яму твар, крыкнуў эсэсаўцам:

— Паглядзіце, што там у ложках!

Тыя адразу ж распаролі і растрыбушылі матрацы. З матраца Стодваццацьтрыкуплеты вываліліся некалькі залатых гадзіннікаў, залатыя ланцужкі, медальёны, залатыя манеты. Яшчэ больш залатых рэчаў і манет знайшлі ў матрацы старасты. Блокфюрар ледзь паспяваў распіхваць усё па кішэнях. Цяпер вочы яго блішчэлі, рукі трэсліся, а калі ўспаролі падушкі, ён, забыўшыся пра свой арыйскі гонар, сам кінуўся іх патрашыць.

Нарэшце вобыск закончыўся. Блокфюрар заклапочана паглядзеў на гадзіннік: а пятай гадзіне раніцы трэба было ісці дакладваць да рапартфюрара аб наяўнай колькасці вязняў, а ён, відаць, намерыўся схаваць у надзейным месцы частку каштоўнасцяў — усе яны кралі, усе былі зладзеі: і крымінальны Бубновы Туз, і эсэсаўскі афіцэр, прадстаўнік гітлераўскіх «звышчалавекаў»...

Акрамя таго, блокфюрару трэба было пачысціць мундзір, бо як жа ісці на даклад, калі ты ўвесь у пер'і з падушкі!.. А галоўнае, з кішэнямі, поўнымі залатых рэчаў. За прысваенне каштоўнасцяў, якія лічыліся ўласнасцю дзяржавы, па галоўцы не пагладзяць нават эсэсаўскага афіцэра. І яшчэ блокфюрару трэба было неадкладна пазбавіцца ад Стодваццацьтрыкуплеты: той жа ведаў, што блокфюрар быў у супольніцтве з Бубновым Тузам.

Стодваццацьтрыкуплеты поўзаў ля ног у блокфюрара, цалаваў яму боты, але лёс яго быў ужо вырашаны. Блокфюрар кінуў некалькі слоў эсэсаўцам, і тыя пачалі таптаць халуя цяжкімі ботамі, наступалі яму на галаву, цалялі абцасамі ў скроні. Неўзабаве Стодваццацьтрыкуплеты перастаў енчыць і курчыцца. Эсэсаўцы ўзялі труп за ногі і павалаклі з камеры.

— Алес ін орднунг! — сказаў блокфюрар.— Усё ў парадку!

Ён прайшоўся ўздоўж строю вязняў, тыцнуў пальцам у Жака і сказаў:

— Прызначаю цябе старастам. Неадкладна прыбраць у камеры, навесці парадак! Выконвай!

— Яволь! — выгукнуў Жак.

Блокфюрар пайшоў, а мы ўсё яшчэ стаялі ў страі, ніяк не маглі апамятацца. Няма гэтага бандыта Бубновага Туза, няма гэтага ягонага мярзотніка, гэтага маленечкага, брыдкага ката!..

Пачалі наводзіць парадак у камеры, мылі хлоркаю нары, сцены, падлогу, павыкідвалі смецце, пух і пер'е з таго кутка, дзе стаялі ложкі Бубновага Туза і яго памагатага.

Жак аддаваў распараджэнні спакойна, разважліва. Першае, што ён зрабіў,— гэта выкінуў у скрынку для смецця дубінкі, якімі нас лупцавалі нябожчыкі. І нешта неяк адразу перамянілася ў камеры, адзіны ўздых вырваўся ў людзей, быццам усе адначасова скінулі з сябе вялізны цяжар.

З таго дня, як не стала Бубновага Туза і ягонага памагатага, вязні нашай камеры перасталі быць запалоханым быдлам, пачаў нараджацца калектыў.

Самае галоўнае, людзі перасталі думаць толькі пра сябе, зноў прачнулася чалавечая годнасць, адчуванне таго, што ты не сам па сабе, што побач з табою таварышы. Дапамагалі хворым, слабым, знясіленым, і гэта таксама было барацьбой супраць фашызму і яго ідэалогіі, барацьбой гуманізму супраць закону нахабнай сілы, звярынага індывідуалізму.

Значна змянілася і маё становішча. Новы стараста, Жак, здагадваўся, відаць, што нягоднікаў знішчылі не без мяне і стараўся падтрымаць мае фізічныя сілы, дзяліўся ежай, якую ён, як стараста, атрымліваў з эсэсаўскай кухні, разжыўся нават шнапсам і прамыў ім мае раны на пальцах, забінтаваў. Я цяпер спаў, колькі хацеў, мяне будзілі толькі на ранішнія і вячэрнія апелі ды паесці.

Маладосць брала сваё. Я падужэў, зноў ажыла прага жыць, вярталася надзея. І толькі аднаго я баяўся, што мяне адправяць у іншы лагер, вырвуць з асяроддзя новых сяброў. З калектыву.

Мой страх быў недарэмны: Мыславіцы былі перасыльным лагерам.

Аднойчы вязень, які стаяў ля ўвахода, падаў сігнал трывогі: блокфюрар! Мы імгненна пастроіліся, і, калі блокфюрар увайшоў, Жак аддаў рапарт:

— У страі дзевяноста восем хефтлінгаў. Стараста дваццатай камеры Жак Марэль!

Блокфюрар агледзеў камеру і, відаць, застаўся задаволены парадкам, бо не зрабіў ніводнай заўвагі.

— Гут,— буркнуў ён, дастаў з кішэні блакнот і пачаў яго павольна перагортваць. Усе застылі ў трывожным чаканні.

— Драйхундэртфюнфундннойцыгзібундцванцыг!

Сэрца ў мяне адарвалася — блокфюрар назваў мой нумар. Я зірнуў на Максіма. Хлапец збялеў, вочы зрабіліся трывожнымі. Ён, мабыць, падумаў, што мяне выклікаюць на допыт у сувязі са смерцю Бубновага Туза. Я і сам спачатку падумаў пра гэта.

— Ёсць! — выгукнуў я і зрабіў крок наперад.

— Раўс! — скамандаваў блокфюрар.

Кідаю апошні позірк на камеру, на сваіх таварышаў. Яны глядзяць на мяне так, нібы праводзяць у апошні шлях... На вачах у многіх слёзы... І ў мяне ў самога слёзы на вачах... Ну, што ж, бывайце, хлопцы!..

Блокфюрар перадаў мяне аўтаматчыкам, і яны павялі да знаёмай ужо брукаванай плошчы. Там ужо былі сотні вязняў, стаялі перад трыбунай, а на яе пры дапамозе двух эсэсаўцаў узлазіў «тата», сам Бодэншатц. Узлез і склаў на жываце пульхныя рукі, малітоўна закаціў вочы, загаварыў піскливым сваім голасам:

— Дарагія мае дзеткі! Наступіла сумная хвіліна ў нашым з вамі жыцці. Цяжка, вельмі цяжка, але трэба нам развітацца!.. Вы жылі тут у мяне, як у бога за пазухай, дзеткі!.. Спадзяюся, што яшчэ неаднойчы будзеце вы ўспамінаць шчаслівыя, бясклапотныя дні, якія правялі тут. Так, мне вельмі шкада развітвацца з вамі, і толькі адно супакойвае мяне: тое, што вас чакае яшчэ большае шчасце, слаўная будучыня! Бывайце, родныя мае! Пішыце пісьмы!..

Стары кабан дастаў з кішэні хустку, паднёс яе да вачэй, нібы выціраў слёзы. Эсэсаўцы дружна зарагаталі.

Пасля прамовы «таты» Бодэншатца пачалася зверка нумароў вязняў з дакументамі. Лагерныя пісары ў суправаджэнні эсэсаўцаў хадзілі ўздоўж шэрагаў са спіскамі ў руках і стандартнымі суправаджальнымі карткамі. Карткі былі з тонкага кардону, прыблізна дванаццаць на дванаццаць сантыметраў. У гэтых картках былі запісаны асноўныя дэмаграфічныя дадзеныя і пералік «злачынстваў» вязня. На маёй картцы па дыяганалі была пастаўлена чырвоная палоска, на якой чорнаю фарбай было надрукавана: «Цурюк керэн іст уннэрвунш» — «Вяртанне не пажадана»...

Звяраючы мой нумар з карткаю, пісар і эсэсавец з недаверам глядзелі на мяне: яны дзівіліся, што такі кволы хлапец з забінтаванымі рукамі столькі разоў уцякаў з лагераў і турмаў, што на яго картцы стаіць надпіс, які ставілі на картках самых заўзятых ворагаў Германіі...

— Што ў цябе з рукамі? — спытаўся эсэсавец.

— Гестапаўскі манікюр!..

Афіцэр усміхнуўся.

— Відаць, заслужыў?

— Вядома, заслужыў!

Ён паглядзеў на мяне ўважліва, зноў усміхнуўся, дастаў з партсігара дзве цыгарэты, працягнуў мне:

— Вазьмі за шчырасць.

— Дзякуй, я не куру!..

Забойца, нелюдзь, ён яшчэ строіў з сябе чалавека!.. Ды яны часам любілі прыкінуцца людзьмі — перад тым, як адправіць цябе на смерць.

Яшчэ звяралі карткі, яшчэ пісары перапраўлялі іх, а на тэрыторыю лагера заехала ўжо дзесяць аўтафургонаў і дзесяць матацыклаў з калясскамі, на якіх былі ўстаноўлены кулямёты. Калі нас пачалі заганяць у машыны, я наўмысна затрымаўся. За гэта мяне некалькі разоў штурханулі прыкладам у спіну, але затое я дамогся таго, чаго хацеў: буду сядзець ля задняга борта і хоць у апошні раз пагляджу на вольны белы свет.

— Горш не будзе,— сказаў адзін з вязняў, адказваючы, відаць, на свае думкі.— Горш не будзе...

— Будзе горш,— сказаў другі.— Чуе маё сэрца.

Потым я часта прыгадваў гэтыя словы.

Дзевяць машын загрузілі вязнямі хутка, а з дзесятай замарудзіліся: у яе грузілі трупы. Іх выносілі з тотэнблока па адным, старанна звяралі нумар з карткай, а потым кідалі ў кузаў, як дровы. Пазіраючы, як эсэсаўцы валтузяцца з мёртвымі, я дзіву даваўся: жывога чалавека яны лічылі за нішто, маглі забіць вязня проста так, дзеля пацехі. Ніхто не адказваў перад адміністрацыяй за вязня. Але да мёртвых была асаблівая ўвага. Каты вялі старанны, скрупулёзны ўлік трупаў... Бухгалтэрыя смерці была ў іх на вышыні!..

Нарэшце скончылі важдацца з мёртвымі, начальнік канвою ўзяў з рук рапартфюрара суправаджальныя карткі, паклаў іх у скураную сумку і скамандаваў, каб ад'язджалі. Калона выехала за вароты, павярнула на шашу.

Абапал шашы цягнуліся роўныя, як стэп, палі. Усё нагадала мне маю родную Украіну, але ад гэтага яшчэ мацней сціснулася сэрца, бо думалася: ніколі не адчуць мне паху палыну, не ўбачыць гэтае журботнае дрэўца на невялічкім узгорку, не паваліцца ў духмяную траву, не глядзець у бяздонны блакіт, дзе плывуць птахі і воблачкі.

Калона грузавікоў спынілася перад стракатым шлагбаўмам. З закамуфляванай будкі аховы выйшла група вайскоўцаў у зялёных мундзірах, якія насілі салдаты вермахта. Я спачатку падумаў, што мы трапілі на тэрыторыю нейкай часці, якая прыбыла з фронту, але хутка заўважыў на пілотках вайскоўцаў эмблему смерці: чэрап і скрыжаваныя косці. У аднаго з іх у пятліцах былі залатыя кубікі, якія насілі толькі афіцэры



СС. Сумненняў больш не было — гэта эсэсаўцы, толькі апранутыя ў зялёныя, а не ў чорныя мундзіры.

Яны ўважліва праверылі дакументы начальніка нашага канвою, потым зазірнулі ў кузавы і толькі пасля падня лі шлагбаўм.

Машыны пайшлі павольна. Вакол дарогі цягнуліся пералескі — хвоечкі, елкі. Тамсям тырчэлі вартавыя вышкі, але самога лагера ўсё яшчэ не было відаць. Міжвольна думалася: што ж гэта за лагер, калі яшчэ на далёкіх подступах да яго столькі аховы?

Машыны праехалі праз цэлых тры загараджальныя зоны, праз тры кантрольна-пропускныя пункты, на якіх паўтаралася старанная працэдура праверкі. Нашыя сэрцы сціснаў холад трывогі і страху.

Скончыліся пералескі, пачалося балота. Абапал дарогі працавала безліч людзей у стракатых робах — не людзей, а сапраўдных шкілетаў, такіх я яшчэ не бачыў нідзе. Вязні стаялі ў гразі па калені і капалі канавы. Праца ішла ў ліхаманкавым тэмпе, у такім ліхаманкавым, нібы людзей трэслі канвульсіі. Уздоўж канаў пахаджвалі мардастыя паганятыя. Воддаль купкамі стаялі эсэсаўцы, аб чымсьці размаўлялі, курылі, рагаталі.

У некалькіх месцах ляжалі акуратна складзеныя ў штабелі трупы. Галавою да дарогі, нагамі да канавы.

Машыны спыніліся каля брамы лагера, нам загадалі злезці, з лямантам, крыкамі, штурхаючы прыкладамі, пачалі строіць у калону.

Стаяла ліпеньская сухмень, і нечым смярдзела — страшэнна, густа, атрутна. Смурод гэты нагадваў пах гарэлай гумы, гарэлага мяса і поўсці. Мы азіраліся, не разумеючы, што гэта, адкуль. Ды як толькі нас завялі за вароты, я ўбачыў вялізны комін, з якога валіў чорны густы дым. Слуп дыму, здавалася, падпіраў неба, а ў небе стаяла злавесна чырвонае сонца, промні яго ледзь прабіваліся праз хмару дыму, і хмара пераліваласа рознымі колерамі.

«Нейкі завод,— падумалася мне.— Ніколі такога не бачыў». Але гэта быў не завод. Перад намі раскінуўся велізарны лагер, акружаны некалькімі радамі калючага дроту. Па ім ішоў электрычны ток, бо на слупах блішчэлі белыя ізалятары. І на кожным слупе вісела магутная электрычная лямпа з рэфлектарам.

За гэтай агароджай была яшчэ адна, а за тою — яшчэ. У тры столкі акружылі лагер калючым дротам, у тры столкі!.. Па перыметры драцяной агароджы, праз кожныя сорак — пяцьдзесят метраў, стаялі высокія каменныя вышкі з пражэктарамі, буйнакалібернымі кулямётамі і тэлефонамі. З бліжэйшай да нас вышкі было чуваць, як вартавы крычаў камусьці ў тэлефон:

— Нічога цікавага! Тры сотні дахадзяг і машына трупаў!

Я ўспомніў, што на браме лагера, вялізнай, падобнай на арку буйнога прамысловага прадпрыемства, з металічных вялікіх літар складаўся надпіс: «Праца робіць свабодным». Што ж гэта за лагер?

Калона наша стаяла ля каравульнага памяшкання за брамай, чакалі начальства. Павінна была адбыцца селекцыя: каго направа, у каранцін, каго налева, туды, дзе дыміў комін. Комін крэматорыя...

Паабапал брукаванай дарогі, якая падзяляла лагер на дзве роўныя часткі, я ўбачыў акуратныя газоны, кветкі. Уздоўж дарогі стаялі драўляныя шчыты, на якіх белай фарбай былі напісаны розныя заклікі, папярэджанні, правілы. На адным з такіх шчытоў я прачытаў:

«На свабоду ёсць толькі адна дарога! На гэтай дарозе стаяць такія вехі:
Чысціня,
Акуратнасць,
Дбайнасць,
Пунктуальнасць,
Паслухмянасць,
Стараннасць,
Сумленнасць,
Праўдзівасць,
Працалюбівасць,
Адданасць,
Гатоўнасць да самаахвярнасці,
Любоў да Айчыны!»

Мы паспелі прачытаць усе гэтыя надпісы, паглядзець, як непадалёку ад нас група вязняў пад наглядам эсэсаўцаў вучылася хадзіць на каленях. Тых, хто падаў, асістэнты эсэсаўцаў лупцавалі дубінкамі... А начальства ўсё не было.

Вось міма нас праехаў да крэматорыя воз, запрэжаны дзесяткам вязняў. На возе ляжаў штабель трупаў — голых, страшэнна худых. А начальства ўсё не было.

Вось правялі калону — даўжэзную, у некалькі мо тысяч. Яна прайшла, стукаючы драўлянымі падэшвамі, і людзі ў ёй мала чым адрозніваліся ад тых, каго толькі што павезлі на возе ў крэматорый... А начальства ўсё не было.

Нарэшце з'явіўся нейкі фюрар з папкаю ў руцэ. Смачна пазяхаючы, ён прыняў рапарт начальніка канвою, пакорпаўся ў сваёй папцы, знайшоў патрэбную паперку, потым раўнадушным позіркам агледзеў нас, зморшчыўся:

— Сто хефтлінгаў на нумарацыю. Пасля нумарацыі — у блок. 2-А. Астатнім няма месца. Адпраўце іх у Біркенау. Выконвайце!

Начальнік канвою адлічыў ад нашай калоны сотню чалавек, у лік якіх трапіў і я. Астатніх павялі за браму. Пазней я даведаўся, што значыць адправіць у Біркенау — неадкладна спаліць у печах.

Перш чым нас пранумараваць, групу павялі на дэзінфекцыю. На станцыі дэзінфекцыі загадалі распрануцца дагала і залезці ў бочкі з нейкай «хіміяй». Адсюль ужо, голых, нас пагналі на нумарацыю. У бараку, дзе нумаравалі вязняў, завіхаліся пад наглядам эсэсаўцаў чалавек дваццаць татуіроўшчыкаў. Пасярод барака стаялі дзесяць сталоў, за якімі адбывалася працэдура татуіравання. Каля кожнага стала стаяў эсэсавец, трымаючы ў руках суправаджальныя карткі. Быў яшчэ галоўны стол, «дыспетчарскі», за якім эсэсавец-дыспетчар выклікаў вязняў па прозвішчы, звяраў чалавека з ягонай фотакарткай і загадваў, да якога стала падыходзіць.

Дайшла чарга і да мяне. Я падышоў да таго стала, на які мне паказалі, паклаў на яго руку. «Татуіроўшчыкі-мастакі» хуценька выкалалі мне на руцэ нумар: 131161. Так я ператварыўся ў хефтлінга «хундэртайнунддрайсігхундэртайнунддзегцыг». Страціў сваё імя. Хоць і раней у лагерах і турмах мне прысвойвалі нумар, але ж не ставілі кляймо.

Што ж гэта быў за лагер?

(Заканчэнне ў наступным нумары.)

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Іван ПАТАПАЎ
- Аляксандр САКАЛОЎСКІ
- Эдуард РЫСАЕЎ
- Сяргей СЯЛІЦКІ
- Жана ДАПКЮНАС
- Вольга ДЭКОНСКАЯ
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Барыс КРЭПАК
- Пятро ДРАЧОЎ
- Дзіна ВОРАН
- Сяргей ЧУБАКОЎ
- Міхаіл СУПАНЕЎ
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ
- Ірына КУЗНЯЦОВА









# ХЛОПЕЦ ПРЫЙШОЎ НА ЗАВОД •

Калі ехаць з Магілёва на Оршу, то паабапал шашы-асфальтоўкі кіламетры тры-чатыры будуць мільгаць рознакаляровыя драўляныя домікі. Потым адразу набяжыць цэлы пасёлак шматпавярховых сучасных дамоў сярод гонкіх таполяў, кучаравых ліпак, стромкіх сосен — жылы раён Магілёўскага аўтамабільнага завода імя Кірава.

Пасёлак аўтазаводцаў — нібы гарадок у горадзе. Са сваімі няпісанымі законамі, узаемаадносінамі і традыцыямі. Людзей зблізкае і гуртуе не толькі завод, вакол якога ўсё з'яднана і на якім усё трымаецца, але і тое, што тут жыве многа колішніх аднавяскоўцаў, даўніх знаёмых... На пасёлку амаль усе і ўсіх ведаюць, хаця жыхароў тысячы.

Чым болей знаёмішся з жыццём пасёлка, тым усё больш пераконваешся, што жыхары яго трошкі розняцца ад астатніх магілёўцаў. Пры ўсіх сваіх вонкавых гарадскіх атрыбутах аўтазаводцы характарам болей нагадваюць людзей вясковых: яны такія ж спакойныя, прыветныя, ураўнаважаныя.

Здаецца, што і аўтазаводская моладзь розніцца ад астатняга гарадскога маладога люду. Гэта лёгка заўважыш усюды: і ў гарадскім транспарце, і на вуліцах пасёлка, на танцах у заводскім Доме культуры. Кіраўскія хлопцы і дзяўчаты больш сціплыя, больш вытрыманыя, больш культурныя. Яны не мазоляць людзям вочы ні разбэшчанасцю, ні шумлівасцю, ні бесцырымоннасцю. І міліцыя за тутэйшы куток горада больш спакойная.

Усё гэта — не выпадковасць.

Мы, старэйшыя, часта гаворым пра сучасную моладзь: такая яна і гэтакая, і тое ў яе не так і гэта не гэтак. На аўтазаводзе імя Кірава менш наракаюць на моладзь, а больш імкнуцца да таго, каб падлеткі і юнакі сталі сапраўднымі людзьмі. Толькі і ўсяго!..

Дбала на прадпрыемстве займаюцца выхаваннем падлеткаў. Іх на заводзе сотні дзве. Здавалася, ім бы яшчэ сядзець на бацькоўскіх харчах і выконваць свой «асноўны» абавязак — хадзіць у школу. Але жыццё ёсць жыццё: у каго сям'я вялікая — і падлетак ідзе на працу, каб памагчы бацькам; нехта сам вырашае, што ўжо даволі «вучоны», час пераходзіць «на свой хлеб» — і паступае на завод; заканчвае прафесійна-тэхнічнае вучылішча — і зноў жа прыбывае на прадпрыемства, з накіраваннем у кішэні. Карацей, кожнага з гэтых дзвюх сотень прывяла на завод свая дарога, падобная і не падобная на іншыя.

На заводзе падлетку-навічку перш за ўсё стараюцца паказаць, што яму тут рады, што яго праца патрэбная, што вялікай заводскай рабочай сям'і не ўсё роўна, якім будзе яго далейшы лёс, што ўсе шчыра хочуць, каб з яго выйшаў не толькі ўмелы рабочы, але і адукаваны, свядомы грамадзянін. Гэта — канчатковая мэта. Тэорыя, так сказаць.

А вось практыка, вось сродкі і формы выхавання.

На новым месцы заўсёды нялёгка прыжывацца. Нават бываламу чалавеку. Тым больш падлетку. Пакуль асвойтаецца — колькі адных толькі перажыванняў! У першыя свае дні на заводзе падлетак трымаецца або празмерна бойка, з усяе сілы паказваючы, што і ён не лыкам шыты, або робіцца залішне ціхманым, тоіцца. Вось тут падлетку якраз і падае сваю добразычлівую руку дарослы чалавек.

Настаўніцтва як форма выхавання непаўналетніх вельмі пашырана на аўтазаводзе. Літаральна ў кожнага аўтазаводскага падлетка ёсць свой настаўнік — сталы рабочы, перадавік вытворчасці, добры чалавек. Прыклад ва ўсім — вось што такое гэты настаўнік. Такі, напрыклад, токар Уладзімір



Вітольд БЯЛЫНІЦКІ-БІРУЛЯ. Лес задрамаў.

Вітольд БЯЛЫНІЦКІ-БІРУЛЯ. Рака ў лесе.





Іван Паўлавіч МЕЛЕЖ —
ЛАЎРЭАТ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ 1972 ГОДА.
«Маладосць» віншуе Івана Паўлавіча з пачэснай узнагародай.

Мікола КАЗАКЕВІЧ. Юнацтва.





Віктар ГРАМЫКА. Жанчынам Вялікай Айчыннай вайны прысвячаецца.



Пасвячэнне ў рабочыя. Майстар цэха Анатоль Бажко ўручае ганаровае пасведчанне маладому рабочаму Віктару Наглоўскаму.

Камсамольцы другога механазборачнага цэха.



Дзень сённяшні





Зубарэзчык Мікалай Веліканаў.

Шліфоўшчыца эксперыментальнага цэха Валянціна Раманенка.

Слесар механазборачнага цэха Пётр Ферамец. Ён працуе на заводзе пасля заканчэння прафтэхвучылішча.



Аляксеевіч Склюдаў, такі заточнік Міхаіл Архіпавіч Цімкоў, рэзьбашліфавальшчык Віктар Анісімавіч Мікуліч, токар Валянціна Пятроўна Ключнікава, брыгадзір слесараў-інструментальшчыкаў Георгі Аляксандравіч Шпакоўскі і шмат хто яшчэ...

Настаўнік вучыць юнака ці дзяўчыну **сваёй** прафесіі, а не проста рыхтуе іх «на разрад». Справай і словам вўчыць прыгожа жыць, вўчыць знешняй і ўнутранай культуры, вучыць цаніць у сёняшнім імклівым жыцці спрадвечнае, чалавечае: сумленнасць, чуласць, мужнасць, гонар за сваю родную зямлю, за сваю вялікую краіну. Вучыць быць Чалавекам.

Адначасова з настаўнікам у кожным цэху дзейнічаюць саветы падлеткаў. Узначальвае савет звычайна член бюро цэхавай камсамольскай арганізацыі. У савет уваходзяць актывісты, камсамольцы — нярэдка тыя ж падлеткі. Клопатаў і абавязкаў у членаў савета мноства. Савет ведае ўмовы жыцця сваіх «падапечных», ведае характар кожнага, хто яго бацькі, як ён сам ставіцца да настаўніка і майстра і як тыя ставяцца да яго, ці вучыцца ён у школе, як праводзіць вольны час, з кім сябруе... І безліч іншага — з адукацыйнага, вытворчага, палітычнага, культурнага жыцця.

Навошта ўсё гэта? Трэба! І вельмі трэба. Падлеткавы ўзрост — узрост складаны. Можа ў гэтым узросце больш чым калі рашаецца пытанне, кім быць і якім стаць.

Саветы падлеткаў — арганізатары і ўдзельнікі «сямейных» (цэхавых) святаў. У вытворчых падраздзяленнях завода рэгулярна праводзяць «Дзень першага заробку», «Пасвячэнне ў рабочыя», «Дзень паўналецця». Так, у першым механічным цэху, дзе саветам падлеткаў кіруе Вячаслаў Савіцкі, нядаўна ўрачыста адзначалі паўналецце Георгія Бібкіна і Віктара Наглоўскага. Быў у Віктара і «Дзень першага заробку» і рытуал пасвячэння ў рабочыя, ва ўрачыстай абстаноўцы яму ўручылі кваліфікацыйнае пасведчанне і «Пасведчанне маладога рабочага» — своеасаблівы заводскі наказ маладому чалавеку перад працоўнай дарогай. Усё гэта праводзіцца радасна, светла, прыемна і, безумоўна, пакідае глыбокі след у душы і памяці. На «сямейных святах» трэба пабываць, паглядзець, паслухаць — толькі тады можна ацаніць усю сілу іх псіхалагічнага ўздзеяння на характар юнака.

Саветы падлеткаў узніклі на аўтазаводзе некалькі гадоў назад. Даўно дзейнічае і заводскі савет маладога рабочага (яго зараз узначальвае электрык Уладзімір Шчокін). Гэты савет, у які ўваходзяць пяць маладых рабочых, разам з камітэтам камсамола завода і цэхавымі саветамі падлеткаў, шмат часу і энергіі аддае юным. У савета маладога рабочага той жа клопат, тая ж задача — каб рабочы клас меў паўнацэнную маладую змену.

Настаўнікі, саветы падлеткаў, цэхавыя камсамольскія арганізацыі, савет маладога рабочага... Ці не зашмат? Не, не зашмат. Больш таго, не толькі яны дбаюць пра маладую змену. Не толькі яны стараюцца, каб падлетку было добра на прадпрыемстве. І партком і заўком прафсаюза зацікаўлена і пільна сочаць за далейшым лёсам тых, каму сёння няма васемнаццаці. Дырэкцыя — само сабой.

Узяць хоць бы сумесны «План мерапрыемстваў адміністрацыі, парткома, заўкома прафсаюза і камітэта камсамола завода на 1972 год па выхаванні непаўналетніх і моладзі». План грунтоўны — з васемнаццаці пунктаў. Тут і вучоба ў вячэрняй школе, тэхнікуме, інстытуце (на вучобу завод робіць асаблівы націск), і палітасвета, і эканамічны ўсенавуч, і павышэнне кваліфікацыі, і заняткі з дапрызыўнікамі, і сходы на юрыдычныя тэмы, і сустрэчы з ветэранамі завода, і праверка ўмоў працы падлеткаў, і спорт, і самадзейнасць, і турызм, і многае іншае. У Доме культуры свае мерапрыемствы, у інтэрнатах — свае.







Сакратар камсамольскай арганізацыі другога механазборачнага цэха наладчыца Соня Адзінец (злева) і свідравальшчыцы Елізавета Куслікава і Ніна Чэйка.

Токар першага механазборачнага цэха Аляксей Мікалаевіч Хобатаў (на заводзе ён 16 гадоў) са сваім вучнем Уладзімірам Іваніцкім.





Завод будуецца. Маладыя мантажнікі Уладзімір Любчанка і Віктар Мігуноў.

Вучні магілёўскай сярэдняй школы № 11 на экскурсіі ў галоўным зборачным цэху.



Варта сказаць яшчэ і пра такое. Каб не падумалася, што яму, чалавеку 15—18 гадоў, на заводзе і кроку не даюць ступіць самому — без павадка, без апякунства, быццам ён нібы піскляня ля курыцы-квактухі. Уся аўтазаводская сістэма выхавання падлеткаў накіравана якраз на развіццё іх самастойнага мыслення, на гартаванне палітычнай і грамадзянскай свядомасці, на фарміраванне такіх маральных прынцыпаў, маючы якія чалавек у любой сітуацыі застаецца чалавекам. Усе шматлікія формы і метады выхавання на аўтазаводзе нібы гавораць юнаку ці дзяўчыне: «Паглядзі, якім поўным і цікавым можа быць тваё жыццё! Запомні, як паважаюць і цэняць цябе людзі, калі ты сам паважаеш і цэніш людзей, калі правільна жывеш і добрасумленна працуеш!»



На канвееры зборкі — новыя аўтаскрэперы з маркай МААЗ.

І падлетак глядзіць, запамінае, задумваецца. Ён становіцца больш сур'ёзным, больш самастойным, больш дарослым. І пачынае адрозніваць сапраўднае срэбра ад фальгі. Тут, на пасёлку, рэдка калі сустрэнеш патлатага «валасаціка», тут нашмат менш цягаюць з сабою трубнагалосыя транзістары, тут не гарлапаняць уначы песні пад пакутніцу-гітару ля чужых вокан, тут можаш смела ісці па любой вуліцы і ў любы час сутак. Аўтазаводскія падлеткі і юнакі шануюць парадак і спакой свайго пасёлка.

Час бяжыць імкліва. Год, другі — глядзіш, і час на службу ў армію, а з арміі на завод вяртаецца ўжо сапраўдны рабочы. А вяртаюцца на завод пасля вайсковай службы многія. Не так даўно прыйшлі з арміі токары, два Мікалаі — Зяленскі і Глушакоў, слесар Рамуальд Вайтовіч, токар Віктар Марных, добрая сотня іншых маладых людзей.

...На Магілёўскім аўтазаводзе працуюць звычайныя падлеткі. Не цяжкія і не лёгкія. Звычайныя, г. зн. розныя. Розныя... З імі і лёгка і цяжка. І дырэкцыі, і парткому, і заўкому. Але найбольшай пахвалы заслугоўвае камітэт камсамола з яго нязменным сакратаром Аляксандрам Каралём. Усе заводскія камсамольцы, уся моладзь узялі на свае плечы паўсядзённыя клопаты аб тых юных, у каго яшчэ наперадзе паўналецце... А значыць — наперадзе жыццё.

Іван ПАТАПАЎ.

г. Магілёў.

Фота В. Дубінкі.

● **Аляксандр САКАЛОЎСКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# НАШ СЦЯГ, НАША СІЛА

У пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» адзначаецца, што выхаванне савецкіх людзей, моладзі ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і бязмежнай адданасці сацыялістычнай Радзіме — Саюзу ССР, клопаты аб яго росквіце — важны бок фарміравання камуністычнай, грамадскай свядомасці.

Кіруючыся ўказаннем У. І. Леніна выхоўваць моладзь рабочага класа ў духу сацыялізму, камсамол рэспублікі на працягу ўсёй гісторыі Савецкай Беларусі дапамагаў партыі каваць у падрастаючым пакаленні вернасць брацкай дружбе народаў СССР, паслядоўна трымаўся ленінскіх прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму.

І сёння камітэты ЛКСМБ надаюць асаблівую ўвагу растлумачэнню моладзі прынцыпаў марксісцка-ленінскай тэорыі і праграмных палажэнняў Камуністычнай партыі па нацыянальным пытанні, гістарычнага значэння СССР як увасаблення прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму, вынікаў дзейнасці Савецкай дзяржавы ва ўздыме эканомікі і культуры народаў СССР. Разгортваючы падрыхтоўку да юбілею СССР, камсамольскія арганізацыі выхоўваюць у моладзі непрымірымасць да перажыткаў нацыяналізму і шавінізму, забяспечваюць класавы, навуковы падыход да ацэнкі гісторыі народаў.

З гэтай мэтай надаецца вялікая ўвага ўмацаванню вытворчых сувязяў паміж калектывамі прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, будоўляў, калгасаў і саўгасаў, творчых саюзаў Беларусі і іншых саюзных рэспублік. Разам з моладдзю іншых нацыянальнасцяў юнакі і дзяўчаты нашай рэспублікі актыўна ўдзельнічаюць на будоўлях важнейшых прадпрыемстваў прамысловасці і энергетыкі краіны. Толькі за апошнія гады на будаўніцтва Краснаярскай ГЭС, Волжскага аўтамабільнага завода, на аднаўленне Ташкента, збудаванне мемарыяльнага комплексу ў горадзе Ульянаўску па пуцёўках камсамола Беларусі было накіравана звыш адзінаццаці тысяч юнакоў і дзяўчат.

З другога боку, тысячы прадстаўнікоў народаў СССР працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі Беларусі. Толькі ў збудаванні нафтаперапрацоўчага завода ў Наваполацку ўдзельнічалі пасланцы 25 нацыянальнасцяў.

Моладзь многіх нашых калгасаў і саўгасаў трымае цесную сувязь з моладдзю суседніх рэспублік. Камсамольцы калгаса «Новы шлях» Маларыцкага раёна, саўгасаў «Ратнаўскі» і «Картылоўскі» Ратнаўскага раёна Украінскай ССР абменьваюцца вопытам барацьбы за павышэнне ўраджайнасці, развіццё жывёлагадоўлі, дапамагаюць адно аднаму праводзіць сельскагаспадарчыя работы, арганізоўваюць спартыўныя спаборніцтвы, наладжваюць узаемаправеркі і г. д. У практыцы работы многіх камітэтаў камсамола (саўгасаў «Кімеліжскі» Астравецкага раёна і «Запаветы Ільіча» Швянчэніцкага раёна Літоўскай ССР, калгаса «Котра» на Гродзеншчыне і Лоздзійскага раёна Літоўскай ССР, ПМК-1 Брагінскага раёна, і электрастанцыі, якая будуецца ў Чарнабыльскім раёне Украінскай ССР, і шэрагу іншых) стала традыцыйным наладжванне сацыялістычнага спаборніцтва паміж камсамольцамі і моладдзю і праведзенне сустрэч маладых спецыялістаў, злётаў перадавікоў вытворчасці...





Для ўмацавання і развіцця дружбы народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы шмат робяць студэнцкія будаўнічыя атрады. На працягу многіх гадоў беларускія студэнты выязджаюць на аб'екты Куйбышаўскай, Магаданскай, Уральскай абласцей, у Комі АССР і інш.

Прызнаннем іх працоўных поспехаў з'явілася ўручэнне Беларускаму зводнаму студэнцкаму атраду Памятнага сцяга ЦК КП Казахстана і Савета Міністраў Казахскай ССР і Чырвонага сцяга ЦК ВЛКСМ і Цэнтральнага штаба студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Беларускі транспартны атрад, які працаваў у Комі АССР, узнагароджаны Памятным сцягам ЦК ВЛКСМ.

Разам з тым, студэнты-будаўнікі праводзяць значную выхаваўчую работу сярод мясцовага насельніцтва, сярод моладзі, піянераў і школьнікаў. Яны выступаюць з канцэртамі мастацкай самадзейнасці, чытаюць лекцыі, праводзяць гутаркі аб роднай Беларусі, дапамагаюць школам у наладжванні летняга адпачынку вучняў і г. д.

Няспынна развіваюцца, умацоўваюцца і шырацца кантакты паміж маладымі творчымі работнікамі Беларусі і творчай моладдзю Расійскай Федэрацыі, Украіны, Малдавіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і іншых рэспублік. Праводзяцца супольныя семінары, тыдні мастацтва, вечары дружбы, дзе моладзь знаёміцца з нацыянальнымі традыцыямі народаў СССР, іх культурай і мастацтвам.

Каштоўную ініцыятыву праявіў Гомельскі абком ЛКСМБ. Разам з Чарнігаўскім і Бранскім абкомамі камсамола ён арганізаваў тэлевізійны турнір, у ходзе якога творчыя работнікі, маладыя рабочыя і калгаснікі прапагандуюць лепшыя творы літаратуры і мастацтва сваіх рэспублік, здабыткі перадавікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, абменьваюцца вопытам інтэрнацыянальнага выхавання падрастаючага пакалення.

Значную работу па ўмацаванні брацкай дружбы народаў СССР праводзяць камсамольскія арганізацыі навучальных устаноў. У многіх школах рэспублікі працуюць клубы інтэрнацыянальнай дружбы, атрады чырвоных следапытаў і следапытаў Кастрычніка. Пры іх дапамозе выяўлены сотні прозвішчаў воінаў Савецкай Арміі і партызанаў, сыноў розных нацыянальнасцяў, якія загінулі ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Напрыклад, следапыты з Маларыцкай школы-інтэрната разам з Луцкім гісторыка-краязнаўчым музеем Украіны, можна сказаць, адкрылі подзвіг байцоў і камандзіраў інтэрнацыянальнага бранецягніка «Камунар-56», якія загінулі ў 1920 годзе каля Маларыты. Вывучэнне гэтай выдатнай старонкі гісторыі працягваецца.

Ашмянскі, Добрушскі, Гродзенскі, Маларыцкі і іншыя райкомы ЛКСМБ разам з раённымі камітэтамі камсамола Бранскай вобласці, Украінскай і Літоўскай рэспублік праводзяць супольныя семінары і навукова-практычныя канферэнцыі па пытаннях удасканалення камуністычнага выхавання піянераў і школьнікаў, злёты атрадаў юных сяброў Савецкай Арміі і юных сяброў савецкіх пагранічнікаў.

Іўеўскі райком камсамола Гродзенскай вобласці разам з Дзевініжскім райкомам ЛКСМ Літвы сістэматычна праводзяць семінары, канферэнцыі маладых настаўнікаў, рыхтуюцца да супольнага міжраённага злёту выпускнікоў школ, які прысвячаецца слаўнаму юбілею савецкай дзяржавы.

Пытанням выхавання камсамольцаў і моладзі ў духу дружбы народаў СССР няспынную ўвагу ўдзяляе маладзёжны друк, рэдакцыі перадач па радыё і тэлебачанні для моладзі. На старонках часопісаў «Маладосць»,

«Бярозка», газет «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Піянер Беларусі», «Зорька» рэгулярна друкуюцца матэрыялы пра жыццё і працу моладзі іншых рэспублік. Тэме дружбы народаў СССР прысвячаюцца многія артыкулы і выступленні прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў. Пад рубрыкамі «Поступ пакаленняў», «Братняя пераклічка», «Дарогамі славы», «У тваіх армейскіх сяброў» і інш. сістэматычна друкуюцца матэрыялы аб працы, вучобе і адпачынку моладзі розных нацыянальнасцяў нашай савецкай краіны. Практыкуецца абмен старонкамі з маладзёжнымі газетамі і часопісамі братніх рэспублік.

Шырокай папулярнасцю ў тэлегледачоў карыстаецца альманах «Вецер вандраванняў». У падрыхтоўцы перадач удзельнічаюць вучоныя, рабочыя, журналісты, вайскоўцы розных нацыянальнасцяў. Са студзеня 1970 года ў альманаху ёсць віктарына «Мая Радзіма». Яна знаёміць моладзь са слаўнай гісторыяй першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, рэвалюцыйнымі, баявымі і працоўнымі традыцыямі народаў нашай краіны.

Такім чынам, камітэты камсамола рэспублікі выкарыстоўваюць разнастайныя формы выхавання моладзі ў духу дружбы народаў СССР. Важна пры гэтым падкрэсліць, што змест іх работы скіроўваецца на канкрэтны ўдзел юнакоў і дзяўчат ва ўмацаванні эканомікі, далейшым развіцці культуры, узбагачэнні духоўнага свету нашага маладога сучасніка.

У ходзе абмеркавання пастановы ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» у камсамольскіх арганізацыях Беларусі нараджаюцца новыя цікавыя пачынанні. Брэсцкі абком ЛКСМБ разам з Домам палітычнай асветы абкома партыі распрацавалі цыкл палітінфармацый пра саюзныя рэспублікі; Гомельскі, Бранскі, Житомірскі, Чарнігаўскі абкомы камсамола ўстанавілі вымпелы для камсамольскіх арганізацый абласцей — пераможцаў юбілейнага спаборніцтва; Столінскі райком ЛКСМБ і Дубровіцкі райком ЛКСМУ рыхтуюць сумесны семінар сакратароў камітэтаў камсамола калгасаў і саўгасаў і навукова-практычную канферэнцыю па інтэрнацыянальным выхаванні моладзі. Камсамольцы і моладзь Пінскага раёна рыхтуюцца да агітпаходу ў Ровенскую і Валынскую вобласці Украіны. Камсамольская арганізацыя калгаса «Новы шлях» Маларыцкага раёна разам з камітэтам камсамола суседняга ўкраінскага саўгаса наважылі правесці вусны часопіс аб дружбе народаў СССР, а таксама тэматычны вечар, прысвечаны творчасці Лесі Украінкі, і выстаўку «У сям'і непарушнай рэспублік свабодных».

Яшчэ ў маі мінулага года ЦК ЛКСМ Беларусі і ЦК ЛКСМ Літвы зацвердзілі супольныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да 50-годдзя СССР. З мэтай іх ажыццяўлення ў верасні 1971 года быў праведзены міжрэспубліканскі семінар сакратароў гаркомаў і райкомаў камсамола. На старонках маладзёжных газет апублікаваны шэраг матэрыялаў аб вопыце работы камітэтаў камсамола па выхаванні моладзі. Намечана абмяняцца прапагандысцкімі групамі для выступлення перад моладдзю Літвы і Беларусі, шырэй разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва камсамольскіх арганізацый, камсамольска-маладзёжных калектываў дзвюх рэспублік. Гэтыя мерапрыемствы з поспехам выконваюцца.

Сумесна з праўленнем рэспубліканскага таварыства «Веды» праведзены семінар нештатных лектараў абкомаў, гаркомаў і райкомаў ЛКСМБ па тэме «Задачы патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання моладзі рэспублікі ў сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння СССР». Школьнікі будуць удзельнічаць у рэспубліканскім аглядзе сачыненняў «Аб Радзіме, дружбе, аб сабе», калектывы мастацкай самадзейнасці — у фестывалі «Нам дружба народаў навек дадзена». Прадоўжыцца тэлевізійны маладзёжны конкурс абласцей БССР «Славім молат і песню».

Усё гэта будзе садзейнічаць паляпшэнню выхавання моладзі ў духу дружбы і супрацоўніцтва народаў нашай краіны, растлумачэнню і прапагандзе ленінскага курсу XXIV з'езда КПСС, які вызначыў перспектывы росквіту і збліжэння нацый і народнасцяў СССР, развіцця і ўмацавання сацыялістычнай дзяржаўнасці і дэмакратыі.

Камсамол Беларусі лічыць сваім інтэрнацыянальным абавязкам развіваць супрацоўніцтва з камуністычнымі саюзамі моладзі сацыялістычных



краін, з брацкімі саюзамі і прагрэсіўнымі маладзёжнымі арганізацыямі капіталістычных краін і краін, якія развіваюцца.

Аб'ектыўнай прадпасылкай і важнейшай умовай гэтай работы з'яўляецца ўмацаванне аўтарытэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, савецкай дзяржавы, рост іх уплыву на розныя аспекты міжнароднага жыцця.

Дзейнасць КПСС, поспехі нашай краіны ў эканоміцы, палітыцы, ідэалогіі садзейнічаюць умацаванню сусветнага камуністычнага і рабочага руху, аказваюць непасрэдны рэвалюцыянізуючы ўплыў на рабочы клас, усіх працоўных, у тым ліку і моладзь краін кантыненту.

Вырас і міжнародны аўтарытэт ВЛКСМ. Гэта вынік палітыкі КПСС, магутнасці савецкай дзяржавы, яе прынцыповай пазіцыі ў барацьбе за аб'яднанне моладзі свету на прынцыпах марксізму-ленінізму. Маладзёжныя арганізацыі Савецкага Саюза актыўна падтрымліваюць палітычную лінію і практычную дзейнасць Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі і Міжнароднага саюза студэнтаў, якія ідуць у авангардзе міжнароднага руху юнацтва.

Значны ўклад у міжнароднае маладзёжнае супрацоўніцтва ўносіць і камсамол Беларусі. У гады восьмай пяцігодкі гасцямі Беларусі былі звыш 8 тысяч юнакоў і дзяўчат больш як з 30 краін свету. Камітэты камсамола прымалі многіх кіраўнікоў маладзёжнага руху краін Еўропы, Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, арганізавалі азнаямляльную паездку па Беларусі журналістаў зарубежных маладзёжных газет і часопісаў, пасяджэнне савецка-балгарскага клуба творчай моладзі. Прадстаўнікі многіх краін шырока знаёміліся з гісторыяй рэспублікі, дасягненнямі беларускага народа за гады савецкай улады, камсамольскім вопытам камуністычнага выхавання маладога пакалення.

За гэты ж час каля 10 тысяч камсамольцаў і моладзі Беларусі прадстаўлялі нашу рэспубліку за рубяжом. Яны актыўна растлумачвалі палітыку Камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы, інфармавалі зарубежных равеснікаў аб поспехах камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне, дзейнасці ВЛКСМ і жыцці савецкай моладзі.

Асабліва плённымі з'яўляюцца кантакты камітэтаў камсамола з саюзамі моладзі сацыялістычных краін. Грунтуючыся на прынцыпах сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, на ідэалагічным адзінстве, сувязі з імі набылі характар абмену вопытам практычнай работы, правядзення розных акцый, накіраваных на прапаганду сацыялістычнай рэчаіснасці, яе пераваг перад буржуазным ладам жыцця.

Адной з важных форм інтэрнацыянальнага выхавання моладзі з'яўляюцца мясцовыя і прыгранічныя сувязі. Многія камітэты ЛКСМБ абменьваюцца вопытам работы з маладзёжнымі арганізацыямі сацыялістычных краін, арганізоўваюць выстаўкі, якія расказваюць аб дасягненнях брацкіх дзяржаў у галіне эканомікі і культуры, вядуць з імі пастаянную перапіску.

Напрыклад, у красавіку 1969 года Брэсцкі абком ЛКСМБ сумесна з маладзёжнымі арганізацыямі Люблінскага ваяводства ПНР правёў сімпозіум, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-годдзю Народнай Польшчы. У маі таго ж года адбыўся абмен дэлегацыямі піянераў і харцэраў. У чэрвені і верасні дэлегацыі Люблінскага ваяводства ўдзельнічалі ў святкаванні Дня савецкай моладзі, азнаёміліся з вопытам работы камсамольскіх арганізацый вобласці па падрыхтоўцы да ленінскага юбілею, з практыкай правядзення Ленінскага заліку, выхаваннем моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях савецкага народа. У сваю чаргу, значная колькасць маладзёжных дэлегацый, камсамольцаў і моладзі Брэстчыны пабывала ў Люблінскім ваяводстве.

Змястоўнасцю і палітычнай накіраванасцю характарызуюцца таксама ўзаемныя сувязі камсамольскіх арганізацый Гродзеншчыны з маладзёжнымі арганізацыямі Беластоцкага ваяводства, Мінскай вобласці і Варшаўскага ваяводства, Магілёўскай вобласці і Габраўскай акругі Балгарыі і г. д.

Значнай падзеяй у пашырэнні сувязяў моладзі Беларусі і ПНР з'явілася правядзенне супольнага паходу беларускай і польскай моладзі па месцах баёў Савецкай Арміі і дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. У Гродзен-

скай, Валынскай, Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай і іншых абласцях, у шэрагу ваяводстваў Польшчы прайшлі шматлікія сустрэчы і мітынгі польска-савецкай дружбы.

Важнай формай інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва з'яўляецца сацыялістычнае спаборніцтва камсамольцаў Беларусі з моладдзю краін сацыялістычнай садружнасці. Так, камсамольцы Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода спаборнічаюць з моладдзю такога ж прадпрыемства горада Бургас у Балгарыі, маладыя рабочыя Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава — са сваімі равеснікамі з фабрыкі імя Энгельса горада Цвікау ў ГДР, Наваполацкага хімкамбіната — з моладдзю камбіната «Сцілон» у Зялёнай Гуры ў ПНР і г. д.

Вялікая дружба звязвае студэнтаў ВНУ Беларусі са студэнтамі шэрагу вышэйшых навучальных устаноў ГДР, ПНР, НРБ і іншых краін. Практыкуюцца супольныя конкурсы навуковых студэнцкіх работ, спартыўныя спаборніцтвы, абмен калектывамі мастацкай самадзейнасці.

Папулярнасцю ў моладзі рэспублікі карыстаюцца клубы інтэрнацыянальнай дружбы. На працягу шэрагу гадоў, напрыклад, інтэрнацыянальны клуб «Чырвоныя гваздзікі» Столінскага сельскагаспадарчага тэхнікума ажыццяўляе перапіску з ленінскімі музеямі Масквы, Ленінграда, Ульянаўска, Казані, Прагі, Кракава і іншых гарадоў. Члены клуба сабралі копіі многіх ленінскіх работ, памятных медаляў, маюць цікавыя матэрыялы аб уплыве ленінскіх ідэй у свеце, аб рэвалюцыйнай барацьбе маракоў Кіля, докераў Брэмена, рурскіх гарнякоў. Гэтыя матэрыялы шырока выкарыстоўваюцца ў інтэрнацыянальным выхаванні вучняў.

Актыўна дзейнічаюць і многія іншыя клубы інтэрнацыянальнай дружбы, якія створаны на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, навуковых установах і ў пазашкольных установах рэспублікі.

Камсамольскія арганізацыі аддаюць значную ўвагу рабоце з замежнымі студэнтамі і вучнямі, якія атрымліваюць адукацыю ў беларускіх навучальных установах. Камсамольцы прадпрыемстваў знаёмяць іх з вытворчасцю, побытам, вучобай і адпачынкам рабочых і служачых, з практыкай камсамольскай работы ў вытворчых калектывах. Ужо некалькі гадоў, як паміж камсамольцамі Мінскага камвольнага камбіната і членамі саюза працоўнай моладзі Хо Шы Міна, якія навучаюцца ў БДУ імя У. І. Леніна, заключаецца ўмова на супрацоўніцтва. Камсамольцы Мінскага трактарнага завода шэфствуюць над студэнтамі з Кубы.

Камітэты камсамола разам з кафедрамі грамадскіх навук і рускай мовы прыцягваюць замежных студэнтаў да падрыхтоўкі палітінфармацый, вечароў інтэрнацыянальнай дружбы. Вялікае значэнне ў павышэнні якасці падрыхтоўкі замежных студэнтаў, інтэрнацыянальным выхаванні мае іх удзел у навуковых гуртках, студэнцкіх канструктарскіх, тэхналагічных бюро, канферэнцыях і семінарах, конкурсах студэнцкіх навуковых работ. У перыяд зімовых і летніх канікул арганізуюцца лагеры, паязды дружбы, у якіх савецкія і замежныя студэнты разам падарожнічаюць па выдатных мясцінах Беларусі, Украіны, Літвы і іншых рэспублік.

Многія замежныя студэнты выступаюць на старонках рэспубліканскіх маладзёжных газет. У Мінску выйшла кніга «Нам стала роднай Беларусь», у якой студэнты з шэрагу краін выказваюць удзячнасць савецкаму народу, нашай моладзі за велізарную бескарыслівую дапамогу ў падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. Напрыклад, Башур Тоні з Сірыйскай Арабскай Рэспублікі піша: «У СССР я паўтара года. Я зразумеў, што вы нашы сапраўдныя сябры. Я раскажу на радзіме, як вы будавалі сацыялізм і цяпер будуеце камунізм, як вы дапамагаеце нам і іншым народам, як вы змагаецеся за мір».

Характэрнае таксама выказванне студэнта з Кубы Эміліо Касандзева: «Савецкія студэнты заўсёды былі рады аказаць нам любую дапамогу, даць карысныя парады, вучылі нас усяму лепшаму, чаму толькі можа навучыць такая цудоўная моладзь — пакаленне будаўнікоў камунізму».

Пачуцці ўдзячнасці за дапамогу і братнюю падтрымку выказаны таксама ў словах До Ван Мао з Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, Роберта



Кейге з Кеніі і многіх іншых студэнтаў, для якіх Беларусь стала роднай і блізкай.

Важнай задачай камсамольскіх арганізацый з'яўляецца развіццё і ўмацаванне салідарнасці з гераічным В'етнамам, аказанне дапамогі ў яго цяжкай, але справядлівай барацьбе. З гэтай мэтай камітэты камсамола праводзяць мітынгі, маніфестацыі, суботнікі і нядзельнікі, тыдні дружбы і салідарнасці з моладдзю і ўсім народам В'етнама. Камсамольскія арганізацыі актыўна ўдзельнічаюць у кампаніі «Юнацтва выкрывае імперыялізм». Юнакі і дзяўчаты Беларусі аднадушна падтрымліваюць мерапрыемствы КПСС і Савецкага ўрада, накіраваныя на аказанне разнастайнай дапамогі, а таксама палітычнай і маральнай падтрымкі народам арабскіх краін, Кубы, Лаоса, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, якія змагаюцца супраць імперыялізму ЗША і іншых краін.

У гэтых канкрэтных справах моладзь рэспублікі засвойвае лепшы вопыт папярэдніх пакаленняў інтэрнацыяналістаў, які нараджае пераемнасць, рух наперад, перадае эстафету інтэрнацыянальнага дзеяння ў рукі сённяшняй моладзі. Каштоўна таксама, што ў гэтай рабоце зліваюцца ў адно ідэалогія інтэрнацыяналізму і інтэрнацыянальныя дзеянні, а таксама такія паняцці як дружба і салідарнасць, якія становяцца маральнымі нормамі паводзін камсамольцаў і моладзі. Іменна гэтаму вучыў У. І. Ленін: «Інтэрнацыяналізм на справе — адзін і толькі адзін: беззапаветная работа над развіццём рэвалюцыйнага руху і рэвалюцыйнай барацьбы **у сваёй** краіне, падтрымка (прапагандай, спагадай, матэрыяльна) **такой жа барацьбы,** такой жа лініі, **і толькі яе адной,** ва **ўсіх** без выключэння краінах».

XXIV з'езд партыі зноў пацвердзіў, што КПСС будзе і надалей «умацоўваць і развіваць супрацоўніцтва з камуністычнымі і рабочымі партыямі сацыялістычных дзяржаў», «паслядоўна праводзіць палітыку адзінства і інтэрнацыянальнай салідарнасці з рабочым рухам у краінах капіталу», будзе «верная ленінскаму прынцыпу салідарнасці з народамі, якія змагаюцца за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне». Адсюль вынікае, што пралетарскі, сацыялістычны інтэрнацыяналізм і надалей будзе сцягам рэвалюцыйнага выхавання камсамольцаў і моладзі.



Студэнтка трэцяга курса хімічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна Таццяна Юдзіна ля лазернага прыбора для спектральных аналізаў.

# ВЯСЁЛКА ІДЗЕ Ў ЦЭХ

Аб спектраскапіі загаварылі тры стагоддзі назад, калі Ісак Ньютан расклаў сонечны прамень на асобныя колеры. З таго часу незлічоныя светлавыя з'явы прыроды—ці знаходзяцца яны ў вясновым небе, ці ў гранях крышталю—рупліва вывучаны чалавекам. Сямікалерная арка штучнай вясёлкі стала яго незаменным памочнікам. Яна ўсё часцей успыхвае ў лабараторыях і цэхах.

Вучоныя-спектраскапісты стварылі цэлы арсенал унікальных прылад—ад кішэнных трубачак велічынёй з аловак да вялікіх шматметровых установак. Спектромных прыбораў ужо многа ў навуковых установах і на прадпрыемствах. Яны сталі універсальнымі інструментамі вывучэння свету. А будзе іх яшчэ больш, бо Дырэктывы XXIV з'езда КПСС па дзевятай пяцігодцы прадугледжваюць расшырэнне прамысловай вытворчасці сучасных спектраскапічных апаратаў і лабараторнага абсталявання.

Магутнасць іншых спектраскапічных прылад такая вялікая, што не толькі сонечны прамень, але і святло далёкай зоркі, недаступнае простаму воку, яны могуць ператварыць у зямную вясёлку, адлюстраваць яе на негатыве. І тое, што было ўсяго толькі кропкай у чорным небе, раскрыла аб найскладанейшых тэрмаядзерных працэсах.

Спектрографы заводскіх цэхаў і лабараторый—гэта, па сутнасці, малодшыя браты гіганцкіх астранамічных інструментаў.

— Небывалая прастата і хуткасць найскладанейшых аналізаў вызначылі шырокі размах прымянення спектраскапіі ў вытворчасці,—расказвае кіраўнік лабараторыі атамнага спектральнага аналізу Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР кандыдат тэхнічных навук Антон Антонавіч Янкоўскі.—Глядзіце,—і ён уключае апарат. У іскравым прамежку перад шчылінай спектрографа загараецца блакітная зорачка. Яшчэ імгненне, і на пласцінцы ў чорна-белым варыянце замацуецца спектр. Гэта—шырокаэкранная панарама хімічнага складу дэталі. Калісьці такія спектраграмы прыносілі вучоным звесткі пра не адкрытыя яшчэ элементы. Цяпер гэта масавая і самая папулярная методыка, якая дазваляе хутка і без пашкоджанняў атрымаць аналіз любых металічных дэталяў.

Побач, ля прыбора—атлас спектральных ліній—буквар спектраскапіі. Зазіраючы ў спектраграму, лабарантка запаўняе пратакол, стаўляе ў клетачках, колькі працэнтаў таго ці іншага элемента ёсць у дэталі. Гэты аналіз, які праводзіцца на вока, досыць дакладны. Ёсць і іншыя метады колькаснага спектральнага аналізу. На практыцы ўжо многія прадпрыемствы не звяртаюцца за дапамогай да хіміі—можна аналізаваць спектраскапічна.

— Метад спектральнага аналізу выкарыстоўваецца больш чым у 150 лабараторыях прамысловых прадпрыемстваў і навуковых устаноў рэспублікі,—працягвае А. Янкоўскі.—У 1955 годзе колькасць лабараторый не перавышала дзесяці. Іменна тады супрацоўнікі нашага інстытута сумесна з Беларускім навукова-даследчым інстытутам навукова-тэхнічнай прапаганды ўзяліся за пашырэнне прагрэсіўных метадаў аналізу, навучылі гэтай справе сотні заводскіх спектраскапістаў, дапамаглі ім абсталяваць лабараторыі. Была створана тая рэальная аснова, на якой развіваецца цеснае супрацоўніцтва людзей навукі і працы.

Усё больш шырокае прымяненне знаходзіць ідэя спектральнага нагляду за тэхнікай, якая знаходзіцца ў эксплуатацыі. На Беларускай чыгунцы, напрыклад, паспяхова вырашаецца праблема ранняй дыягностыкі аварыйнага стану цеплавозаў, а гэта азначае, што рабочы прабег цеплавоза да капітальнага рамонту можа быць значна павялічаны.

Цікавую «дыягностыку» рухавікоў прапануюць на Мінскім маторным заводзе. Масла, якое цыркулюе ў «арганізме» кожнага матора, можа пабыць на спектральным аналізе. Вясёлка адразу ж выявіць разнастайныя прымесі сцёртых металаў. Уся справа ў прапорцыях. Калі яны захаваны—значыць, усё ідзе нармальна. Але ўявіце такі выпадак—у спектраграме асабліва востра ўспыхнулі лініі алюмінію. Увага!—пачаў аварыйна сцірацца поршань. Занадта яркія лініі свінцу сігналізуюць аб небяспечным зносе падшыпніка.

А бывае ж—як доўга даводзіцца выпрабавальнікам «ганяць» рухавік, пакуль самы адчувальны мікрометр зможа ўлавіць сляды разбуральнага працэсу. Машыну трэба бясконца спыняць, разбіраць. Спектральная ж методыка падмячае зношванне нават тады, калі ў масла перайшлі мікраскапічныя дозы металу.

На XVII усесаюзным з'ездзе, прысвечаным пытанням развіцця спектраскапіі, а ён праходзіў у Мінску, мне не раз даводзілася чуць пра стыласкоп «Спектр», распрацаваны на Магілёўскім заводзе электрарухавікоў інжынерам, а цяпер кандыдатам тэхнічных навук Георгіем Якаўлевічам Лішанскім. Я напомніў пра гэта Антону Антонавічу Янкоўскаму. Ён расказаў:

— Раней пры аналізе сталі і чыгуну на стыласкопе можна было атрымаць звесткі амаль пра ўсе кампаненты. «Не паддаваліся» толькі крэмній, вуглярод і фосфар. На хімічныя ж аналізы трацілася надзвычай многа часу. «Спектр» робіць такі аналіз за некалькі секунд.

З паяўленнем лазераў дыяпазон магчымасцяў спектраскапіі стаў не толькі шырэйшы, але і больш дасканалы, адчувальны. Да вучоных Інстытута фізікі пачалі часцей звяртацца з просьбай медыкі і хлебаробы, крыміналісты і геолагі.

Возьмем, напрыклад, пошукі карысных выкапняў. Бывае, што руда хаваецца ад разведчыка пад пластам рыхлай глебы. Але яна пакідае на паверхні амаль няўлоўныя сляды ў выглядзе арэолаў рассейвання, якія разыходзяцца і слабеюць. Каб намацаць гэтыя арэолы хімічным спосабам, разведчыку трэба даследаваць незлічоную колькасць проб з зямной паверхні. Гэтую велізарную работу можна весці больш эфектыўна з дапамогай спектраскапіі. Уявіце хваляванне даследчыка, які разглядае здымкі спектраў. Усё ярчэй разгараюцца на іх запаветныя спектральныя лініі, нібы гаворачы разведчыку: «Халодна!.. Цяплей!.. Горача! Тут і шукаць!»

Невялікі шліф пароды пад мікраскопам нагадвае стракатую мазаіку з малюсенькіх крышталікаў. Каб дэталёва праанalізаваць шліф, даследчык павінен ператварыцца ў ліліпута, узброенага геалагічным малатком памерам з камарынае джальца, які здольны ўзяць хімічную пробу ад найдрабнейшых крышталікаў. Лазерны прамень праз тубус мікраскопа востра факусіруецца на шліфе. Пякучая плямка настолькі малая, што пакрывае толькі частку крышталіка. З-пад гэтага «прамянёвага малатка» вылятае воблачка выпаранага рэчыва. Яго падпільноўваюць электроды, якія ствараюць пад высокім напружаннем «пераднавальнічныя» абставіны. Воблачка правацыруе іскру. Успыхвае блакітная зорачка распаленай плазмы. Спектрограф аналізуе яе святло і паказвае хімічны склад. На прадметным століку мікраскопа «разыгрываецца» маленькая аптычная сімфонія, якая праслаўляе ўсеабдымную магутнасць промня!

Здавалася, «залаты век» спектраскапіі ўжо мінуў. Перыяд яе галоўных трыумфаў, калі спектраскапія атама была адным з галоўных эксперыментальных метадаў, аддалены ад нас дыстанцыяй у паўстагоддзя. Аднак на змену прыйшлі новыя праблемы. Як з унікальнай дакладнасцю вызначыць параметры малекул, даўжыню сувязяў, вуглы паміж імі і іншыя асаблівасці іх будовы? Пытанні далёка не простыя. Разрываючы малекулярныя сувязі ў патрэбным кірунку, можна атрымаць новыя матэрыялы з загадзя зададзенымі ўласцівасцямі. Вырашэннем гэтых праблем займаюцца супрацоўнікі лабараторыі малекулярнага спектральнага аналізу Інстытута фізікі АН БССР, якую ўзначальвае доктар фізіка-матэматычных навук Расціслаў Георгіевіч Жбанкоў. Калектыў вучоных у садружнасці з многімі навукова-даследчымі інстытутамі краіны распрацоўвае ўнікальныя спосабы стварэння новых матэрыялаў. Намаганні беларускіх фізікаў накіраваны на атрыманне новых кінаплёнак, віскозы, ацэтатнага шоўку на аснове цэлюлозы.

...Абуджае ўяўленне яна, гэтая зямная вясёлка! Спектраскапія выходзіць за межы навуковай праблемы, упэўнена крочыць у самыя розныя галіны прамысловай вытворчасці.

Эдуард РЫСАЕЎ.

# ЗАПРАШАЕ ІНСТЫТУТ МЕХАНІЗАЦЫІ

Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі — спецыялізаваная сельскагаспадарчая вышэйшая навучальная ўстанова, якая рыхтуе інжынераў для сельскагаспадарчай вытворчасці краіны.

Інстытут параўнаўча малады. Заснаваны ў 1954 годзе на базе політэхнічнага інстытута, ён за 18 гадоў стаў буйным навучальным і навуковым цэнтрам, кузняй сельскагаспадарчых кадраў. Каля шасці тысяч выпускнікоў інстытута працуюць у розных раёнах нашай краіны — ад Брэста да Сахаліна, ад самых паўночных раёнаў Еўрапейскай часткі СССР да паўднёвых граніц Сярэдняй Азіі.

Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі забяспечаны сучаснымі лабараторыямі і кабінетамі, мае студэнцкую сталоўку на 500 месц. Побач з вучэбнымі карпусамі размешчаны чатыры добраўпарадкаваныя студэнцкія інтэрнаты, а ў бліжэйшыя гады намечана будаўніцтва новага спартыўнага комплекса, высотных прыбудоў да вучэбных карпусоў і яшчэ трох студэнцкіх інтэрнатаў.

На 18-м кіламетры шашы Мінск — Лагойск размешчана вучэбна-доследная гаспадарка інстытута. Яе палі раскінуліся больш як на 2000 гектарах зямлі. У рамонтнай майстэрні і на вучэбным палігоне студэнты набываюць навыкі трактарыста-машыніста шырокага профілю і навейшых метадаў рамонту машынна-трактарнага парка.

Усе студэнты інстытута авалодваюць правіламі ваджэння аўтамабіля і атрымліваюць правы шафёра-аматара.

Вытворчая практыка студэнтаў праводзіцца не толькі ў вучэбнай гаспадарцы, але і ў перадавых калгасах і саўгасах рэспублікі, на прадпрыемствах «Сельгастэхнікі», а таксама на буйных машынабудаўнічых заводах рэспублікі і краіны.

У інстытуце 27 кафедраў, дзе выкладаюць высокакваліфікаваныя прафесары і выкладчыкі. У іх ліку 100 дактароў і кандыдатаў навук.

Навукова-тэхнічная бібліятэка налічвае 300 тысяч кніг; гэта значыць, практычна кожны студэнт забяспечаны неабходнымі падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі. У дзвюх чытальных залах створаны неабходныя ўмовы для самастойнай работы.

У інстытуце працуюць навукова-тэхнічныя гурткі, створана студэнцкае канструктарскае бюро, дзе пад кіраўніцтвам вучоных студэнты не толькі набываюць навыкі навукова-даследчай работы, але і прымаюць непасрэдны ўдзел у вырашэнні практычных задач па ўкараненні ў сельскагаспадарчую вытворчасць навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі.

Лепшыя навуковыя работы студэнтаў былі прадстаўлены на ВДНГ, рэспубліканскіх і занальных конкурсах-аглядах студэнцкіх работ. Толькі за апошнія два гады 140 з іх узнагароджаны медалямі, дыпломамі і граматамі.

На факультэце грамадскіх прафесій і ў спартыўным клубе студэнты набываюць другую прафесію. Пасля заканчэння факультэта грамадскіх прафесій студэнт атрымлівае пасведчанне кіраўніка мастацкай самадзейнасці або грамадскага трэнера па спорце.

У інстытуце шырокае развіццё атрымала і мастацкая самадзейнасць. У вольны ад заняткаў час студэнты маюць магчымасць удзельнічаць у гуртках: харавым і сольных спеваў, танцавальным, у аркестры народных і духавых інструментаў. Штогод праводзіцца мотапрабегі па месцах баявой і працоўнай славы савецкага народа. За апошнія гады ўдзельнікі мотапрабегу наведалі Ленінград, Маскву, Брэст, Адэсу і іншыя гарады.

Інстытут устанавіў моцныя сяброўскія сувязі з краінамі сацыялістычнай садружнасці: Польшчай і Чэхаславакіяй. Нашы студэнты абменьваюцца практыкай са студэнтамі вышэйшых сельскагаспадарчых школ гарадоў Прагі, Нітры і Вроцлава.

Тыя, хто заканчвае Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, атрымліваюць дыплом інжынера-механіка або інжынера-электрыка і адпаведны нагрудны акадэмічны знак. Маладыя спецыялісты накіроўваюцца на работу ў калгасы, саўгасы, прадпрыемствы «Сельгастэхнікі», Міністэрства энергетыкі і электрыфікацыі СССР, сельскагаспадарчыя навукова-даследчыя інстытуты, праектныя арганізацыі і іншыя прадпрыемствы, якія звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю, на пасады інжынераў. Штогод частка выпускнікоў інстытута накіроўваецца на выкладчыцкую работу ў сельскагаспадарчыя тэхнікумы, сельскагаспадарчыя прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, а выдатнікі вучобы рэкамендуюцца для паступлення ў аспірантуру інстытута.





Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі з года ў год расце і заваёўвае ўсё большую папулярнасць у выпускнікоў сельскіх школ. У цяперашні час у інстытуце навучаецца каля шасці тысяч чалавек. У тым ліку на дзённым аддзяленні — каля трох тысяч чалавек.

У 1972 годзе Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі будзе праводзіць набор студэнтаў на факультэты: механізацыі сельскай гаспадаркі, электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, арганізацыі і тэхналогіі рамонту сельскагаспадарчых машын.

Агульная колькасць прынятых на першы курс інстытута складзе 625 чалавек, а па спецыяльнасцях гэтыя месцы размяркоўваюцца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| механізацыя земляробства | 250 чалавек; |
| механізацыя жывёлагадоўлі | 50 чалавек; |
| арганізацыя і тэхналогія рамонту сельскагаспадарчых машын | 125 чалавек; |
| прымяненне электрычнай энергіі ў сельскай гаспадарцы | 125 чалавек; |
| электразабеспячэнне сельскай гаспадаркі | 75 чалавек. |

У 1971 годзе на гэтую ж колькасць месц было пададзена 1500 заяў. У працэнтных суадносінах гэтая колькасць заяў размяркоўвалася наступным чынам:

| | |
|---|---|
| выпускнікі сельскіх школ | — 88,3%; |
| выпускнікі сярэдніх школ гарадоў рэспублікі | — 4,6%; |
| выпускнікі сярэдніх школ г. Мінска | — 5,0%. |

Уступныя экзамены ў 1971 годзе здалі 1070 чалавек, або 72% ад ліку ўсіх абітурыентаў.

Прахадны бал па прафіліруючых дысцыплінах быў 12.

Тыя, хто будзе паступаць у інстытут у 1972 годзе, павінны будуць здаваць уступныя экзамены:

па матэматыцы (вусна і пісьмова);
па фізіцы (пісьмова);
па рускай мове і літаратуры або беларускай мове і літаратуры (сачыненне).

У адрозненне ад мінулых гадоў, конкурсны адбор будзе праводзіцца ў адпаведнасці з агульнай колькасцю балаў на аснове адзнак, атрыманых на ўступных экзаменах па ўказаных вышэй дысцыплінах, і сярэдняй арыфметычнай ацэнкі па ўсіх дысцыплінах з дакументаў аб сярэдняй адукацыі.

Выпускнікі сярэдняй школы, якія ўзнагароджаны залатым ці сярэбраным медалямі, здаюць уступныя экзамены толькі па матэматыцы (вусна і пісьмова). Атрымаўшы на экзамене па матэматыцы «выдатна», яны вызваляюцца ад далейшай здачы ўступных экзаменаў. А тыя, што будуць мець ацэнкі «чатыры» або «тры», здаюць экзамены па ўсіх дысцыплінах.

Як паказвае вопыт уступных экзаменаў мінулых гадоў, найбольш характэрнымі недахопамі пісьмовых работ і вусных адказаў абітурыентаў з'яўляюцца:

**Па матэматыцы —**

Неахайнасць.

Адсутнасць аналізу задачы і аналізу геаметрычных пабудоў.

Недастатковая развітасць прасторавага ўяўлення. Напрыклад, многія абітурыенты не ведаюць, як адна адносна другой могуць размяшчацца дзве прамыя на плоскасці і дзве прамыя ў прасторы.

Няўменне зводзіць задачу да знаходжання найменшай колькасці невядомых. Адсюль няўменне выбіраць найбольш рацыянальны шлях рашэння.

Пры рашэнні алгебраічных ураўненняў і сістэм, а таксама пры рашэнні трыганаметрычных ураўненняў абітурыенты, за рэдкім выключэннем, не вызначаюць вобласць дапушчальных значэнняў.

Няведанне або фармальнае веданне асноўных вызначэнняў алгебры і геаметрыі.

Неразуменне розніцы паміж вызначэннем канкрэтнага паняцця і прызнакам паяўлення гэтага паняцця. Напрыклад, паняцце перпендыкулярнасці прамой і плоскасці і прызнакі перпендыкулярнасці прамой і плоскасці.

Няўменне па графіку элементарнай функцыі меркаваць пра яе ўласцівасці.

Вельмі павярхоўнае і прымітыўнае ўяўленне аб мностве сапраўдных лікаў.

Фармальнае веданне паняцця абсалютнай велічыні ліку.

Адсутнасць агульнага ўяўлення аб вялікіх раздзелах алгебры і геаметрыі і аб узаемасувязі паміж імі.

**Па фізіцы —**

Слабае веданне сістэм адзінак.
Вельмі дрэнная графіка і напісанне (афармленне работ).
З раздзела механікі абітурыенты слаба ведаюць складанне і раскладанне сіл.
З раздзела малекулярнай фізікі — аб'яднаны закон Бойля-Марыёта — Гей-Люсака (вывад).
З раздзела электрычнасці — электрарухаючую сілу, магнітную індукцыю, самаіндукцыю, атрыманне пераменнага току.
З раздзела электрамагнітных хваль — пытанні перадачы і прыёму электрамагнітных хваль, прынцып дзеяння трансфарматара і інш.
З раздзела оптыкі — законы асветленасці, пабудову адлюстравання ў люстрах і лінзах.
З атамнай фізікі — будову атама, ядра, характарыстыку часцінак, якія складаюць атам.
Абітурыенты дрэнна рашаюць задачы, асабліва па раздзеле «Электрастатыка».
Для аказання абітурыентам дапамогі ў падрыхтоўцы да ўступных экзаменаў пры інстытуце працуюць падрыхтоўчыя курсы з 1 па 31 ліпеня. Слухачы курсаў забяспечваюцца інтэрнатам.

**Дарагія дзесяцікласнікі!**
Тым, хто захапляецца працай хлебароба і жывёлавода, усім, хто наважыўся прысвяціць сябе інжынернай творчасці, тэхнічнаму пошуку, арганізатарскай дзейнасці ў сельскагаспадарчай вытворчасці, Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі гаворыць: калі ласка, запрашаем!

**Сяргей СЯЛІЦКІ,**
**рэктар Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## МАТЭМАТЫКА

У 1971 годзе, складаючы варыянты заданняў для ўступных экзаменаў, кафедра вышэйшай матэматыкі Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі кіравалася наступнымі меркаваннямі: змест задач і прыкладаў не павінен выходзіць за рамкі праграмы па матэматыцы агульнаадукацыйнай сярэдняй школы; метады рашэння не павінны насіць штучны характар; алгебраічныя перабудовы не павінны быць груваcткімі; змест варыянтаў павінен быць такі, каб добра падрыхтаваны абітурыент змог праявіць глыбіню сваіх ведаў.

Увазе сёлетніх абітурыентаў прапануем два варыянты пісьмовых задач па матэматыцы. Адзін з іх цалкам рошаны. Для рашэння такога варыянта даюцца тры гадзіны.

### ВАРЫЯНТ 1.

1. Адрэзак прамой, які злучае пункт акружнасці верхняй асновы цыліндра з пунктам акружнасці ніжняй асновы, роўны $a$ і складае з плоскасцю асновы вугал $\alpha$. Знайсці адлегласць ад гэтай прамой да восі цыліндра, калі восевое сячэнне цыліндра ёсць квадрат.

**Рашэнне.** Шукаемая адлегласць роўна даўжыні перпендыкуляра, які апушчаны з любога пункта восі $OO_1$ дадзенага цыліндра на плоскасць $ABC$, якая праходзіць праз адрэзак $AB = a$ паралельна $OO_1$. На чарцяжы гэта адлегласць паказана адрэзкам $OM$.
Заўважым, што $CB = 2OC$, так як восевое сячэнне $BCDE$ ёсць квадрат.
З прамавугольнага трохкутніка $ABC$ атрымаем:

$$BC = 2OC = a\sin\alpha; \quad OC = \frac{a}{2}\sin\alpha;$$

$$AC = 2MC = a\cos\alpha; \quad MC = \frac{a}{2}\cos\alpha.$$

З прамавугольнага трохкутніка $OMC$ атрымліваем:








$$OM = \sqrt{OC^2 - MC^2} = \frac{a}{2}\sqrt{-\cos 2\alpha}.$$

Відавочна, што вугал $\alpha$ задавальняе няроўнасці

$$\frac{\pi}{4} \leq \alpha \leq \frac{\pi}{2},$$

адкуль вынікае, што $\frac{\pi}{2} \leqslant 2\alpha \leq \pi$, і таму $\cos 2\alpha \leq 0$.

Адказ: $OM = \frac{a}{2}\sqrt{-\cos 2\alpha}$.

**2. Рашыць няроўнасць:**

$$\frac{|x-3|}{x^2-5x+6} \geq 2.$$

**Рашэнне.** Трохчлен, які стаіць у левай частцы няроўнасці, ператвараецца ў нуль пры $x = 2$ і $x = 3$. Таму няроўнасць вызначана ў інтэрвалах: $(-\infty; 2)$, $(2, 3)$ і $(3, \infty)$. Так як $|x-3| \geq 0$ пры любых значэннях невядомой велічыні $x$, то павінна мець месца няроўнасць $x^2 - 5x + 6 > 0$, якое мае рашэнні: $-\infty < x < 2$ і $3 < x < \infty$.

Знойдзем рашэнні дадзенай няроўнасці, якая належыць кожнаму з гэтых інтэрвалаў.

а) У інтэрвале $-\infty < x < 2$ дадзеная няроўнасць прымае выгляд:

$$\frac{-(x-3)}{(x-2)(x-3)} \geq 2 \text{ або } \frac{1}{2-x} \geq 2.$$

Паколькі ў разглядаемым інтэрвале $2 - x > 0$, то $1 \geqslant 2(2-x)$, адкуль $x \geqslant \frac{3}{2}$.

Такім чынам, у інтэрвале $-\infty < x < 2$ дадзеная няроўнасць мае рашэнні $\frac{3}{2} \leqslant x < 2$.

b) У інтэрвале $3 < x < \infty$ дадзеная няроўнасць набывае выгляд:

$$\frac{x-3}{(x-2)(x-3)} \geqslant 2 \text{ або } \frac{1}{x-2} \geqslant 2,$$

адкуль $x \leqslant \frac{5}{2}$, але гэтыя значэнні не належаць да інтэрвала, які разглядаецца.

Адказ: $\frac{3}{2} \leqslant x < 2$.

**3 Рашыць трыганаметрычнае ўраўненне:**

$$\frac{\sin^3\frac{x}{2} - \cos^3\frac{x}{2}}{2 + \sin x} = \frac{1}{3}\cos x.$$

**Рашэнне.** Відавочна, ураўненне вызначана пры ўсіх значэннях невядомай велічыні $x$.
Лічнік левай часткі ўраўнення раскладзем на множнікі, а ў правай частцы заменім $\cos x$ на $\sin\left(x + \frac{\pi}{2}\right)$.

$$\frac{\left(\sin\frac{x}{2} - \cos\frac{x}{2}\right)\left(1 - \frac{1}{2}\sin x\right)}{2 + \sin x} = \frac{1}{3}\sin\left(x + \frac{\pi}{2}\right).$$

Скарачаючы левую частку на суму $2 + \sin x$, якая не ператвараецца ў нуль пры ўсіх $x$, ператвараючы рознасць $\sin\frac{x}{2} - \cos\frac{x}{2}$ у здабытак і раскладаючы $\sin\left(x + \frac{\pi}{2}\right)$ па формуле сінуса двайнога вугла, атрымаем $-\frac{\sqrt{2}}{2}\cos\left(\frac{x}{2} + \frac{\pi}{4}\right) = \frac{2}{3}\sin\left(\frac{x}{2} + \frac{\pi}{4}\right)\cos\left(\frac{x}{2} + \frac{\pi}{4}\right)$.

$$\cos\left(\frac{x}{2} + \frac{\pi}{4}\right)\left[\frac{2}{3}\sin\left(\frac{x}{2} + \frac{\pi}{4}\right) + \frac{\sqrt{2}}{2}\right] = 0.$$

Прыраўняем пачаргова кожны з сумножнікаў да нуля і рошым атрыманыя ўраўненні.

a) $\frac{2}{3}\sin\left(\frac{x}{2}+\frac{\pi}{4}\right)+\frac{\sqrt{2}}{2}=0;$

$\sin\left(\frac{x}{2}+\frac{\pi}{4}\right)=-\frac{3\sqrt{2}}{4}.$

Гэта ўраўненне не мае рашэнняў, таму што $\frac{3\sqrt{2}}{4}>1.$

b) $\cos\left(\frac{x}{2}+\frac{\pi}{4}\right)=0;$

$x=\frac{\pi}{2}(4k+1)$, дзе $k$ — цэлы лік.

Адказ: $x=\frac{\pi}{2}(4k+1)$.

**ВАРЫЯНТ 2.**

1. Пункт $A$ ляжыць на акружнасці верхняй асновы цыліндра, пункт $B$ — на акружнасці ніжняй асновы. Адрэзак AB складае з плоскасцю асновы вугал $\alpha$, а з плоскасцю восевага сячэння, праведзенага праз пункт $B$, вугал $\beta$. Знайсці аб'ём цыліндра, калі даўжыня адрэзка $AB$ роўна $a$.

**2. Рашыць няроўнасць:**

$$\left|\frac{x^2-5x+4}{x^2-4}\right|\leqslant 1.$$

**3. Рашыць трыганаметрычнае ўраўненне:**

$$\operatorname{ctg} x-\operatorname{tg} x=\frac{\cos x-\sin x}{\frac{1}{2}\sin 2x}.$$

**Мікалай ДАВЫДОЎСКІ,**
**старшы выкладчык інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.**






**1972**

**ЛІПЕНЬ**

**2**

15 гадоў назад (1957) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР прысвоена імя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

50 гадоў з дня нараджэння (1922) Г. М. Вагнера, беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.



Г. М. Вагнер.

**7**

90 гадоў з дня нараджэння (1882) Янкі Купалы (І. Д. Луцэвіча), народнага паэта Беларусі. Памёр у 1942 годзе.

**8**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) У. А. Белага, вучонага ў галіне механікі палімераў, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**10**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) М. В. Бяляева, беларускага мастака прыкладнога мастацтва.

**11**

25 гадоў з дня ўступлення ў строй (1947) Мінскага тонкасуконнага камбіната.

**14**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) А. К. Сапеткі, беларускага мастака-графіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1902) С. А. Самцэвіча, вучонага ў галіне глебавай мікрабіялогіі, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.



С. А. Самцэвіч.



І. І. Бардышаў.

60 гадоў з дня нараджэння (1912) І. І. Бардышава, вучонага ў галіне хіміі, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**15**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) Я. Г. Ракава, прафесара-кансультанта кафедры палітэканоміі Беларускага політэхнічнага інстытута.

30 гадоў з дня ўтварэння (1942) партызанскай брыгады «Дзядзі Косці» пад камандаваннем К. С. Заслонава.



Я. Г. Ракаў.

**18**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) І. К. Апанскага, намесніка старшыні ГПУ БССР. Памёр у 1927 годзе.

**20**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) Г. А. Волкава, народнага артыста БССР.

**24**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) І. М. Качуры, вучонага ў галіне арганізацыі і эканомікі сельскагаспадарчай вытворчасці, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.



І. К. Апанскі.

**Ліпень**

50 гадоў назад (1922) выйшаў першы нумар штомесячнага часопіса «Вперед» — органа ЦБ КП(б)Беларусі. Выходзіў да 1925 года.

■■■



Штрыхі да партрэта



Янка Купала ў Пецярбурзе. 1912 год.

# У ПОШУКАХ ВЕДАЎ

З першых крокаў літаратурнай дзейнасці Янка Купала сустрэў шчырых і бескарыслівых прыхільнікаў свайго таленту, якія адразу адчулі, кім ёсць і, галоўнае, кім павінен стаць для беларускага народа малады пясняр-самавук.

Сярод гэтых прыхільнікаў найбольш шчыры, самаахдана закаханы ў талент паэта быў Уладзімір Самойла, сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча, сам здольны літаратар і вельмі сумленны чалавек. З яго прыхільнай дапамогай 15 мая 1905 года ў газеце «Северо-Западный край», якая выдавалася на рускай мове ў Мінску, быў змешчаны верш Янкі Купалы «Мужык». А праз тры гады, калі свет убачыў першы зборнік Купалавых вершаў «Жалейка», У. Самойла ў газеце «Минский курьер» з незвычайнай радасцю і прарочым прадбачаннем пісаў: «На вуліцы «Маладой Беларусі» вялікае свята! Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў ваконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа... Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі надзвычайнай для краю важнасці.

Беларуская песня з галіны этнаграфіі пераходзіць у галіну літаратуры... І «Жалейка» Янука Купалы — адзін з несумненных доказаў гэтага буйнога факта...

Няхай ён будзе для беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для Украіны! Пажадаем яму творчых сіл для песень і пасадзейнічаем самаму шырокаму распаўсюджанню першага выпуску твораў сапраўднага беларускага паэта... Прыйдуць лепшыя часы, — і за подзвіг яго родны народ заплаціць лепшай сваёй удзячнасцю — бессмяроццем!»

У. Самойла разумеў, што маладому паэту, за плячыма ў якога было толькі Бяларуцкае народнае вучылішча, перш-наперш трэба павышаць сваю адукацыю, пашыраць кругагляд, а дзеля гэтага ён павінен вучыцца. Але дзе? Пра рэальнае вучылішча і гімназію нечага было і думаць: Купалу пераваліла ўжо за дваццаць. Гаворка магла ісці толькі пра агульнаадукацыйныя курсы для дарослых, але такіх курсаў ні ў Беларусі, ні ў Літве ў той час не было. Такія курсы былі ў Пецярбурзе.

Горад вялікай культуры і багатых гістарычных традыцый даўно вабіў маладога паэта. Але проста так сарваца з месца і паехаць у свет «па навуку» ён не мог, бо не мог разлічваць на дапамогу сям'і, якая ледзь зводзіла канцы з канцамі. Нічым не магла дапамагчы свайму супрацоўніку і «Наша ніва». Заставалася адна надзея — звярнуцца да прафесара Б. І. Эпімаха-Шыпілы. І У. Самойла хапаецца за яе. «Памажыце яму (Янку Купалу — **Ж. Д. і В. Д.**), — піша ён выдаўцу «Жалейкі», — Вашай цудоўнай выпрабаванай працай, але захаваўшы ўсю свежасць юнацкай чысціні веры ў чалавека сэрцам. У Ваш уплыў я глыбока веру».

Б. І. Эпімах-Шыпіла быў не з тых, каго трэба было ўпрошваць. Аддаючы ўсе свае заробкі справе развіцця беларускай культуры, ён не мог пашкадаваць сродкаў, каб даць адукацыю паэту, які падаваў такія надзеі і для папулярызацыі творчасці якога ён паспеў ужо зрабіць нямала.

І вось позняй восенню 1909 года Янка Купала выязджае з Вільні ў Пецярбург да Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Браніслаў Ігнатавіч запрашае яго да сябе на кватэру. У яго Купала і жыў,

у яго і сталаваўся, ён жа ўносіў плату за навучанне на курсах Чарняева і нават ахвяраваў пэўную суму на асабістыя патрэбы: кіно, тэатр, конку і г. д. Амаль чатыры гады пражыў Янка Купала ў гасцінней кватэры гэтага руплівага, апанаванага ідэяй бескарыслівага служэння свайму народу чалавека.

Магутны рэвалюцыйны ўздым у краіне ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя выклікаў неадольную прагу да ведаў сярод людзей працы, што не мелі магчымасці атрымаць адукацыю. Каб хоць у нейкай ступені задаволіць гэтае жаданне, у Пецярбурзе адкрываюцца шматлікія вячэрнія курсы для рабочых. Гэтыя курсы сталі цэнтрам адукацыі і асветы для пецярскага пралетарыяту.

Вялікую папулярнасць у той час мелі агульнаадукацыйныя курсы Чарняева. Хто ж ён такі, А. С. Чарняеў, арганізатар і кіраўнік гэтых курсаў?

Аляксандр Сяргеевіч Чарняеў не меў нічога агульнага з дзеячамі буржуазнага тыпу, якія ўсялякімі сродкамі імкнуліся да ўласнай нажывы. Чалавек гэта быў высокаадукаваны і самабытны.

Нарадзіўся А. С. Чарняеў 23 лістапада 1873 года ў вёсцы Петрына Гразавецкага павета Валагодскай губерні ў сялянскай сям'і. Лёс яго шмат чым нагадваў лёс нашага паэта. Вельмі рана ўсе блізкія заўважылі ў ім вялікія здольнасці, не па гадах сур'ёзныя адносіны да жыцця. Але падобна да таго, як Дамінік Ануфрыевіч, замест таго, каб аддаць Янку ў рэальнае вучылішча, «пусціў яго па гаспадарцы», бацька А. С. Чарняева таксама вырашыў, што пачатковай адукацыі сыну хопіць, і аддаў яго «ў людзі».

Працуючы швейцарам у адной з пецярбургскіх гасцініц, Чарняеў настойліва займаецца самаадукацыяй. Ён вырашае самастойна падрыхтавацца да экзаменаў на званне настаўніка пачатковай школы. Здзейсніць свае намеры ён спрабаваў вясной 1890 года, аднак па невядомых прычынах экзаменаў не здаў. Ды яму ўсё ж быў дадзены дазвол працаваць у школе.

Праз чатыры гады А. С. Чарняеў паспяхова здае экзамены пры Пецярбургскай духоўнай семінарыі і атрымлівае на законных падставах пасаду настаўніка ў вёсцы Калагрываў Гдоўскага павета. Працуючы ў школе, А. С. Чарняеў не без поспеху займаўся паэтычнай дзейнасцю. Яго вершы гэтага перыяду, ідэйна і тэматычна звязаныя з дэмакратычнай паэзіяй, выдадзены асобным зборнікам «Родные картины».

Жаданне рабіць дабро людзям, жыць дзеля іх цалкам захапляе юнака. У 1900 годзе ён едзе ў Пецярбург і становіцца спачатку вольным слухачом на фізіка-матэматычным факультэце ўніверсітэта па разрадзе прыродазнаўчых навук, а праз год паступае ў археалагічны інстытут.

Па сабе ведаючы, як цяжка чалавеку, які не мае сродкаў, атрымаць адукацыю, А. С. Чарняеў вырашае стварыць сярэднюю навучальную ўстанову для дарослых, у якой маглі б атрымліваць веды такія, як ён сам, няшчасныя «пасынкі жыцця», якія дзеля навукі гатовы былі адолець усялякія перашкоды на сваім шляху. Такія курсы былі адкрыты, і ён стаў працаваць там выкладчыкам.

У 1903 годзе А. С. Чарняеў скончыў Археалагічны інстытут і здаў экзамены па ўсіх асноўных прадметах за курс універсітэта. Але на гэтым яго адукацыя не спыняецца. Прадметам яго захаплення цяпер становяцца філасофія і права, матэматыка, літаратура, сацыялогія, педагогіка.

Прыйшло, нарэшце, і першае прызнанне як вучонага. Таварыства прыродазнаўцаў пры Пецярбургскім універсітэце выбрала яго сваім сапраўдным членам.

У студзені 1906 года А. С. Чарняеў адкрывае яшчэ адны курсы па энцыклапедыі вышэйшых ведаў, да выкладання на якіх запрашае такіх вядомых вучоных свайго часу, як І. І. Боргман, А. Г. Генкель, М. І. Карэеў, У. І. Бауман, М. Е. Увядзенскі, С. А. Вянгераў, К. Р. Жакаў, П. Л. Мальчэўскі і інш. Праіснавалі новыя курсы нядоўга, таму што царскі ўрад, змагаючыся з уплывам рэвалюцыйных ідэй на шырокія масы, у ліку іншых рэпрэсіўных мер, закрыў вышэйшыя і сярэднія (агульнаадукацыйныя) курсы Чарняева. Апошнія, аднак, яму ўдалося адстаяць.

Характарыстыка А. С. Чарняева будзе няпоўнай, калі не сказаць пра яго педагагічныя погляды, пра яго ўласную сістэму выхавання. Чарняеў лічыў, што з усіх недахопаў, уласцівых тагачаснай школе, самы вялікі — недасканаласць выхавання. «Можна прама сцвярджаць, — пісаў А. С. Чарняеў, — што ў нас няма ніякай выхаваўчай сістэмы, амаль нічога не робіцца для развіцця маральных ідэалаў у юнацтва, зусім без увагі пакінута развіццё волі, прадпрымальнасці, ініцыятывы, творчасці, любові да радзімы і іншых грамадзянскіх дабрачыннасцяў».

Асновай выхавання высакародных пачуццяў і імкненняў, лічыў Чарняеў, павінна стаць знаёмства з біяграфіямі славутых людзей. У кожнага чалавека ёсць у патэнцыі схільнасць да якога-небудзь дзеяння. Знаёмства з біяграфіямі славутых людзей дапаможа яму разбудзіць свае сілы, лепей зразумець самога сябе. «Нельга хаваць свяцільнік у сутарэннях. Становішча цёмна і холадна на зямлі, і няхай святло, што ідзе ад лепшых людзей і іх спраў, асвятляе цемру», — гаварыў Чарняеў.

Менавіта на такіх высакародных прынцыпах будавалася навучанне на курсах, дзе давялося вучыцца Янку Купалу.

Агульнаадукацыйныя курсы былі адкрыты А. С. Чарняевым 1 верасня 1902 года як сярэдняя навучальная ўстанова для дарослых з чатырохгадовым тэрмінам навучання. Яны ўяўлялі сабой разумнае спалучэнне класічнай гімназіі і рэальнага вучылішча. На курсы прымаліся асобы абодвух полаў усіх веравызнанняў і саслоўяў не маладзей як 15 гадоў, у адпаведнасці з падрыхтоўкай можна было паступіць у любы клас.

«Няхай усе, хто прагне ведаў, — пісаў Чарняеў у адной з запісак на імя ўрадавых устаноў, — ідуць да гэтай крыніцы, нягледзячы на ўзрост, нягледзячы на лапці, нягледзячы на паходжанне».

Для паступлення ў першы клас трэба было прадставіць адно з пасведчанняў: аб заканчэнні народнай школы, падрыхтоўчага класа або першага класа ўрадавых сярэдніх навучальных устаноў. Для Купалы гэтага было дастаткова — ён меў дакумент аб заканчэнні Бяларуцкага народнага вучылішча.

Паступіўшы на курсы Чарняева, Купала неўзабаве ўладкаваўся працаваць на казённы віназавод практыкантам. Трэба было зарабляць на пражыццё, бо прыехаў ён у сталіцу «без капейкі за душою».

Пасля работы паэт ішоў на заняткі, якія праводзіліся кожны дзень, акрамя святочных, з 6 да 11 гадзін вечара. У нядзельныя дні ішлі практычныя заняткі па прыродазнаўстве і грамадскіх навуках. Значная ўвага надавалася вывучэнню замежных моў. У 3-м і 4-м класах абавязкова вывучаліся лацінская, французская і нямецкая мовы. Калі хто з курсантаў жадаў займацца імі раней, то павінен быў унесці дадатковую плату (18 рублёў у год).

Цяпер нам зразумела, чаму пераклад Я. Купалам «Інтэрнацыянала» лічыцца адным з самых дакладных і лепшых. Беларускі паэт, па ўсім, някепска ведаў французскую мову і перакладаў не па падрадкоўніку, а з арыгінала.



## Штрыхі да партрэта

Сярод студэнтаў-беларусаў у Пецярбурзе. 1913 год. У другім радзе: другі злева — Янка Купала, трэці — Бэнін-Драздоў, артыст Александрынскага тэатра, арганізатар беларускіх спектакляў, чацвёрты — Б. І. Эпімах-Шыпіла.

Кожную чвэрць года на курсах праводзіліся рэпетыцыі па ўсіх прадметах, а ў канцы навучальнага года слухачы здавалі пераходныя экзамены. Скончыўшы курсы і вытрымаўшы выпускныя экзамены, яны атрымлівалі адпаведныя пасведчанні.

За чатыры гады навучання курсанты павінны былі адолець праграму больш насычаную, чым у сярэдняй школе. Яны вывучалі такія дысцыпліны, якія нават у наш час прадугледжваюцца толькі праграмай вышэйшай школы.

Што ж вывучаў Купала на курсах Чарняева?

Першым у праграме, па вядомых прычынах, значыўся закон божы, але гэта зусім не азначае, што вывучэнню яго аддавалася перавага перад іншымі прадметамі. Наадварот, на вывучэнне закону божага курсантам давалася 1 гадзіна на тыдзень. Звычайна ў раскладзе лекцыі па гэтым прадмеце былі апошнімі.

Вялікае месца ў праграме адводзілася вывучэнню рускай мовы і літаратуры. Руская мова вывучалася на працягу ўсіх чатырох гадоў. У першым класе ёй адводзілася шэсць гадзін у тыдзень. Курсантам даваліся пачатковыя веды з сінтаксісу і этымалогіі. Лекцыі па этымалогіі чытаў сам Чарняеў. Тлумачальнае чытанне і практычныя заняткі, на якіх слухачы курсаў пісалі дыктоўкі і сачыненні, вёў Ксенафонтаў. У другім класе паўтаралі этымалогію мовы і вывучалі сістэматычны курс сінтаксісу, тэорыю славеснасці. Акрамя гэтага, за першыя два гады курсанты

павінны былі прачытаць пэўны мінімум літаратурных твораў (частка іх аналізавалася на лекцыях). У трэцім класе курсанты чыталі і аналізавалі творы рускіх класікаў і лепшыя помнікі старажытнай пісьменнасці. У гэты ж час ім пачыналі чытаць сістэматычны курс гісторыі рускай літаратуры.

Купала прагна засвойвае ўсё, што выкладалася на курсах, чытае многа мастацкай літаратуры звыш праграмы, захапляецца народнай творчасцю. «Я прачытаў усе этнаграфічныя зборнікі, захапляўся народнай міфалогіяй і што траплялася пад рукі, напісанае аб гэтым, чытаў», — пісаў пазней паэт у адным са сваіх аўтабіяграфічных лістоў.

Акрамя літаратуры, курсанты вывучалі вышэйшы курс рускай граматыкі і граматыкі старажытнай рускай мовы. На чацвёртым годзе навучання яны працягвалі слухаць курс гісторыі літаратуры і лекцыі па тэорыі славеснасці, чыталі лепшыя творы айчыннай літаратуры, пісалі сачыненні. Янку Купалу вельмі падабаліся лекцыі прафесара К. Р. Жакава, які, акрамя тэорыі славеснасці, чытаў логіку, псіхалогію, этыку. Паэта пакарылі не толькі веды вучонага, але і яго дэмакратызм. З цікавасцю ён слухаў таксама лекцыі па гісторыі літаратуры, якія чытаў вядомы ў свой час вучоны, прафесар Пецярбургскага ўніверсітэта А. К. Бараздзін.

Складанай і шырокай была праграма па матэматыцы, якая вывучалася ўсе чатыры гады. Курсанты вывучалі арыфметыку, алгебру, геаметрыю, трыганаметрыю, аналітычную геаметрыю. Акрамя рускай мовы, літаратуры, матэматыкі, на працягу трох гадоў вывучалася гісторыя, два гады адводзілася на вывучэнне геаграфіі. Звыш названых дысцыплін слухачы павінны былі праслухаць сістэматычны курс касмаграфіі, логікі і эксперыментальнай псіхалогіі.

У першым і другім класах вывучаўся курс прыродазнаўства, які складаўся з папулярных лекцый па хіміі, фізіцы, батаніцы, заалогіі.

Чыталіся таксама лекцыі па неарганічнай хіміі, мінералогіі, даваліся звесткі з геалогіі, крышталаграфіі, крышталафізікі, крышталахіміі, у апошніх класах вывучалі батаніку, знаёміліся з марфалогіяй, сістэматыкай, анатоміяй, фізіялогіяй і біялогіяй раслін, вывучалі анатомію і фізіялогію чалавека, заалогію. Агульным і абавязковым для ўсіх быў прадмет заканадаўства.

З вялікай ахвотай Купала наведваў студэнцкія вечарынкі, што праводзіліся найчасцей на кватэры Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілы. Моладзь збіралася а сёмай гадзіне вечара. Купала прыходзіў пазней, пасля заняткаў на курсах.

У беларускіх вечарынках прымалі ўдзел студэнты, рабочыя, вучоныя, члены беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» — наогул, тыя, хто цікавіўся беларускай культурай. Чыталіся рэфераты студэнтаў і вучоных па гісторыі і культуры Беларусі, па прыродазнаўстве, палітэканоміі. Удзельнікі вечарынак захапляліся паэзіяй. «Часта гучалі творы Купалы, якія неаднаразова чытаў і сам паэт. Тут ён меў прыхільную і ўважлівую аўдыторыю, якая лавіла кожнае яго слова і глядзела на яго як на прарока, як на нацыянальнага героя», — успамінае пра той час адзін з пецярбургскіх сучаснікаў Купалы Язэп Францавіч Сушынскі.

У вольны ад працы і ад заняткаў час Купала меў магчымасць наведаць мясціны, апетыя класікамі рускай літаратуры Пушкіным, Лермантавым, Някрасавым, азнаёміцца са скарбамі выдатных пецярбургскіх тэатраў і музеяў. Тут адбываліся сустрэчы з прагрэсіўнай студэнцкай моладдзю, з землякамі — рабочымі Пуцілаўскага, Абухаўскага, Семенікоўскага і іншых заводаў, тут адчуваўся дух рэвалюцыйнай барацьбы пецярбургскага пралетарыяту.

Курсы Чарняева давалі слухачам глыбокія і грунтоўныя веды. Закончыўшы іх, многія паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Не выключэнне і Янка Купала, у 1915—1916 навучальным годзе ён вучыўся ў гарадскім народным універсітэце імя Шаняўскага ў Маскве.

Вучоба на курсах дала вельмі многа беларускаму паэту. Ён прыехаў у Пецярбург самавукам, які меў у кішэні пасведчанне аб пачатковай адукацыі ды свой першы зборнік вершаў «Жалейку», а вярнуўся адтуль сталым мастаком слова, аўтарам неўміручых твораў, якія хвалявалі яго сучаснікаў, хвалююць нас і будуць хваляваць наступныя пакаленні.

**Жана ДАПКЮНАС.**
**Вольга ДЭКОНСКАЯ.**








**Р. І. ГУЛЬМАН. ТЭКСТАЛОГІЯ ТВОРАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1971.**

# ДАСЛЕДУЮЦЦА РУКАПІСЫ КУПАЛЫ

Не першае выданне поўных і няпоўных збораў твораў здзяйсняецца на Беларусі, а тэксталагічная навука толькі-толькі выйшла на старт. І таму з'яўленне працы Р. Гульман «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» можа быць успрынята як прылёт увесну першай ластаўкі. Знамянальна, што гэтая ластаўка «прыляцела» якраз перад 90-годдзем з дня нараджэння народнага паэта Беларусі.

Аўтар пракладвае ў навуковым асэнсаванні работы беларускіх тэкстолагаў тую баразну, па якой можна вызначыць глыбіню ворыва на тэксталагічнай ніве. А таму, што гэтая баразна першая, аўтару давялося шмат увагі ў сваёй працы аддаць апісанню агульных прынцыпаў савецкай тэксталогіі. Апіраючыся на даследаванні такіх вядомых філолагаў як В. Вінаградаў, С. Бондзі, Д. Ліхачоў, Я. Прохараў, П. Беркаў, К. Гурскі (Польшча), А. Дэк (Францыя) і інш., аўтар прыходзіць да вываду, што «Тэксталогія займаецца не толькі даследаваннем самога тэксту і ўсіх яго змен, а галоўным чынам гісторыяй тэксту, якая павінна разглядацца ў сувязі са светапоглядам аўтара, яго адносінамі да выдання твораў, а таксама з умовамі іх публікацыі і стварэння».

Кола закранутых Р. Гульман праблем абмежавана ў даследаванні пытаннямі вызначэння аўтэнтычнага тэксту. Аўтар прасочвае гісторыю выдання твораў Янкі Купалы ад першага зборніка «Жалейка», які выйшаў у 1908 годзе «з вялікай колькасцю памылак і скажэнняў», аж да шасцітомніка 1961—1963 гг., дзе «многія творы былі вызвалены ад скажэнняў і памылак, што парушалі творчую волю паэта».

Даследаваўшы аўтабіяграфічныя матэрыялы Янкі Купалы, аўтар паспрабавала высветліць пісьменніцкую манеру паэта і акцэнтаваць увагу на тым, што «паэт амаль не перарабляў свае творы дарэвалюцыйнай пары», што «творчы працэс у маладога Купалы не фіксаваўся на паперы», бо «творы ствараліся вусна і занатоўваліся амаль гатовымі». Вельмі каштоўным у гэтым сэнсе з'яўляецца малавядомае выказванне Янкі Купалы аб тым, што ў маладыя гады «і ў далейшым да 1915 года я пісаў многа, і гэта мне давалася вельмі лёгка. Я мог за адзін дзень напісаць 100—300 радкоў вершаў і рэдка калі напісанае выпраўляў. Пісаў дзе і як траплялася: пры кастры, пры луне, навобмацак уначы, у дарозе, за работай».

Характар працы пісьменніка дазваляе адводзіць аўтографам нібы галоўную ролю пры вызначэнні аўтэнтычнасці (першакрыніцы) тэксту. Аднак нельга абмінаць і наступныя этапы творчай працы—прыжыццёвыя публікацыі і канкрэтныя абставіны, звязаныя з друкаваннем пісьменніцкага тэксту. Аўтар даследавання звяртае ўвагу на матэрыялы, змешчаныя ў перыядычным друку пэўнага часу, пры выданні апошняга прыжыццёвага збору твораў Янкі Купалы, калі «з волі пісьменніка не заўсёды лічыліся».

Асабліва шмат шкоды прынесла нераспрацаванасць беларускай лексікі, калі ў праве на існаванне адмаўлялася многім самабытным купалавым словам. Так у вершы «Заклятая кветка» ў радку «Сціскаецца гэты і той» арганічнае для Купалы слова (крадзецца) было заменена на «сціскаецца», што прывяло да бяссэнсіцы, якая паўтаралася шмат у якіх прыжыццёвых выданнях. На шматлікіх прыкладах рэдактарскага сваволу пры падрыхтоўцы трохтомніка 1935—37 гг. і чацвёртага тома збору твораў (1940) Р. Гульман прыходзіць да слушнага вываду: «...апошні прыжыццёвы тэкст

не можа быць прыняты за крыніцу асноўнага тэксту для навуковага выдання літаратурнай спадчыны Янкі Купалы».

Значыць — рукапіс? Не заўсёды. Дэталёвы аналіз выданняў твораў народнага песняра дае падставы прызнаць самым аўтарытэтным Збор твораў у шасці тамах (1925—1932). Гэты тэкст і выбраны для новага выдання Збору твораў, якое пачынаецца сёлета.

Даследчык узнімае цэлы шэраг агульнатэксталагічных праблем, якія маюць пэўнае метадычнае і практычнае значэнне для выдання класічнай спадчыны беларускай літаратуры. Раздзел «Вызначэнне аўтэнтычнага тэксту», напісаны з выкарыстаннем вялікай колькасці доказных прыкладаў, дае багаты матэрыял для роздуму ў працы над падрыхтоўкай самых розных выданняў.

Найбольш грунтоўна распрацавана аўтарам пытанне пра цэнзурны сваволь, які прымушаў паэта бурыць вынашаную вобразную сістэму і прыстасоўвацца да патрабаванняў цэнзуры. Варта прывесці тут хоць бы прыклад з «Песняй жней», дзе сацыяльная насычанасць верша мела ў аўтографе моцны вырашальны акорд: «Працай чужою будзь сыт і багат», напісаны як пажаданне-праклён пану. У наборных жа аўтографах глыбіня канфлікту скасавана зусім такі добразычлівым радком: «З лета ў лета будзь сыт і багат». Толькі ў новым выданні Збору твораў верш набудзе першапачатковае купалава гучанне.

Янка Купала шмат пакутаваў у дарэвалюцыйны час ад «падгладжвання» ў цэнзурных мэтах. Пра гэта ён з пякучым гневам і глыбокім сарказмам напіша пазней у вершы «Паэта і цэнзар».

У адрозненне ад свядомых змен і скажэнняў, зробленых цэнзарамі, рэдактарамі і іншымі асобамі, што маюць дачыненне да выдання, важна вывучыць і т. зв. механічныя памылкі, выпадковыя парушэнні аўтарскага тэксту. Высвятляючы гэтае пытанне, Р. Гульман робіць шырокі экскурс у працы самых розных тэкстолагаў, але фармуліруе пры гэтым даволі банальнае сцвярджэнне: «...несвядомыя памылкі і скажэнні ў тэкстах класічных твораў пісьменнікаў новага часу з'яўляюцца настолькі ж важнымі аб'ектамі даследавання, як і свядомыя». Ужытая даследчыкам класіфікацыя механічных памылак на пяць груп — чытання, запамінання, унутранага дыктанта, пісьма і пераасэнсавання—нагогул не выклікала б супярэчання, каб у практычным разглядзе не бракавала часам доказнасці.

Ці можна лічыць памылкай запамінання замену радка «злыя варожыя роты» на «злыя варожыя сілы» ў страфе, дзе гаворыцца пра нашы арлы-самалёты, якія павінны сваімі бомбамі ўтаптаць у гаць «злыя варожыя роты». Вядома ж, што тым, хто рыхтаваў у 1938 годзе верш «Японскім самураям» да друку, паказалася канкрэтнае слова «роты» замалым па сэнсе, і яны, пагарджаючы рыфмай, мяняюць на «сілы»—слова большай абагульняючай нагрузкі. Тут, безумоўна, свядомае ўмяшальніцтва, а не механічная памылка.

Заўвага Р. Гульман «пра тое, наколькі важна для даследчыка тэкстаў веданне лексікі паэта, яго словаўжывання», слушная. Але яна слушная і ў дачыненні да самога аўтара даследавання. Часам Р. Гульман не даводзіць высвятлення праўдзівасці тэксту да той ступені, калі гэтая праўдзівасць становіцца бясспрэчнай. У вершы «Калатуха» справа не толькі ў тым, што замест «Тэгеранам» пісалі доўгі час «Талеранам», а яшчэ і ў самім дапасаванні, якое ўжыта няправільна і выклікае недакладнасць сэнсу. Правільна варта было б пісаць: «Патрасае Тэгерану персіянец з Сатарханам». Тут слова «патрасае» мае значэнне сіноніма да слова «пагражае», бо гутарка ж ідзе пра тое, як Сатар-Хан пагражаў Тэгерану захапіць яго, што нарэшце і зрабіў.

Нельга не падзяліць разам з аўтарам даследавання яе абурэння шматлікімі парушэннямі рытмічнага ладу або памеру верша з прычыны пазнейшай уніфікацыі правапісу, «якая хоць і ў невялікай меры, але пагаршае творы класікаў мастацкай літаратуры ў эстэтычным плане». Справа ж, сапраўды, мусіць, неадкладная — скласці слоўнік мовы Янкі Купалы. Ён патрэбны не толькі тэкстолагам, але і самаму шырокаму колу філолагаў, бо праліе святло на шмат якія неадкладныя праблемы нашай навукі аб мове.

Беларуская тэксталогія ўзяла добры старт, як пра гэта сведчыць хай сабе сціплая, але сумленная праца Р. Гульман, прысвечаная тэксталогіі твораў Янкі Купалы. Яе канкрэтныя рэкамендацыі для вызначэння аўтэнтычнасці тэксту твораў паэта паслужаць справе падрыхтоўкі навуковых выданняў класічнай спадчыны беларускай літаратуры, да якой мы толькі прыступаем яшчэ.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**





# З МАСКОЎСКАЙ МАСТАЦКАЙ

Пра што я думаю, стоячы перад палатном масцітага мастака або перад графічным лістом ці скульптурай дэбютанта? Я думаю пра прыгажосць — прыгажосць вобраза, прыгажосць мыслення і фантазіі, прыгажосць творчасці — пра тое вечнае, што запальвае фантазію мастака і падпарадкоўвае фантазію гледача.

Я вярнуўся да гэтых думак у Маскве, у Цэнтральнай выставачнай зале зanальнай выстаўкі твораў мастакоў Беларусі і Малдавіі, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР.

Натхнёная праца. Цудоўная зямля беларуская. І горды чалавек. Наш сейбіт, воін, партызан, які ў цяжкіх баях адстаяў шчасце і мір для нас, для людзей. Пра гэта наш раздзел выстаўкі.

Творчасць кожнага з беларускіх мастакоў своеасаблівая, розная па форме выяўлення, па стылі, па логіцы і пластычнасці думкі, па прынцыпах трактоўкі і, зразумела, не роўная па якасці, але ва ўсіх іх ёсць агульныя рысы, народжаныя і гераічнай гісторыяй народа, шчырасцю і светласцю душы людзей, і пранікнёнай сціпласцю беларускіх ландшафтаў.

На выстаўцы, ходзячы яшчэ і яшчэ па залах, можна было адкрываць усё новыя і новыя творы, ад якіх вее чысцінёй чалавечых адносін, мужнасцю, спакоем мірных пейзажаў, глыбокім драматызмам і маўклівым роздумам.

Зусім заканамерна, што важнае месца ў экспазіцыі займаюць творы аб рэвалюцыі і грамадзянскай вайне. Гэтыя палымяныя гады, калі сіла і прыгажосць чалавечага духу ўпершыню ў свеце знайшла сваё вышэйшае ўвасабленне, яшчэ доўга будуць хваляваць сэрцы мастакоў.

Ленін і рэвалюцыя, Ленін і народ — гэтую бессмяротную тэму па-рознаму трактуюць у сваіх творах А. Шыбнёў, А. Сямілетаў, К. Касмачоў, З. Азгур, П. Белавусаў. Да гэтай жа тэмы звярнуўся малады графік В. Шаранговіч, які здолеў па-новаму востра «прачытаць» паэму Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». Асноўны лейтматыў вельмі лаканічных літаграфскіх ілюстрацый мастака — маналітнае адзінства і спаянасць працоўных мас і правадыра. Вобраз Леніна тут дасягае высокай вобразнай сімволікі, а вобраз працоўнага народа — эпічнай манументальнасці і шырокай графічнай абагульненасці.

Да гісторыі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і першых пяцігодак звернуты многія творы. Пра гэта карціны «І з'езд РСДРП» М. Манасзона, «Беларусь. За ўладу Саветаў» Н. Воранава, «Рудабельская рэспубліка» Р. Кудрэвіч, графічныя лісты «Інтэрнацыянал» І. Капяляна, «Камсамольскае юнацтва» Ю. Зайцава, акварэльная серыя «Дзеці 20-х гадоў» А. Волкава, скульптурныя кампазіцыі «Гранада» Д. Папова і «1919-ты год» В. Андрушчанкі.

У карціне «Народныя камісары БССР» У. Стальмашонка, напэўна, упершыню ў беларускім жывапісе перад намі паўсталі, быццам высечаныя на мануменце Рэвалюцыі, вобразы першых дзяржаўных дзеячаў Беларусі — Д. Ф. Жылуновіча, А. Д. Мяснікова, В. Г. Кнорына, І. А. Адамовіча, А. Р. Чарвякова.

Дыстанцыя часу, якая аддзяляе нас ад падзей трыццацігадовай даўнасці, прымушае вастрэй углядацца ў дзень сённяшні і заўтрашні. Зноў і зноў вяртаюць нас мастакі да старонак мінулага — трывожных і жывых старонак Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. Памяць вяртае да ваенных гадоў. Памяць у кожным, хто жыў у тую грозную пару і хто нарадзіўся ў дні міру. Памяць — у летапісе падзей тых гадоў, у абеліскax і мемарыялах, што стаяць на Беларусі, у карцінах, скульптурах, графічных серыях...

Карціна «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца» В. Грамыкі на выстаўцы адыгрывае ролю своеасаблівага мастацкага камертона, бо ў ёй адчуваецца глыбокая філасофія. Палатно гаворыць па-

чуццю, глыбока затоенаму ў нашых сэрцах, пра цяжкі, драматычны шлях нашых жанчын, народжаных кахаць, нараджаць дзяцей, выхоўваць іх, але ў ліхую гадзіну вымушаных па закліку Радзімы ўзяць у рукі вінтоўкі.

У аснову новай карціны М. Савіцкага «Забойства сям'і партызана» пакладзены сапраўдны факт: зверская расправа фашыстаў над сям'ёй легендарнага партызанскага камандзіра М. Ф. Шмырова. Але думка карціны шырэйшая — гэта пратэст супраць варварства, супраць учарашняга і сённяшняга фашызму. Тут не толькі боль трагічнай даўнасці, а боль сённяшні — боль В'етнама, Камбоджы, Ольстэра... Твор гэты ў многім спрэчны, але само імкненне мастака вырашыць найскладанейшую сюжэтную, па сутнасці, літаратурную задачу, праз глыбокую экспрэсію вобразаў, графічную дакладнасць сілуэтаў, уражлівыя кантрасты светлага і цёмнага—варты пільнай увагі.

Веліч чалавечага духу, які мацней за смерць, раскрыта і ў другой карціне М. Савіцкага — «Пакаранне смерцю». Пра гэту вялікую сілу чалавечага духу ягo ж палатно «Віцебскія вароты», пра гэта карціны «Маё нараджэнне» Л. Шчамялёва, «Партызанскае вяселле» М. Данцыга, «Клятва» І. Стасевіча, «Старшыня. 1943 год» А. Кішчанкі, графічная серыя «Падполле Мінска» Л. Асецкага, скульптурная кампазіцыя «Партызанская сям'я» Л. Гумілеўскага. Роздумам пра жыццё і барацьбу, пра стойкасць савецкага чалавека, учарашняга мірнага працаўніка зямлі, прасякнута серыя афортаў «Партызаны» А. Кашкурэвіча. Усё гэта прыклады асваення тэмы, неабдымнай тэмы Айчыннай вайны ў сённяшнім яе ўспрыняцці.

Час марудна сцірае рубцы вайны. Час прыглушыў боль страт. Боль. Калісьці пульсуючы і вострый, за далеччу гадоў ён стаў ціхі і светлы. У гэтым логіка жыцця — мірны плуг заворвае поле бою. І таму побач з героямі Айчыннай вайны паўстае і наш час, наш сённяшні дзень.

Карціны «Хлеб» Б. Аракчэева, «Радня» В. Сахненкі, «Хірург. Пасля аперацыі» А. Малішэўскага, «Вершы» І. Давідовіча, «Юнацтва» М. Казакевіча, «Майскі дождж» Р. Кудрэвіч, скульптурныя кампазіцыі «Юнацтва» А. Глебава, «Гімнасткі» А. Заспіцкага, «Мацярынства» Н. Якавенкі, працы А. Паслядовіч, Н. Паплаўскай, А. Лось — розныя па тэхніцы, па трактоўцы вобразаў, ды ўсе яны маюць агульны ідэйна-эмацыянальны лад: светлае адчуванне жыцця, любоў да людзей, узвышанае, паэтычнае перажыванне. У гэтым сэнсе асобныя работы ўздымаюцца да высокага грамадзянскага і пафаснага гучання. Так, у карціне «У полі» М. Савіцкі, думаецца, знайшоў правільную чалавечую інтанацыю ў размове пра месца і лёс хлебаробаў сённяшняй вёскі. Жыццё, гаворыць мастак, не толькі святочная песня. Яно складанае і нялёгкае, як складаная і нялёгкая праца.

Гэтак жа ўлюбёна, уважліва разглядае сваіх герояў і Г. Вашчанка ў карціне «Маё Палессе», у якой, нягледзячы на адсутнасць сюжэтнай сітуацыі, група персанажаў уяўляе сабой арганічнае эмацыянальнае цэлае дзякуючы музычнарытмічнай і маляўнічай узаемасувязі фігур і прыроды.

Прафесіяналізм высокага класа, беззаганную тэхнічную дакладнасць, багацце стылявых адценняў, жыццёвую праўду, яркасць і непасрэднасць пачуццяў мы знаходзім у серыях «Браслаўшчына — край азёрны», «Белы кантынент», «Па Індыі» Г. Паплаўскага. Лепшыя карціны гэтых серый зроблены з жывым адчуваннем матэрыялу, кампазіцыйна прадуманы, іх раднiць абвостранасць думкі, хоць па жыццёвым матэрыяле, па сюжэтных завязках, па мастацкай мове яны вельмі і вельмі не падобныя адна на другую.

Наша ўяўленне пра Беларусь — край вялікай прыгажосці і напружанай працы — дапаўняюць пейзажы В. Цвіркі, С. Каткова, М. Данцыга, В. Грамыкі, В. Вярсоцкага, А. Кроля, І. Карасёва, К. Касмачова і іншых.

Дзень сённяшні. Сённяшні чалавек. Ён і ў выразных партрэтах прадстаўнікоў беларускага народа Я. Коласа і Р. Шырмы работы У. Стальмашонка, і ў вобразе майстра лесаўчастка М. Паддубскага (Л. Дударэнка), ён і ў скульптурных вобразах М. Ф. Шмырова (С. Вакар), беларускіх кампазітараў І. Лучанка і М. Чуркіна (Г. Мурамцаў), ракетчыка В. А. Ларыёшына (Н. Кандрацьеў).

Выстаўка вялікая і разнастайная. Гаварыць пра кожнага мастака і пра кожную работу немагчыма, але не назваць маладых, тых, хто дэбютаваў нядаўна, і тых, хто дэбютуе на ўсесаюзнай арэне сёння, нельга. Амаль кожнага з іх характарызуе велізарная цікавасць да сённяшняга дня. Яны сучасныя не толькі таму, што маладыя. Яны сучасныя і ў тэматыцы, і ў мысленні, і ў знаходках, і ў сваёй увазе да прыгажосці як да з'явы рэальнага свету. Невыпадкова такія розныя мастакі, як В. Сумараў і Ю. Зайцаў, Л. Зільбер і А. Дамарын, М. Рыжыкаў і Ю. Палякоў, Г. Качаноўскі і В. Бароўка, У. Пашчасцеў і І. Юданок, нягледзячы на розніцу іх творчых індывідуальнасцяў, усё-такі нечым блізкія. І не толькі тым, што, сканцэнтроўваючы ўвагу на прыгажосці свету, прымушаюць больш поўна і ярка адчуць трапяткую шматграннасць жыцця. Гэта агульнасць — у разуменні сваіх прафесійных задач, у адносінах да ўжо існуючага мастацтва, у выбары выяўленчых сродкаў.

**Барыс КРЭПАК.**



# ЧАРАДЗЕЙ З БЯЛЫНІЧ





Я не першы раз бачу яго выстаўкі і асобныя творы.

Бачыў у Мінску, і ў Маскве — у Траццякоўскай галерэі, і ў Ленінградскім Рускім музеі.

І вось выстаўка зноў у Мінску, юбілейная—да стагоддзя з дня нараджэння.

100 гадоў... Нас раздзяляе цэлая эпоха: канец яго жыцця супаў з пачаткам майго. Я ведаю толькі адзін свет, адзін час, адзін лад. Яго жыццё прайшло праз тры рэвалюцыі, чатыры вайны. Тое, што для мяне далёкая кніжная гісторыя, было яго рэчаіснасцю. Мастакі, з якімі ён сябраваў, вядомы мне як сівыя класікі. І сам ён класік.

Я зноў іду ўздоўж белых музейных сцен і застаюся сам-насам з яго творамі. Я хачу яшчэ раз перажыць тое, што перажываў ён, хачу прасачыць яго думку, каб глыбей зразумець высокі лад яго душы.

А на першы погляд, проста і ясна ўсё. Добра засвоеная школа пазнейшых рускіх перасоўнікаў, добрасумленнасць пісьма, бездакорны густ — па эцюдах нават бачна, як любіў ён стрыманыя мяккія фарбы. І ніякіх «ізмаў», хоць за сваё жыццё ён нямала нагледзеўся і мог бы падстроіцца пад любы мадэрнісцкі напрамак.

Што зрабіла яго аднолькава у творчасці — цвёрдая школа рускага рэалізму ці ўласная філасофія?

Школы ад мастака не адбярэш. Калі не хапае практычных навыкаў — паяўляецца дылетантызм. Адным талентам не запоўніць вакуум невуцтва. І наадварот, добрая школа дазваляе таленту свабодна авалодаць прадметам мастацтва і вар'іраваць выражэннем сваіх пачуццяў у залежнасці ад манеры. Пікасо тым і вялікі, што, добра засвоіўшы класічную школу, можа імгненна пераключаць сваю ўвагу на новыя формы і падпарадкоўваць іх філасофскім задачам. Але так адбываецца не з усімі талентамі. Большасць застаецца вернымі сваёй школе.

Бялыніцкі-Біруля не адарваўся ад традыцыйнага рускага жывапісу. Ён хіба ішоў у некаторай меры за Левітанам і Каровіным — у той імкненні, у якой руская школа дазваляла захапляцца імпрэсіянізмам. Але самамэтай імпрэсіянізм не стаў, не збіў з ідэйнага напрамку, не зраўняў межы паміж паэзіяй і штукарствам, а стаў часткай яго паэзіі.

На працягу свайго доўгага жыцця ён пісаў краявіды Беларусі. Раннія творы больш сакавітыя — адчуваецца малады тэмперамент, а, можа, і звышзадача яшчэ не сфармулявалася дакладна. І таму «Веснавы дзень» (1902 г.) падобны на левітанаўскую «Залатую восень» і настроем, і гучнымі фарбамі. І ў карціне «Дом з клумбай» (1912 г.) адчуваецца таямнічы, салодкі водар маладых жаданняў і надзей. І «Возера Удомля» ў першым варыянце занадта яркае і сіняе.

Але вось другое «Возера Удомля» (1911). Менш блакіту ў ім, і быццам шэры вэлюм накінуты на палатно. Як расставанне з мілым краем, як сумная песня на развітанне і затоенае, глыбока схаванае чаканне.

Чаго ён чакаў? Чаго ён чакаў з гэтага часу і ўсё сваё жыццё? Чаму так цесна перапляліся смутак і лагодная ўсмешка на палотнах чарадзея з Бялыніч?

Дзіўная рэч! Чым сталейшы ён становіцца, тым менш надае ўвагі лінейнай кампазіцыі, і не шукае новыя фарбы, і не імкнецца да новых сюжэтаў. Прайграў уверцюру, вызначыў тэму і распрацоўвае яе падрабязна, дасканала.

Сваё сыноўнія пачуцці да радзімы мы выказваем па-рознаму.

Ён хацеў паказаць свету пяшчоту і ласку беларускай зямлі, яе няяркую прыгажосць і чаканне радасці. Лета не падыходзіла для такога сюжэта. Лета — здзяйсненне надзеі, яно занадта яркае і канкрэтнае. А ён жыў надзеяй адплаціць радзіме сваім мастацтвам і ўславіць яе за пяшчотную і задуменную прыгажосць.

І ён не растраціў дарма свой талент. Яму ўдалося выказацца да канца. Яго не збівалі з настрою ні вандраванні па іншых краях, ні цяжкія для Беларусі, а значыць і для яго, часіны. На Урале, на Паўночнай Дзвіне, на Волзе, у Падмаскоўі ён знаходзіў краявіды, сугучныя па настроі беларускім абсягам. Ён і там застанецца Бялыніцкім-Бірулем, мастаком, якога ні з кім не пераблытаеш. Бо ў яго быў свой свет, свая зямля.

**Пятро ДРАЧОЎ.**

# ПОШУКІ СЮЖЭТА

«Вясковая» проза 20-х гадоў, як руская, так і беларуская, храналагічна развівалася адначасова з прозай пра грамадзянскую вайну. І хоць у «вясковых» творах расказвалася пра мірнае жыццё людзей, пра мірную працу, у іх выразна адчуваўся подых адкрытых класавых сутычак першых гадоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Часта ў аснове сюжэта гэтых празаічных твораў, як і твораў пра грамадзянскую вайну, ляжыць дакументальны матэрыял (паказваюцца ваенныя падзеі, барацьба з белымі бандамі, інтэрвентамі і г. д.). Мастацкая проза, адлюстроўваючы жыццё вёскі першых гадоў рэвалюцыі, раскрывала новыя аспекты складаных сацыяльных і псіхалагічных працэсаў, паказвала развіццё індывідуальнага характару ў новай гістарычнай рэчаіснасці. На першы план высоўваюцца тыя бакі жыцця, якія звязаны з барацьбой народа за новыя сацыялістычныя адносіны, раскрываюцца змены, якія адбываліся як у грамадскім жыцці сяла, так і ў побыце, і ва ўнутраным свеце чалавека.

У цэнтры аповесці, рамана — не маса, а гераічная асоба, якая з'яўляецца прадстаўніком рэвалюцыйных сіл народа. Гэта асоба звычайна ўзбагачаная вопытам грамадзянскай вайны, узброена ідэйнай пераконанасцю. Яна вядзе людзей да новага жыцця, імкнецца садзейнічаць іх духоўнаму перараджэнню. Такія Андрон з «Андрона-непуцёвага» А. Няверава, Фядзякін з яго ж «Гусей-лебедзяў», Павел Суслаў і Сафрон з аповесцяў Л. Сейфулінай, Тамаш, Алесь, Вольга з рамана К. Чорнага «Зямля».

Жыццё давала літаратуры яшчэ слаба сфармаваны матэрыял, плыткі—у ім усё толькі пачынала складвацца, і нялёгка было пабудаваць сюжэт так, каб даць новаму герою прастор для дзеяння, надаць яму жыццёва характэрныя, непаўторныя рысы, раскрыць глыбіню яго ўнутранага свету.

Разумеючы неабходнасць пабудовы такога сюжэта, з дапамогай якога можна было б адлюстраваць усю шматграннасць жыцця вёскі рэвалюцыйнай эпохі і дзе герой раскрываўся б праўдзіва, пісьменнікі надавалі гэтай праблеме шмат увагі. Маладнякоўцы, асабліва ў творах, прысвечаных грамадзянскай вайне, імкнуліся да яркага дынамічнага і гераічнага сюжэта, які ўжо сам паказаў бы напружанне барацьбы рэвалюцыйных гадоў. Аднак даволі часта ў творчай практыцы маладнякоўцаў гэтая тэндэнцыя набывала характар самамэты, пераходзіла ў знешнюю займальнасць і рамантычнасць.

Творчая практыка пісьменнікаў — членаў «Узвышша» выяўляла іншую тэндэнцыю. Яны імкнуліся будаваць сюжэт так, каб паўней раскрыць унутраны свет героя. Аднак асэнсаванне прыроды сюжэта ў «маладнякоўцаў» і «ўзвышэнцаў» толькі ў агульных рысах адлюстроўвала значна больш складаную карціну развіцця сюжэта маладой савецкай літаратуры.

Яркія творы пра жыццё вёскі ў 20-я гады стварае К. Чорны. У іх раскрыты канфлікт старога і новага ў побыце і ў свядомасці людзей. Героі яго рамана «Зямля» Тамаш, Андрэй, Вольга, Алесь імкнуцца перарабіць старую вёску. У сяле ёсць ужо камсамольская арганізацыя. Камсамольцы праводзяць грамадскую работу сярод вяскоўцаў. Вольга кіруе жаночай канферэнцыяй. Тамаш, чалавек ужо немалады, разам з моладдзю працуе ў камітэце беднаты, перамервае зямлю, арганізоўвае грамадскую маслабойню, марыць і верыць у лепшае жыццё.

Ігнаруючы самы лёгкі і даступны ход—заінтрыгаваць чытача знешняй эфектнасцю, хітрай займальнасцю, К. Чорны выбірае найбольш цяжкі шлях: раскрыць чалавечы характар, паказаць яго жыццёвую сутнасць.

Асаблівую ўвагу пісьменнік удзяляе лёсу жанчыны. Новыя сацыялістычныя адносіны абудзілі ў жанчыне пратэст супроць патрыярхальных сямейных традыцый. Яна пачынае адчуваць сябе чалавекам, імкнецца да новага, пачынае вучыцца ў школе, становіцца пісьменнай («Жаночая праўда і мужчынская крыўда»). У апавяданні К. Чорнага «Не хачу так» гераіня кідае мужа—п'яніцу і самадура напе-





ракор намаганням маці, якая раіць ёй як-небудзь пацярпець, перагараваць, як цярпела і гаравала яна сама. Гэткія ж матывы гучаць і ў апавяданні «Спатканне».

Такі ж просты, нявыдуманы сюжэт і ў апавяданні Змітрака Бядулі «Дэлегатка». Жыве на вёсцы простая жанчына Аўгіння, і ў яе жыцці няма ніякіх духоўных інтарэсаў. Найбольшае свята для яе—калі яна пячэ бліны. «Па блінах Аўгіння як бы чытае аднастайнае жыццё сваё, чытае моўчкі, нікому нічога не кажучы». І калі на твары Аўгінні з'яўлялася ўсмешка, то яна была «дзіўная, падобная на плач».

Адбылася рэвалюцыя, у вёсцы паявіліся камсамольцы, збіраюцца сялянскія сходы, а Аўгіння па-ранейшаму занята сваёй аднастайнай працай, як і раней, б'е яе п'яны муж. Пра тыя змены, што адбываюцца ў вёсцы, чуе яна ад людзей, верачы ім і не верачы. Але ў крытычны момант яна пачынае шукаць абарону ў камсамольцаў. Пад іх уплывам звыклае «так трэба» змяняецца ў яе на ўпэўненае «так не трэба». Аўгіння становіцца актыўным змагаром за новае жыццё.

Характэрнай асаблівасцю канфлікта ў «сялянскай» прозе 20-х гадоў з'яўляецца тое, што, заваёўваючы масу, героі-важакі павінны разам з тым змагацца з яе адсталасцю, невуцтвам, цемрай, змагацца за праўду рэвалюцыі, якую не ўсе і не зусім разумелі. Канфлікт з масай тут хоць і не антаганістычны, аднак вельмі востры. Да таго ж гэта ў нейкай меры і канфлікт героя з самім сабой, з тым, што звязвае яго са старым і цёмным у яго родным асяроддзі.

Вострыя канфлікты паміж новым і старым у жыцці вёскі першых рэвалюцыйных гадоў ярка паказалі ў сваіх творах К. Чорны, Зм. Бядуля, П. Галавач, М. Лынькоў, М. Зарэцкі. Канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі востра паўстае ў шэрагу празаічных твораў 20-х гадоў. Гэта усё той жа канфлікт паміж старым і новым. У гэтым сэнсе характэрнае апавяданне М. Зарэцкага «Двое Жвіроўскіх». У цэнтры яго — лёс бацькі і сына Жвіроўскіх. Рэвалюцыя пазбавіла Жвіроўскага-бацьку прывілеяванага становішча чыноўніка, застаўся ў яго толькі стары дом і вечная «з'едлівая злосць». Ёсць у яго і «любімая праца»: з фанернай скрынкі, дзе ляжыць яго адзенне, Жвіроўскі любіць выцягваць «тужурку» з бліскучымі гузікамі. Ён «глядзіць на яе гадзінамі, шукае раней не заўважаныя дзіркі, старанна зашывае, загладжвае. А то яшчэ возьме анучу і чысціць бліскучыя гузікі. Ад іх чыстага бляску ў Жвіроўскага плавае мокрая ўсмешка на вуснах і і масляцца вочы. Жвіроўскі ўспамінае. У тумане старых вачэй рассцілаюцца прыгожыя ўзоры мінулага. Гладзіць Жвіроўскі «тужурку», ласкава гладзіць, нібы перад ім жывое стварэнне—роднае і блізкае». Нянавісць да новага, якое прыйшло з рэвалюцыяй, глушыць у ім нават самае светлае пачуццё да сына, які не жадае жыць мінулым, цягнецца да светлага дзіцячага шчасця, да піянераў, да кніг. Аднак кожны вечар бацька Жвіроўскі гаворыць яму, што ў «кніжцы пішацца так, а на самой справе вось так, што напісалі кніжку бальшавікі, што не трэба ім верыць, але гаварыць трэба, што верыш». Пры гэтых словах у бацькі звычайна «...твар затрасецца ад злосці на гэтых бальшавікоў, і замільгаюць рэдзенькімі, вострымі агеньчыкамі цёмныя вочы».

Бацька з сынам сталі ворагамі. Бацька пачаў яшчэ болей злавацца, калі сын уступіў у піянеры. І калі ён мучыў сына, калі бачыў, як маўкліва і хваравіта набягаюць слёзы на сынавы вочы, «рабілася лягчэй сэрцу, было на душы дзікае нечалавечае здаволенне».

Апавяданне заканчваецца жыццесцвярджальна. Савецкая рэчаіснасць, школа, піянеры, імкненне да свабоды перамагаюць, усё гэта мацней за дзікую бесчалавечную мараль Жвіроўскага-бацькі.

Калі ў прозе аб грамадзянскай вайне паказвалася, галоўным чынам, як у працэсе рэвалюцыі мяняецца свядомасць народных мас, то ў творах пра вёску мы сустракаемся з імкненнем паказаць рэвалюцыю праз сэрца асобнага чалавека. У гэтых адносінах вясковая проза блізкая да ранняй савецкай драматургіі. І, відаць, невыпадкова менавіта раманы і аповесці пра вёску з асаблівым поспехам інсцэніраваліся ў 20-х гадах («Вірынея» Л. Сейфулінай, «Барсукі» Л. Лявонава). Пільная ўвага да жывой чалавечай індывідуальнасці вызначала аналітычнасць стылю, паглыблены псіхалагізм раманаў і аповесцяў пра вёску ў параўнанні з творамі аб грамадзянскай вайне.

У беларускай мастацкай прозы ёсць свая спецыфіка: яна вырастала на глебе пераважаючай у беларускім літаратурным працэсе лірычнай паэзіі, якая раскрывае інтымныя перажыванні чалавека. Таму ў творах беларускіх празаікаў 20-х гадоў часцей, чым у рускай мастацкай прозе таго часу, герой раскрываўся ў лірычным плане. Любоў, калізіі асабістага жыцця як бы спадарожнічалі раскрыццю, фарміраванню грамадскіх ідэалаў і ўяўленняў героя. Відавочна, гэтая лірычная атмасфера, яе неаддзельнасць ад усёй складанасці духоўных шуканняў героя выражае асаблівасці беларускага нацыянальнага характару.

У першай частцы трылогіі Я. Коласа «У палескай глушы», напісанай у 20-я

гады, глыбока раскрываецца эвалюцыя характару сына беларускай вёскі—Лабановіча. У вострых супярэчлівых пачуццях выпрацоўваецца характар і светаадчуванне маладога сельскага настаўніка, які становіцца на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. І характэрна, што лірычная, любоўная тэма арганічна зліваецца в тэмай пошукаў жыццёвых ідэалаў, сацыяльных перакананняў. Лабановіч марыць пра такую справу, якая напоўніла б усю яго істоту і надала новы сэнс яго жыццю, і радуецца ад «прадчування новых дарог, новых прастораў».

Паказ жыцця на яго вялікім пераломе выклікаў неабходнасць больш цеснай сувязі характару з абставінамі, якая ажыццяўляецца ў развітым сюжэце. Асаблівасцю ўсіх аповесцяў ранняй беларускай прозы з'яўляецца вылучэнне на пярэдні план тых абставін, якія адмоўна ўздзейнічаюць на характары герояў.

У цэлым творы на сялянскую тэму 20-х гадоў характарызуюцца глыбінёй рэалізму і псіхалагізму ў раскрыцці вобраза станоўчага героя, узаемасувязі героя і масы. Гэта тлумачылася ў значнай ступені яшчэ і тым, што аўтары раманаў і аповесцяў пра вёску маглі абаперціся на трывалую мастацкую традыцыю ў рускай класічнай літаратуры XIX стагоддзя.

**Дзіна ВОРАН.**

# *РАДКІ БАЦЬКАВЫХ ПІСЬМАЎ*

У Беларусі імя Льва Мікалаевіча Талстога—адно з самых вядомых і самых шануемых. Пра папулярнасць гэтага геніяльнага пісьменніка сярод беларускіх чытачоў гаварыць не даводзіцца. Але ці мае якое-небудзь канкрэтнае дачыненне беларускі край да творчай біяграфіі самога пісьменніка? Калі гаворым: Талстой і Каўказ, Талстой і Крым—тут усё зразумела. На Каўказе і ў Севастопалі праходзіла ваенная служба маладога Талстога, і ўсё перажытае і ўбачанае ім у тыя гады знаходзіла тое ці іншае адлюстраванне ў яго творах. А Беларусь? Ці можна гаварыць тут аб якойсьці яе ролі ў гэтым кірунку? Вядома, што пісьменнік бываў у Беларусі. У 1857 годзе ён праязджаў праз Оршу, Мінск, Нясвіж, Баранавічы, Кобрын, накіроўваючыся ў падарожжа па Заходняй Еўропе. Праўда, ніякіх слядоў аб яго знаходжанні ў гэтых гарадах ні ў пісьмах, ні ў дзённіках не засталося. І ўсё ж хочацца, і, бадай што, можна сцвярджаць, што пэўны ўплыў на творчую думку Талстога, на фарміраванне і развіццё яго светапогляду аказала і Беларусь.

Прыгадаем, што адной з галоўных тэм талстоўскіх твораў, і мастацкіх і публіцыстычных, была тэма вайны. Вайна заўсёды цікавіла Талстога як мастака, як гісторыка, філосафа, сацыёлага, публіцыста. Тэрыторыя ж Беларусі, якая на працягу стагоддзяў была арэнай шматлікіх войнаў, з'явілася арэнай і тых войнаў XVI—XVII стагоддзяў, пятроўскага часу, пра якія Талстой пачынаў пісаць свае, так і незакончаныя, гістарычныя раманы. «Краіна паміж Нёманам, Беразіною і Дзвіною», паводле слоў гісторыка Д. Бутурліна, была і тэатрам Айчыннай вайны 1812 года, паказу якой пісьменнік прысвяціў эпапею «Вайна і мір»—лепшы помнік абаронцам роднай зямлі ад чужаземных захопнікаў.

Важнейшыя факты і падзеі, што адбываліся ў той час на беларускай зямлі—адступленне рускіх армій ад Заходняй граніцы (а яно праходзіла амаль што па ўсіх дарогах Беларусі). У працах гісторыкаў, мемуарыстаў, якія добра ведаў Талстой (Міхайлоўскага-Данілеўскага, Ахшарумава, Бутурліна, Багдановіча, Т'ера, Клаўзевіца, Сегюра і інш.), упамінаюцца літаральна сотні беларускіх населеных пунктаў, вёсак, гарадоў, мястэчкаў. Бітва пад Салтанаўкай; Дрысенскі ўмацаваны лагер; сутычка рускіх войск з французамі пад Астроўна; партызанская вайна, а яна пачалася з першых дзён нашэсця, і Беларусь зрабілася суцэльным партызанскім краем; пабоішча на Беразіне,—усё гэта знайшло сваё адлюстраванне на старонках рамана.

Між тым ваенныя падзеі, што адбываліся па ўсёй краіне і ў Беларусі, закранулі і асабістую біяграфію пісьменніка. Калі ваенная служба самога Талстога праходзіла на Каўказе і ў Крыме, то ў Беларусі прайшла значная частка ваеннай службы яго бацькі—Мікалая Ільіча Талстога, удзельніка вайны 1812 года.

У адным з раздзелаў аўтабіяграфічных «Успамінаў», над якімі пісьменнік працаваў у 1902—1906 гадах, у тым месцы, дзе ідзе гаворка пра людзей, якія з дзіцячых гадоў акружалі Л. Талстога і якія мелі на яго выхаванне найбольшы ўплыў, аўтар падкрэслівае, што першае месца сярод гэтых асоб займаў яго бацька. Далей ён піша аб ваеннай службе, на якую яго бацька ўступіў добраахвотна летам 1812 года, а таксама аб пісьмах бацькі да сваіх родных з дзеючай арміі. Некаторыя з гэтых пісьмаў адпраўлены з Беларусі. Так, у пісьме з Гродна ў снежні 1812 года Мікалай Ільіч пісаў пра свае ваенныя ўражанні: «...я бачыў усё тое, што вайна мае жудаснае; я бачыў мясціны вёрст на дзесяць засеяныя целамі; вы не можаце ўявіць, якое іх мноства па дарозе ад Смаленска да мястэчка Краснае...» Далей ён пісаў пра тое, што забітыя французы могуць адчуваць сябе больш шчаслівымі, чым тыя беглыя і палонныя, што застаюцца на спустошанай вайной тэрыторыі. У наступным лісце ён пісаў, што вайна, гэтае вынішчэнне чалавечага роду, дзейнічае адмоўна на яго ваенны настрой, які вельмі аслабеў пасля ўсяго ўбачанага і перажытага.

Бацькавы словы пра вайну як вынішчэнне чалавечага роду назаўсёды прыкавалі ўвагу пісьменніка. Пасля таго як ён на свае вочы ўбачыў гэтую «справу» ў яе сапраўднай абалонцы—«крыві, пакутах, смерці» ў гарах Каўказа і на бастыёнах Севастопаля, ісціна «кроў—зло адно» для яго засталася неаспрэчнай да канца дзён.

Аўтар «Вайны і міру», як вядома, сваім самым высокім судом—маральным—апраўдаў узброеную барацьбу народаў Расіі супраць іншаземных захопнікаў. У той жа час ва ўсім рамане, у якім апісаны звыш дваццаці бітваў, няма ніводнай сцэны, ніводнага эпізоду, дзе б праслаўлялася крывавая праца тых, хто «коле, рубіць, рэжа». Нават перад Барадзінскім боем, якім па праву маглі ганарыцца рускія як вялікай не толькі ваеннай, але і маральнай перамогай, ён не забывае пра тое, якой цаной яна здабываецца. Маналог Андрэя Балконскага аб злачынствах і вар'яцтве вайны, пачаты ім у Дрысенскім лагеры, заканчваецца дыялогам на Барадзінскім полі: «Сыдуцца, як заўтра, на забойства адзін другога, пераб'юць, пакалечаць дзесяткі тысяч людзей,—з горыччу і сарказмам гаварыць ён П'еру Бязухаву,—а потым будуць служыць удзячныя малебны за тое, што пабілі многа людзей (якіх лік яшчэ прыбаўляюць), і абвяшчаюць перамогу, мяркуючы, што чым больш пабіта людзей, тым большая заслуга. Як толькі бог глядзіць і слухае іх!»

Талстой быў сучаснікам многіх войнаў, у большай частцы сваёй несправядлівых, захопніцкіх. Не раз ён падымаў супраць іх свой голас, які быў чуваць ва ўсім свеце. І кожны раз, пратэстуючы супраць ваенных захопаў, супраць каланіяльнага, імперыялістычнага разбою, ён ніколі не забываўся пра злачыннасць «вынішчэння чалавечага роду». Пра тое, пра што гаварылася ў радках бацькавых пісьмаў, адзначаных глыбокай праўдзівасцю, гуманнай накіраванасцю і чыста талстоўскай шчырасцю. Пісьмаў, напісаных у Беларусі, праз якую пракацілася столькі войнаў.

**Сяргей ЧУБАКОЎ.**

| *Ліпень* | НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ |
|---|---|

## «Рускае поле»



Неабсяжнае поле збажыны. Цяжкія спелыя каласы. Як эскадра караблёў, выплываюць камбайны, разварачваюцца і ўразаюцца ў залацістыя хвалі пшаніцы...

Так пачынаецца адзін з цэнтральных эпізодаў новай каляровай шыракафарматнай мастацкай кінастужкі «Масфільма», створанай па матывах рамана Міхаіла Аляксеева «Вярба неплакучая». Паставіў карціну рэжысёр Мікалай Маскаленка, вядомы гледачу па фільмах «Жураваччка» і «Маладыя».

У галоўнай ролі — Фені Угрумавай, рускай жанчыны-сялянкі сённяшняга дня, чалавека эмацыянальнага і чыстага душой, з вельмі няпростым жыццёвым шляхам — здымалася народная артыстка РСФСР Нона Мардзюкова.

У фільме заняты таксама народная артыстка РСФСР Іна Макарава, артыст Маскоўскага акадэмічнага тэатра імя Масавета, заслужаны артыст РСФСР Леанід Макараў і іншыя. Цікава адзначыць, што ролю сына Угрумавай — Піліпа, які загінуў у схватцы з ворагам на граніцы, іграе сын Ноны Мардзюковай Уладзімір Ціханаў.

На поўную сілу ў сваёй непаўторнай прыгажосці паўстае ў фільме багатая прырода Расіі.

## «Нюрчына жыццё»



Новая каляровая шырокаэкранная мастацкая кінакарціна пастаўлена на «Масфільме» рэжысёрам Анатолем Баброўскім. За плячыма ў яго ўжо такія фільмы: «Выстрал у тумане», «Зыход», «Чалавек без пашпарта», «Вяртанне «Святога Лукі».

У аснову сцэнарыя фільма пакладзена аповесць Мікалая Еўдакімава «Аповесць пра Нюрку, гарадскую жыхарку» — твор пра горад, пра рабочы клас.

У цэнтры кінарасказу — складанае перапляценне лёсаў двух людзей — Міхаіла Анохіна і Нюры, іх вялікае каханне. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце іх аб'ядноўваюць аднолькава чыстыя, чэсныя адносіны да людзей, да працы, якую яны робяць, адсутнасць кампрамісу там, дзе выпаўзае раўнадушша і зло.

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць народны артыст СССР Алег Яфрэмаў, маладыя акцёры Тамара Дзегцярова і Яўген Карэльскіх. У фільме заняты таксама папулярныя кінаартысты Усевалад Санаеў і Ніна Сазонава.



## «Ягор Булычоў і іншыя»



Гэта экранізацыя аднайменнай п'есы Максіма Горкага і зноў жа работа «Масфільма». Паставіў карціну малады рэжысёр Сяргей Салаўёў. Дыпломам была яго кінастужка «Прапанова» па Чэхаву, пасля ён зрабіў яшчэ адзін чэхаўскі фільм — «Ад нечага рабіць», які, як і першы, увайшоў у альманах «Сямейнае шчасце», добра сустрэты гледачом. А гэта — першы поўнаметражны фільм.

У ролі Ягора Булычова здымаўся народны артыст РСФСР Міхаіл Ульянаў.

Апрача М. Ульянава, у фільме заняты акцёры розных школ і напрамкаў, рознага ўзросту, вядомыя і дэбютанты. Гэта Вячаслаў Ціханаў, Іван Лапікаў, Мая Булгакава, Яфім Капялян, Зінаіда Славіна, Анатоль Рамашын, Валянціна Шарыкіна, Георгі Буркоў, маладыя актрысы—Кацярына Васільева і Алена Салавей. Здымаў фільм аператар Леанід Калашнікаў, вядомы па рабоце над карцінамі «Ганна Карэніна» і «Чырвоная палатка».

## «Драма са старадаўняга жыцця»



Гэта экранізацыя аповесці Мікалая Ляскова «Тупейны мастак».

— Кінематограф, асабліва ў апошнія гады, часта звяртаецца да класікі,— гаворыць рэжысёр-пастаноўшчык Ілья Авербах.— Талстой, Дастаеўскі, Тургенеў, Чэхаў... Шмат удалых, а часцей няўдалых экранізацый, і ўсё больш пераконваешся ў тым, што кожны пісьменнік патрабуе свайго спосабу экранізацыі. Можна больш ці менш дакладна рэалізаваць аўтарскі стыль, але страціць ідэю. Можна правільна данесці ідэю, але не адчуць мовы, стылю, аўтарскай інтанацыі, непаўторнасцю якіх заўсёды адрознівалася вялікая літаратура. Пра ўсё гэта даводзілася думаць, працуючы над экранізацыяй твора цудоўнага майстра рускай прозы, які на дзіва тонка і дакладна адчуваў слова. Чаму «Тупейны мастак»? Напэўна, таму, што гэта адна з любімых казак майго дзяцінства.

У галоўных ролях фільма здымаліся А. Салавей, А. Ягораў, Е. Пятроў, С. Паўлава, А. Хлопатаў, А. Афанасьеў. Карціна створана на кінастудыі «Ленфільм».

## «Сяєтра музыканта»

Дзеянне гэтай каляровай шырокафарматнай мастацкай кінастужкі вытворчасці кінастудыі «Масфільм» адбываецца ў Маскве, дзе жывуць героі аповесці Анатоля Алексіна «Мой брат іграе на кларнеце». Фільм задуманы як самастойны кінематаграфічны расказ у жанры музычнага прадстаўлення. Сур'ёзная размова аб маральных праблемах, роздум аб творчых і спажывецкіх адносінах да жыцця з'яўляюцца асновай драматургіі фільма, у якую арганічна ўваходзіць музыка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі кампазітара Мурада Кажлаева. Паставілі карціну галоўны рэжысёр Маскоўскага тэатра юнага гледача Павел Хомскі і яго брат, выпускнік Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі Ігар Хомскі. Галоўныя ролі выконваюць трынаццацігадовая Іра Папова, студэнт Аляксандр Удовін і 19-гадовая Святлана Смяхнова, якая адразу ж пасля заканчэння сярэдняй школы была запрошана на «Масфільм» здымацца ў вялікай ролі ў карціне «Камітэт 19-ці».

## «Старыя-разбойнікі»



Гэта сатырычная кінакамедыя. Паставіў яе на кінастудыі Масфільм Эльдар Разанаў. У юнацтве Эльдар Разанаў хацеў стаць маракам, але паступіў ва Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Вучыўся ў вялікага майстра кіно Рыгора Козінцава і марыў, як і настаўнік, здымаць толькі сур'ёзныя, драматычныя фільмы.

Сустрэча з рэжысёрам Іванам Пыр'евым, вядомым пастаноўшчыкам музычных камедый (у той час дырэктарам «Масфільма»), усе яго планы перавярнула дагары нагамі. Так Эльдар Разанаў зняў сваю першую, але не апошнюю кінакамедыю. Музычны фільм «Карнавальная ноч» меў шумны поспех. Затым былі зняты «Дзяўчына без адрасу», «Гусарская балада», «Дайце кнігу скаргаў», «Сцеражыся аўтамабіля», «Зігзаг удачы» і, нарэшце, «Старыя-разбойнікі». Апошняя карціна (сцэнарый Э. Брагінскага і Э. Разанава) знаёміць нас з двума бадзёрымі сімпатычнымі сябрамі пенсійнага ўзросту. За каскадам забаўных сітуацый, за ўласцівай сатырычнаму кінарасказу гіпербалай стаяць зусім рэальныя, няпростыя чалавечыя лёсы. Эксцэнтрыка характараў суседнічае з глыбокім псіхалагічным аналізам учынкаў. Словам, усё пераплецена так, як гэта і бывае ў жыцці...

Галоўныя ролі выконваюць Яўген Еўсцігнееў, Юры Нікулін, Вольга Аросева, Андрэй Міронаў.

На экранах рэспублікі будуць таксама дэманстравацца новыя мастацкія кінастужкі «Дон Жуан у Таліне» (кінастудыя «Талінфільм»), «Трысняговы лес» (Рыжская кінастудыя), «Драма кахання» (кінастудыя «Узбекфільм»), «Апошні перавал» (кінастудыя «Азербайджанфільм»), «Зазуля з дыпломам» (Кіеўская кінастудыя імя А. Даўжэнкі).

З зарубежных кінафільмаў гледачы змогуць паглядзець «Вожыкі нараджаюцца без калючак» (Балгарыя), «Чараўнік за рулём» (Польшча), «Першы крок» (Манголія), «Локіс» (Польшча), «Маці Абаса» (Туніс), «Сям'я» (Японія), «Набярэжная туманаў» (Францыя), «Вызваленне Л. Б. Джонса» (ЗША).





# НОВАЯ ВЫШЫНЯ

1 сакавіка 1972 года ўступіў у дзеянне новы Усесаюзны фізкультурны комплекс «Гатоў да працы і абароны СССР». Карэспандэнт «Маладосці» сустрэўся са старшынёй Камітэта па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР Героем Савецкага Саюза В. І. Ліўенцавым і папрасіў яго падзяліцца сваімі думкамі аб ролі новага комплексу ГПА і тых зменах, што адбываюцца ва ўсім сучасным фізкультурным руху.

**— Віктар Ільіч, якія ўспаміны звязаны ў вас з ранейшым комплексам ГПА?**

— Давайце ў думках перанясёмся ў гады першых пяцігодак. Уся краіна — велізарная будоўля. Растуць гіганты сацыялістычнай індустрыі. Сельская гаспадарка пераходзіць на рэйкі калектывізацыі. Здавалася б, тады нам было не да фізкультуры. Спартыўных збудаванняў мала, кадраў няма. Нешматлікія фізкультурныя калектывы — маленькія і трымаюцца на ініцыятыве энтузіястаў. І ў гэты складаны і нялёгкі час па прапанове Ленінскага камсамола ўводзіцца першы комплекс «Гатоў да працы і абароны».

ГПА стаў сцягам, які падхапілі і старэйшае пакаленне, і моладзь. Гэта быў своеасаблівы рэвалюцыйны парыў. Усюды будаваліся спартыўныя пляцоўкі, палосы перашкод, узводзіліся спартыўныя вышкі. За кароткі час фізкультура стала масавай, клопатам усёй моладзі. Тысячы фізкультурнікаў выходзілі на старты кросаў; праводзіліся лыжныя паходы, масавыя заплывы. Я быў тады школьнікам і цяпер прыгадваю, як у нас у школе стварыўся свайго роду шырокі фронт здачы норм ГПА. Кожны імкнуўся здаць нарматывы фізкультурнага комплексу. Самыя моцныя і спрытныя дапамагалі няўмелым.

Імёны першых значкістаў ГПА ведала ўся моладзь. Значок насілі з гонарам. Сілуэт бегуна на фоне зоркі, упісаны ў шасцяронку,ззяў на гімнасцёрках і тужурках першых Герояў Савецкага Саюза. Значкістамі былі самыя славутыя людзі краіны таго часу — Аляксей Стаханаў, Паша Ангеліна, Пётр Крыванос. Значкістамі былі і тыя, хто праз дзесяць гадоў стаў на абарону Савецкай Радзімы. Прыгадаем хаця б адну з нямногіх уцалелых фатаграфій легендарнага абаронцы Брэсцкай крэпасці — начальніка пагранзаставы Андрэя Кіжаватава. На грудзях у яго — значок ГПА.

Недарэмна Наркамваенмор тых гадоў К. Я. Варашылаў называў значок ГПА «фізкультурным ордэнам».

І яшчэ важна нагадаць: камсамол быў не толькі ініцыятар, але і галоўны арганізатар здачы норм комплексу, падрыхтоўкі моладзі да працы і абароны.

Комплекс ГПА адыграў велізарную ролю для развіцця спорту ў краіне. Іменна з масавых стартаў пачыналі свой шлях многія з тых, хто адкрыў і паказаў вышыні нашым цяперашнім алімпійцам. Вось толькі адзін прыклад: выдатныя бегуны даваенных гадоў браты Знаменскія першыя крокі ў спорце зрабілі на дыстанцыі масавага кросу, здаючы нормы ГПА.

**— Скажыце, калі ласка, Віктар Ільіч, якія задачы калектываў фізкультуры і спартыўных арганізацый рэспублікі з уступленнем у сілу новага комплексу ГПА? Якія формы, на Ваш погляд, тут найбольш важныя і жыццёвыя?**

— Ні ў якім разе нельга аддзяляць спартыўныя мерапрыемствы ад здачы норм комплексу ГПА. Гэтай мэце павінны служыць усе — падкрэсліваю, усе — спаборніцтвы ў калектывах фізкультуры, раёнах, па лініі ведамаснай — у галіновых камітэтах прафсаюзаў. Момант спаборніцтва тут абавязковы.

Раней нярэдка было так: у цэху, скажам, вывешвалася аб'ява: тады і там адбудзецца здача норм ГПА. На гэтым уся арганізацыйная работа і канчалася. На старт,

бывае, з'явіцца некалькі чалавек. А калі цэху трэба выставіць каманду па нейкім відзе спорту на першынство завода, тут і трэніроўкі, і гутаркі з кожным спартсменам, і ўсё такое іншае. Адным словам, падыход зусім розны.

Абодва гэтыя напрамкі трэба аб'ядналь, каб кожнае спаборніцтва стала аднячасова і стартам для здачы норм ГПА. Гэта дапаможа і зацікавіць удзельнікаў. Бо да гэтага часу многія спаборніцтвы мелі цікавасць толькі для тых, хто меў шанц на перамогу, для прызёраў. А калі ты заняў пятнаццатае ці дваццатае месца, якая табе карысць ад гэтага? Цяпер жа можна не заняць высокага месца, але выканаць іншую важную задачу — здаць нормы комплексу. Зацікаўленасць, як бачна, з'ўляецца не толькі ў пераможцаў.

Пры гэтым вельмі істотна, каб сам факт здачы нарматыву фіксаваўся хутка і апаратыўна. У даваенны час, памятаецца, у кожнага, хто здаваў нормы, была асабістая картка. Выступіў на спаборніцтвах, паказаў добры вынік — ён тут жа заносіцца ў картку. Напэўна, нешта падобнае мэтазгодна зрабіць і цяпер.

Вельмі важныя задачы ўскладаюцца на кіраўнікоў спартыўных збудаванняў. Нашы стадыёны, басейны, комплексы павінны заўсёды быць гатовыя прыняць жадаючых здаць нормы ГПА. Ёсць прыклады таго, як на некаторых збудаваннях адразу ж разгарнулася работа. Так, на Мінскім водна-спартыўным камбінаце імя 50-годдзя ЛКСМБ, на буйнейшым у рэспубліцы стадыёне «Дынама» стварылі камісіі па прыёму норм ГПА, вызначылі час для масавых стартаў і ўжо занеслі ў пратаколы першыя вынікі.

Але ёсць з'явы і іншыя. Вясною мне давялося пабываць на некаторых басейнах таварыства «Чырвоны сцяг». На пытанне аб арганізацыі прыёму норм ГПА адказвалі здзіўлена. Маўляў, іх клопат — падрыхтоўка майстроў спорту па плаванні, а здачу норм новага комплексу павінен арганізоўваць нехта іншы. Глыбока памылковая, заганная пазіцыя!

Работа па ГПА — не часовая кампанія, а асноўная наша задача на многія гады. Пастаяннай павінна быць прапаганда новага комплексу. Важная роля тут належыць друку, радыё, тэлебачанню, якія, на жаль, пакуль вельмі ахвотна асвятляюць розныя спартыўныя спаборніцтвы, але менш увагі аддаюць пастаноўцы масавай фізкультурнай работы.

Хочацца яшчэ спыніцца на ініцыятыве мінскіх дынамаўцаў. У перапынку паміж таймамі першага ў сезоне футбольнага матча чэмпіяната краіны, дзе, як звычайна, сабралася шматтысячная аўдыторыя, яны арганізавалі паказальныя выступленні. Студэнты інстытута фізкультуры перад перапоўненымі трыбунамі здавалі лёгкаатлетычныя нарматывы новага комплексу. А затым на дарожках стадыёна фінішавалі выкладчыкі мінскіх ВНУ — удзельнікі 10-кіламетровага турысцкага пераходу. Сярод іх былі значкісты ГПА 30-х гадоў, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, ардэнаносцы. Яны здавалі нарматыў чацвёртай ступені «Бадзёрасць і здароўе» — для людзей, якім за сорак. Гэта была найлепшая агітацыя за новы комплекс, важкі доказ таго, што ён — для людзей усіх узростаў. І ўсё ж комплекс ГПА разлічаны перш за ўсё на моладзь. І мне думаецца, што поспех нашае работы ў многім будзе залежаць ад таго, як мы арганізуем работу ў навучальных установах — у школах, ВНУ, тэхнікумах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Там ёсць базы, вопытныя кадры, згуртаваныя калектывы, ёсць усе ўмовы для паспяховай здачы норм.

**— А як Вы ацэньваеце ролю асабістага прыкладу камсамольскіх і спартыўных кіраўнікоў у здачы норм новага комплексу?**

— Як першаступенную. З аднаго боку, гэта засведчыць нашы сур'ёзныя адносіны да новага комплексу, а з другога — з'явіцца як бы фізкультурным экзаменам для нашых кадраў, дапаможа праверыць, наколькі іх слова адпавядае справе. У рэспубліканскім спарткамітэце мы прыступілі да здачы норм адразу ж пасля ўвядзення комплексу. Скажу шчыра, сяму-таму давялося нялёгка, сёй-той нават паспрабаваў выкруціцца. Давялося, вядома, рыхтавацца, трэніравацца.

Вось цікавы прыклад. Разам з намі здаваў нормы старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па прафесійна-тэхнічнай адукацыі Л. Г. Максімаў і справіўся з імі паспяхова. Пра гэта стала вядома многім дырэктарам вучылішчаў, і ім нічога не заставалася, як самім выйсці на старты комплексу ГПА.

**— А Вам, чалавеку, якому пераваліла за пяцьдзесят, ці не цяжка было здаваць нормы ГПА?**

— Шчыра кажучы, цяжкасцяў ніякіх я не адчуваў. Магу растлумачыць гэта толькі тым, што рэгулярна раблю зарадку, зімою хаджу на лыжах, плаваю ў басейне. Для кожнага чалавека, які заўсёды сочыць за сваім фізічным станам, нормы ГПА пасільныя. А вось калі ты прывык да крэсла ці канапы — тут, канечне, трэба папрацаваць. Але ў гэтым і галоўная мэта комплексу — заахвоціць кожнага да фізічнай культуры, даць добры зарад бадзёрасці і здароўя.

**Гутарку правёў**
**Міхаіл СУПАНЕЎ.**





# «ЛАСКА» ЛАСКЕРА

На пачатку XX стагоддзя была вельмі распаўсюджана гульня ў «ласку». Прыдумаў яе чэмпіён свету па шахматах Эмануіл Ласкер. У 1920 годзе ў Гаазе нават адбыўся турнір па гэтай гульні.

Гульня ў «ласку» вядзецца на квадратнай дошцы, якая мае 25 светлых і 24 цёмныя клеткі. Дошка размяшчаецца паміж ігракамі так, каб вуглавыя белыя палі знаходзіліся злева.

Гульня ідзе толькі на белых палях. У кожнага іграка па адзінаццаць шашак. Белыя шашкі займаюць на дошцы ніжнія тры рады, а чорныя — верхнія тры гарызанталі. Гульню пачынаюць белыя. Мэта гульні — знішчыць шашкі праціўніка або пазбавіць іх ходу (заперці).






Правілы гульні зводзяцца да наступнага. Простыя шашкі ходзяць і б'юць толькі ўперад. Дамка ходзіць і б'е ўперад і назад на адзін ход. Біць, як дамка, шашка можа толькі з наступнага ходу пасля пападання на супрацьлеглы бок дошкі.

Шашкі ходзяць па дыяганалях, па касых лініях, на свабодныя клеткі. Пры боі шашка «пераскоквае» праз шашку праціўніка і становіцца на свабоднае за ёй поле.

Збітая шашка здымаецца і становіцца пад шашку, якая ўзяла яе. Такім чынам, на дошцы ўзнікаюць калоны. Узяцце шашкі абавязковае. Калі пад ударам некалькі шашак праціўніка, то можна біць любую з іх.

Калона ходзіць гэтак, як і простая шашка. Калі б'ецца калона, то з яе здымаецца адна верхняя шашка, якая кладзецца знізу той шашкі або калоны, якая ўзяла яе. Колер кожнай калоны вызначаецца колерам верхняй шашкі. Пры дасягненні калонай крайняй гарызанталі дамкай становіцца толькі яе верхняя шашка. У ходзе барацьбы калона можа дзейнічаць і як простая, і як дамка — то на баку белых, то на баку чорных — у залежнасці ад таго, якая ў яе верхняя шашка.

Абазначэнне ігравых палёў паказана на дыяграме. Запісваюць партыю так. Спачатку ўказваецца нумар поля, адкуль простая, дамка або калона пачынаюць ход, а затым нумар поля, дзе заканчваецца ход. Паміж нумарамі ставяцца знакі: пры ціхім ходзе — працяжнік, пры боі — двухкроп'е.

Пазнаёмцеся з кароткай, але эфектнай партыяй Э. Ласкера, якая дайшла да нас: 1.9-12 15:9 2.5:13 18-14 3.10:18 16:10 4.6:14 13:5 5.1:9 17-13 6.10:16 20:6 7.2:10 9:1 (чорныя адкрылі дамку). 8.14-17 21:13 9.18-21 24:18 10.10-14 18:2 11.7-10 13:7 12.4:24 2:4 13.24-21 4:10 (атрымалася высокая калона, якая складаецца з чорнай дамкі і шасці белых простых (гл. мал.). Дарэчы, вядомы нямецкі матэматык Ландау даказаў, што ў калоне не могуць перамешвацца шашкі з розных лагераў: або ўся калона складаецца з шашак аднаго колеру, або верхняя частка — з шашак аднаго колеру, а ніжняя — з шашак другога колеру (21:7 з выйгрышам).

Цікавая і складаная гульня.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту СССР.**

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...жалеза ў крыві чалавека вучоныя знайшлі з дапамогай магніта. Для гэтага заснавальнік рускай анатамічнай школы П. А. Загорскі (1764—1846) правёў наступны дослед. Адмыўшы вадой «пячонку крыві» (крываны згустак) і выпарыўшы афарбаваную ваду, ён перапаліў асадак на дне пасудзіны. Атрыманы вугальны парашок прыставаў да магніта;



●

...каштоўнейшы метал—плаціну, які патрэбны сучаснай тэхніцы і прамысловасці, як соль для прыгатавання ежы, ведалі даўно. Але да самага XVIII стагоддзя, калі здабывалі золата, плаціну выкідвалі ў адвалы разам з пустой пародай. Нават у другой палове XVIII стагоддзя плаціна цанілася ў два разы ніжэй, чым срэбра. Першыя ў Еўропе скарыстоўваць плаціну пачалі ювеліры і фальшываманетчыкі. Іспанскі ўрад, калі даведаўся пра гэта, абвясціў вайну плацінавай «шкодзе»: быў выдадзены каралеўскі ўказ, які патрабаваў знішчаць усю плаціну, здабытую разам з золатам;



...славуты анатам і фізіёлаг Альбрэхт Галер (1708—1777 гг.) пры тагачаснай тэхніцы эксперыменту не меў магчымасці правесці прамыя вымярэнні хуткасці праходжання імпульсаў па нервах і таму прымусіў аднаго пад-доследнага чалавека вымаўляць да 1500 літар у мінуту. Галер вызначыў, што для вымаўлення некаторых літар мышцы языка павінны скарачацца да 10 разоў. Вылічыўшы даўжыню пад'язычнага нерва, вучоны змог вылічыць і хуткасць распаўсюджання «нервовай вадкасці» па пад'язычным нерве. Яна была роўная 50—60 метрам у секунду. Галер быў блізкі да ісціны: зараз з дапамогай электроннай апаратуры вызначана, хто хуткасць праходжання імпульсаў па мякатных нервах дасягае 100 метраў у секунду;



●

...для таго, каб крытычна перагледзець геніяльнае, але ў многім памылковае вучэнне Клаўдзія Галена «Аб прызначэнні частак чалавечага цела» (яно на працягу 14 стагоддзяў валодала розумам медыкаў), дастаткова было правесці ўсяго некалькі вельмі простых доследаў. Напрыклад, Гален сцвярджаў, што з лёгкіх па лёгачных венах у сэрца трапляе паветра, каб ахаладзіць і праветрыць яго, бо яно надзвычай гарачае ад жыццёвага цяпла. Леанарда да Вінчы паспрабаваў надзімаць лёгкія і вызначыў, што паветра з бронхаў ніяк нельга ўвагнаць у сэрца. Яшчэ праз стагоддзе пасля доследаў Ланарда да Вінчы Джавані Барэлі пачаў вымяраць тэмпературу ўнутраных органаў жывёл. Аказалася, што тэмпература сэрца аднолькавая з тэмпературай іншых унутраных органаў.





# АПОШНЯЯ ЛЮБОЎ МАЁЙ БАБУЛІ

ГУМАРЭСКА



Скажу вам шчыра: я і сам дзіўлюся, як гэта наша бабуля некалі праколвала мае футбольныя мячы і крадком выцягвала з-за вокладкі майго дзённіка фатаграфію Пеле і чамусьці засоўвала туды каляровую паштоўку з партрэтам Міклухі Маклая.

Якім чынам за адзін толькі сезон яна перайшла ад нянавісці да фанатычнай адданасці спорту — вядома ёй адной. Гэта, як кажуць, учарашняя старонка яе незвычайнай біяграфіі, гісторыя з геаграфіяй, як любіць часта гаварыць мой бацька.

Бабулю цяпер не пазнаць. На ўсім белым свеце (я ў гэтым упэўнены) вы не знойдзеце такую добрую старую, якая б ціхенька ўначы (удзень жа няма калі) мыла ўнуку гетры, трусы, майкі. А паспрабуйце з ёй паспрачацца наконт хакея ці футбола! Яна лепш за самых заядлых балельшчыкаў ведае саставы каманд вышэйшай лігі. Калі ж да таты прыходзяць госці і за сяброўскім сталом пачынаюць гаварыць пра футбол, бабуля наша можа нават кілішак перакуліць за здароўе братоў Малафеевых. Аж не верыцца, як гэта ў яе сівой галаве трымаюцца саставы каманд дублёраў, размеркаванне месц у чэмпіянаце краіны. Яна можа вам даказаць, чаму гульня па адной сістэме лепш, чым па другой. І скажу яшчэ: пасля таго, як бабуля захапілася спортам — куды дзеліся яе хваробы! Роўна ў шэсць раніцы разам з пазыўнымі радыё яна ўскоквае з ложка, прысядае — уздых-выдых — і не бяжыць, як гэта было раней, да газавай пліты, каб гатаваць снеданне, а бярэ эспандэр і тупае па пакоі, высока падымаючы рукі. У пакоі стаіць грукат, тупат. Суседзі, што жывуць паверхам ніжэй, сустрэўшы на лесвіцы маму, пачынаюць цяпер наракаць: «І што гэта ў вас там робіцца? Спаць не даяце».

Тата смяецца:

— А што будзе, калі наша бабуля купіць двухпудовыя гіры?

Адным словам, жыццё ў нашай кватэры перавярнулася ўверх дном.

— Валерык, ці не здаецца табе, што ты — э-га-іст? — неяк сказала мне бабуля.— Сам ходзіш у ДэСэШа, а хлапчукам з нашага двара не дапаможаш арганізаваць футбольную каманду. Сорамна, унучак!

Я пачаў тлумачыць ёй, што ўсё залежыць не ад мяне, а ад саміх рабят, ад іх жадання... Дарэмна! Бабуля нават і слухаць не хацела.

Неяк заўважылі мы, што бабулі цэлымі днямі няма дома. Шчыра кажучы, мы яе і не шукалі. Ці мала клопату ў пенсіянераў. Аднак насцярожылі частыя тэлефонныя званкі. Усе пытаюцца пра Мар'ю Карпаўну — гэта маю бабулю. Я нат не паспяваў запісваць нумары тэлефонаў і прозвішчы тых, хто пра яе пытаўся. І імя бабулі яны вымаўлялі з такой пашанай, нібы яна сама старшыня Федэрацыі футбола нашай рэспублікі. Неяк, калі бацькоў не было дома і калі зазваніў тэлефон, я зняў трубку і на пытанне «Мар'ю Карпаўну!» мужна адказаў: «Я слухаю!»

— Алё! Мар'я Карпаўна, даражэнькая,— пачуўся з другога канца дроту мужчынскі голас,— мне сказалі, што вы шукаеце грамадскага трэнера. Дык вось... Думаў я, думаў, параіўся тут кольвек з кім і вырашыў: згодзен! Згодзен я, Мар'я Карпаўна! Збірайце хлопцаў з дванццатага домакіраўніцтва!

Ад такой навіны я ледзь не падскочыў да столі. Вось дык на! Цікава, хто гэта даў згоду? Хто ён такі, гэты «грамадскі трэнер»? Пачаў перабіраць у памяці ўсіх некалі вядомых нашых футбалістаў... Мустыгін? Зарэмба? А можа Радунскі ці Ганчароў? Хто ж гэта?

Праз некалькі дзён маё хваляванне скончылася. Да нас завітаў «грамадскі трэнер». Гэта быў сівенькі стары ў вузкіх, «дудачкай», штанах. Ён быў падобны больш на загадчыка дыэтычнай сталовай, на кветавода, на каго хочаце, толькі не на трэнера па футболе.

— Міхал Васільевіч! — ён бадзёра падаў мне руку.

На першым пасяджэнні савета ветэранаў, на якім прысутнічалі бабуля і грамадскі трэнер, было вырашана: агульным кіраўніцтвам будзе займацца ён, а яна будзе кансультантам, «па справах надзвычайнай важнасці». Міхал Васільевіч за справу ўзяўся засукаўшы рукавы. Футбольную каманду назвалі «Ветрык», і на другі дзень у нашым доме налічылі пятнаццаць выбітых шыбаў.

— Не, гэта, канечне, не Шавялянчыкі,— гаварыў ён пра нашых хлапчукоў.— Але сёе-тое яны могуць зрабіць, сёе-тое ў іх ёсць.

Хто такі Шавялянчык, ніхто з нас не ведаў. Але ўсе вымаўлялі гэтае прозвішча з асаблівай павагай. Наогул жа, наша каманда пачала рыхтавацца да спаборніцтваў на прыз «Скураны мяч». Грамадска-футбольная дзейнасць бабулі мела велізарнае значэнне для развіцця футбола ў нашым раёне.

Але жыццё ёсць жыццё. Бабуля ўжо лічыла, што «грамадскі трэнер», «дваровая каманда» — гэта пройдзены этап. Цяпер яе цікавіў, як кажуць, «вялікі футбол».

І зноў цалюткія дні яна не стыкалася дома. Як пойдзе зранку — так і няма да вечара. Ды мы ўжо прызвычаіліся да гэтага. Але ўчора маці вярнулася з работы і ад перапалоху пляснула рукамі. Пліта ўключана, газ шыпіць, а бабулі няма. Я — на двор, я — да суседзяў. Няма. Нават на футбольную дзіцячую пляцоўку збегаў. І там кажуць: «Не, не было». Нават збіўся з панталыку, дзе яе знайсці. Але раптам, падыходзячы да касаў стадыёна, бачу: над натоўпам балельшчыкаў узвышаецца яе зялёны парасон. Вось дзе яна! Як гэта я раней не здагадаўся? Кінуўся туды. Але ж дзе там! Да бабулі не прабрацца, як да варот зборнай Бразіліі. Нейкі дзяцюк адпіхнуў мяне локцем:




— Не лезь. Вось стой ды слухай, як бабулька шпурляе футбольнымі тэрмінамі. Скажу табе: гэта не бабулька, а суцэльны спартыўны каментатар.

Я ледзь змоўчаў, каб не сказаць, што гэты «каментатар» ледзь не нарабіла дома бяды, пакінуўшы ўключаны газ. Але абышоў дзецюка і пачаў дзейнічаць рукамі і нагамі. Тут мне як ніколі дапамагла вучоба ў дзіцячай спартыўнай школе. Я стаў прымяняць «зарэмбаўскія» падкаты, рынуўся ў маланкавую атаку, зрабіў майстэрскі праход пад ногі ў балельшчыкаў... І вось — перамога!

— Трынаццатае месца мінскага «Дынама» яшчэ ні пра што не гаворыць,— пачуў я памаладзелы, вясёлы голас свае бабулі. Вочы ве зззялі ад радасці, і мне на момант прыгадалася, што яны былі гэтакія, калі я па поўніцы аплятаў манную кашу яшчэ тады, калі хадзіў пеша пад стол.

— Маглі ж Эштрэкава «адкрываць» кожны год, а Мозер...— гаварыла бабуля тым самым вясёлым голасам.— Пачакайце і самі пабачыце, што беларускія футбалісты яшчэ пакажуць сябе!..

А я аж зззяў ад радасці, цікуючы з-за чужое спіны на сваю бабульку, ці, як казаў дзяцюк, бабушэнцыю.

— А што? Хочаце верце, а хочаце не, але цікава,— гучна сказаў нейкі тып у скуранай куртцы, з лысай, як камера ад мяча, галавой.— Малайчына, бабулька! А што, калі мінчане і сапраўды стануць прызёрамі? Падымем на «ўра» бабулю! Гушкаць яе! Гушкаць!





Усё астатняе здарылася ў адзін момант. Не паспеў я апамятацца, як бабуля мая паляцела ўгору, толькі мільгануў зялёны парасон. Я насцярожыўся: а што, калі яны не ўтрымаюць яе, што калі яна грукнецца аб асфальт? Дарэмна я хваляваўся! Нічога такога не было. На бабульчыным твары ззяла шчаслівая ўсмешка, яна гучна выкрыквала:

— Брава, хлопцы-малойцы! Брава!

А яны ў адзін голас паўтаралі:

— У-ух, у-ух! Ура! Бабуля! Ура-а-а!..

Толькі аднойчы за ўсю сваю футбольную кар'еру бабулька, як кажуць, трапіла ў афсайт.

А здарылася вось што. Ішоў матч дубліруючых саставаў мінчан і данецкага «Шахцёра». Я сядзеў на трыбуне побач з бабуляй. Яна штораз працірала шкельцы пенснэ, уважліва сочачы за гульнёй аднаго з нападаючых гарнякоў. Раптам хтосьці з нашых абаронцаў схапіў нападаючага за трусы. І няхай бароніць бог, што з ёю зрабілася.

— Якая нявыхаванасць! — крыкнула яна і замахала парасонам.— З поля хулігана, з поля!

— Ціха, бабка, а то раскудахкалася, як курыца,— прысаромаціў бабулю балельшчык, які сядзеў з правага боку.

— Па табе даўно печ плача, а ты на стадыёне сядзіш! — зарагаталі недзе на вышэйшым радзе.

Першы раз за ўвесь час футбольнай кар'еры мая бабулька трапіла ў афсайт.

У гэты дзень яна ніяк не магла супакоіцца. Не ўключыла нават радыё, каб даведацца, якая з жаночых каманд стала пераможцай мексіканскага чэмпіяната. Назаўтра не пайшла на маю трэніроўку. Забылася пра гульню дублёраў. Надзеўшы на галаву белы чэпчык, сядзела ў мяккім крэсле і чытала «Фізкультурнік Беларусі». Не падыходзіла нават да тэлефона, і я мусіў хлусіць Міхалу Васільевічу, якому чамусьці тэрмінова спатрэбілася кансультацыя, што яна хворая.

Аднак на трэці дзень крыўда яе адлягла — мы пайшлі на сустрэчу дзіцячых каманд Мінск — Пінск. Гульня была напружаная. Балельшчыкі бурна рэагавалі на кожны ўдалы ўдар. Раптам некаму здалося, што суддзя няправільна назначыў пенальці. З усіх бакоў пачуўся крык: «Суддзю — на мыла, свісток — на парашок!» Бакавыя суддзі хуценька збегліся ў цэнтр поля на нараду. У гэты момант туды кінулася бабуля. Суддзі



разгубіліся. Арбітр матча ўсё ж назначыў пенальці ў вароты парушальніка. Бабуля праз акуляры строга глянула на трыбуны і, высока ўзняўшы галаву, вярнулася на сваё месца. Але тут не стрымалася і моцна пацалавала мяне. Потым села і хусцінкай стала выціраць вочы. Яна плакала. Плакала ад радасці.

...Цяпер, ужо не саромеючыся, яна іншы раз гаварыла нашай суседцы, Настассі Мікалаеўне (сам чуў):

— Калі Валеру возьмуць у дублёры мінскага «Дынама»,— (у гэтым яна ўпэўнена больш за мяне),— дык на футбол я павяду ўвесь наш жаночы хор пенсіянерак. Ручаюся, што ў іх не будзе ніякіх інфарктаў і гіпертаніі.

**Са слоў Валеры Кавальчука запісала**
**Ірына КУЗНЯЦОВА.**

Мал. С. Волкава.

# нашы аўтары

**ГУБЕРНАТАРАЎ Міхась** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Ангелаўка Касцюковіцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Працаваў у райкоме камсамола, цяпер настаўнічае.

**СВІРКА Юрась** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Выйшлі ў свет кнігі яго паэзіі: «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна», «Крэўнасць».

**КУДРАВЕЦ Анатоль** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна. Яго аповесці і апавяданні змешчаны ў кнігах «На зялёнай дарозе» і «Раданіца».

**СІПАКОЎ Янка** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Зубрэвічы на Аршаншчыне. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, працуе ў рэдакцыі часопіса «Вожык». Выдаў кнігі паэзіі «Сонечны дождж», «Лірычны вырай», «Дзень», кнігі нарысаў «Ціхая акіянія», «Паэма дарог» (у сааўтарстве з А. Клышкам), «Па зялёную маланку».

**ПРУДНІКАЎ Павел** нарадзіўся ў 1911 годзе на Клімаўшчыне. Скончыў літаратурны факультэт Ленінградскага педінстытута. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, настаўнічаў. Аўтар зборнікаў вершаў: «Песні грузчыкаў», «Час майго нараджэння».

**ЯРАШЭВІЧ Эдуард** нарадзіўся ў Бабруйску ў 1943 годзе. Жыве ў мястэчку Смілавічы Чэрвеньскага раёна. Выйшлі ў свет яго кнігі «Вішанька Восіпа Міхеевіча» і «Прызнанне».

**НУРЫ Закі** (Нурутдзінаў Закі Шарафутдзінавіч) нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Тат-Цюкі Дражанаўскага раёна Татарскай АССР. Скончыў лесатэхнікум і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў разведчыкам у партызанскай брыгадзе Канстанціна Заслонава. Цяпер Закі Нуры — старшыня Саюза пісьменнікаў Татарыі.
Першы зборнік партызанскіх вершаў Закі Нуры выдаў у 1945 годзе. Затым у Татарыі, Маскве і Ленінградзе выйшлі кнігі яго вершаў і паэм «Шлях славы», «Мы жывём на Волзе», «Ля будучага мора», «Шчырая размова», «Узыход», «Святло душы», «Вясна круглы год», «Кветкі ёсць у нас», «Тапалёвы бераг», «Усмешка», «Размова з пралескай», «Радасць сустрэч» і інш.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 6**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 09191. Здадзена ў набор 27/IV 1972 г. Падпісана да друку 29/V 1972 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15 826 экз. Зак. 918. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ